# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**1**

**(734) СТУДЗЕНЬ, 2015**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

Калядная падборка

# МАНДАРЫНЫ НА СНЕЗЕ

**Юлія НОВІК**

* * *

Калядны снег. Марозны дым.
Да сэрца праменькая сцежка.
Твая зімовая ўсмешка
На гэтым свеце і на тым —
Да сэрца праменькая сцежка.
Калядны снег. Марозны дым.

**Кацярына МАКАРЭВІЧ**

* * *

чакаю снегу
які па сумяшчальніцтве
перадасць некалькі слоў табе
седзячы на падаконніку і
нашэптваючы іх
абавязкова з раніцы
пакуль будзеш піць каву
гарбату ці што ты там п’еш
зіма не спяшаецца з візітам
а хворыя прызнанні
не могуць збіць тэмпературу
самастойна
так павялося што на Каляды
няма ні снегу ні цябе

**Уладзімір ПЛАВІНСКІ**

* * *

Першы дзень снежны
У навароджаным снежні,
Дагаджаюць нябёсы
Зноўку новым жыццём.
У прасторы бязмежнай,
У чыстым подыху свежым
Адчуваеш з палёгкай,

Як прыйшло забыццё.
Першы дзень снежны
Падорыць маўчанне,
Ціхім прыцемкам цені
Не ўзрушаць вачэй.
Тваім думкам драпежным
Непрыступныя вежы,
Непралазныя сцены
Ноч узводзіць хутчэй.
Ды маланкай успыхнуць
Прад вачыма ў цемры
Хвалявання імгненні
Тых пяшчотных хвілін,
І магутныя вежы
Ціхай свежасці снежнай
Спёкай удушлівай спешна
Спаліць грэшны ўспамін.

## СНЕЖКА

Зімовая ты. Зімовая.
Усмешкай фарбуеш словы.
Гледзячы ў вочы нішкам
Чую стамлёную цішу.
Бы чэзлае дрэўца кляновае.
Зімовая ты. Зімовая.
А горад у шатах гурбаў,
Горад гібее. Вуліцы
снежнымі барыкадамі
спавіты, бы рэвалюцыяй.
Снежань цяпер улада…
Цынічных аўто бравада,
Сціхла ў замеці-сцюжы.
мілыя скроні кранаю
Ведаю — нельга. Ды ружа…
вуснаў каханых ружа
чуласцю спавівае.
Хацеў, каб маёй ты..
Як хацеў бы за краты
цябе зняволіць…
Толькі ліхтар цыбаты
Золатам у рукі твае
Цурболіць…
Баліць…
Неяк зіма раптоўна.
Неяк гвалтоўна.
Крочым ціхмяна
разам.
(умоўна)

Усё белым-белае…
Зусім зімовая,
Ядвабна-срэбная
Княжна ты.
Ды снег, снег, снег…
Сняжынак мірыяды
Ляцяць ў твае далоні.
Сотні…
мільёны,
дзве...
тры…
мільярды…
На вуснах, косах,
на плячах, на скронях…
Ты мая снежка…
Толькі не растань
У далонях.

***Таццяна БАРАДУЛЯ***

## КАЛЯДНЫ ВЕРШ

Шматлюднасць і беспрытульнасць.
У золаце і галечы
Мой горад чакае свята.
Нядзеля. Зімовы вечар.

Чаканае свята прыйдзе
І ўсіх ашчасліваць нечым:
Ласункам, абноўкай, цацкай
Ці неспадзяванай стрэчай.
І згаснуць агні на вулках,
І ёлкі пазносяць з хатаў.
А гораду будзе сніцца,
Як цудамі пахне свята.

***Павел ХАДЗІНСКІ***

*** * ***

Аблыселыя кроіш паэмы мне
Асцярожна з падножнымі водамі.
О містэрыя! Гукі, адсоўванне
Эпітафіі, зраненай зводамі.
На мармур — цёплых кветак, з найлепшымі...
Тэлефон твой карміць пара ватамі.
Не люблю, калі кветкі не свежымі.
Як заўжды, тэлефон за паў-кратамі.
На Раство, на містэрыю нацыі

Запрашу праз расшпіленасць ветласцю
Твае вібра ці медыя тацыі.
Ёсць стварэнне з часовай бяздзетнасцю.
О, містэрыя! Ім не стасуецца
Ні фінал, ні Раство, ні... з найлепшымі...
Асцярожна, з падножнаю вуліцай
Застаюцца там лепшыя вершы.

***Дзяніс НОСАЎ***

## МАНДАРЫНЫ НА СНЕЗЕ

Раніцай Новага года
Так хочацца новага шчасця.
Цябе ж з малалецтва вучылі
Загадваць процьму жаданняў,
Плюс магія дат уплывае.
Хаця ты ўжо вырас і знаеш —
Што збудзецца добра як трошкі.
Але ўсё ж чагосьці чакаеш.
Раніцай новага года
У акно ты глядзіш задуменна,
А там — мандарыны на снезе
Чакаюць аўтобус, напэўна.
Раніцай Новага года,
Якая ў абед пачалася,
На вуліцы ўсё незвычайна —
Бо проста няма там нікога.
У сонных дамах падарункі
Шукаюць пад ёлкай малыя,
Не чутна ТВ і машынаў,
І снегу пападаць ляніва.
Раніцай Новага года
Спраў новых не пачынаюць.
Адны мандарыны на снезе
З дарог год мінулы змятаюць.

***Дар'я КАДАМСКАЯ***

* * *

Я б не паверыла
Што гэты год вып'е кроў маю
Іссушыць душу
Забярэ радасць

Калі мы сядзелі
За святочным сталом
І ты сціскаў маю руку

Я так стамілася ад пошуку
Што мне падумалася
А чаму б не

Потым мы кідалі паперкі ў шампанскае
І я не стала загадваць жаданне
Усё ж і так будзе цудоўна, праўда?

***Дзмітрый ЮРТАЕЎ***

* * *

цягне ў Мінск
на Каляды
ізноў на спатканне
слухаць музыку горада
танчыць з рознымі мінакамі
маляваць непаўторныя твары і з'явы
дыхаць вершамі
з пахам вячэрняй кавы
блукаць павольна
па вулачках вузкіх
і размаўляць
на прыгажэйшай з моў —
беларускай…

***Алёна БЕЛАНОЖКА***

**КАЛЯДНЫ ОРДЭН**

Калючы маладзік плыве за ўласным клонам,
Што коламі аўто спаласаваны ўшчэнт.
Ляціць салодкі снег — і робіцца салёным,
Крануўшыся зямлі, дзе тае рэагент.
Я з ботаў абтрасу атручаныя брызгі,
Абняўшы мокры плот, ізноў злічу — няцот.
На ёлачках блішчаць пластмасавыя нізкі:
Фальшыва-залаты, прыходзіць Новы год.
Ён атрымаў загад, ён выглядае гордым…
Пражэктары мігнуць, і плошча загудзе,
І восем прамянёў складуць калядны ордэн,
Які мінулы год прышпіліць да грудзей.
Дазволь пакінуць пост сівому генералу,
Што на былых франтах сваё адваяваў,
За ўсё аддзяч, не плач, жыві далей памалу,
І не вяртай мяне да леташніх выяў —
Навошта ўспамінаць, як бегла ў авангардзе,
Пры цуглях між зубоў, бо так было ямчэй,
І сэрца назаўжды здала ў палон пагардзе,

А цела прадала за агняцвет начэй.
Накіну паліто і вынырну ў надворак:
Згубіла недзе тут, ды як цяпер знайсці
Гарачае святло васьміпраменных зорак
На кіцелях гадоў, што зніклі ў небыцці…

* * *

Калі ты вымаеш сябе з зімы —
Крыху падсмажанай,
Крыху падснежанай,
Паблытаўшы дзверы жытла і карчмы,
Уваходзіш у дом да мяне, збянтэжанай —
Я выгінаю спіну на тонкім ільне:
Бяры мяне на рукі
І цалуй, і гушкай!
Калі ты вымаеш сябе з мяне,
Мне хочацца
Перавязаць цябе стужкай
І даслаць на Каляды жанчыне, якая
Не размешвае цукар у каве «па сонцы»,
Але носіць пярсцёнак і заўжды чакае.
Я вяртаю цябе
Благавернай жонцы.
Яна знойдзе цябе сярод серпанціну
І ляжа побач,
І ўчуе мой пах…
І нічога на скажа,
Бо ты — яе мужчына,
І зойдзецца стогнамі
У тваіх руках.
Львы на халаце заматляюць грывамі,
Задрыжаць іголачкі жытнёвага асця…
Я застаюся сам-насам
Са сваімі рыфмамі.
Я вымаю сябе
З твайго жыцця.

**_Ася ВОЛКАВА_**

* * *

*раставаў ува мне...*
Ю. КАЛЯДА

У той час, як ты ляжыш
на ложку, нібы ўкрыжаваны Хрыстос,
мне застаецца
хіба што
цалаваць ногі твае.

Вось ён, той самы камень,
які Усемагутны стварыў,
але так і не здолеў падняць.

Твая скура настолькі белая,
што я добра ўяўляю,
як увесну на ёй з'явяцца
чорныя татуіроўкі.

І я пачынаю дрыжаць,
калі ты кладзешся
на вусны мае
і растаеш ува мне.
З тваім з'яўленнем
у маім пакоі
надыходзіць зіма.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зіму лепш не чакаць,
Лепш на яе спадзявацца.

## *Вольга ПАЎЛЮКЕВІЧ*

* * *

Пакрысе
надыходзіць святочны час
і запальваюцца ліхтары на брамах.
Каб усе
змітуснелі, святло ўжо згасла,
але пакуль яшчэ ёсць напрамак
у агні —
на восем бакоў, уздоўж
шляху Млечнага
і чалавечага.
Бараню
пачуцці шчэ, да таго ж
па-ранейшаму
ўсім абвешчана:
Сустракайце!
спявайце гучнае «Алілуйя!»,
калі Неба зямлю цалуе.
...Будзе ноч,
будзе спеў не чуваць з кватэр,
падуладна будзе ўсё завірусе.
Відавочна, кожны на свой манер
разумее сказанае ўсім «Ратуйся!».

Хутка час
пераменіцца — стане чысцей,
і ўсміхнуцца дарослыя новаму году,
толькі раз-пораз радасці значна прасцей:
раскрываецца разам са скрынкай лагодак.

***Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ***

**КАЛЯДНЫ ВЕЧАР**

Снег ступае мякка, сыпле белым пухам,
За акном лютуе, свішча завіруха.
Толькі свечка свеціць слаба так і цьмяна,
Толькі вецер плача ў коміне, як п'яны.
Вось — Калядны вечар. Зорак — ані звання.
Можа, развіднее толькі пад світанне.
Лес віднее цёмны ў покрыве сумётаў,
А за ім агеньчык свеціць без ахвоты.
Сцюжа. Ціха. Вечар. На стале з куццёю
Пад абрусам сена пахне лесам, хвояй.
Люстра перад свечкай — калідор у цемру.
Хіба з глыбіні той з'явішся? ...Не веру.
Ціха. Вечар. Сцюжа. Свечка ля акенца.
Льецца воск — і стыне на вадзіцы сэрцам.
Снег ступае мякка, снег ўвесь свет засыпаў.
Сумныя Каляды без цябе — як звыкла.
Б'е гадзіннік поўнач, сон схіляе голаў.
На вадзе лунае з воску белы голуб.
Дзверы зарыпелі, твар мільгнуў у люстры...
Не, я сну не веру. Ціха тут і пуста.
Але сон, здаецца, стаў папраўдзе явай:
Гэты ты — сапраўдны, ты, а не выява.
Ты смяешся ціха: — Што цябе спужала?
Хіба не мяне ты, любая, чакала?
...Праўда. Я смяюся. Свечка зырка свеціць.
Сціх, замоўк, нарэшце, не скуголіць вецер.
Вось — калядны вечар! «Ты мяне паслухай.
Чуеш, як прыціхла злая завіруха?
Выплыў ясны месяц, ціхі і ласкавы,
А пад ім у сіні зорка нам заззяла».
Снег засыпаў мяккі ўсё вакол. Сумёты.
Месяц шчодры з неба сыпле пазалотай.
...Сцюжа. Ціха. Вечар. На стале з куццёю
Пад абрусам сена пахне лесам, хвояй...

***Анастасія ГРЫШЧУК***

* * *

Хутка будзе зіма. Гарады неўпрыкмет пасівеюць.
Цяжка лягуць снягі на галовы вясковых хацін.
Новы ранак з сабой прынясе маладыя завеі.
Заблукае жыццё ў карагодзе паўзмрочных гадзін.
Хутка будзе зіма. Мы забудзем вясновыя песні.
Месяц выплыве з хмар, серабрысты, з халоднага шкла.
У даўгім кажуху будзе снежань бадзяцца па лесе,
Замятаць барадой рэшткі сонца і рэшткі цяпла.
Хутка будзе зіма. Размахне завіруха крыламі,
Праляціць над зямлёй, нібы фенікс з празрыстага льду;
Замяце ўсе шляхі, поле снежнымі здушыць стагамі,
І на ўвесь белы свет сваім плачам нагоніць жуду.
Хутка будзе зіма. Маразы будуць ляскаць зубамі,
На акне маляваць ўсё, што летам убачылі ў снах.
І не ведаем мы, што далей можа здарыцца з намі.
Мы не ведаем, бо на зямлю хутка прыйдзе зіма.

***Вольга БЛАЖЭВІЧ***

* * *

Гэй, чалавеча, а памятаеш...
Пэўна што не, але так насамрэч было —
Тую ноч, калі ціха дах твайго дома кранула
Ці то анёлава, ці то буслава
Снежна-белае казачнае крыло?
А пасля ты сам — падарункам — ляжаў пад ёлкай,
Спавіты ў аблокі малочныя і ў цішу начы,
Пакуль маці ў няведанні спала, галінкі нясмела кратаў,
І з святочных агнёў дзівіўся,
І анёлаў ціхутка лічыў.
А пасля ты падрастаў —
Сам і дзіва, і кветка, і збаўца.
Першымі крокамі мацаў
Гэткі хісткі, падступны, гэткі няпэўны дол,
Так шчыра плакаў, як біліся
Зіхоткія ды нетрывалыя
Шкляныя цацкі...
А тым часам зорка твая загаралася
На адным небасхіле
З Зоркай Яго...
А цяпер у руках ты круціш
Сусвет свой цудоўны,
Гэтак захоплена й смела,
Бы ёлачны шар немаўля,
Проста забыўшыся,

Што пад пухнатай і велічнай Сусветнай Елкай
Ёсць крышку гульняў дарослых —
І многа-многа —
Хопіць на ўсіх! —
Каляд.
І апоўначы ты назад адгарнеш каляндар,
І запусціш назад гадзіннік,
Ты — ўдзельнік, сведка, ахвяра
Сусветных самітаў, сварак і нафта-газавае вайны,
Прыцішыш крок,
Заплюшчыш вочы і ўбачыш здзіўлена,
Як зорка твая квітнее
З Ягонай Зоркай
На небасхіле адным.

***Віталь БЫЛЬ***

* * *

Памежныя елкі завальвае снег,
Памежнік прымёрз да прыкладу.
Ды раптам аўчаркі прастуджаны брэх:
Святы Мікалай ізноў, як на грэх,
Вязе кантрабандай Каляды!
Цемру ірве на шматкі кулямёт,
Сірэнамі выюць вышкі…
Ашчэрвае іклы калючы дрот:
Няма загаду на Новы год!
Табе, парушальнік, — крышка!
Усмешка хаваецца ў бель барады:
Калядам стварыць перашкоду?
Імчыць ён праз кулі і праз гады
У край, дзе вёскі і гарады
Чакаюць яго прыходу.
І вось ён прыйшоў, каб сабраць камяні
І хібы грамадскага ладу,
Прывёз гірляндаў і свечак агні,
Бялюткай, зіхоткай, як снег, чысціні,
Старога віна хмяльной цеплыні…
Прывёз кантрабандай Каляды!

***Алесь ЗАМКОЎСКІ***

* * *

мандарынавы новы год
праз калючыя гурбы снегу
разарваўшы людскі карагод
расхінуўшы крылы да неба
у глухі мандарынавы сад

дзе трава супакойвае цела
дзе пяшчотай агністых прысад
птушка шчасця ў лісці трымцела
і нікога вакол пакуль
не захочаш сама не паклічаш
толькі ціхі чмяліны гул
асцярожна вушы казыча
невядома на яве ці ў сне
адлятаеш у тую краіну
дзе самотныя вусны кране
навагодні смак мандарынаў

* * *

будзе так:
без лішніх прадчуванняў,
без намёкаў і трывожных слоў
новы год прыцягне на спатканне
белае зламанае крыло.

будзе так: ты хутка знойдзеш лекі —
мандарыны, свечкі і глінтвейн, —
схіліш голаў і апусціш вейкі...
пацалуеш... покрыва завей

расхінецца. зорныя мятлушкі
замігцяць, вальсуючы ў такт.
новы год — у каляровых стужках —
паглядзіць табе ў вочы.
будзе так.

**_Андрэй СУЗІНЬ_**

* * *

Каляды. І дождж. І нябёсы на нас
З насмешлівых лужын глядзяць незвычайна.
Змяняецца клімат. Змяняецца час.
Змяняюцца людзі на дзіва адчайна.

Чаканае свята растала, як лёд,
Калядную зорку ў тумане шукаю…
Мы цуда чакалі дзве тысячы год —
І дваццаць стагоддзяў яшчэ пачакаем.

Вятры нашы думкі і волю змялі,
Мы сталі як лісце, бязвольнае лісце —
Даўно ўжо ляжым ды гніем на зямлі,
А самі шумім, што квітнелі калісьці.

Імкненне да смерці — жыццёвы цынізм.
Ёсць сэнс дачакацца апошняе дзеі,
Бо разам з заслонай зрываецца ўніз
Галоўнае слова — надзея… Надзея!

***Зміцер ДЗЯДЗЕНКА***

* * *

сотня дзён — і ўсё халады.
А сказаць каму, а сказаць каму —
дык пачуеш: «Тае бяды!»

А сказаць табе, а сказаць табе —
дык ні слова ня будзе ў адказ.
Перажыць зіму, перажыць зіму...
Паасобку — апошні раз.

* * *

Без трох хвілін дванаццаць
Адчыняю акно
(Холад сціскае горла).
Паветра рэжа
Бяздушным лязом
Карніз.
Колькі слоў
І думак
У гэтым годзе памёрла!
Выкідаю
Яго праз акно
І гляджу ўніз.
А за годам
Ляціць
Каханне,
Надзея
І тое,
Чым я дыхаў, — усё ў адзін
Вынішчальны экстаз…
Часам
Са смеццем
Выносіцца
Нешта святое,
Каб нашчадкі знайшлі
І не звалі
Бязбожнымі
Нас.

***Вольга БАЗЫЛЁВА-КЛІМКО***

## НАВАГОДНЯЯ НОЧ

Хоць лыжку бяры дый хадзі па двары,
Бы цукар, каштуючы снег навагодні.
У гэтай пары, як у кожнай пары,
Свой колер адметны — і неверагодны.

У свеце, дзе часта бракуе святла,
Такія сумёты — найлепшыя ноты.
Зіма са спазненнем, але ж надышла —
За колькі гадзінаў да Новага года.

Віна ўсім наліць. Спакваля запаліць
Чародку румяных васковых анёлкаў.
На белай зямлі, на цукровай зямлі
Дванаццаць імгненняў адлічваць ля ёлкі.

Пасля — віншаваць, абудзіўшы крышталь.
І грэць у далонях бурштын мандарынаў.
Здзіўляцца, ажно хвалявацца амаль,
Знайшоўшы пад ёлкай стракатую скрыню...

І быць, як усе. І ў той міг адчуваць,
Што ты шчаслівейшы за князя любога,
Таму што цярушыцца снег з рукава
Прасветлага і клапатлівага Бога...

***Сяржук СЫС***

## ЗІМОВЫМ ШЛЯХАМ

Над стрэхамі хат завіруха гудзе,
Ні пеўня, ні брэху нячутна нідзе,
Ваколіцы цемра хавае.
Трашчаць у мароза на гострых зубах
Бярвёны прамерзлыя ў стылых зрубах
Ды снег пад падэшвай спявае.

А вокны з карункавым матавым шклом
Так дражняць,
так вабяць вячорным святлом,
Нібыта зайсці запрашаюць.
Па хатах плыве п’янкі водар куцці,
Такі, што карціць проста ўзяць ды зайсці,
І ногі свой бег прыпыняюць…

Знаёмая змалку дарога дамоў
Наўскос перасыпана пылам снягоў,
І я, разам з Гердай і Каем,
Занесеным шляхам пакрочу далей,
Туды, дзе ў няіснасці белых завей
Мяне мой прытулак чакае.

***Вольга ГРОНСКАЯ***

* * *

Гэта каляды. Каля дымаходаў снег.
Гурбы сівыя галовы схілілі долу.
Хтосьці нясе дамоў падарункаў мех.
Ёлка гайдае ў лапах шкляных анёлаў.

Гэта каляды. Гучнае «джынгл бэлз»
зноў абуджае дзіцячую веру ў цуды.
І ты жывеш у марах не «пры», а «без»,
вогнікам свечкі палячы ляльку вуду.

Гэта каляды. Насуперак розным «не».
Казкі бываюць, ведаеш. Трэба верыць.
Вышый надзею крыжыкам на акне
і прымацуй калядны вянок на дзверы.

* * *

Нечакана, як грошы ў кішэні, закончыўся снежань.
Ды табе ўжо не тры — болей у адзінаццаць разоў.
Ты даўно не складаеш лістоў Дзеду М. з Белавежы,
не шукаеш на Млечным Шляху чарадзейны вазок
з падарункамі.
Сёння табе, недарэчна-дарослай,
падаюцца такой ахінеяй паштовак радкі.
І чарговыя лічбы,
чарговыя зімы ды вёсны
матылькамі знікаюць, ледзь толькі крануцца рукі.
А на вуліцы гучна спяваюць калядныя песні…
Ты адсунеш фіранкі ды пасму адкінеш з вачэй.
І згадаецца раптам нябесны распяты равеснік,
што народжаны быў у адну з гэткіх зорных начэй.
Пралятаючы міма,
сарваныя ветрам з галінак,
усміхнуцца сняжынкі сваёй папяровай сястры.
Ты стаіш ля акна — не Марыя і не Магдаліна,
толькі цень,
гераіня раманаў Саган і Гары.
А хацела ж

насустрач завеі,
бязглуздых учынкаў
і штолета варыць з дзьмухаўцоў залатое віно…

Чуеш:
просіць цябе з чорна-белага фота дзяўчынка
ў навагоднюю казку сваё разнасцежыць акно.

* * *

Гэта зіма трымае яго, жыве ў ім,
сыпле калючы снег пад сівыя веі,
робіць халодным сонца і нізкім — неба,
сіверам злым у шчылінах вые, вее…
Ён прызвычаіўся. Думае, так і трэба.
Варыць глінтвейн з цытрынаю і імбірам,
ходзіць на лыжах. Лыжкаю па пламбіры
снегавікоў малюе, а з іх галоў на
сподак салодкіх кропель цякуць пункціры,
быццам капеж вясновы. Вось толькі з воўны
швэдар яго, і б’ецца агонь у печы —
месца няма вясне. Ёсць марозны вечар,
мяккі фатэль, канверты, паштоўкі, праца…
Ён захінае шалікам цёплым плечы —
выжыць у гэтым холадзе, пратрымацца.

А па начох не спіцца яму, хоць трэсні.
Ён дэкламуе вершы, спявае песні,
толькі б разбіць маўчанне пустых пакояў
голасам, рэхам крокаў, рыпеннем лесвіц:
цемра яго гняце, не дае спакою.
Нават калі задрэмле — хвілін на сорак —
сняцца не карагоды калядных зорак,
а цягнікі, якімі ён зноў кудысьці
лёцьма нясецца з амерыканскіх горак.
Вечны палонны лёду не мае выйсця.

Сёння — чарговым ранкам — ён раптам чуе
шум увушшу і лечыцца маслам туі.
Гук не знікае, шырыцца, таньчыць джыгу:
не зразумець — рагоча ці лямантуе
свет навакольны ў гэтым бясконцым «джынгл».

Ён каляндар хапае і са здзіўленнем
бачыць, што снежню хутка канец. Ідзе і
цягне кажух, валёнкі нясе, няўклюда…
Спешна ўпрагае ў сані сваіх аленяў
і выязджае.
Дзеці чакаюць цудаў.

*Дзмітрый ШУЛЮК*

# ХЛОПЧЫК І СВЯТАР




***Дзмітрый Шулюк нарадзіўся 23 лютага 1989 года ў вёсцы Сачаняты Смаргонскага раёна. Скончыў Рэчыцкі дзяржаўны педагагічны каледж. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Вучыцца на завочным аддзяленні БДУ на філосафа. Вольны час аддае літаратуры. Упэўнены, што жыццё — не для таго, каб яго«пражыць»: гэта адрэзак часу, які трэба максімальна насыціць святлом і цяплом.***

Па беразе ракі ішлі хлопчык і святар. Яны ціха размаўлялі. Словы былі простымі, але ішлі ад сэрцаў і таму мякка далучаліся да гукаў прыроды: шуму вады і лесу.

— Я разумею, у чым сэнс. Слухаю вас кожную нядзелю, але мне ўсё роўна боязна. Складана паверыць у сябе. Складана паверыць, што я змагу вытрымаць гэты ціск і не збочыць са свайго шляху. А галоўнае, што я не ведаю, якім мусіць быць гэты шлях. Я ў дзясятым класе, і павінен выбраць кірунак у жыцці, але яшчэ не выбраў. І не ведаю, як гэта робіцца. Маці з бацькам, здаецца, лічаць чалавека простай жывёлай. Лічаць, што, як і іншая жывёла, чалавек павінен зрабіць дзяцей — і гэта галоўнае. Не магу згадзіцца з імі. У Ісуса не было дзяцей, але ж ён не дарэмна пражыў жыццё. Яны кажуць са смехам: «Ты ж не Ісус». А я крыўдую на іх. Чаму яны не разумеюць?

— Не трэба раўняцца на Ісуса. Ён жа сын Божы, а ты — чалавек.

— Я разумею. Але ж трэба імкнуцца. Гэта як сонейка. Мы ніколі не зможам грэць усіх, свяціць усім, але мы можам паспрабаваць. Колькі б яблыкаў ні з’елі, мы не станем як Бог. Але ж мы створаны па яго падабенстве і павінны жыццём сваім як мага бліжэй адысці да гэтага падабенства. Ці я не так кажу?

— Паспрабую табе растлумачыць. Чым далей ты ад чаго-небудзь знаходзішся, тым горш ты гэта бачыш і разумееш. Калі падыходзіш у сваёй веры блізка да Бога, то ўсё робіцца простым. Але калі ты яго нават не бачыш? Вось акурат тады ўвесь сэнс і губляецца. Уяві сабе кола без восі. Так і чалавек без Бога: круціцца-верціцца, але бессэнсоўна.

— А дзеці тут пры чым?

— Пры тым, што хтосьці нарадзіў гэтага чалавека, ды не растлумачыў для чаго. Вось ён і вырашыў, што нараджэнне адбываецца толькі дзеля нараджэння.

— Гэта як у нас дамашку выконваюць?

— Так. А яшчэ добрым прыкладам розныя святы з’яўляюцца. Людзі святкуюць, а што святкуюць — не ведаюць.

— Гэта калі тата маці кажа, што рабіць нельга нічога, бо свята.

— Так. Сустракаюць Каляды… Каляды. Хрыстос нарадзіўся… Вось у чым свята. Прыходзяць у касцёл, слухаюць пропаведзь, а потым ідуць да сваіх ёлак… А праз тыдзень Новы год святкуюць. Вясёлыя, радасныя. Усё ж такі яшчэ адзін год пражылі.

— Айцец Павел, а вы не спазняецеся на імшу?

— Не, Сярожа. Я ж яе ўжо праводжу, ці ты не бачыш? Вось ты да мяне прыйшоў. Вось я цябе паспавядаў. Зараз пропаведзь чытаю. Можа, хочаш спасылку на Святое пісанне?

— Айцец Павел, што з вамі?

— Нічога. Прабач. Змарыўся вельмі. Баюся я, што справа мая бессэнсоўная. Нават не тое што бессэнсоўная, але дарэмная. Непатрэбная яна ні чалавеку, ні Богу. Ты, Сярожа, шлях выбіраеш. Выбірай той, дзе людзям будзеш патрэбны, але каб і супраць Бога не ісці. Праўда, напэўна, за такую працу і не плацяць.

— Дык мне ж і не трэба.

— Трэба. Жыць неяк трэба. А як? Калі нават касцёл выконвае сацыяльныя паслугі грамадству. Калі грошы нясуць не ад сэрца, не з падзякай, а як у краму. Мне плацяць, як якому наркадылеру. Якая служба? Ці ж людзі да Бога ідуць? Ці хаця б да мяне? Ідуць, каб паглядзець, хто прыйшоў, хто не прыйшоў. Хто колькі ў споведзі пастаяў. Хто ў што апрануты. Хто колькі грошай у скарбонку ўкінуў. Хто «святы», хто «несвяты». Чаго мне да іх ісці? Не хачу я да іх ісці! Баюся я іх. Баюся, што не вытрываю аднойчы і паверу, што так і трэба. Што ўсё так, як трэба.

— Айцец Павел, я ж прыйшоў. Да вас прыйшоў, да Бога прыйшоў.

— Дзякуй, Сярожа, дзякуй. Прабач мне. Цяжка, вельмі цяжка. Разумееш? Але я свой крыж данясу. Я здолею. Бог са мной. Ён дапаможа. Ісус свой крыж за нас нёс. І я панясу. Як ты казаў? Ніколі не зможам грэць усіх, свяціць усім, але можам паспрабаваць. Хадзем, Сярожа. Хутка імшу пачынаць.

Па беразе ракі ішлі хлопчык і святар. Яны маўчалі, але іх маўчанне спявала. Быццам рака, быццам лес, быццам сэрца.



*Павел ПАДЗОРАЎ*

# ДРУГОЕ ПРЫШЭСЦЕ



***Павел Падзораў нарадзіўся 16 ліпеня 1975 года ў Бабруйску. Захапляецца навуковай фантастыкай. Збірае бібліятэку. Акрамя літаратуры, цікавіцца філасофіяй, айкідо і рускай лазняй.***

ЁН агледзеўся. Тааак, свет вельмі змяніўся. Вялізныя дамы, самарушныя падводы, людзі ў неймаверных адзеннях.

Бацька папярэджваў, што будзе складана. З чаго пачаць? О! У канцы вуліцы храм! Хутчэй туды.

Прыгожы будынак. Купалы, падобна, залатыя. Нядобра гэта. Бо нятанна, бадай! Няўжо ўсе багацеямі сталі?

Пакуль глядзеў на купалы і крыжы, да яго падышла бабулька ў туга заматанай хустцы. У параўнанні з тымі, каго бачыў на вуліцы, апранутая з выклікам. Твар суровы. Погляд хмурны і нечым незадаволены.

— Ты што гэта так прыбраўся? — строга запыталася яна. — У гэтых лахманах у Храм Божы хочаш? Эх ты! Малады, здаровы. Працаваць трэба, а не ў мешкавіне хадзіць. Чаго табе тут? Грошы хоць на ахвяраванне знойдуцца? Ці на свечку?

ЁН няўцямна паглядзеў на грозную бабулю. Потым павольна рушыў унутр. За спінаю было чуваць незадаволенае бурчанне.

На ўваходзе ЁН разгублена спыніўся. Што гэта? Усё размалявана з няўяўнай пампезнасцю. А справа, ЁН не паверыў сваім вачам, гандлююць свечкамі. У Храме Божым! Жахліва!

Зрабіўшы яшчэ некалькі крокаў на непаслухмяных нагах, ён убачыў, у куце вялікае распяцце з падпаленай лампадкай. Упрыгожанае, яркае. А перад ім на каленях стаіць старая бабуля. Яна моліцца і няспынна кланяецца.

ЁН кінуўся да бабулі:

— Што вы робіце? Устаньце. Навошта? Вам жа цяжка, — хутка лепятаў ён, спрабуючы падняць бабульку з падлогі.

Але тая толькі адштурхнула яго і злосна прыкрыкнула:

— Ідзі адсюль! Бязбожнік.

Бліскуча прыбраны служыцель няўхвальна глядзеў на яго.

І тады ЁН кінуўся да распяцця, з усіх сіл учапіўся ў яго, да крыві абдзіраючы рукі, выдраў і кінуўся прэч з будынка.

* * *

У камеры было пуста, сыра і холадна... ЁН сядзеў на падлозе і няспынна звяртаўся з малітвай да Айца. ЁН маліўся за людзей, за іх прасвятленне, а ў памяці стаяла бабулька на каленях.

За кратамі хадзілі і размаўлялі двое.

— Ну і што з гэтым рабіць? Ні дакументаў, ні грошай...

— Афармі ты яго на пятнаццаць сутак. А далей відаць будзе...

# УЛАДАР

Раніца пачалася як звычайна. Спачатку азнаёміўся са становішчам і навінамі. Усё як заўсёды. Сітуацыя ў гарадах спакойная, грамадзяне працуюць, незадаволеных хапае, але гэта пакуль не крытычна. Дарогі будуюцца, палі апрацоўваюцца...

Ціша ды раскоша. Нічога новага. Качэўнікі, праўда, становяцца больш нахабнымі. На аддаленыя паселішчы ўсё часцей здзяйсняюцца набегі. Але і гэта не праблема: пашлю туды войскі — адразу ж супакояцца.

Туга.

Справа ў тым, што Я — Адзіны і Усемагутны Уладар гэтага свету! Я кірую ўсім. Больш за тое — Я стварыў гэты свет. Дзякуючы МНЕ ён існуе, і да таго часу, пакуль Я гэтага хачу!

Добра, штосьці ты, Уладар, разышоўся.

Так. Што ў нас далей? Ага, дарадцы на прыём выстраіліся. Надакучылі яны мне горш за горкую рэдзьку. Зноў грошай прасіць будуць. А дзе іх, лішніх, узяць? Толькі калі ў аднаго забраць і іншаму аддаць. Эх, лёс наш цяжкі... Але і не выслухаць нельга.

Я аддаў даручэнні кіраўнікам гарадоў і пачаў прыём дарадцаў.

Як і меркаваў, усе наперабой патрабавалі фінансавання. І на развіццё навукі трэба, і на войска, і на культуру... Добра. Становішча складанае — культура пачакае. Яшчэ частку з артыкула забаў для грамадзян можна адхапіць. Незадаволеных, праўда, дадасца. Але нічога, патрываюць. Вось наладзім гандлёвыя шляхі да Давіланян — казна папоўніцца. Некалькі караванаў са спецыямі, садавінай і шоўкам — ужо ў дарозе. Ды і на недаследаваных землях Усходу павінны паселішчы быць. Як толькі войска павялічым — адправім на пошук.

Стаміўся я ад дзяржаўных спраў. А галоўнае — нуда. Хоць бы напаў хто! Тады і для войска справа знойдзецца, і казну папоўнім, ды і захопленыя ў палон да месца прыйдуцца. Даўно надышоў час паўночныя балоты асвойваць, руды ў гарах здабываць. Вунь, у суседзяў, — металу ў лішку. А галоўнае — золата. Бо нашы запасы вычэрпваюцца паволі.

Хто ў нас тут недалёка? Шумеры. Вось ім вайну і абвесцім. Нагода, праўда, патрэбна. Хоць чаго доўга думаць? Запатрабуем золата, а адмовяцца — значыць, нядобразычліўцы. Ворагі! А ворага трэба знішчыць.

І панясуцца мае бравыя калясніцы, паскачуць вершнікі, рушыць пяхота. Руйнаваць ворага, захопліваць паселішчы... Ну-с, прыступім...

— Ігар... — я не адразу зразумеў, што гэта звяртаюцца да мяне. — Ігарок, — паўтарыла жонка, — заканчвай свае гульні. На рынак трэба схадзіць. І соль у мяне скончылася...

З уздыхам захоўваюся і неахвотна закрываю «бук».

«Добра, пашанцавала пакуль шумерам, адвячоркам з імі разбяромся, пасля вячэры»…

*Андрэй З-і*

# БУДЗЕНЬ



***Андрэй З-і (Андрэй Захарэўскі) нарадзіўся 26 сакавіка 1988 года ў Мінску. Вельмі ўдзячны чытач «Маладосці»: дагэтуль успамінае яе «фантастычны» выпуск, які лічыць лепшым нумарам дзесяцігоддзя. Да сваёй паэтычнай падборкі палічыў патрэбным даць тлумачэнне.***

**КАМЕНТАРЫІ АЎТАРА
ДА НІЗКІ ВЕРШАЎ «БУДЗЕНЬ»**

Тое, што вершы не зусім ясныя, ці зусім няясныя, — справа звычайная наогул, не кажучы пра мой дэбют у гэтым жанры. Як тут, так і ў прозе на сённяшні момант я выкарыстоўваю шматзначнасць, кадзіроўку, калі хочаце, «прыпавяшчальнасць» (канешне, у сваім, творчым, разуменні), каб (магчымы) чытач увасабляў настрой, плынь твора ў асабістыя, інтымныя пачуцці, разумеў твор так, як яму зручней. Зрэшты, гэта ўсё заезджана, я толькі некага ў які ўжо раз паўтарыў. Таму непасрэдна да тэкстаў.

Праўда, бяда ў тым, што калі я Вам распавяду нейкія свае выдумкі, Вы ўжо не зможаце чытаць гэтыя творы пасвойму. Калі Вы гатовыя да гэтага, калі ласка!

*«Прафізіка»*. Сама назва «нібы» супрацьстаіць «Метафізіцы» Арыстоцеля, што з грэчаскай meta ta physika літаральна перакладаецца як «пасля фізікі». Гэтай назвай я хацеў падкрэсліць адсутнасць вопыту, які дужа важны ў метафізіцы, і адасобленасць «прафізікі» праз адсутнасць у ёй анталогіі (вучэння пра быццё), гнасеалогіі (тэорыі спазнання), логікі, этыкі, эстэтыкі, адсутнасць наогул філасофіі. Можа, гэтаму ўжо ёсць такое паняцце, як «дыялектыка», але размова тут ідзе пра чалавека, які быццам бы яшчэ не мысліць, пра дзіцё, у якога няма і імені (якое што-небудзь значыць, як Андрэй, да прыкладу, з грэчаскай літаральна «мужны»), пра дух дзіцяці.

Напачатку словы «скарыцца», «прасіць», «усхваляць» у творы былі адным словам — «маліцца». Але яно мне заўжды калола вока, настолькі гэтае слова «выштампаванае», «канвеераванае», прывязанае да пэўных інстытутаў. Давялося багата часу вынаходзіць яму замены. «Быць слыхам, вухам быць...» — бадай, самым гатовым да адкрыццяў органам пачуццяў з’яўляецца ў дзіцяці слых, яно само, гэтае дзіця, як вушка. «Гані косы, лісткі, пахі...» — мала хто зразумее, што слова «Гані» «шматнацікное», то бок, дух дзіцяці не толькі

гоніць, баіцца новага свету, які чуе, але гэта і жаночае імя Ганя (Ганна). У сваёй рэдактуры наступны радок я трошкі змяніў, і цяпер яго трэба чытаць так: «Валі сферы, лічбы, макі» (замест «Яна сферы, лічбы, макі»). Слова «Валі» нясе таксама боязь *дачалавека* (калі развіваць тэму прафізікі) перад чалавекам, але «Валя» — яшчэ і ласкавае мужчынскае імя (Валя — Валянцін). Наступны слупок распавядае нам пра лемантар: *«лямант» «зычнагалосы»* (а дакладней, пра *дух* лемантара; у гэтым я недзе блізкі да Морыса Метэрлінка і яго «Сіняй птушкі», блізкі да першабытнага анімізму). У слупку пра звон і пазваночнік мы ўжо бачым, што духоўнае (*звон*) матэрыялізуецца, ачалавечваецца (*пазваночнік*). Але гэтае ачалавечванне яшчэ ніякае (*«няпэўна-асабовае»*), сацыяльны нуль: *«Касіць і не ўмець...»* і г.д. І ўсё-ткі, і ўсё-ткі цягне, цягне дух дзіцяці ў свет, да Маці, якая стварыла яго, любога, якога і пакахае.

У творы *«Расхрыстанасць»* я выкарыстаў іншасказы (перыфразы) Бога, якія збіраў цягам доўгага часу ў кнігах і з размоў. Як правіла, такія словы ў кнігах вылучаныя ці напісаныя і вымаўленыя з вялікай літары (Ваніта, дапрыкладу, Жан-Поля Сартра і г.д.). Верш, аднак, атрымаўся цалкам завершаным. Да ўсяго, у назве твора — «Расхрыстанасць» — не будзем і казаць, якое схавалася слова. Гэтае слова я прапусціў праз сябе, калі чытаў аднайменную аповесць Анатоля Казлова, надрукаваную ў «Маладосці» (№ 2, 2013 год).

*«Дзеўка»* — чысты верш. Я спачатку напісаў яго. А прачытаўшы, уявіў тое, пра што (каго) напісаў, і верш назваў так, як назваў — «Дзеўка». Але нягледзячы на тое, што верш малы па памеры і я мала пра яго напісаў тут, сам ён тварыўся некалькі месяцаў на паперы.

*«Частакол»* — спроба паэтызацыі пэўных асабістых успамінаў. Усё, што там напісана, так і трэба разумець.

*«Фізічнае варварства»* як антонім фізічнай культуры, але не ў прамым сэнсе, акурат у духоўным. Гэта ж ужо, мусіць, вядомы факт, што афарыстычнае «У здаровым целе — здаровы дух» цалкам, «без цэнзуры» гучыць так: «У здаровым целе здаровы дух пасяліцца не можа». Калі катрынка з навушнікамі (плэер), кеды, часомер (ці секундамер) сапсаваліся, чалавек застаецца сам-насам. Уласна, верш пра гэта, пра адзіноцтва моцнага чалавека, калі Вам заўгодна.

*«Пяць зямлі»* — той верш, дзе спачатку была назва, прычым без якой-небудзь ідэі. Проста я некалі мімаходам пачуў пра пяць пачуццяў чалавека: зрок, слых, нюх, дотык, смак. А невядома адкуль даўно ведаў пра стыхіі: агонь, ваду, паветра, зямлю, куды часам уключаюць яшчэ і дрэва, — і няцяжка палічыць: гэтых стыхій таксама пяць. А яшчэ некалі прачытаў этымалогію назваў мацерыкоў планеты Зямля паводле Уладзіміра Юрэвіча: Азія — з асірыйскай *асу* — сонечны ўсход, Арктыка — ад грэчаскага *арктас* — мядзведзіца, Антарктыда — даслоўна «антымядзведзіца», то бок, мядзведзь; Аўстралія — Паўночная зямля; Еўропа — асірыйскае *эрэб* — змрок, захад, кавалак сушы, за якой сонца садзіцца на спачын. З усёй гэтай маслабойкі думак, ідэй, ведаў мне і давялося «абгрунтаваць» уласны светапогляд, які, можа, выклікае свае ўнутраныя асацыяцыі ў (магчымага) чытача.

Вось бачыце, цяпер усё падаецца дужа простым, прымітыўным і нецікавым.

І калі так, то ўжо хочацца сказаць пра саму назву нізкі — «Будзень»: гэта не толькі спроба сакралізацыі будняга дня, дамы-буды, гэта і абеларушаны Буда («прасветлены»). Гэта і будзільнік. Гэта і прышласць, тое, што яшчэ будзе.

**ПРАФІЗІКА**[1]

Мне скарыцца бязмежна.
Не толькі прад ежай,
А і пасля, і прад туалетам,
І пасля. Заўжды,
Калі годна зваць сябе чалавекам,
Жывым.

Прасіць,
Не шкадуючы часу,
За сваё ратаванне.
Чым больш усхваляць,
Тым менш усхваляць,
А ўнурыцца ў адказ.

Слухаць рэчывы, рэчы,
з’явы, паняцці,
стварэнняў і —
Божа —
людзей.
Быць слыхам, вухам быць —
Мовіць усё.
Гані косы, лісткі, пахі,
Валі сферы, лічбы, макі;
Усё, дзе сягае слова, —
Мовіць, мовіць, мовіць.

Аднак да ўсяго
Найясней уплятаўся лямант яго,
Ініцыянта і зычнагалосы,
Ісці і складаць:
Літары, словы, выразы,
сказы, пісьмы, кнігі і
Гукі.

Разумець:
Лапці — скінуць лапці,
Абмоткі — сцягнуць абмоткі,
Ногі — не зважаць на іх стому...

Праўда,
Звон адвольны,
Ды ў тым пустазвоне
Пазваночнік свой:
За адпушчэнне ролі,
Што трымаецца за назоў.
Садраць з сябе сябе
Да няпэўна-асабовага,
Быць любым — самім па сабе,
А не станавіцца новым.

Касіць і не ўмець,
Каханне перакахаць,
Лічыць, што лічыцца, — як і не знаць.
Не есці,
ледзь дыхаць,
спаць і не спаць.
Усё чакаць.
Маці.

**ВЫГНАННЕ**

Пасля малочнай вячэры
Мы клекаталі па паўднёвым захадзе
На краі сада.
Твой твар маладзіковым сонейкам
Пасміхаўся нам.
Шлях мой глядзеў у незваротную высь
З таго вечара.

**РАСХРЫСТАНАСЦЬ**

О Дух Выбух Прорва
Прамаці Бабця Прырода
Прасвятленне Светабудова
Надвор’е Свята Пагода
Гульня Вока Дарога
Вышэйшы Розум Гром
Неба Час Дзед Закон
Чалавек Жанчына Дом
Веды Сон Сын Агонь
Полымя Агонь Полымя
Ваяр Рэвалюцыя
Дачка
Вада
Жыццё Вір Рака
Сапраўднасць Праца Грошы

[1] *Грэч.* pro «наперадзе, да», physike — physis «прырода».

Людзі Быдла Ноша
Навука Бацька Ежа
Быццё Золата Рэчы
Звышчалавеча
Шлях Кока
Сябар Мой Першы
Смех Досвед Цукар
Прывід
Фалас
Секс
Пусташ
І г.д.
Табу Не
Не!

Адзінства
Правадыр Паэзія Партыя
Улада Унутры Я
Сумненні Сэрца Я
Хто Я Я Я
Ваніты
Боль
Сутнасць
Магута Сіла Воля
Ён Знак Слова
Яна —
Бессвядомае

Сусвет Абсалют Сонца!
Жыццё Вечнасць Космас!
Нішто...
Ісціна...
Творца.

**ДЗЕЎКА**

Муха, што вылезла з акна
У сонечны дзень лютага.

Рабіна ў бяздрэўным краі,
Якая давіцца
жыццесцвярджальнымі шляхамі.

Так ядраное сонца
ў лета бабіна,
Так ядраное сонца
ў лета маміна.

Гэй!
Песня расплятае час,
І засцілае чуцці вечнасць.

**ЧАСТАКОЛ**

Калі ты ўспомніш — і не зразумееш,
Навошта на закінутым дворышчы,
Дзе гадаваліся свойскасць,
абшчыннасць,
Мы дужаліся хлапечай —
хвастакрылай —
сілай.
Цяпер усім набыта вольнасць —
Адкасніцеся!

**ФІЗІЧНАЕ ВАРВАРСТВА**

Сёння!

Твая катрынка з навушнікамі
Не радуе выбарам музыкі,

Кеды твае адарваліся,
Ім не вярнуцца ўранні;

Па ўсім экране
Часомер памножыў васьмёркі —
Бясконцасці ад непаладкі,

Расстроілі страўнік аладкі,
Бегчы з мэтай дабегчы,
Перамагчы —
Не да тваёй душы;

Дажджлівасць псуе
Ног дотык з глебай —
Дваццаць тысяч лье
і лье —

Безабароннае,
Такое голае,
Уноч табе
Лунаць у одуме.

**ПЯЦЬ ЗЯМЛІ**

Ты Арктыка. Вядзьмедзь — я.
Мая напята струна
Мерыдыянай
У твой Сусвет, Мядзведзіца:
Чую,
што звініць паветра.

Ты таеш, я патанаю.
З канца Малая родзіцца —
Так быць ад Ноя
і да Ноя.

О Мілавіца!
Хоць белым быў я,
Толькі ж і адзін — старым.
Завошта ты бабееш?

І ведаеш, і вылядаеш,
Нібыта першы-першы свет,
Што загаіла лапа Творцы.

Сустрэну Азію, з якой
нам разам сузіраць
наканавана
камяні, каменьчыкі,
пясчынкі, сэрцы.
Аўстраліі кранацца,
тых багатварных дрэў,
што прыхавалі
ў вечнай зеляніне
мае дзяцінства і дзявоцтва.
З Амерыкай смакую вострыя языкі
Агня, і Котлішча, і Сонца.
Я Афрыкай ратуюся
па тонкім нюху
да вады,
жыцця крыніцы.

За раз сальецца з акавіткі
поўнач.
Так, Еўропа.



*Мікіта ВОЛКАЎ*

# ПЛЮХ

*Апавяданне*



***Мікіта Волкаў нарадзіўся 13 сакавіка 1992 года ў Барысаве. Студэнт Белдзяржмедуніверсітэта. Марыць з’ездзіць у Індыю.***

Штучнае святло аперацыйнай, зліваючыся з натуральным сонечным, раздражняла і муляла вочы. Старая санітарка вадзіла анучай па чорнай абіўцы крэсла, трымаючыся за металічную падстаўку для кален і нешта мармычучы сабе пад нос. Леваруч ад яе завіхалася тоўстая медсястра, распакоўваючы ўпакоўкі з інструментамі і рыхтуючы ін’екцыі. За ёй, ля шафы з расчыненымі дзверцамі, стаяла маладая доктарка. Яна выбірала сабе празрысты фартух і прымярала акуляры. Дзверы адчыніліся і з цемры калідора выйшлі дзве дзяўчынкі ў халатах і белых каптурыках. Абедзве былі крыху маладзейшыя за доктарку ў акулярах.

— Добры дзень. Мы студэнты на практыцы і хацелі б...

— Ясна, — абарвала іх тоўстая медсястра, — станьце ўздоўж сценачкі і назірайце. Хутка ўжо пачнём, толькі не замінайце доктару. Вы лепш скажыце, ці сядзяць там на калідоры нашы жанчынкі?

— Так. Сядзяць, і многа. — Медсястра ўзяла жоўтымі пальцамі гісторыі хваробы і сваім ці то фарынгітным, ці то пракураным голасам прамовіла: — Лепш не стойце дарэмна, ідзіце і паклічце пацыентку Данілюк.

Але дзяўчаты нікуды не выходзілі, яны былі тут першы дзень і яшчэ не маглі так свабодна сябе паводзіць.

Раптам расчыніліся дзверы і ў маніпуляцыйную ўвайшоў худзенькі, крыху ссутулены малады анестэзіёлаг. Каб неяк абазначыць сваю прысутнасць, ён абыякава прывітаўся і апусціў вочы ўніз. Ён чакаў працы.

— Сяргей Пятровіч, мы ўсе вас ужо закачаліся. Майце сумленне, дзе ж вы бадзяецеся?.. — тарахцела медсястра, але не паспела скончыць, бо дзверы зноў расчыніліся.

На парозе стаяла дзяўчына ў цёмна-чырвоным, амаль барвовым халаце. Ейныя русыя валасы былі сабраны ў куклу, выдаючы нейкую дзіўную выпукласць ілба.

— Вы Данілюк? — спытала медсястра.

— Так.

— Не стойце на парозе, заходзьце і здымайце халат. Ці, можа, передумалі? У нас і без вас зашмат працы, а вы яшчэ вагаецеся.

— Жанчына, кладзіцеся, — анестэзіёлаг нарэшце пераняў эстафету і працягнуў: — Алергія, сутаргавы сіндром, эпілепсія... Мо штосьці з гэтага маеце?

Дзяўчына здымала халат, затым чырвоныя карункавыя майткі і адмоўна вадзіла галавою. Яна неяк паволі, быццам кульгаючы ішла да крэсла, на якое паказвала анучай старая санітарка.

— Сюды лажыса, мая дзеўчына, — крактала санітарка, працягваючы вадзіць анучай.

Дзяўчына, скрывіўшы вусны быццам бы ад гаркоты, села на крэсла і паклала свае ногі на металічныя жалабы.

Пакуль дзяўчына рыхтавалася, анестэзіёлаг аглядаў цёмны калідор. На ўслонах сядзелі розныя жанчыны: дзяўчаты, кабеты, цёткі — старыя і маладыя, вясковыя і гарадскія. Усе яны ўтваралі сабой каманду, адзін удзельнік якой увайшоў на поле выпрабаванняў і мусіць адно з іх прайсці.

— Ну і працы ў вас на сёння. А я пасля сутак, выспацца мне ўжо не наканавана,— праціраючы акуляры, гаварыў Сяргей.

— Скажаце! Вы ў нас яшчэ не працавалі, не ведаеце, што для нас гэта яшчэ мала. Новенькі. Гляньце на Маргарыту, яна толькі першы год працуе, а ўсё ўжо без старэйшых дактароў робіць і не наракае.

Маргарыта, маладая акушэр-гінеколаг, у гэты час завіхалася з практыканткамі. Яна не губляла дарэмна час: паказвала асновы даследавання. Практыканкі зазіралі ў тое самае месца, адкуль паходзіць чалавечы род, і слухалі, як правільна «ўваходзіць люстэркамі». Санітарка ціхмяна стаяла ў куце, нешта мармычучы.

— Не передумалі? — з усмешкаю запыталася Маргарыта, паглядаючы на студэнтак.

Пачуўшы пытанне, дзяўчына адмоўна пахітала галавой, заплюшчыла вочы і моцна сціснула сківіцы: медсястра ўводзіла лекі. Пакружляўшы недзе высока, пад самай столлю, прытомнасць дзяўчыны адлятала ў вырай. Цела рабілася нерухомым, апроч ступняў, якія вымалёўвалі ў прасторы дзівосныя колы малой амплітуды і інтэнсіўнасці. Калі падрыхтоўка скончылася, дзяўчына на імгненне зірнула на выхад, а пасля прымружыла вочы. Праўда, не цалкам. Вочы былі напаўзаплюшчаныя, паміж павекамі зеўралі пустыя шчылінкі.

Анестэзіёлаг глядзеў на гадзінік і нешта лічыў, пасля зірнуў на дзяўчыну і станоўча хітнуў галавой доктарцы:

— Можаце пачынаць!

Прыняўшы гэтыя словы як заклік да дзеяння, доктарка адхіснулася ад каленяў дзяўчыны, за якія трымалася, адначасова размаўляючы са студэнтамі:

— Да якога тэрміну можна аборт рабіць выскрабаннем? Не ведаеце? Чаго маўчыце?.. — выбіраючы патрэбны інструмент, засыпала дзяўчат пытаннямі доктарка.

Дзве практыканткі моўчкі пазіралі на хірургічны рыштунак. Яшчэ не зусім абазнаныя ў гінекалогіі, яны няўцямна разглядалі металічныя палачкі рознай формы і даўжыні. Адну з іх, больш падобную да вязальнага прутка, доктарка ўзяла ў рукі.

— Ну што, не ведаеце? — ухмыльнулася доктарка. — А гэта што? — Трымаючы перад сабой пруток, пыталася яна і, не чакаючы адказу, працягвала: — Гэта зонд, якім даўжыню маткі правяраюць.

Затым яна ўзяла прылады, падобныя да нажніц, і сказала студэнтцы, якая стаяла праваруч:

— Трымай, будзеш маім першым асістэнтам. Галоўнае — не варушыцца і не дрыжаць.

Прутком увайшла ў матку, праверыўшы яе на даўжыню. Затым пачала ўторкваць металічныя палачкі: спачатку вузейшыя, затым — больш шырокія.

— Гэта пашыральнікі Гегара, трэба ж нам пашырыць канал, каб выскрабці ўсё дашчэнту.

Пацыентка ляжала ціха, анестэзіёлаг «спаў галавой», медсястра назірала, а санітарка гугнявіла штосьці ў куце: узнікала адчуванне, што яна малілася. Доктарка ўзяла кюрэтку, якая таксама нагадвала пруток, але мела на канцы вострую закраіну, якой можна было зразаць і выскрабаць усё непатрэбнае і непажаданае.

— Ну, дзеці, пачынаем. Толькі трымайце люстэркі і шчыпцы цвёрда, а то матку і пратыкнуць можна.

«Плюх — плёх — плюх», — рэчыва сцякала ўніз па металічнай паверхні і плюхалася ў бліскучую ёмістасць. Рука ў пальчатцы спрытна выскрабала металічнай пятлей-кюрэткай усё, на што натыркалася. Усё, што лічыла лішнім. Далёка не ўся крывавая маса трапляла ў ёмістасць, значная частка яе заставалася на сцёгнах.

— Ай, а-я-яй, — варушачыся на крэсле, застагнала пацыентка.

— Трымайце яе, Валянціна Іванаўна, мне усё ж такі яшчэ працаваць, — пісклявым голасам прасіла доктарка медсястру.

Тоўстая няўклюдная медсястра навалілася ўсім целам на каленкі дзяўчыны. Яна дастала ручнік, махры якога тырчалі з кішэні халата, і накрыла ім рот дзяўчыны. Доктарка між тым працягвала.

Рудыя кудзеркі валасоў вытыркаліся з-пад высокага белага каптурыка, а доўгі нос як бы паўтараў рухі рукі, якая колам хадзіла па матцы кюрэткаю. Крыху высунуты язык выдаваў засяроджанасць. Доктарка працавала першы год. Аборт таксама быў для яе першым, і таму яго трэба было выканаць бліскуча. Не схібіць перад калегамі, якія стаялі побач і назіралі.

Паненка працягвала рухаць сцёгнамі і стагнаць. Атрымлімвалася асабліва гучна, калі пятля ўваходзіла глыбей. Дзяўчына была ў непрытомнасці, але раз-пораз расплюшчвала вочы і выкрыквала нешта невымоўнае. Яе трымала медсястра.

— Сяргей, зрабіце што-небудзь з гэтай крыкухай, яшчэ крыху — і я скончу.

Анестэзіёлаг шапнуў нешта сястры і тая пачала запраўляць шпрыц. Рукі дзяўчыны былі разведзены: быццам бы яе раскрыжавалі. Ейныя стогны нагадвалі калыханні маятніка: яны то ўзмацняліся, дасягаючы найвышэйшых частотаў, то паніжаліся.

Між тым рэчыва пачынала радзець і падаючы на бочкападобны латок, ператваралася ў бурбалкі. Рукі раскінуліся яшчэ шырэй, рухі сталі вальнейшымі. Доктарка выскрабала апошняе.

— Студэнты, ці чуеце скрып палазоў? Гэта значыць канец. Прыехалі! — прамовіла яна і, зняўшы запэцканы крывёю фартух, неахайна кінула яго ад сябе ў кут, да іншых брудных ануч.

Доктарка трыумфавала. Яе вочы загарэліся радасцю і ўпэўненасцю. Яна накіравалася да выхаду.

— Ну што, хадзем гісторыю хваробы пісаць, ад пісаніны нас ніхто не вызваляў.

На калідоры стаяў стол з гісторыямі хвароб, за якімі паселі маладыя медыкі.

— І трэба ж такое супадзенне! Рабіла аборт поўнай цёзцы — Данілюк Маргарыце Алегаўне. І з года майго, 1991. Бывае ж! І першая ейная цяжарнасць і, дарэчы, мой першы ў жыцці аборт.

З вялікай аперацыйнай выйшла загадчыца аддзялення. Толькі што з аперацыі, стомленая, але шчаслівая добрым вынікам, яна прывітала маладую калегу:

— Як справы, Рытка? Усё атрымалася?

— Так, Зінаіда Георгіеўна, за дзесяць хвілін усё выскрабла.

— Што ж, віншую: баявое хрышчэнне ты ўжо прайшла. А вам, студэнты, ці спадабалася ў нас?

Практыканткі моўчкі паківалі галовамі. Ім карцела ісці дадому.

— Роўна праз год вы прыйдзеце да нас і будзеце рабіць тое ж, што і мы. Добра, на сёння для вас хопіць, бяжыце, дзяўчаткі, вашы кавалеры ўжо змарнелі без вас. Толькі на прэзерватыў не забудзьцеся, каб нашымі пацыенткамі не стаць, — грубым, але вясёлым голасам выдавала дасведчаная загадчыца аддзялення.

Не смяялася хіба што старая санітарка, якая за вялікай колькасцю гадоў не ўсё дачула. Тым часам дзяўчына ў аперацыйнай прыйшла ў прытомнасць. Гэта заўважыла старая і пакульгала да яе. Галоўны абавязак санітаркі — суправаджаць пацыентак назад у палату. Дзяўчыну вадзіла ў косікі, яна хісталася, бо ўсё яшчэ была пад уплывам лекаў. Але старая мужна і ўстойліва вяла яе да палаты. Яна не заўважала крыві, якая цурком збягала па сцёгнах, не бачыла чырвоных плям на падлозе.

— Стойце, — крыкнула медсястра ззаду і, узяўшы прынесены пацыенткай белы ручнік, пабегла да дзяўчыны і санітаркі.

— Сямёнаўна! На, прасунь ёй між сцёгнаў, бо кроў ідзе, — сказала медсястра і пабегла рыхтавацца да чарговай працэдуры.

Дзяўчына больш не плакала, яна ціхенька пасмейвалася і нешта мармытала, гледзячы на старую. Ручнік чырванеў. Ужо амаль не было адрозненняў паміж яго колерам і колерам халата.



*Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА*

# БУРЛІВАЯ КРЫНІЦА

*Міфалагічна-легендарнае апавяданне*



***Ганна Навасельцава нарадзілася 11 мая 1983 года ў Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. М. Машэрава, аспірантуру пры гэтым універсітэце, дзе працуе выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры. У 2013 годзе стала кандыдатам філалагічных навук.***

Я бягу ў далёкі, нязведаны свет. Хачу збегчы адсюль, збегчы ад пакут, пазбыцца гора… Мінаю квяцістыя берагі, поўныя радасці, поўныя вясёлай пацехі. Гэта няпраўда, што я некалі там была. Смяшлівая, бесклапотная. Ці даўно? Не ўспомню. Адбіваюцца ў плыткай вадзе лёгкія аблокі. Узіраюцца ў празрыстую плынь. І толькі я адна ведаю, толькі я адна бачу, што хаваюцца за аблачынкамі і прагныя, і страшныя… Не глядзіцеся, красуні, у празрыстыя люстэркі. Не вы адны любуецеся сваёй прыгажосцю. Лёгка схіліцца над крынічнай вадою, толькі нялёгка развітацца… Струменю ваду, збіваю люстраныя адбіткі шчаслівых твараў. Не хачу, каб іх пабачылі тыя, прагныя…

— Сама не хочаш бачыць, — шэпчуць мне аблокі, якія плывуць-бягуць за мною ўслед. — Балючы табе гэты напамін. Табе, злой бурлівай крыніцы…

Ускіпаю хвалямі ад такіх слоў. Бурлівая, гэта праўда. Але адкуль вам уведаць, ад чаго мне балюча… Як дазнацца вам, чаго напраўду мне зусім не хочацца бачыць? Не адгадаеце маіх дум, не зведаеце маіх мараў, не спазнаеце майго гора. Маё яно, толькі маё…

— І наша, — смяюцца зноў аблокі. — Бо мы ж яго ўчынілі. Навошта нам твае думы-мары? І так ведаем пра цябе ўсё…

Зноў ускіпаю бруістай хваляй. Не зведаць вам пра мяне ўсяго… А я збягу з возера, збягу далёка-далёка… Вы не ўтрымаеце мяне, журлівыя аблачынкі. Плывіце, ляціце за мною… Узгадвайце. Карайце…

Не, яны проста абрыньваюцца дажджамі на мае радасныя берагі. Пояць вадою зямлю. Ды выглядаюць-высочваюць: можа, якая маладая шчыра ўсміхнецца дажджу. Яны, прыгожыя, часам так робяць. Я і сама некалі так рабіла.

Ніхто не ўбачыць, як тады злятаюць з белых аблокаў імклівыя цені. Адбіваюцца на імгненне ў маёй плыткай вадзе. Прагныя. Здагадлівыя. Праніклівыя. Уладарныя над дажджамі. Цікаўныя да людзей. Да маладых журбот… Да чыстых спадзяванняў…

— Не, не збяжыш ад нас… Навечна табе, прыгожая, смяшлівая, быць у нашым палоне… А мы цябе не адпусцім, не адпусцім аніколі.

Не змаўкаю, не слухаю, не згаджаюся. Б'юся ў спеўныя, шчаслівыя берагі. Няхай пачуюць, пазнаюць, дапамогуць…

— Ніхто цябе не пачуе. Ніхто цябе не пазнае. Ніхто табе не дапаможа, — лянотна пацягваюцца дажджавыя хмары. — Ты ж злая… Злая бурлівая крыніца…

Я не заліваю берагоў. Я не плыву туды, дзе жывуць людзі. Я толькі хачу збегчы… Збягаю ўжо цяпер. Усё далей ад возера. Далей, далей… Бягу, іду, выбіваюся з сіл. Мне б вады… Зусім нямнога вады… Тады б прабілася, уцякла…

Падаюць дажджавыя кроплі з пявучым плёскатам. Падаюць, множаць паціху маю сілу. Зліваюцца з маёй вадою, кажуць свае шчаслівыя сны. Падалі гэтыя кроплі на зямлю і бачылі радасныя ўсмешкі. Купаліся ў белай квецені пахучых чаромхаў. Паілі зялёную рунь на лепшы плён… І ў мяне тое будзе, калі я збягу. Я зноў хачу збегчы.

— Ты сапраўды хочаш збегчы? — пытаюцца кроплі, выконваючы наказ тых, прагных. — Няўжо і ад гэтага хочаш збегчы?

А кроплі ведалі… Як звінела без мяне высокае жыта. Нетаропка, не верачы раннім вёснам, убіраліся, шумлівай лістотай векавыя ліпы. Тыя самыя ліпы… І жыла без мяне, і радавалася жыццю вялікая прыгожая зямля — тая зямля, якая мяне чакае… Будзе чакаць заўсёды. Толькі кроплі падалі на зямлю і вярталіся да аблокаў. Кроплі ведалі пра ўсё…

— Што ж, бяжы, а мы паглядзім… Мы ж дадалі табе моцы…

Гнеўна, шырока ўскіпаю хвалямі. Вы не адолееце мяне, не змусіце. Бягу, бягу хутчэй, шпарчэй ды чую ў азёрным плёскаце, у подыху вятроў, у песні ўсёй зямлі такое знаёмае:

— Брат слаўны… Брат наш слаўны…

Спатыкаюся ад чутых-перачутых слоў. Супыняюся. Азіраюся назад. Не, я зусім не вагаюся. Я па-ранейшаму гневаюся, яшчэ болей злуюся, б'юся хвалямі. Ускіпаю ды ападаю, пакуль чую:

— Ідзі да нас на аблачынку, смяшлівая. Панясём цябе над зямлёй. Можа, і пабачыш якога слаўнага…

Мне ж не патрэбны «які слаўны». Не трэба іншага… Не трэба. Паўтараю гэта зноў і тады, нарэшце, супыняюся. Куды ж мне збегчы без яго? Няма куды… І вяртаецца, непазбежна даганяе тое, ад чаго мне хацелася ўцячы. Калі змаўкаюць прагныя, то зноў гучыць і жаданае, і раднае:

— Брат наш… Брат наш слаўны…

…Я пачула гэта першы раз, калі ў захапленні спыніліся-пакланіліся трое. Незнаёмыя, нечаканыя. Не ад нашай зямлі. Чужы-чужаніцы.

— Вітаем, князёўна чароўнага краю. Цябе пабачыць, што на зорачку ясную зірнуць. Чулі мы пра тваю прыгажосць, ды не верылі, пакуль самі не спаткаліся з ёй… Нас трое братоў. А гэта старэйшы — Брас. Брат наш слаўны…

Яны прыйшлі, калі позняя вясна атуляла зямлю сваёй лагодай. Звыкла буяла пахучая чаромха. Як і многімі ранейшымі вёснамі, лёгка марылася, нечага чакалася. Ды толькі ў гэтую вясну наймацней хацелася змяніцца і змяніць… У чым? Як? Не ведаю… Мабыць, проста хацелася трывожнай вясны…

Трое каралевічаў з далёкай зямлі, трое маладых, прыгожых братоў. Дзівіліся з нябачанага раней краю ды завіталі на бацькаў замчысты двор… Казалі, што нямала пахадзілі па свеце, але такога прыўкраснага кутка яшчэ не сустракалі. Што многа сустракалі людзей, якія не хапаліся за зброю, якія дзяліліся хлебам, адно такіх добрых і гасцінных нідзе не напаткалі. І яшчэ дадалі, што замнога спазналі чарадзейных таямніц: і радасных, і самотных, але дагэтуль анідзе не бачылі краю, дзе б хавалася столькі нязведанага…

— Неспазнаная твая зямля, князь Дзвін. Чарадзейная… Заўсёды марылі пра такую…

Змоўклі хутка, пабачыўшы, як хмурыцца бацька. Адкуль ім ведаць было, што не церпіць князь чараў, чарадзействаў, чарадзеяў… Тады сказалі яшчэ, што лёгка ім усё чарадзейнае пазнаваць… І што вандруюць па свеце, каб знішчаць чары, чыняць перасьледы тым, хто чарамі валодае… Пэўна, я адна пачула ў іхніх словах няшчырасць. Тады падумалася: чаго вы не сказалі, прыгожыя браты? Але ж услых прамовіла іншае:

— Шмат на свеце прыгожых земляў з добрымі людзьмі. Ёсць у кожнай свае таямніцы… Не шкодныя, не злыя… Навошта ж іх вынішчаць?

Усміхнуўся мне бацька ў сівыя вусы, і змоўклі нашыя нечаканыя госці, як быццам бы сумеўшыся.

— Князёўна нашай зямлі, — махнуў рукой родны. — Як бачыце, і смелая, і прыгожая…

— Праўда твая, князь, — тут жа падхапілі браты. — Столькі земляў пабачылі, а такой смелай князёўны нідзе не сустрэлі.

І першымі засмяяліся, лёгка, прывабна. Можа, ад гэтай бесклапотнай жартаўлівасці ўпадабаў князь Дзвін незнаёмых вандроўнікаў, дазволіў застацца, колькі пажадаюць. Мне і самой заўсёды падабаліся вясёлыя ды кемлівыя, адно гэтых братоў-каралевічаў не ўзлюбіла.

— За што, князёўна ясная, паглядаеш на нас так пахмурна? Чым жа мы табе не да спадобы?

А пра іх амаль адразу паціху пачалі казаць, што сочаць яны за чарамі ды чарадзействамі. Што нядобрыя яны… Мабыць, таемна размаўляў з гасцямі-каралевічамі князь ды ўзяў з іх слова, што чарадзейныя таямніцы яны будуць знаходзіць, разгадваць… А створаныя чары караюцца згодна з княскім словам… А чарадзеяў жа заўсёды гналі… Лепей было б не з’яўляцца тут каралевічам, учыняць яны бяду…

— І разумныя вы, і вясёлыя, і бачылі дзівосаў нямала… Толькі з чужой зямлі вы прыйшлі, туды і вяртайцеся…

— За што, князёўна добрая, гэтак з намі? Чым жа мы цябе пакрыўдзілі?

— Не вам мяне пакрыўдзіць… Толькі і не гонар мне чужынцам усміхацца…

— Ведаем цуды, ведаем чарадзействы… Табе ж падабаецца ўсё незвычайнае…

І адкуль толькі дазналіся… Хоць бацька мне заўсёды казаў, каб чараў не чыніла, не цягнулася да іх, нават не думала пра такое, не пакідала я сваёй мары… Як быццам клікалі да сябе таямніцы. Як быццам чакала мяне ўсё дзівоснае…

— Ведаеце цуды, каб лягчэй іх пазнаваць, каб хутчэй знаходзіць, — не хавала сваёй прыкрасці.

— Не толькі ведаем, самі чыніць іх умеем, — усміхаецца мне Брас.

— А што князь на гэта скажа?

— Давярае нам твой бацька, князёўна. Давярай і ты, — падаюць голас малодшыя.

— Хоць паглядзі… Хоць падзівіся… — ходзяць за мной следам.

— Добра, здзіві мяне…

— Не бойся, князёўна…

Махнуў рукою старэйшы брат. Адразу, хоць не было на небе ніводнай аблачынкі, стала хутка расці, напаўзаць на нас чорнае хмарнае мроіва. Закрыла і княскі двор, і навакольныя лясы, і, як кінуць вокам, знаёмыя абшары-разлогі. Заслала змрокам паўнеба…

— А скажы мне, князёўна, — лагодна пытаецца Брас. — Што на той хмарцы? Хто на той хмарцы? Як адгадаеш, то мы з братамі выканаем тры любыя жаданні...

— А як не адгадаю?

— Тады пашкадуеш… Моцна. Лепей адгадай…

Смяюцца малодшыя браты, кажуць, каб добра падумала. Цяжка валюхаецца, як жывая, чорная злавесная хмара. Хціва пазірае на сінія зубчатыя лясы, на схаваныя пад ляснымі шатамі вёскі…

— Не бойся, князёўна. Мы з табою… Не зачэпіць навальніца твой двор…

А я і не баюся. Я веру, што нясе чорная хмара цёплы летні дождж. Не заляскочуць знішчальныя перуны, не ападуць на саламяныя стрэхі… Чуеш мяне, чужынскае чарадзейства? За цёмнай хмарай, якая нахілілася нізка-нізенька, мне прымроілася сіняе неба і яснае сонца. Спалі маё сэрца, сонейка. Разгані чорную хмару…

Не спаліла майго сэрца высокае сонца. Грымнулі далёкім пошчакам перуны, грымнулі ды замоўклі. Зямлю агарнула моцнай улевай. Доўгай, нястрашнай… Кожны цуд павінен быць добрым… На тое ж ён і цуд.

— Кожны цуд павінен быць добрым, князёўна, — здзіўлена паглядае на мяне Брас. — Хоць часам цуды палохаюць…

— На тое яны і цуды, — адказваю ды нават не гляджу ў ягоны бок.

— На тое і цуды, — лёгка пагаджаецца Брас. — Але шчасце тваё, ганарыстая, што маеш добрае сэрца…

Прыходзілі і сыходзілі хмары, пакліканыя чарамі. Лілі цёплыя дажджы, паілі ўдосталь зямлю. А браты-каралевічы смяшылі і бацьку, і нямала людзей, глядзелі мне ў вочы, нібы выпрабоўваючы. Ганілі чары, абяцалі зжыць-звесці іх з усяго свету, а самі зноў чаравалі… Ведала пра тое я адна. І хацела, хацела расказаць, ды не магла…

— Князёўна, прыгожая, ганарыстая, калі ж загадаеш нам свае жаданні? Чакаем, чакаем, каб зрабіць…

— Князёўна, добрая, чаму ж не глядзішся ў люстэркі? Не скачаш у карагодах з красунямі? Досыць ужо сумаваць…

— Князёўна, — проста кліча мяне Брас. — Не трывож бацьку… Жорсткі князь Дзвін, многіх выгнаннем пакараў… Як уведае, што не чужыя табе чары, не пашкадуе роднай дачкі…

Так засталіся браты-чарадзеі на маёй зямлі, у маім княстве, у замчыстым княскім хораме. Упадабалі ўсё гэта, значыць… Ужо шчыра вітаюць іх людзі, болей не чакаюць бяды. А чаго яе чакаць, калі ўбіраецца ў поўную сілу звонкае лета? Стары князь палагаднеў, паласкавеў… З каралевічамі падоўгу размаўляе. А з імі так і хочацца перакінуцца слоўцам… Лёгка тады на сэрцы, спакойна. І з чаго яны, маладыя, ужо сталіся такімі мудрымі?

— Хочам тут, князёўна, назаўсёды застацца. Мілы нам твой край…

— Усміхніся нам, прыгожая, мы ж радыя цябе бачыць…

А бацька, мой добры бацька, аднойчы мовіў рашуча, цвёрда:

— Скончыцца мой род на мне, бо няма ў мяне сына… Няхай будуць праклятымі тыя чары, якія так учынілі! Выбірай, дачка, сабе каго з трох братоў. Кожны з іх слаўным будзе князем, мудрым, паважаным… Будуць у нас моцныя, прыязныя суседзі, бо госці нашыя — каралевічы… Дык выбірай жа…

Не кажы так мне! Не рабі гэтага… Ты не слухаеш мяне. Зусім не чуеш. І зразумела я тады, што не магу, як раней, волі тваёй запярэчыць. Не магу не пагадзіцца… Што ж тут зробіш, раскажу… Як уведаеш, што тыя каралевічы чараўнікі, прагоніш іх з краю…

— Князёўна, ганарыстая, хочаш, зробім цуд?

— Буду мудрым, паважаным, выбірай мяне…

— А мне загадай жаданні… Ну, акрамя таго, каб пад зямлю я праваліўся…

Не зважаю на гэтыя кпіны малодшых братоў. Трэба, трэба мне расказаць, і тады ўсё скончыцца. А старэйшы брат тут як тут:

— Князёўна, не трывож бацьку. Навошта яму напамін пра чарадзейнае… Радасна яму глядзець на цябе, адно не абуджай старое, забытае…

— Хочаш здзівіць мяне, Брас? Не той гэта цуд. Прыдумай што іншае…

— Не цуд, праўда… Што сказала б ты, каб уведала, што не Дзвінавай ты крыві? Не любіць і не любіў ягоны род чараў, не церпіць і не цярпеў чараўнікоў. У табе ж чары жывуць і чакаюць…

— Не веру табе, чарадзею, не веру табе, чужынцу… Не міла мне слухаць пра тое, што не бацькавай я крыві.

— Не вер мне, князёўна… Запытася ў чыстых крыніц… Паслухай, што звіняць яны, звіняць табе адной… І мне з братамі не зразумець іхняй песні, не раскрыць таямніцы вады… Можа, гэта адзінае, чаго мы не здолеем.

А што іх, плыткіх, пытацца… Іскрацца яны ды бясклапотна булькочуць пра цёмныя хмары, пранізлівыя вятры, халодныя снягі, якіх даўно чакаюць… Глядзяцца ў бяздоннае неба, чыстае, гожае, мілае… Кажуць, каб ішла я да сіняга калодзежа, там даведаюся праўду… Каб не вагалася, не марудзіла. Верыла сіняй вадзе… І зноў параненейшаму мараць бегчы-цячы ў высокае неба.

Прыспешвае мяне бацька, пытаецца, каго ж з трох братоў я выбрала. Злуецца, як кажу, што яшчэ нікога. Пайду да сіняй вады. Што ж з таго, як забаронены туды шлях строгім княжацкім наказам… Толькі, як схіляюся нізка да глыбокага вока, усё роўна цяжка мне паверыць, што нярodная я дачка… Як жа так магло стацца…

Вось і першы раз схілілася, і другі, але ўцякае ад мяне, хаваецца ў зямлю сіняя вада. Што ж гэта такое? Але, як схілілася трэцім разам, шуганула ўгору сіняя-сіняя, падхапіла ды панесла мяне з сабою. Як у мінулае хаваецца глыбокі калодзеж…

Упала. Утапілася… Але чаму тады не вярнуліся і неба, і зямля? Чаму ж не бачу знаёмых лясоў-палёў? І дзе бацькоўскі замчысты двор? Людзі, багатыя ці простыя? Нікога не відаць ні здалёку, ні зблізку…

— Шукаеш такіх, як сама, князёўна? Чаго прыйшла сюды, парушыўшы бацькаў наказ?

Забурліла гнеўна сіняя вада, не жадала мяне тут бачыць. Заплёскала хвалямі, усхадзілася ды разлілася. Як сапраўдная рака, далёка, шырока… Паднялася імклівa з вады сіняя прыгажуня, іскрыстая, як тая крынічная сляза. Высокая, як валатоўна з напаўзабытых сказаў. Гаспадыня сіняга калодзежа… Не пачула ад мяне адказу. Ды і не чакала яго. Засмяялася глуха, горка. І скаланула мяне ад такога пакутнага смеху…

— Даўно чакаю цябе, Вярнігорава халодная кроў… Стагоддзі мінулі, а ты не змянілася. Ды хіба ж магло стацца інакш…

— Чаму назвала ты мяне Вярнігоравай кроўю?

— Таму што адрадзілася ў табе Вярнігорава надзея. Мацнейшая за род і кроў…

І адбіла раўнюткае сіняе люстэрка. Паказала далёкае, людзьмі забытае…

Адвечныя лясныя абшары паўсталі на зямлі. Ходзяць па лясах волаты, самі ці не ўпоравень з дрэвамі. Але, хоць і вялікія яны, ды нязлыя, нястрашныя. Б'ецца ў іхніх грудзях чалавечае сэрца. Могуць яны і спадзявацца, і кахаць, як людзі… А вось гэтыя дык ужо і закаханыя…

Дзяўчына-валатоўна зусім такая, як гаспадыня сіняга калодзежа. Сумная, нібы маленькая чуллівая крынічка ў восеньскі дзень. Толькі жывая, сапраўдная. Гаворыць русяваму, як сама, сінявокаму:

— Быў і будзеш ты ў маім сэрцы. Толькі заляцаецца да мяне Вярнігор… Мушу даць вам абодвум выпрабаванне. Хто пераможа ў ім, з тым і застануся…

І далей люструе крынічная вада, як паляцелі па-над ляснымі разлогамі два валуны. Адзін, як ладная печ, а другі — меншы, лягчэйшы… Валатоўна падала іх хлопцам ды сказала, што той, хто кіне валун далей, і стане яе абраннікам. Адно нялюбаму Вярнігору дастаўся валунок большы…

Паляцелі валуны, кінутыя далёка-далёка. Абодва багатыры — і смелыя, і вартыя, ды толькі Вярнігор дужэйшы… Упаў ягоны камень далей на некалькі крокаў. Заплакала ад роспачы дзяўчына, глянула абодвум волатам у вочы, прызналася, што не хоча абяцання свайго выканаць. Не застанецца ні з адным, ні з другім…

— Абярніся крыніцай, ідзі па зямлі вадою, — гнеўна ўспыхнуў Вярнігор. — За падман доўга чакаць табе: пакуль не прыйдзе апошняя з майго роду… Дадасі ёй сілы, падорыш ёй чары, якія табе берагчы-вартаваць, але да якіх не дакрануцца… А тады, калі схочаш, зноўку станеш чалавекам. Будзе часу табе падумаць, як гэта — чыніць нягожа…

Стаўся першым князем Вярнігор, распачаў слаўны род, які шмат мацаваў уладны пасад. Толькі не прайшло без следу помслівае чарадзейства… За тое, што зрабіўся князем нелітасцівым, сталі драбнець волаты, пакуль не сталіся людзьмі… Ды не згасла ў іх волатава кроў. Як і сказаў Вярнігор, чакала сваёй часіны. Люструе-адбівае крынічная вада, што зноў унукі становяцца дзядамі. Што прыходзіць з-за мора Дзвін, шукае мячом сабе шляху. Заваяваў княства, як заўсёды хацеў, адно не займеў ніводнага сына… Паклікаў найслыннейшых чарадзеяў, паабяцаў золата-срэбра, калі ўчыняць яны цуд…

— І абудзіліся тады схаваныя Вярнігорам чары… Не ад заваёўніка Дзвіна, ад волатавай крыві з'вілася на свет немаўля. Гэта ж ты, князёўна… Пазнаю, пазнаю цябе адразу. Не можаш забываць… Не ўмееш прабачаць… Забірай свае чары… Прарочу, прадказваю, што хадзіць па зямлі сіняй вадзе, няхутка ёй здабыць людское аблічча. Памятай добра: як учыніш крыўду ды боль, стацца табе крыніцай… Уцякаць-вырывацца з таго палону, але ніколі не ўцячы…

Абяцала так ды знікла пад зямлёю сіняя крыніца. Вярнула мяне ў чалавечы свет. Не такі мілы, не такі прыгожы… Цяжкі, непрыветны. Калаціліся-прасіліся на волю чары зямлі, казалі мне, што не жадаюць болей таіцца. Не прасіцеся, рабіце лад, а не ляда… Гневаліся чары агню, патрабавалі сабе ежы-спажывы. Нялёгка загадаць ім маўчаць… Цяжка дыхалі чары паветра. Не, вы не збяжыце знішчальнымі віхурамі. Плакалі чары вады, глядзелі ў душу празрыстымі азёрнымі вачыма. Ды ўведаць іхняга жалю не ставала моцы… І чаго вы такія цяжкія… Чаму высах сіні калодзеж? Куды ж ты збегла, сіняя крыніца… Веру, што надакучыла табе зберагаць-вартаваць. Адно баюся, што анідзе болей не будзеш ты для зямлі ратавальнай вадою…

Баюся і глядзець у вочы князю-бацьку. Уведалі ўжо людзі, што знік калодзеж, што нехта туды хадзіў. Шукаюць, як ды хто… Не хачу, каб знайшлі невінаватага. Суровы ж князеў загад. Толькі не стае смеласці прызнацца. Як раней змаўчала, то цяпер ужо расказаць не магу… І не прысніцца, не прымроіцца мне, што магу стацца выгнанніцай…

— Паедзем, князёўна, з намі… Далёкі наш край, толькі там не будзем гнанымі…

Уцякаць з вамі, браты-каралевічы? Куды ж… Не спраўдзіла я пакуль Вярнігоравай надзеі. Як жа мне знікаць без гэтага?.. Для нечага ж чакалі мяне не адзін чалавечы век ягоныя чары… Я адчуваю кожнай крывінкай, як уздыхае імі зямля, пырскае агонь, па-кацінаму пацягваючыся ў гарачай печы. Дыхае імі паветра на поўныя гру-

дзі, струменіцца глыбокая сцюдзёная вада. Мацнеюць чары, дужэе белы свет, збірае вялікую сілу… Збірае, аддае людзям. Дзівуюцца яны, але і радуюцца нечаканаму дарунку. А я думаю, думаю-спадзяюся, няўжо вернуцца, няўжо зноў будуць хадзіці па маёй зямлі волаты… Б'ецца волатава кроў. Не магла яна знікнуць, не магла мінуцца.

— Уцякайма з намі, князёўна. Абудзіліся чары тваёй зямлі, множаць яны і нашыя сілы. Толькі не зможам дапамагчы, як здагадаецца-знойдзе цябе князь Дзвін… А ён хутка ўжо знойдзе…

Не зможаце. Вы ж каралевічы… Не ведаю, чаму волатавы чары адгукаюцца вам, чужынцам… Яны ж чуюць родную кроў. Але не паеду я з вамі. Куды ж мне ўцякаць, як вяртаюцца на маю зямлю волаты… І таму кажу ім зноў:

— Што халадней за снег?

— Што пранізлівей за вецер?

А тады, як малодшыя, пакрыўдзіўшыся, ідуць ад мяне прэч, пытаюся ў каралевіча Браса:

— А што цямней за самую цёмную хмару на свеце?

І ўсміхаюся лёгка, згледзеўшы, як цямнеюць ад пранізлівага болю глыбокія вочы. Усміхаюся, каб не здагадаўся, што і мне трывожна-трывожна… Мяне ўжо знайшоў князь Дзвін. Чакала расчаравання і гневу… І цяжкай размовы… Не, зусім не гэтага дачакалася.

Не паглядзеў у мой бок, калі абвясціў чорным раннем:

— Гонар сваёй зямлі шануючы, славу сваёй зямлі шануючы, выбіраю будучага князя за адвагу, за спрыт, за мужнасць… Няхай жа ў бойцы выпрабуюць сябе каралевічы. За таго, хто пераможа астатніх братоў, пойдзе замуж князёўна. Ён і атрымае княжы пасад…

Пакланіліся мне браты-каралевічы. І кінуліся малодшыя біцца. Аж сярод лета нечакана з'явілася зіма… Наляцеў пранізлівы вецер, закружыўся з халодным снегам. Заслалі ўвесь свет сваім змаганнем. Круціцца вецер, валіць снег, рассыпаецца як тая мяккая порхаўка. Але і снег ветру не саступае, спавіў яго белымі стужкамі, як вецер не кідаецца, а снег яго трымае. Завыў, застагнаў вецер… Зарыпеў ад натугі снег… Загуло, закалацілася… Ды раптоўна знікла. Аціх вецер. У імгненне растаў снег. Хутка вярнулася на зямлю цёплае лета. Толькі не пабачыў болей аніхто малодшых каралевічаў… Шукалі-клікалі — не знайшлі. А можа, схавала іх сіняя вада, якая прабіваецца на гэты свет…

Сумныя сляды пакінулі тыя чары. Счэзлі, пачарнелі палеткі з садамі. Напалохаўся люд — цяжка яму зразумець, цяжка прыняць такое. І за ўчыненае ягонымі братамі, загадвае князь схапіць каралевіча Браса.

— Думаў, я не пазнаю цябе, каралевіч? Прыкрай была вашая ліслівасць… Звёў я ўжо са свету тваіх братоў і цябе звяду… Робіце толькі злое, чараўнікі. Не хадзіць вам па маёй зямлі аніколі…

— Хто сказаў табе, князь Дзвін, што гэта твая зямля? — прамовіў каралевіч Брас.

Прамовіў і абярнуўся цёмнай хмарай, такой, як некалі мною адчараваная. Прайшоўся вялікім страхам над лясамі-палямі… Не супыніць цябе самым вялікім войскам. Ані слязой, ані сілай. Заслалася хмарамі ўсё неба, знікла яснае сонца. Што хочаш ты ад маёй зямлі? Невінаватая ж яна ў тваёй страце…

— Князёўна, праз цябе загінулі мае браты…

Загінулі. Загінулі… Праз мяне. Як паўсвету знікла разам з імі. Заплачу крынічнай слязой, толькі перайду табе шлях. Чары зямлі і вады слухаюць слова маё. Ты

забыўся, што чужы-чужаніца, каралевіч… Не хадзіць табе цёмнай хмарай над маім краем… Клічу, клічу чары…

— Вяртайся туды, адкуль прыйшоў, князь Дзвін. Бяжы, уцякай… Як не быў добрым, так і сам не чакай спагады, — сказаў Брас моцнае чарадзейнае слова.

Пабег Дзвін. Уцякаў, уцякаў…

— Няма Дзвіна, — казалі людзі. — Дзвіна. Дзвіна.

Шырокая, суровая Дзвіна. Пабегла туды, адкуль прыйшоў князь. А людзі не верылі, што гэта чары навечна зрабілі яго ракою…

Толькі і мае чары напаткалі цябе, каралевіч… Ледзь не захлынуліся, як у змаганні з блізкімі-роднымі… Пабялела цёмная хмара, глынуўшы моц зямлі і вады… Сталася лёгкай маленькай аблачынкай. Я знямела ад прадчування бяды, але паспела, паспела… Паўсталі чары волатавай крыві. Не было і не будзе анічога мацней за іхнюю веру, за іхнюю памяць…

— Князёўна, прыгожая, што ж ты нарабіла… Я так спадзяваўся на тваё добрае сэрца. Не, я не знікну, я не памру, адно не змагу табе дапамагчы. Не слухаецца мяне вада, не слухаецца мяне крынічная сіла…

Гэта добра, што не слухаецца… Збягу, збягу ад цябе, каралевіч Брас. Збягу ад таго, што адкрываюць мне цяпер ціхія, слухмяныя чары вады, адлюстроўваюць схаванае скрыўджанай на Вярнігораў род сіняй крыніцай. Ад волатавай крыві з'явілася на свет не адно немаўля. Жадаючы схаваць, панесла вада ў далёкія землі трох хлопчыкаў, трох братоў… Панесла ды абяцала вярнуць… Снег. Вецер. Хмару.

Як учыню крыўду ды боль, стацца мне крыніцай… Лавіць снег. Слухаць вецер. Абяцаюць яны ніколі не выпусціць мяне з палону. Як знайшлі, то баяцца страціць-згубіць. Хаваюцца за аблокамі. Прагныя да жыцця. Таго, якога не мелі… Не, не мінуцца аніколі снягі з вятрамі. Будуць шукаць сабе прыгажунь. А мне гэта бачыць, а мне назіраць…

Б'юся хвалямі. Клічу-плачу:

— Спраўдзі маё жаданне, каралевіч Брас. Спраўдзі, ты ж абяцаў… Не пакінь маю зямлю… Не пакінь мяне… Не пакінь…

І ты зрабіў-спраўдзіў. Браты твае верныя ганарацца табой, славяць твой горад, шэпчуць мне з-пад аблокаў:

— А брат наш слаўны… Брат слаўны… Бра… слаў… Бра… слаў… Браслаў…

Мінаю яго, збягаючы далёка-далёка… Б'юся хвалямі… Не радуюся вясёлым берагам. Хачу пазбыцца гора, забыцца на страту… Адбіваю ў плыткай вадзе лёгкія аблокі. Узіраюцца яны ў маю празрыстую плынь. І толькі я адна ведаю, што хаваюцца за аблачынкамі і прагныя, і страшныя… Як успаміны злой ды бурлівай… Як забытыя аблічча снягоў з вятрамі… Як тая белая хмара між празрыстых ды лёгкіх, што зноў і зноў растае над слаўным горадам летуценным туманам…

Лагаднеюць прагныя, гледзячы ў мае бруістыя хвалі.

— Стань добрай, крыніца… Добрай… Забудзься на ўсё… Змірыся, прабач… Тады збяжыш, а мы цябе не зловім…

Я злая князёўна… Упартая… Халодная… Не забудуся. Не змірuся. І не ўведаць вам, што паспела я ўчыніць, астатні раз паклікаўшы чары… Буду чакаць Вярнігораву кроў, каб аддаць ёй з крынічнай сілай моцныя чары. Буду чакаць неспадзяванага ратавання для іх, вятроў, снягоў ды хмар… Бо сярдзітая… Злая… Чарадзейка, якая скінулася сіняй вадою, сіняй, як неба, бурлівай крыніцай.

Міхась БАРАНОЎСКІ

# ПЫТАННІ НА ЎСЕ АДКАЗЫ



***Міхась Бараноўскі нарадзіўся 1 снежня 1984 года ў Мінску. Працуе ў музеі Максіма Багдановіча. Аўтар праекта маладых творцаў «Вежа міру» Цікавіцца творчасцю ў розных яе праявах, спортам, псіхалогіяй. Паспяхова кіруе музычным гуртом «Нельга забыць».***

* * *

Вясна не глядзіць...
Злодзей ты... альбо чалавек...
Яна проста прыходзіць...
І асыпае квеценем вішні...
У тваім двары...

Вясна прыходзіць да тых...
Хто чакае яе...
Як збаўлення...
І да тых... каму на яе начхаць...

Вясна прыходзіць па-за нашым жаданнем...
Па-за нашай нянавісцю і любоўю...

Вясна прыходзіць да ўсіх...
Ці хопіць сэрца...
Каб гэтаму навучыцца?

* * *

Тым хто хоча пачуць ад мяне…
Што Бог ёсць…
Кажу… Бога няма…
Тым хто хоча пачуць…
Што яго няма…
Кажу, што ён ёсць…

Што скажу я сабе?..
Што я жадаю пачуць?..

Калі трэба ўпэўніцца ў сваіх думках…
То зачэрпваю з кішэні «адказы на ўсе пытанні…»
Калі трэба разуверыцца…
То зачэрпваю з кішэні «пытанні на ўсе адказы…»

Пасля таго, як я заўважыў за сабой гэтую завядзёнку,
Дзіркі ў кішэнях не зашываю…
Каб яны заўсёды былі пустыя…

* * *

Мне з’явіўся анёла ў сне.
Адно крыло — быццам першы снег,
Другое крыло ў анёла ў агні.
Маці божая, барані...

Ён, здаецца, бачыць наскрозь
Усё, што будзе і ўсё, што ёсць,
Усіх, хто ў завею чакае вясны,
Маці божая, барані...

Сэрца яго прагне любові,
Рукі яго прагнуць крыві.
Калі пяшчота пад забаронай,
Маці божая, барані...

Анёл разявае бяззубы рот,
Памяць прастрэлена навылёт.
Пакуль трымаюць яшчэ карані,
Маці божая, барані...

Мне з’явіўся анёла ў сне.
Адно крыло — быццам першы снег,
Другое крыло ў анёла ў агні.
Маці божая, барані…

* * *

У доме маім
Ёсць дзверы, якія заўсёды зачынены.
Што за імі —
Халера яго ведае.

Я спрабаваў зазірнуць у замочную шчыліну,
Але пабачыў нішто.

Прынюхваўся
З надзеяй ухапіць нейкі водар,
Падхоплены скразняком,
Але без сэнсу.

Прыкладваў вуха
Да пафарбаваных шматкроць дошак —
Цішыня.

З гэтага боку такі гвалт,
Што здаецца, нічога на свеце няма.
За дзярыма так нема,
Што пэўна там нешта ёсць…

* * *

Завіталі ў мой дом Мельхіор, Балтасар, Каспар.
Завіталі наўпрост, быццам былі тут сто разоў.
Кажуць, Бог нарадзіўся. Быць сведкам яго раства —
Гэта гонар для кожнага з каралёў.

«Не... ну што вы... панове... памілуй бог!
У гэтым месцы няма ані кроплі святой крыві».
А яны жагналіся і цалавалі парог,
І гарэлі іх вочы… з-пад чорнай як смоль брыві.

І сказаў Мельхіор: «Мы крочылі 9 год
Йшлі дарогамі ветру, шукаючы гэты кут,
Каб на вочы пабачыць таго, хто ўратуе род
І на плечы свае возьме цяжар яго пакут».

«Вось дары нашы, — вымавіў Балтасар.
Тут цярновы вянок і цвікі... і драўляны крыж —
Ўсё, што мае ўзяць у дарогу найвелькі цар,
Каб узняцца на самае неба з любой гары».

«Што вярзеце вы, людзі, ідзіце адгэтуль прэч,
Каб у хаце маёй не ступала вашай нагі!»
І ляцелі праклёны ўслед, а дары — у печ,
І барвелі цвікі ў пякельнім яе агні...

З той пары данімае штоночы жахлівы сон:
Бог стаіць на вадзе. Гэты бог — мой адзіны сын.
І я не магу з гэтым светам нічога зрабіць...
Толькі любіць яго... толькі яго любіць...

* * *

Сіверны вецер
Ляціць па свеце.
Агмень надзеі
Гарыць — не грэе...

Я кавалак жывое гліны.
Страляй мне ў спіну...
Страляй мне ў спіну...

Барвеюць вочы
Арабінавай ночы,
І поўна ў роце
Крыві і плоці.

Я кавалак жывое гліны.
Страляй мне ў спіну...
Страляй мне ў спіну...

Буду шчаслівы
На крыж зласлівым.
Белы і чорны
Нажом хрышчоны.

Я кавалак жывое гліны.
Страляй мне ў спіну...
Страляй мне ў спіну...

* * *

Я буду тваім сабакам.
Буду вылізваць рукі,
Шукаць таемныя знакі,
Пільнаваць няўлоўныя рухі.

Буду не ведаць меры,
Буду заўсёды рады…
Сонца заходзіць за краты
Веры тваёй і праўды.

Я буду тваімі вачыма,
Буду сачыць няўмольна
За ворагамі айчыны
Весела і камсамольна.

Не трэба ні хлеба, ні ласкі —
Вазьмі маю кроў і жылы!
Гулка звіняць спружыны
Нашай чароўнае казкі.

Я буду тваім дарэшты
На бойні і на радзінах.
Хто сягоння бязгрэшны,
Мілы мой і адзіны.

Цяпер ты будзеш шчаслівы…
Глядзі, як знічка коціцца на мундзір,
Вядзі нас наперад, мілы,
Дзіравы наш камандзір.

*Ганна ЧАКУР*

# УСЛЕД ЗА ПУЦЯВОДНАЙ ЗОРКАЙ



***Ганна Чакур нарадзілася 21 сакавіка 1959 года ў Астраўцы. Па адукацыі аграном, але амаль 20 гадоў працуе журналістам раённай газеты. Піша вершы, казкі, апавяданні.***

Трое сутак распаленай адзіноты. Трое сутак сам-насам з пустыняй. З бясконцасцю яе ўсюдыіснага пяску, гатовага мяняць абрысы хвалістых барханаў. З цішынёй, ад якой, нібы ад сцяны, адбіваюцца жаласныя стогны яго стомленага вярблюда.

Трое сутак назад ён кінуў сваім спадарожнікам раздражнёнае: «Цягнецеся, як няшчасныя ганчары, што баяцца разбіць свой крохкі тавар! Цэлы год падарожжа апранецца ў руіны дарэмнасці праз ваша нежаданне прыспешыць хаду! Адмаўляюся ад таварыства — я сам адолею дарогу… І не спазнюся!»

Трое сутак назад ён з сілай ударыў свайго драмадэра, і той, закрычаўшы ад крыўды і болю, рвануў наперад.

Ніхто не паспрабаваў яго спыніць. Ніхто не сказаў: «Адзін ты загінеш». А калі б і сказаў, ён не пачуў бы. А калі б і пачуў — гэта б яго не спыніла. Ад'язджаючы, ён так і не адважыўся азірнуцца, а калі б азірнуўся — убачыў бы, як яго чорнабароды спадарожнік памкнуўся яго спыніць, але другі, старэйшы, падняў руку ў забараняльным жэсце…

…Ён быў звычайным чарнаскурым хлопчыкам. Восьмым сынам свайго бацькі. Такім, як усе іншыя дзеці. Прынамсі, ён так тады думаў. Пакуль аднойчы вечарам да іх вогнішча не падышлі двое чужакоў…

На агні булькацела поліўка з дурры, і яе пах прыемна казытаў у носе. Маці раздражнёна адмахвалася ад спроб сваіх малодшых зачэрпнуць з гаршчка: «Пачакайце, гарэзы! Вось ненасытныя…» Але калі вячэра нарэшце зварылася, яна не паклікала дзяцей, бо ля вогнішча ўселіся чужакі. Яны нешта ціха гаварылі бацьку. Той спачатку ставіўся да іх слоў з недаверам, потым — з цікавасцю, а калі ў руках аднаго з незнаёмцаў з'явіўся мяшэчак з чымсьці звонкім, бацька паклікаў яго: «Халіл!»

Той паслухмяна падышоў. Не глядзеў (ведаў, што гэта няветліва) на незнаёмцаў — узіраўся ў твар бацькі.

— Ты пойдзеш з імі, — сказаў бацька. — Цяпер яны будуць тваёй сям'ёй.

У пошуках паратунку Халіл зірнуў на маці, але тая, сустрэўшы позірк сына, адвяла свае падазрона вільготныя вочы… Адзін з чужакоў пасадзіў яго на каня, потым ускочыў сам і махнуў рукой — аднекуль з цемры ўзніклі

яшчэ чацвёра коннікаў, і яны рушылі ў дарогу пасярод ночы. Адзінае, што сказаў Халілу той, хто прыціскаў яго да сваіх грудзей, было: «Цяпер тваё імя — Каспар».

З тае ночы мінула амаль шэсць гадоў…

…Невядомая сіла не давала Каспару спакою — гнала і гнала наперад. Ён зноў і зноў прыспешваў свайго вярблюда, хоць разумеў: той траціць сілы. Але чамусьці гэта не хвалявала хлопца. Ён ведаў, адчуваў нутром: пустыня на ягоным баку. І хоць уласны твар заскарузнуў ад поту, што ад невыноснай спёкі адразу ж высыхаў, пакідаючы на цёмнай скуры салёныя разводы, а пясок здолеў пранікнуць, здавалася, нават у кроў, ён не адчуваў стомы. Прынамсі, у першы дзень свайго самастойнага падарожжа.

На трэці дзень, калі сонца пачало падбірацца да зеніту, Каспар убачыў возера. Вялізнае ды бліскучае, напоўненае чысцюткай прэснай вадой. Сэрца юнака шчасліва закалацілася: «Зараз, — сказаў ён свайму драмадэру, — зараз мы з табой, Беланогі, і нап'ёмся ўдосталь і накупаемся…»

Не, вада, канешне, ў Каспара была: цэлы мех з бясцэннай вільгаццю булькацеў за плячыма. Але ён ведаў, што кошт кожнай кроплі раўняецца жыццю, і, як мог, зберагаў ваду, дазваляючы сабе толькі час ад часу прамачыць высмаглы рот.

А возера, між тым, набліжалася. Вось ужо сталі бачнымі пальмы на яго берагах. І заraснікі дзікай мімозы…

— Давай, Беланогі, не ўпарцься!

А потым возера знікла. Засталося толькі барвовае сонца і бяскрайняе мора распаленага пяску. Ні цені, ні ўзгорка, ні хаця б адзінокага чэзлага дрэўца…

Вось тады Каспар упершыню спалохаўся. Але сонца, пераваліўшы праз зеніт, палагаднела, а прахалода, якой задыхала ноч, супакоіла. «Не бойся!» — падморгвалі зоркі.

Каспар ляжаў на спіне і глядзеў у неба: нідзе на свеце, ведаў гэта ад мудрых людзей, зоркі не свецяць так ярка і чыста, як у пазбаўленым вільгаці паветры пустыні. Ён купаўся ў гэтай чысціні. Прарастаў у бясконцасць яе глыбінь. Да самага донца. Да спрадвечнага: «Хай будзе святло!» Амаль фізічна адчуваў, як ягоная душа перастае быць адасобленай іскрай — з'ядноўваецца з полымем Сусвету, што не мае ні канца, ні пачатку, што заўсёды было, ёсць і будзе. І новае, немагчымае па сваёй паўнаце разуменне існасці, ахінала яго ўсё шчыльней…

А раніцай сонца ўжо не было — яно не змагло прабіцца скрозь туман. Гарачы, як пекла. Дзьмуў паўднёвы вецер, а пясчаны акіян рухаўся. Уздыбіўся мірыядамі сваіх часцінак, афарбаваў неба ў колер крыві. Усё мацней накалялася паветра, хвіліна-другая — і па ім забегалі электрычныя токі…

Дарэмна Каспар спрабаваў падняць драмадэра — вярблюд крычаў ад жаху, усё глыбей закопваючыся ў пясок. І раптам бязмоўная пустыня зайшлася жудасным воем. А на гарызонце нарадзіўся дзіўны слуп. За ім другі, трэці… Жывыя і непамерна высокія, яны з жахлівай хуткасцю набліжаліся. І ўцячы ад іх не было магчымасці. Як ад уласнага лёсу. Пясчаныя смерчы… Праклён пустыні — самум…

Каспар паспрабаваў схавацца за спінаю вярблюда. Але напоўненае пяском паветра адшукала яго…

Самум бушаваў да ночы. Каб сціхнуць раптоўна. І мёртвая цішыня навісла над застылымі пяскамі пустыні.

Каспар ляжаў на спіне. Ад перасыхання ягоная скура патрэскалася, пакрылася глыбокімі, занесенымі пяском ранамі. У галаве біў молат. Язык здранцвеў. Цела распухла і не хацела слухацца. Але Каспар яшчэ быў жывы, у адрозненне ад Беланогага, і мог, няхай сабе з неверагоднай цяжкасцю, але паварушыцца…

Вады… Хоць глыток…

Перавярнуцца на жывот не атрымалася — так і поўз, на спіне. Некалькі метраў, якія аддзялялі яго ад меха з вадой, Каспар пераадольваў амаль гадзіну. А калі

нарэшце намацаў, апошнія сілы пакінулі яго — вар'яцкая гарачыня высушыла скуру бурдзюка, ён растрэскаўся, і вада выцекла…

Юнак не заплакаў. Не было чым — вільгаці ў целе не засталося нават на слёзы. Сухімі, зацярушанымі пяском вачыма ён глянуў у неба. На зорку, якую лічыў пуцяводнай. «Прабач», — варухнуў ён абпаленымі вуснамі, рэзка тузануўся і заціх. Ён яшчэ бачыў, як зорка ў адказ нахілілася над яго нерухомым целам, правяла прахалоднымі прамянямі па твары.

Затым ён убачыў маці. Яна несла вёдры, поўныя прахалоднай вады. З Ніла — ён гэта ведаў. З ракі, ля якой нарадзіўся і рос. Маленькі Халіл выбег насустрач матулі, і яна з размаху выплюхнула на яго кучаравую галоўку рачную прахалоду…

А потым неба не вытрымала ўласнай пустаты і абрынулася на яго мегатонамі цемры…

…Адшукаць Каспара дапамаглі сцярвятнікі. Невядома як яны адчулі пах мярцвячыны і ў прадчуванні блізкага балявання кружылі над прысыпаным пяском юнаком і яго вярблюдам.

Першым са свайго драмадэра спешыўся чорнабароды. Нахіліўся над нерухомым целам, дакрануўся да шыі ў імкненні намацаць пульс… і адмоўна пакруціў галавой: позна.

— Не можа такога быць, — не паверыў яму чалавек з сівой барадой. Умелым рухам ён прымусіў свайго вярблюда апусціцца на пясок і саскочыў з яго нечакана лёгка.

— Ты не можаш памерці, Каспар, — сказаў ён, вымаючы з перакінутай цераз плячо торбы цёмную бутэлечку, на трэць напоўненую густой вадкасцю. — Ты не можаш. Інакш, я ўбачыў бы тваю смерць.

— Дапамажы, — звярнуўся сівабароды да свайго спадарожніка.

Дзвюма рукамі той расшчапіў скамянелы рот Каспара, і сівабароды, уліўшы ў яго некалькі кропель са сваёй бутэлечкі, стаў назіраць. Нічога.

— Давай яшчэ крыху, — скамандаваў ён чорнабародаму.

Толькі пасля трэцяга разу, калі стары, больш не лічачы кроплі, уліў у рот юнака ўсё змесціва сваёй бутэлечкі, Каспар заварушыўся і расплюшчыў вочы.

— Прабач мне, настаўнік, — праз здранцвелыя вусны ледзь чутна прасіпеў ён.

— Ты не мог памерці, хлопчык, — сцвярджальным тонам сказаў сівабароды. — Я б ведаў… Я бачыў тваю смерць… Яшчэ не хутка… Ты — маг такой сілы, якой зямля яшчэ не ведала. Мне было дадзена прачытаць твой прыход, і я забраў цябе ў тваіх бацькоў. І даў табе веды… Усе, якімі валодаў сам… Далей ты павінен ісці самастойна. І гэты адрэзак пустыні, які ты пераадолеў у адзіночку — толькі першы крок. Ён запісаны ў тваім лёсе. Таму я не спыніў цябе. Я не мог...

Яны прамылі раны Каспара, змазалі іх гаючай маззю і пасадзілі юнака на спіну драмадэра. Лепш, канешне, было б перачакаць дзянёк, даць яму набрацца сіл, але яны не маглі: пуцяводная зорка ў гэты дзень не пагасла і раніцай — падзея, прадказаная тысячы гадоў таму, вось-вось павіннна была здзейсніцца. І ў імя ўсяго чалавецтва яны не мелі права спазніцца…

…Праз тры тыдні зорка прывяла іх да невялікай пячоры. Звычайнай. У такіх пастухі замыкаюць на ноч жывёлу. У яе глыбіні сядзела маладая жанчына і люляла на руках немаўля. Хлопчыка. Сыты і радасны, што з яго ўзяць, немаўляці, той весела стрыг голенькімі пухлымі ножкамі…

І ўбачыўшы яго, трое самых моцных магаў Зямлі ўпалі ніцма. Бальтазар, старэйшы і мудрэйшы з іх, падаў яму ладан. Як святару святароў. Як Богу. Мельхіёр падарыў золата. Як цару. А Каспар, якому, нягледзячы на юнацкі ўзрост, было дадзена бачыць далей за сваіх настаўнікаў, паставіў ля маленькіх ножак міра. Як чалавеку, якому наканавана бязвінна прыняць пакутніцкую смерць на Крыжы. Каб даць шанс чалавецтву.

Анатоль ЗЭКАЎ

# ДАРОГА Ў ТРАВЕНЬ



***Анатоль Зэкаў нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Працуе ў розных жанрах і таму амаль не ведае творчага прастою. Не пішуцца вершы — садзіцца за прозу, кідае яе — пераключаецца на пароды. У юбілейны для сябе год падрыхтаваў чытачам «Маладосці» новую паэтычную падборку.***

* * *

Снягі спуджана стаяцца.
Я ступаю нясмела.
Як балюча, як боязна
наступіць на снег белы.

Ён глядзіць прама ў вочы мне,
з-пад абцасаў вылазіць...
Я ступаю, не хочучы
снег нагамі абразіць.

* * *

Я так люблю час светлы той,
калі зямлю наўсцяж заснежыць.
Снег на зямлі сцірае межы
і надае бязмежнасць ёй.

Зямля — бы ў вэлюме вясельным
нявеста.
Ад яе святла,
як бы завея ні гула,
мне і спакойна, і надзейна.

**СТУДЗЕНЬ І ТРАВЕНЬ**

Я не ведаю, што будзе
і што робіцца са мной:
ў травень твой
глядзіць мой студзень —
сэрца грэе травень твой.

Зазірае ён на краскі,
бо лагодзяць зрок яны —
можа, што адвык ад ласкі,
што жыў доўга без вясны?

Я не ведаю нічога
і не сам таму віной,
што ад студзеня дарога
выбягае ў травень твой,

Напрасткі імчыць люты,
сакавік мінае ўлёт,
красавіцкія пакуты
разганяе, нібы лёд.

Я не ведаю, што будзе,
ды і што мне да таго?
Ў травень твой глядзіць
мой студзень
і не зводзіць воч з яго.

Што ён думае пры гэтым?
Студзень думае ж — не я.
А ў яго — свае сакрэты,
і таму, павер мне, гэта
справа ўсё-ткі не мая.

## НАТХНЕННЕ

Як прачнецца, то пачнецца
і пісацца будзе,
бо натхненне гэтак сэрца
ўміг узбаламуціць

і не дасць ні ўдзень, ні ўночы
мне зусім спакою,
хочаш ты таго, не хочаш,
а яно такое.

Будзе ў сэрца грукаць рыфмай —
ямбам ці харэем.
Надакучыць так! А сціхне —
знаць не буду, дзе я.

## ЗЁЛКАВЫ ЎСПАМІН З МАЛЕНСТВА

Быў час: куплёнае гарбаты
у вёсцы аніхто не знаў.
Напоі ўсе з чабору й мяты
былі,
і з іншых зёлак-траў.

Збіралі іх з бабуляй разам
у лесе і на лузе мы.
Хапала высушаных звязак
для нас на кожны дзень зімы.

Напояў іншых і не зналі,
чым цудадзейны той напой,
які з траў-зёлак гатавалі,
каб не прастуджвацца зімой.

І не прастуджваліся — праўда.
Цяпер пра тое — столькі мар!
О, як салодка час той згадваць
і даўні лекавы адвар!

І ўжо наўрад гады затуляць
маленства светлы час, калі
збіралі зёлкі мы з бабуляй
і з зёлак тых адвар пілі...

* * *

Ці тое ўсё ў жыцці прыдасца,
чаму калісьці дзед вучыў,
ці, можа, нешта мне на трасцу
было патрэбным.
Ды нічым
сябе не выдаваў я дзеду,
бо і пакрыўдзіць не хацеў,
ды й сам таго яшчэ не ведаў,
што мне спатрэбіцца і дзе...

Я проста браў урокі ў дзеда.

* * *

О, як згадаецца мне многа
з таго, што памяць разгайдае,
калі разыдуцца дарогі,
каб самастойна бегчы ўдалеч.

Ды толькі варта азірнуцца,
перш чым схавацца ў чыстым полі,
бо мы ж маглі і размінуцца,
і не сустрэцца аніколі.

Хаця б наўрад хто з нас заўважыў,
калі б так здарылася раптам.
І жыў бы я, цябе не знаўшы,
мяне не ведаўшы, жыла б ты.

І мо шчаслівы быў бы кожны,
няхай па-свойму.
Ды, аднак жа,
нашто цяпер гадаць, што, можа,
было б,
бо хіба тое важна,

калі мы самі ўжо з былога,
што недзе там, за небакраем,
дзе разыходзяцца дарогі,
каб самастойна бегчы ўдалеч.

**ПЕРАД АПОШНЯЮ МЯЖОЙ**

Яна ўсё бліжай, усё бліжай,
мая апошняя мяжа,
і ўжо не ўбачу я Парыжа
і іншых гарадоў, на жаль.

Ды што далёкае замежжа,
калі і тыя гарады,
што краю роднаму належаць,
пакінуць мушу назаўжды.

Але і ў міг жыцця апошні
хачу я ўбачыць не Парыж,
а вас, Заслаўе, Полацк, Орша,
Мсціслаў, Мір, Тураў і Нясвіж.

Яшчэ б Наваградак убачыць
і на радзіму завітаць,
ў маю Патапаўку — іначай...
іначай рана паміраць.



*Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ*

# АПАВЯДАННІ



***Уладзімір Мажылоўскі нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіславова Дубровенскага раёна. Аўтар захапляльнай гістарычнай прозы прапануе гэтым разам апавяданні з агульным героем — лаўнікам Берасцейскага магістрата Самуілам Корчакам. Час дзеяння — XVI стагоддзе.***

## БРУДНАЯ СПРАВА

### 1

— Не лезь не ў свае справы, Самуіл! Табе заняцца няма чым? — на ўвесь магістрат разносіўся грозны голас берасцейскага бурмістра пана Міхала Ласкевіча. — Забойства раскрыта, душагуб вызначаны, берасцейцы заспакоены. Што табе яшчэ трэба, чым ты не задаволены, чаму не давяраеш вынікам расследавання, якое правёў Фёдар Буцюта?

Берасцейскі лаўнік Самуіл Корчак маўкліва сядзеў на лаве і, як магло падацца, з унутраным трымценнем слухаў бурмістра. Ён нават ківаў галавой, быццам пагаджаючыся з панам Міхалам, аднак у яго вачах, хітра прыжмураных і бяздонных у сваёй цемнаце, пульсавала такая нязгода, што сам бурмістр палохаўся яе, а таму раз за разам прасіў:

— Не лезь ты ў гэтую справу, Самуіл!..

Раптоўна пан Міхал прыціх, напружыўся, бы гончы сабака на паляванні, асцярожна наблізіўся да дзвярэй, рэзка расчыніў іх.

— Што табе трэба, Фёдар? — запытаў ён у некага.

— Ды нічога, — да слыху Корчака данёсся разгублены адказ Фёдара Буцюты, — хацеў запытацца ў тваёй міласці, якое на сёння мне будзе заданне?

— Ідзі ў Замухавечча. Там знойдзеш удаву Астапа Гарбача — скардзіцца кабета, што ў яе апошнімі днямі нехта качак крадзе.

— Дык, можа, сом?

— Вось і разбярыся на месцы.

Буцюта ўжо выйшаў з магістрата, а бурмістр усё яшчэ насцярожана прыслухоўваўся. Потым надзейна прычыніў дзверы і наблізіўся да Корчака.

— Тое, што я табе скажу, Самуіл, ты павінен трымаць за зубамі. Не, гэта не нейкая там дзяржаўная тайна, але пра яе ў нашым горадзе ведае толькі тры-чатыры чалавекі і я не хачу, каб пагалоска пра забойства дасягнула вушэй нашага старосты пана Радзівіла Чорнага.

— Ты мяне крыўдзіш, пан Міхал.

— Маўчы, — адмахнуўся бурмістр. Потым крыху падумаў і сеў на лаву побач з Корчакам. — Вось што ты ведаеш пра забойства карчмара Антука Рубца?

— Я следства не вёў, але чуў ад Буцюты, што чатыры дні таму яго выцягнулі з Мухаўца, а непадалёк ад таго месца на беразе знайшлі труп невядомага жабрака з рассечанай гала-

вой. Яшчэ я ведаю, што Федзька Буцюта, якому ты даручыў расследаваць гэтае забойства, вырашыў, быццам жабрак напаў на Антука ноччу, каб яго абрабаваць, але, падаючы ў ваду, аглушаны карчмар усё ж злаўчыўся і рассек сякерай галаву галадранца.

— Але падазраю, што абадранец той быў не звычайнай галотай, а маскоўскім пасланцам, і сустрэча на беразе Мухаўца была ў іх не выпадковай, а дамоўленай. Таму праўду, хто і каго там засек, нам з табой лепш не ведаць.

— А калі я правяду сваё расследаванне?

— Сваё? — бурмістр падняўся з лавы, прыгладзіў сівыя вусы. — Толькі пры гэтым не спасылайся ні на мяне, ні на пана войта. Зразумеў, Самуіл?

Корчак пацiснуў плячыма:

— Як звычайна.

**2**

Самуіл выйшаў з магістрата калі вечаровы паўзмрок сырой покрыўкай ахінуў горад. Нізкае восеньскае неба імжэла дробным дажджом, прымушаючы рэдкіх гараджан хутчэй спяшацца пад дах. Лаўнік з сумам паглядзеў уверх, глыбей нацягнуў на галаву шапку, шпаркімі крокамі перасек гандлёвую плошчу і, тулячыся бліжэй да парканаў, па Кавальскай вуліцы рашуча пакрочыў у бок Замухавечча.

З надыходам вечара купецкія лаўкі зачыніліся, адзінымі крыніцамі святла былі паходні, якія неслі з сабой познія прахожыя. Аднак прахожых тым менш станавілася, чым больш змрок апускаўся на гарадскія пабудовы. Сумнiўнай і цяжкай падалася Корчаку яго задума: маўклівыя людзі, іх палахлівая, паспешлівая хада, чорныя парканы ўздоўж вуліцы, брудныя драўляныя насцілы. І цішыня. Менавіта цішыня больш за ўсё прыгнятала лаўніка, прыўносіла ў яго душу незразумелую трывогу, халодным подыхам варушылася ў грудзях. «А мо і праўду кажа пан Міхал — дурную і непатрэбную справу я задумаў? Ну іх да ліха ўсе гэтыя сумненні ў справядлівасці праведзенага Буцютай расследавання. Утапілі здрадніка — туды яму і дарога, засеклі маскоўскага лазутчыка — Бог яму суддзя! Але не, трэба ісці..

Карчма Рубца тулілася да самага берага Мухаўца. Гэта была доўгая, але нізкая, бы прыціснутая да зямлі, пабудова. Маленькія, зацягнутыя бычыным пузыром, акенцы жаўцелі мутным святлом у надыходзячай ночы, але ў будыніне было нязвыкла ціха. Самуіл прайшоў праз расчыненыя веснічкі, штурхнуў дзверы: яны ціха рыпнулі.

Унутры было крыху святлей, чым на двары. Пярэдні пакой асвятляўся лучынамі, у левым куце цьмяна жаўцела лампадка. Самуіл зняў шапку, перажагнаўся, агледзеўся. Наведвальнікаў у карчме амаль не было — толькі ў дальнім канцы стала сядзеў малады чалавек у беднай сялянскай вопратцы і не спяшаючыся піў піва. Лаўнік наблізіўся да незнаёмца.

— Тут павячэраць можна?

Селянін не паварушыўся, нават не павярнуў галавы і працягваў моўчкі піць піва. Самуіл сеў на лаву насупраць, зноў уважліва агледзеў памяшканне і, не ўбачыўшы нікога, пацікавіўся:

— А дзе ж карчмар?

— Няма карчмара, — з надрыўным усхліпам адказаў яму зусім юначы голас. — Учора пахавалі дзядзьку Антука.

— Зразумела, — лаўнік разгублена пачасаў галаву. — Хто ж тут цяпер запраўляе?

— Цётка Матруна, — юнак паўшэптам назваў імя, пры гэтым палахліва паглядзеў у бок агмяню.

— А ты хто?

— Я — пляменнік дзядзькі Антука, Мікола. Да яго смерці жыў тут, дапамагаў стрыю па гаспадарцы, а што будзе цяпер — не ведаю. Не любіла мяне цётка Матруна пры жыцці Антука, а ўжо пасля яго смерці — дакладна прагоніць.

— А твае бацькі?

— Бацька памёр, калі я быў зусім маленькім, а маці сканала два гады таму. Адзін я, дзядзька! Зусім адзін на гэтым свеце!

— А стрый твой ад чаго памёр? Пэўна, хварэў?

— Дзядзька Антук хварэў? — Мікола ўрэшце павярнуў твар да Самуіла і той убачыў у вачах хлапчука такое гора, што шчыра пашкадаваў яго. Яму раптоўна захацелася пагладзіць сірату па няроўна пастрыжаных валасах, прытуліць да сябе, прылашчыць. Аднак ён стрымаўся і вінавата прамовіў:

— Прабач, я не ведаў твайго стрыя!

— Дзядзька Антук мог спакойна падняць каня, разагнуць падкову. Ды мацней за яго ў Замухавеччы, пэўна, не было нікога. Хіба каваль Пятрок Броўка.

— Дык ад чаго ж ён тады памёр?

— Забілі яго, — нервова выдыхнуў хлопчык і зноў кінуў палахлівы позірк у кут, дзе дагараў агмень. — Тым днём дзядзька быў незвычайна ўзбуджаны, злосны, а вечарам папрасіў мяне, каб я прынёс яму невялікую сякеру, якой цётка Матруна сячэ качак ці шчапае лучыну. Сякеру я прынёс і ён, запіхнуўшы яе за пояс, адразу некуды пайшоў… А раніцай яго выцягнулі з ракі, — хлопчык які ўжо раз хліпнуў носам.

Стрыя ён любіў. Першыя месяцы, праўда, не разумеў, чаму Антук так часта б'е жонку, без усялякай прычыны лаецца на дачок Дунятку і Просю, лютай нянавісцю ненавідзіць свайго чатырнаццацігадовага сына Петруся; не разумеў, аднак верыў дзядзьку, верыў, што яго жонка Матруна і сапраўды лянівая, бы калода, а дзеці — «тупыя бараны», якія не хочуць зразумець бацьку і ўсё робяць не так, як трэба. Сірата часам адчуваў сябе вінаватым у тым, што адбывалася ў сям'і Антука, — быццам прынёс ён нейкай звышмагутнай, невядомай істоце ў ахвяру жыцці сваіх бацькі і маці, і смерці іх, нечым звязаныя з Антуком, зараз уплываюць на лад у яго сям'і, — хаця ў той жа час ён выдатна разумеў дурноту сваіх думак і прадчуванняў. Аднак хлопчык не хацеў здавацца. Ён хацеў жыць, быць патрэбным і таму ўсялякім чынам імкнуўся адгарадзіцца ад нябожчыкаў, пакінуць іх у спакоі ў царстве памерлых, а самому далучыцца да жывых, такіх, як гэты просты дзядзька, што зараз сядзіць перад ім. Чаму б яму не расказаць праўду пра маці, стрыя Антука і яго сям'ю, што тут хаваць, каго баяцца?

— Той жабрак у карчму да нас ніколі не прыходзіў, але я бачыў, як два ці тры разы, яшчэ летам, цётка Матруна размаўляла з ім на беразе рэчкі. Размаўляла тады, калі Антука не было дома, спакойна, але кожны раз нядоўга. Аднойчы я бачыў, як яна дала жабраку невялікі мяшэчак з грашыма. Гэта мяне і ўразіла больш за ўсё, цётка вельмі сквапная, а тут падала нейкаму галадранцу палову капы! Прычым усунула грошы гвалтам, між яго волі, бы адкупляючыся ад нейкага граху ці зладзейства.

— А ты не чуў, пра што яны тады размаўлялі, як называлі адно аднаго?

— Не, — адмоўна хітнуў галавой хлопчык, — яны хаця і не хаваліся, аднак гутарылі ціха, амаль шэптам. Ды і жабрак…

— Ёсць тут хто жывы? — раптам расчыніліся ўваходныя дзверы і ад парога данёсся густы бас.

Мікола прыўстаў з лавы, прыжмурыў вочы, уважліва агледзеў чалавека, сумна ўсміхнуўся:

— Я ёсць, дзядзька Кузьма.

Кузьме было гадоў сорак. Быў ён каранасты, моцна збіты, з доўгімі рукамі і шырокім, зарослым густым валоссем, тварам. Ён уважлівым позіркам ахінуў лаўніка, хмыкнуў. Потым, бы добраму знаёмаму, падміргнуў хлапчуку і запытаўся:

— А дзе Матруна?

— Недзе на панадворку, — пацiснуў плячыма Мікола. — Сюды яна даўно не заходзіла.

— Ноч жа на дворы! — праракатаў Кузьма здзіўлена. Ён яшчэ раз уважліва агледзеў лаўніка, зноў неяк пагардліва хмыкнуў, павольна, бы неахвотна, павярнуўся і выйшаў з карчмы.

— А гэта хто? — пацікавіўся Самуіл. Не вельмі прыемнае ўражанне пакінуў пасля сябе незнаёмец, не спадабаўся ён лаўніку.

— Дзядзька Кузьма — сябар Антука, — адказаў хлопец.

— І што ён робіць тут ноччу?

— Можа, рыбу прынёс, — выказаў здагадку Мікола. Было бачна, што і ён не вельмі паважае сябра стрыя. А, можа, баіцца яго? Самуіл уважліва назіраў за хлапчуком. А той

падняўся з лавы, узяў з прыпечка пук лучын, выбраў з іх дзве найбольш смалітыя і маўкліва, быццам хаваючы ад госця нейкія свае пачуцці, накіраваўся да агмяню, каб памяняць там лучыну.

Падняўся з лавы і Корчак.

— Пайду я, Мікола, — лаўнік выцягнуў з-за пояса шапку і міжволі перавёў позірк на запечак, адкуль з цемнаты на яго глядзелі два бліскучыя агеньчыкі. «Кошка!» — пстрыкнула здагадка. Але для вачэй кошкі вельмі ўжо не падыходзіла вышыня. Ні цела, ні твару ўладальніка вачэй Самуіл не заўважыў — толькі дзве палымяныя кропкі. Паспрабаваць піва не ўдалося, — бы сціраючы насланнё, правёў ён далонню па сваім твары, — таму пайду я дахаты.

— Шчасліва! — пажадаў Мікола і, не зважаючы больш увагі на госця, выцягнуў з другога лучніка старую лучыну, кінуў яе ў конаўку з вадой. Лучына злосна зашыпела, раздругі стрэліла іскрамі, скурчылася і заціхла. Густая стужка дыму адарвалася ад яе чорнай паверхні, закруцілася над конаўкай і растварылася ў прасторы памяшкання непрыемнай горыччу.

Лаўнік зачыніў дзверы, выйшаў на панадворак, агледзеўся. Як і раней, ноч імжэла мелкім дробным дажджом. Як і раней, навокал панавала цішыня. Як і раней, непрыемнае пачуццё трывогі заварушылася ў сярэдзіне.

«Усё будзе добра! — падбадзёрыў ён сам сябе. — Хаця і шкада, што я за вечар так і не ўбачыў карчмарку».

Корчак павольна крочыў па вузкай вуліцы. Перад вачыма пачаргова паўставалі то вобраз перапалоханага сіраты, то грэблівая ўсмешка Кузьмы, то хваравіта-шалёнае ззянне чыіхсьці вачэй. Чыіх?

Раптам, хутчэй інстынктыўна, чым слыхам, праз лёгкі шэпт дажджу ён адчуў за спінай шавяленне. Спыніўся, паспрабаваў азірнуцца, як у імгненне ноч азарылася для яго асляпляльным святлом і магутны выбух раскалоў цішыню, а разам з ёй і галаву Самуіла. Закружылася зямля, некуды знікла паветра. Лаўнік паспрабаваў знайсці рукамі хаця б нейкую апору, утрымацца на нагах, аднак апоры нідзе не было і ён, хапаючы шырока раскрытым ротам паветра і няўклюдна размахваючы рукамі, цяжка паваліўся ў гразь пасярод вузкай вулачкі…

«Памерлыя не плачуць і не зведваюць болю!» — першая думка абудзіла Самуіла. Ён паспрабаваў варухнуцца, аднак пякучы боль маланкай страсянуў яго цела, вырваўся стогнам. Гэты стогн ціхім заклікам прагучаў ў начы. «Я жывы! — ці то абрадаваўся, ці то здзівіўся лаўнік. — У мерцвякоў не можа так балець галава і не могуць мерзнуць ногі. А, можа, я цяпер у пекле?» Самуіл спалохаўся апошняй думкі і рэзка расплюшчыў вочы. Не, ён быў не ў пекле, — у пекле не бывае дажджу, — і асэнсаванне гэтага падбадзёрыла, надало сілы. Ён павольна падняўся на каленкі, пачакаў, пакуль крыху суцішыцца ў галаве боль, потым устаў на ногі і, больш не зважаючы ні на гразь, ні на лужы, пасунуўся ў напрамку свайго двара.

**3**

Два дні Корчак не выходзіў на працу, адлежваўся дома, піў травяныя адвары і горкія настоі. На трэці дзень ён з’явіўся ў магістраце і адразу ж быў пакліканы да бурмістра.

— Ну як, Самуіл, галава? — сустрэў яго пытаннем пан Міхал. — Не баліць?

Лаўнік пацiснуў плячыма, бо не зразумеў: бурмістр цікавіцца яго здароўем сур’ёзна ці такім чынам жартуе.

— Не адбіў незнаёмы добразычлівец табе ахвоту разбірацца са смерцю карчмара ці толькі раззлаваў цябе, раззадорыў?

— Раззлаваў, пан Міхал, — Самуілу не хацелася ўспамінаць ноч, калі ён быў на валасінку ад смерці і, пэўна, калі б не шапка, якая змякчыла ўдар, то ляжаў бы ён ужо ў дамавіне пад тоўстай зямляной коўдрай на мясцовых могілках. Быццам прачытаўшы яго думкі, бурмістр нагадаў:

— Я ж цябе папярэджваў, што справа гэта цёмная, — ён спыніўся насупраць лаўніка, зазірнуў яму ў вочы, кіўнуў на лаву: «Сядай». Потым прадоўжыў: — Асмеліцца на забой-

ства лаўніка — гэта табе не жабрака засячы, тут патрэбны вельмі важкія прычыны. Якія, Самуіл? Што ты там бачыў, што чуў? Расказвай! Хаця цябе маглі аглушыць і абчысціць мясцовыя бандыты. Ты не думаў пра гэта?

— У мяне было з сабой з дзясятак грошаў, але іх не ўзялі. Ды і крэсіва не зрэзалі з пояса, — адказаў лаўнік. — Той, хто мяне ўдарыў, хітры і жорсткі чалавек, які валодае навыкамі паляўнічага і немалой сілай. Пад такое апісанне падыходзіць толькі адзін з убачаных мною там людзей — гэта Кузьма.

— Дзе ты перайшоў яму сцежку?

— Не ведаю, — пацiснуў плячыма Корчак. — Раней я з ім ніколі не сутыкаўся, у карчме бачыў упершыню, ды і то ў цемры.

— А пра што гутарыў з пляменнікам Антука?

— Ды так, ні пра што, — Самуіл задумаўся, потым, не спяшаючыся, падрабязна пераказаў гутарку пану Міхалу. — Вось і ўсё, што я там даведаўся, — закончыў ён свае ўспаміны. — Што тут цікавага ці незвычайнага?

Пан Міхал не адказаў. Задумённа паглажваючы сваю бараду, ён нейкі час хадзіў узадуперад па пакоі, потым шчоўкнуў пальцамі і, узбуджаны здагадкай, сеў на лаву побач з Корчакам.

— А што, калі маскоўскім лазутчыкам быў не карчмар, а яго жонка? — вочы бурмістра засвяціліся ад узрушэння.

## 4

За той час, пакуль Самуіл адлежваўся дома і лячыўся жончынымі адварамі, надвор’е ў горадзе змянілася: дажджавыя хмары адпаўзлі на захад, неба ачысцілася і толькі ў далёкай вышыні павольна праплывалі невялічкія ўскудлачаныя хмаркі. Дні стаялі лагодныя, сонечныя, з сінім небам і павучкамі-падарожнікамі ў паветры. Раніцай нецярплівы іней бяліў у нізінках траву і кустоўе, хрусцеў пад нагамі, аднак, калі над лесам узыходзіла сонца, ад інею таго не заставалася і следу — толькі ў цені пабудоў трымаўся ўпарта, злосна, да самага апоўдня.

Перш чым наведаць карчмарку Матруну, Корчак вырашыў пагутарыць з рыбакамі, якія знайшлі труп Антука — бацькам і сынам Гупаламі. Іх ён заспеў дома — яны толькі вярнуліся з Мухаўца і не паспелі нават паснедаць. Старэйшы, Зіновій, мужычок гадоў пяцідзесяці, невысокага росту, з рэдкім светлым валоссем на галаве і твары, сустрэў лаўніка непрыязна. На прывітанне зыркнуў з-пад ілба бясколернымі вачыма і, нешта прамармытаўшы сабе пад нос, павярнуўся спінай, пачаў мыць у конаўцы рукі.

Малодшы, якога звалі Аўсей, аказаўся больш прыветлівым. На выгляд яму было гадоў пад трыццаць, ён быў падобны да бацькі — гэткага ж невысокага росту, светлавалосы, хударлявы, але ў вачах яго Самуіл убачыў спакойную мужчынскую развагу і дзіцячую цікаўнасць. І ўсмешка ў яго была па-мужчынску спакойная і ўпэўненая. Ён папрасіў прабачыць яго бацьку: «Стаміўся сёння стары, прамёрз да касцей на рэчцы!» і, кіўнуўшы на лаву ля хаты, прапанаваў:

— Давай пагутарым там.

Самуіл не пярэчыў. Ён разумеў, што з’явіўся тут не зусім дарэчы, што людзі, якіх корміць рака, прамерзлі і стаміліся, і што яго роспыты пра тапельца, якога яны нядаўна выцягнулі з вады, не прыносяць ім асалоды, а таму, каб не затрымліваць Аўсея і не злаваць Зіновія, адразу ж запытаўся:

— Скажы, Аўсей, ці былі вы на рэчцы тым вечарам, калі ўтапілі Антука? Можа, нешта незвычайнае чулі ці бачылі?

— Не, тым вечарам дажджыла, а таму на Мухавец мы не хадзілі, сядзелі дома.

— А раніцай? Можа, на беразе што-небудзь бачылі незвычайнае?

— Ды не. Тым ранкам мы, як толькі падышлі да ракі, адразу ж напароліся на тапельца, — Аўсей перажагнаўся, прашаптаў некалькі слоў малітвы, — і бацька, не марудзячы, паслаў мяне ў магістрат.

— На целе Антука былі сляды бойкі?

— Здаецца, не. Калі кроў і была, то яе вадой змыла. А на выгляд — звычайны мужык, які перапіў брагі і моцна заснуў.

— Крыжык з яго рукі я выцягнуў, — данёсся ад хаты голас Зіновія. — Звычайны нацельны крыжык на звычайнай льняной нітцы.

— Крыжык? — Корчак рэзка павярнуўся да старога рыбака. — Пра крыжык мне Буцюта нічога не расказваў.

— А ён яго наогул выкінуў у рэчку, — рыбак вышчарыў ва ўсмешцы гнілыя зубы. — Аднак я яго потым адтуль вылавіў і павесіў на куст, пад якім мы ўбачылі Антука.

— І той крыжык зараз вісіць на кусце?

— Напэўна, — стомлена адказаў Зіновій, — калі твой сябар не ўбачыў яго ў другі раз і не знішчыў канчаткова.

— Як мне знайсці той куст?

— Адзін ты яго не знойдзеш.

Самуіл дастаў з мяшэчка, што вісеў на поясе, тры сярэбраныя манеткі і працягнуў Зіновію:

— Я хачу купіць той крыжык.

— А хіба ён мой? — рыбак адвёў убок працягнутую руку. — Зараз Аўсей паснедае і праводзіць цябе на бераг Мухаўца.

Аўсей пацiснуў плячыма і ўсміхнуўся Корчаку: «Я хутка».

**5**

Крыжык, які Аўсей зняў з куста і перадаў лаўніку, і сапраўды аказаўся звычайным нацельным крыжыкам, якія насілі дзясяткі, калі не сотні, гараджан. Маленькі, драўляны — ён не ўяўляў аніякай каштоўнасці і таму было дзіўна, чаму яго заціснуў у кулаку Антук. «Чый гэта крыжык? — ідучы да карчмы Матруны, пытаў сябе Корчак. — Калі Антукоў, то навошта ён яго зняў? А калі забойцы? Гэта ж прамое ўказанне! Вось толькі дзе шукаць гаспадара гэтага крыжыка, ды і хто яго прызнае зараз?»

Дзень быў у самым разгары. І хаця сонца, аддаўшы лету ўвесь свой пал і ўсю сваю цеплыню, свяціла ўжо не так лагодна, як раней, на двары было даволі ўтульна і цёпла. Многія гараджане яшчэ рупіліся ў сваіх агародчыках, а тыя, хто ўжо сабраў ураджай і падрыхтаваўся да зімы, бавілі час іначай.

У карчме Матруны было людна. За двума сталамі сядзела з дзясятак чалавек. Адны пілі брагу і вялі мірную гутарку пра гаспадарку; другія, перапіўшы брагі, — спрачаліся; трэція — спакойна спалі, падклаўшы пад галаву шапку ці рукі. Карчмарка нетаропка хадзіла між сталоў, мяняла посуд, збірала плату, сачыла, каб ніводны наведвальнік не пакінуў яе карчму, не заплаціўшы. Калі ж нехта з выпівох дазваляў сабе лішняе, з далёкага кута падымаўся Кузьма і тады смяльчак кулём вылятаў з карчмы, перад гэтым добраахвотна аддаўшы Матруне сваю каліту са срэбрам.

На прыход Корчака карчмарка не звярнула ніякай увагі — абыякава прынесла яму збанок з півам, паставіла гліняны кубак, запыталася, што будзе есці. А вось Кузьма ўстрывожыўся. Ён кіўком галавы адазваў гаспадыню да агмяню і нешта там ёй горача зашаптаў у вуха, і нават праз дым і паўзмрок памяшкання Самуіл убачыў, як раптоўна змяніўся твар Матруны, як ён збялеў, асунуўся, як жанчына замітусілася, як з далёкага закутка яна паклікала старэйшую дачку і, нервова сказаўшы ёй некалькі слоў, сама хуценька выйшла на панадворак.

Падняўся са свайго месца і Корчак.

Матруну ён знайшоў у адрыне. Тая сядзела на зэдліку перад шырокай калодай, з якой тырчала невялікая, з ёмкай ручкай сякера — пэўна, гэта было яе звыклае месца працы пры Антуку. Жанчына са страхам глядзела на лаўніка і яму ў нейкі момант падалося, што яна згубіць прытомнасць. Самуіл спыніўся ў дзвярах, агледзеўся — невялікае памяшканне было завалена: у куце валялася старая, амаль бяззубая барана, на ёй — зламаная саха без сашніка, на сценах віселі конская вупраж, нейкія вяроўкі, сіты, посцілкі — усё тое, што даўно адслужыла свой тэрмін, але яшчэ магло спатрэбіцца ў гаспадарцы дбайнага гаспадара.

«А яна ж зусім не старая! — гледзячы на Матруну пры дзённым святле, дзівіўся Самуіл. — І некалі, здаецца, была прыгожай!» Да гэтага моманту ён уяўляў яе старой і злобнай, з непрыгожым тварам і горбам на спіне. А тут! Перад ім сядзела немаладая, аднак яшчэ прывабная жанчына.

Раптам Самуіл пачуў за спінай цяжкія крокі і сапенне. Ён знянацку азірнуўся і вочы ў вочы сутыкнуўся са злосным позіркам Кузьмы.

— Што ты тут усё вынюхваеш, лаўнік? — Кузьма аж задыхаўся ад злосці. — Што табе трэба ад беднай удавы?

— Я хачу пагутарыць з Матрунай сам-насам, — Корчак міжволі адступіў на некалькі крокаў ад раззлаванага мужчыны. — Цябе гэта справа пакуль не датычыцца.

Кузьма рыпнуў зубамі, але прамаўчаў.

— Ідзі, Кузьма, у карчму. Прося адна не справіцца, — папрасіла мужчыну Матруна. І той скарыўся, згодна хітнуў галавой, яшчэ раз рыпнуў зубамі і, не азіраючыся, пайшоў у будыніну.

— І сапраўды, што табе трэба ад мяне, лаўнік? — жанчына збольшага супакоілася, позірк яе набыў звычайную цвёрдасць, вусны абяскровіліся і ператварыліся ў вузкую стужку. — Я ўсё расказала, што ведала, твайму таварышу Фёдару.

— У мяне ўсяго некалькі бяскрыўдных пытанняў, — паспрабаваў усміхнуцца Самуіл.

— Пытайся.

— Дзе ты была вечарам тры дні таму, калі мяне збілі непадалёку ад тваёй карчмы?

— Тым вечарам я разам з дзецьмі малілася за супакой душы майго мужа і іх бацькі, — Матруна склала каля грудзей рукі, прашаптала малітву, перажагналася і запытальна паглядзела на лаўніка. Страху ў яе позірку ўжо не было, вочы свяціліся ледзяной жорсткасцю, ад іх патыхала холадам.

Перахапіўшы позірк, Корчак абрадваўся: «Вось цяпер ты звычайная. Што ж, думай, што і я, як Кузьма, скарыўся тваёй волі». Ён сціпла апусціў вочы, пракашляўся і задаў наступнае пытанне:

— Збіраючыся на сустрэчу з жабраком, твой муж узяў з сабой мяшэчак з грашыма, аднак ні ў яго, ні ў засечанага жабрака, ні на беразе рэчкі грошай не знайшлі. Як ты думаеш, хто іх забраў?

Пачуўшы пытанне, жанчына расслабілася, ледзь не засмяялася.

— А ты спытайся пра гэта ў служак магістрата, якія вялі дазнанне. Пэўна, нехта з іх забраў тыя грошы і потым забыўся аддаць пану бурмістру.

— Што ж, спытаю, — паабяцаў Самуіл і, не адрываючы ад земляной падлогі вачэй, пацікавіўся: — Хто мог так ударыць Антука, што ён згубіў прытомнасць і ўпаў у ваду?

— Жабрак.

— Жабрак, якога вось гэтай сякерай засек твой муж і якую раніцай нідзе не маглі знайсці? Дарэчы, як яна тут аказалася?

— Наступным днём я знайшла яе ў траве на беразе Мухаўца, — Матруна адказвала амаль не задумваючыся. — Дрэнна шукалі яе твае сябры.

— А дзе пляменнік Антука Мікола? — раптам спытаўся Корчак. — Нешта сёння я не бачыў яго ў зале.

— Сышоў ён ад нас два дні таму. Сказаў толькі, што хоча прысвяціць сваё далейшае жыццё Богу. Сказаў і сышоў.

— Нічога, ад нас далёка не сыдзе, — упэўнена прамовіў лаўнік. Урэшце ён адарваў позірк ад падлогі і паглядзеў на жанчыну. — Дык вось, пані, ён мне расказваў, што ў вечар забойства твайго мужа ты пайшла з карчмы амаль адразу за ім і вярнулася позна ў акрываўленым адзенні. Было такое? — і, каб узмацніць эфект ад нечаканага пытання, ён, бы між іншым, дастаў з кішэні драўляны крыжык.

— Было, — кроў адліла ад твару жанчыны, ён у імгненне стаў белым, бы прыдарожная костка, вусны яе затрэсліся. Яна забылася пра пытанне, і, пэўна, акрамя крыжыка нічога не бачыла.

— Дык чаму ты тым вечарам з'явілася ў карчме ў акрываўленым адзенні? — бы праз коўдру прабілася да яе слыху.

— Я секла качак, — адказала яна і, злосная ў сваёй рашучасці, падняла бліскучыя ад слёз і адчаю вочы. — Вось тут, вось на гэтай калодзе і вось гэтай сякерай я секла качак. Табе гэта зразумела, лаўнік?

— Што ж тут не зразумелага? — паціснуў плячыма Самуіл. — У той вечар ты секла качак, каб было чым карміць наведвальнікаў карчмы на наступны дзень. Усё зразумела. І апошняе, адкажы мне, Матруна…

— Ой, крыжык Петруся знайшоўся, — раптам побач з лаўнікам прагучаў дзіцячы голас. Корчак апусціў галаву — каля яго стаяла невялічкае, гадоў пяці, дзяўчо. Яно глядзела на крыжык у руцэ незнаёмца і, радасна хлопаючы ў далоні, шчабятала:

— Вось Пятрусь абрадуецца, праўда, матулечка?

— Праўда, — ледзь стрымліваючы сябе, адказала маці. — Ідзі, доня, пагуляй на панадворку.

— Добра, матулечка, — дзяўчынка развярнулася і пабегла.

— Што ты хацеў яшчэ запытацца ў мяне, лаўнік? — Матруна здалася. Яна зразумела, што Корчак пра ўсё здагадаўся і ўвесь гэты допыт праводзіў толькі дзеля таго, каб пачуць прызнанне менавіта з яе вуснаў. Аднак і Корчак быў разгублены, не чакаў ён, што знойдзены ім крыжык належыць сыну карчмаркі.

— Я хацеў удакладніць, як ты магла вось гэтай сякерай сячы ў той вечар качак, калі яе забраў з сабой твой муж і знайшла ты яе, з тваіх слоў, толькі наступнай раніцай?

— Гэта я ўдарыла Антука дубцом па галаве, — голас жанчыны гучаў глуха. Яна ўжо скарылася лёсу і гатова была гаварыць праўду і, калі б яна прызналася ў забойстве крыху раней, то Самуіл паверыў бы ёй. Але ў яго руках быў нацельны крыжык сына Матруны, доказ, які патрабаваў тлумачэння і які сведчыў зусім пра іншае.

— Чаму ж у кулаку Антука аказаўся не твой крыжык, а крыжык твайго сына? Дарэчы, дзе ён цяпер?

— Пятрусь вельмі хворы. Антук пастаянна здзекаваўся з яго, няшчадна біў па галаве за любую правіну і мой няшчасны сыночак захварэў. Ён баіцца дарослых мужчын і хаваецца ад іх у запечку… Ён вельмі хворы.

«Вось яно што!» — Самуіл успомніў бліскучыя вочы і нечакана для сябе сказаў:

— І Антука ён забіў у надзеі, што знішчыць у сабе той страх, які парадзіў у ім яго ж бацька.

— Антук не бацька Петрусю, — не ўтрымалася, зусім па-жаночы ўсхліпнула Матруна і, абхапіўшы галаву рукамі, хістаючыся з боку ў бок, заплакала.

Праз нейкі час жанчына суцішылася, падняла свае чырвоныя вочы на лаўніка.

— Хочаш, я раскажу табе пра сваё праклятае жыццё? — Корчак пацісну плячыма. А яна, бы ўгаворваючы яго, патлумачыла: — Ты даведаешся і пра Антука, і пра жабрака, і пра мяне.

— Што ж, час у мяне ёсць, — Самуіл адышоў у кут і ўладкаваўся на кінутай там баране. — Расказвай.

**6**

— Я і Антук Рубец родам з вёскі Заполле, што размяшчаецца мілях у дзесяці ад Берасця па шляху на Кобрын. Вёска наша невялікая, лясная, але зямля там добрая, тлустая, пладавітая. Таму ўсе нашы вяскоўцы жывуць хаця і небагата, аднак голаду не ведаюць. Вось толькі Рубцы! Нешта не ладзілася ў іх гаспадарцы, за нейкія грахі караў іх Гасподзь: то конь у іх здохне, то цяля, то карова. Калі маланка куды ўдарыць, то гэта пабудова Рубцоў. Калі статак дзікоў вынішчыць нечыя пасевы, то, зразумела, іхняе. Не шанцавала ім, а калі памёр стары Таміла, то і наогул іх гаспадарка прыйшла ў заняпад.

У Тамілы Рубца было чацвёра дзяцей: два сыны, Восіп і Антук, і дзве дачкі. Усе дзеці прыгожыя, статныя і, як ні дзіўна, працавітыя. Таму і не заседзеліся яны доўга ў бацькавым гняздзе — дзяўчаты выпырхнулі з яго першымі, потым з мясцовай сіратой Ксеніяй пабраўся шлюбам Восіп, апошнім вырашыў ажаніцца Антук. І трэба ж было такому здарыцца, што менавіта мяне ён выбраў сабе ў жонкі, і менавіта да майго бацькі прыслаў пятнаццаць

гадоў таму сваіх сватоў. А я ўжо мела прапанову ад Юркі Забелы і бацькі нашы пра ўсё ўжо дамовіліся. Вось і прыйшлося мне перад сватамі Антука выставіць гарбуза, на які той пакрыўдзіўся і праз некалькі дзён знік з вёскі. Дзе ён бадзяўся, я не ведаю, аднак ужо зімой па вёсцы пайшлі пагалоскі, што ў нашых лясах з'явілася банда шышоў, якая рабуе купецкія абозы, а тых, хто аказвае супраціў, забівае.

Пагалоска прайшла і, бы дым, растварылася. Вясной пра бандытаў не чулі, пра іх нават забыліся, і тым жудасней была навіна, што абоз з нашай вёскі, які адпраўляўся на летні кірмаш у Кобрын, бандыты поўнасцю разрабавалі, а мужыкоў пазабівалі. І мой Юра прапаў з тым абозам, і Восіп Рубец пакінуў сваю Ксенію з грудным дзіцем. Вось так я стала ўдавой.

А ў канцы лета ў вёсцы з'явіўся Антук. З месяц ён пажыў у сваёй маці, а ў верасні зноў завітаў да майго бацькі прасіць маёй рукі. І бацька на гэты раз яму не адмовіў. Чаму? Я не ведаю, аднак, думаю, што так ён клапаціўся пра свайго ўнука, бо тое, што я цяжарная, ужо добра было прыкметна. Нават жалобу па мужу я не данасіла, як восенню мы пераехалі ў Берасце, — Матруна гаварыла паўшэптам, гледзячы некуды ў адну кропку на калодзе, быццам там яна бачыла трагічныя падзеі той недалёкай мінуўшчыны і цяпер толькі пераказвала іх. Часам яна так расцягвала словы, што Самуілу падавалася, быццам жанчына пачынае спяваць яму нейкую песню, сумную, поўную жалю і смутку, шкадавання аб сваім няшчасным жыцці і такім кароткім, амаль нязведанным каханні. І ў словах гэтай песні не чулася асуджэння Антука ці нейкай жалобы на бацьку. Яна лілася плаўна, павольна, і былі ў ёй сумная пяшчота да былой маладосці, ціхая пакорлівасць лёсу, шчырасць і незразумелы спакой. Напэўна, так робяць пакаянне перад святаром людзі, асуджаныя на смерць.

— Антук купіў гэту карчму, нешта перарабіў у ёй, нешта дабудаваў і пачалі мы жыць невялікай сям'ёй, спадзеючыся на ласку Бога і на сваю працавітасць. У лютым я нарадзіла Петруся, праз два гады — Просю, потым на белы свет з'явілася Дунятка. Здавалася, усё будзе добра. Але Антук хацеў сына, і тое, што я нараджала яму дачок, ён лічыў за абразу — быццам я адна была вінавата ў іх нараджэнні. А гады чатыры ці пяць таму ён з Заполля перавёз сюды ўдаву свайго брата, і павер мне, лаўнік, амаль перайшоў да яе жыць. Так працягвалася да таго часу, пакуль Ксенія не памерла.

— А ад чаго яна памерла?

— Ад чаго яна памерла ведае толькі Усявышні, — не адрываючы свайго позірку ад калоды, адказала карчмарка. — Не перабівай мяне, лаўнік. Магу збіцца… Я думала, што смерць Ксеніі памірыць нас, прымусіць Антука больш увагі звяртаць на сваіх дзяцей, але не — ён бы звар'яцеў. Бог пакінуў мяне і маю сям'ю, адвярнуўся ад нас, за нешта пакрыўдзіўся! — Матруна некалькі разоў усхліпнула, аднак не заплакала, стрымалася. Корчак ужо падумаў, што яна выгаварылася, але не, яна зноў загаварыла:

— А гэтым летам да мяне ў карчму завітаў жабрак. Худы, слабы, увесь скалечаны. Я падала яму ялмужыну, а ён не зыходзіць, нечага чакае. Я ўжо пачала злавацца, як ён папрасіў паказаць яму майго сына і, убачыўшы яго, асеў на зямлю і заплакаў. Вось тады я і здагадалася, што гэта мой першы муж Юрка Забела і, калі мы выплакаліся, я даведалася пра трагедыю, што напаткала абоз нашай вёскі і чаму бандыты без літасці тады перабілі людзей. Аказваецца, атаманам банды быў Антук. Юрка сам яго не бачыў, але чуў голас і, каб не засталося сведкаў, бандыты ўсіх пазабівалі — нават брата свайго не пашкадаваў, вырадак. Юрку ж пашчасціла, яго не дабілі і да ночы ён ачуняў, а потым прыбіўся да нейкага пустэльніка. Праз год вярнуўся ў Заполле, — жанчына хуткай выцерла вочы. — А мы маглі б жыць разам, быць шчаслівымі, расціць дзяцей!

— Антук засек Юрку, каб той яго не выдаў?

— Тым днём Юрка з'явіўся ў карчме і ўсё, што набалела на яго душы за гэтыя гады, выказаў Антуку. Антук выслухаў Юрку спакойна, прапанаваў дваццаць коп грошай. Юрка не адмовіўся, Антук сказаў, што за дзень збярэ грошы і перадасць іх яму на беразе рэчкі… Што было далей, ты ведаеш.

— Давай раскажу. Твой сын Пятрусь, як заўжды, сядзеў у запечку і чуў размову дарослых. Ён хаця і хворы, аднак скеміў навошта Антук назначыў Юрыю сустрэчу ля Мухаўца, навошта ўзяў з сабой сякеру. Адвячоркам ён непрыкметна пакінуў сваю хованку і, прыхапіўшы цяжкі дубец, накіраваўся следам за Антуком.

Ён бачыў, як Антук сekануў Юрыя і, выбраўшы зручны момант, сам ударыў Антука па галаве. Аглушаны айчым абярнуўся, абхапіў Петруся за шыю і той з усяе сілы, памножанай на страх і нянавісць, адштурхнуў Антука ад сябе. Антук зваліўся ў ваду і патануў, пры гэтым ён сарваў з шыі хлопца нацельны крыжык. Пра што думаў тады Пятрусь, я не ведаю, аднак мне падаецца, што ён даўно паляваў на Антука і даўно хацеў яго забіць, як нейкую крыважэрную пачвару.

— І ты, Матруна, была недзе побач, бачыла забойства, не папярэдзіла яго, прыняла страшэнны грэх на сваю душу. Менавіта ты падхапіла вось гэту сякеру і прынесла яе дамоў, менавіта ты забрала ў Антука грошы, якія ён збіраўся аддаць…

— Не было ніякіх грошай, — стомлена паправіла Самуіла жанчына. — Антук ішоў забіваць Юрыя і ніякіх грошай з сабою не браў… У астатнім жа ты ўсё расказаў правільна, бы сам бачыў.

— А мяне хто хацеў забіць тры дні таму?

— Не ведаю. Магчыма, Пятрусь убачыў у табе новую небяспеку, магчыма, ты сказаў нешта такое, што напалохала яго.

— Калі ён будзе біць дубцом усіх, хто яму не падабаецца, то хутка пераб'е палову горада. Яго лячыць трэба.

— Трэба, — цяжка ўздыхнула жанчына, — і я ўжо знайшла лекарку, якая згодна прыняць яго на лячэнне, калі толькі ты…

— Калі я буду маўчаць? — Корчак падняўся з бараны, абтрос порты. — Вось ты кажаш, што Бог пакінуў цябе і тваю сям'ю, пазбавіў вас сваёй літасці. Так, здараецца, што Гасподзь пазбаўляе чалавека сваёй ласкі, але робіць Ён гэта наўмысна, для таго, каб мы маглі адчуць Яго не толькі па Яго міласці і дабрыні. Ён пасылае нам выпрабаванне і добра ведае да якой мяжы мы можам трываць. Гэта людзі могуць вырачыся Бога, адмовіцца ад Яго, здрадзіць Яму. Ён жа ніколі не пакідае чалавека сам-насам з бядой, і калі ў цябе гора, то перацярпі яго годна, па-хрысціянску, бо гэтым горам Ён цябе выпрабоўвае. Гора ачысціць душу, годна вытрымаўшы іспыт, ты адчуеш Яго ласку і Яго міласць. Я не святар і настаўляць цябе на правільны шлях не буду, але тое, што адбылося з табой і тваёй сям'ёй, павінна стаць для цябе ўрокам на ўсё жыццё. Запомні гэта, жанчына, і няхай Бог будзе суддзёй табе і твайму сыну.

### 7

Наступным днём берасцейскі бурмістр пан Міхал пацікавіўся ў Корчака:

— Ну што, Самуіл, прызналася карчмарка ў зладзействе?

— Яе самае вялікае зладзейства заключаецца ў тым, што яна некалі паверыла Антуку і пагадзілася стаць яго жонкай.

— Значыць, усё ж такі не яна забіла мужа?

— Яго пакараў Бог! — адказаў лаўнік.

— Ну што ж, — хітра ўсміхнуўся сваім думкам бурмістр, — на Бога забойства мы не павесім, а вось жабрак на гэтую ролю падыходзіць у самы раз. Малайчына Буцюта, такое забойства раскрыў усяго за палову дня. Вучыся, Корчак!

## ЖОЎТЫ ТУМАН

### 1

Вясна 1552 года ў Берасце прыйшла позна. Яе чакалі яшчэ з лютага месяца, аднак яна не спяшалася, усё недзе затрымлівася. Увесь сакавік людзі са страхам глядзелі на прамерзлае да ледзяной крохкасці неба, на тое, як у іх засеках змяншаюцца зімовыя прыпасы, слухалі, як ад недаядання трывожна мычыць карова і б'е капытом па земляной падлозе конь. Як не хацелася многім з іх разбіраць саламяныя стрэхі адрын, хлявоў ці паветак, але што зробіш — голад нядбайнага гаспадара заўсёды шануе ў першую чаргу і не абыходзіць

увагай яго гаспадарку. Падавалася, што зімовае засмучэнне і туга па веснавому цяплу ніколі не сыдуць з пахмурных твараў месцічаў, што калючы мароз і ўсюдыісная мяцеліца будуць заўсёды плюндраваць гарадскія вуліцы, што акамянелая зямля ўжо не адагрэецца, а калі і адагрэецца, то не зможа выпеставаць у сабе тыя зярняты, якія з восені падрыхтавалі да сяўбы.

Вясна ж ударыла знянацку, усёй сваёй моцай: жорстка, бязлітасна, неадступна — яшчэ вечарам неба сыпала на пакорлівую зямлю белыя пёры, а раніцай яно ўжо імжэла нудным халодным дажджом. І няхай вецер быў сырым і неласкавым, няхай ад дажджу раскіслі дарогі, людзі аджылі, павесялелі, устрапянуліся. Нуда і адчай адначасна зніклі з іх твараў, саступілі месца дзелавой узрушанасці, бадзёраму чаканню сонца і цяпла. Нават дрэвы і чорнае прыдарожнае кустоўе радасна заківалі галінамі, вітаючы прыход вясны. А калі недзе за Мухаўцом над яшчэ заснежаным полем зазвінела звонкая песня жаўрука, людзі канчаткова зразумелі — вясна прыйшла па-сапраўднаму.

У адзін з такіх сырых і халодных дзён, у другой палове красавіка, адвячоркам на двары лаўніка Берасцейскага магістрата Самуіла Корчака забрахаў сабака. Брэх быў кароткі і радасны, але, пачуўшы яго, жонка Самуіла Насця ўстрывожылася і запытальна паглядзела на мужа:

— Ты не казаў, што ў нас будуць госці.

— Я нікога не чакаю, — пацiснуў той плячыма і, узяўшы са стала свечку, накіраваўся да ўваходных дзвярэй.

Аднак не паспеў ён зрабіць і некалькі крокаў, як дзверы адчыніліся і ўзнікла мужчынская постаць у мокрым адзенні. Незнаёмец спакойна і дзелавіта пераступіў парог, прычыніў дзверы, зняў шапку, сцягнуў з плячэй прамоклую да апошняй ніткі кірэю і, павярнуўшыся да гаспадароў, стомлена ўсміхнуўся.

— Ну і надвор’е, — прагаварыў ён, асцярожна кладучы на куфар свае плашч і шапку.

Госцю было гадоў пяцьдзясят. Невысокага росту, хударлявы — ён са спіны постаццю нагадваў падлетка. Цёмны колер яго твару сведчыў, што чалавек гэты шмат часу праводзіць на свежым паветры; вузкія вусны і прамы, з невялікай гарбінкаю нос — пра тое, што мае рашучы характар; блакітныя, крыху выбеленыя часам вочы — пра нязлосны, а, магчыма, нават вясёлы нораў. Паклаўшы на куфар плашч, госць паглядзеў на свае брудныя боты, потым перавёў позірк на гаспадара і, не перастаючы стомлена ўсміхацца ў доўгія сівыя вусы, прамовіў:

— Ды трымай ты роўна свечку, Самуіл. Не люблю, калі ўся падлога воскам заляпана.

Самуіл схамянуўся, узяў свечку ў левую руку, правую працягнуў для прывітання.

— Не чакалі мы цябе сёння, тата, — прагаварыў ён у апраўданне сваёй разгубленасці, — аднак вельмі рады твайму візіту.

— Бачу, што рады, — хмыкнуў Барталамей Корчак і накіраваўся да гаспадыні, каб павітацца і з ёй.

— Па справах быў у Харытона Бройкі і па дарозе вырашыў зайсці да вас, — патлумачыў ён мэту свайго прыходу.

— І правільна зрабілі, — наліваючы ў місу нейкую страву, ад прыпечка прагаварыла Насця. — Вось толькі… Мы гасцей не чакалі…

— Ну, а калі б і чакалі?— Барталамей сядзеў на лаве шчыльна прытуліўшы спіну да цёплай печы. — Тады на стол паставілі б гарэлку і мяса?

— Праз два дні выставім і гарэлку, і мяса, — падтрымаў жонку Самуіл. — Вось у нядзелю разгавеемся і тады… А пакуль пасёрбай з холаду гарачай капусты.

— А дзе Васятка? — не расплюшчваючы вачэй, пацікавіўся госць.

— Спіць, — коратка адказала гаспадыня і паставіла місу з капустай на стол. — Сёння цэлы дзень дапамагаў мне прыбірацца ў хаце, стаміўся і спіць на печы.

Барталамей расплюшчыў вочы — стомленасці ў іх як не было. Ён быў засяроджаны на нейкай думцы, якая, пэўна, даўно не давала яму спакою.

Самуіл адразу заўважыў гэту задумлівасць. «Не, не па дарозе ад Харытона ты наведаў мяне. Хутчэй, па шляху да мяне ты зайшоў да Бройкі». Аднак пра сутнасць бацькавай праблемы ён нават не спрабаваў гадаць — сам раскажа, калі палічыць патрэбным. Таму, слухаючы ў паўвуха, як бацька хваліць Насцю за смачна прыгатаваную капусту, ён

падышоў да куфара, узяў бацькаву кірэю і павесіў ля печы сушыцца. «Гутарка, здаецца, будзе доўгай!»

І на самай справе, пасля запозненай вячэры Барталамей папрасіў сына прысесці побач і, калі той сеў за стол насупраць, загаварыў:

— Ты, пэўна, ужо зразумеў, што я гасцюю ў вас невыпадкова? Здаецца, у нашай сям'і выспявае справа з Марцінам.

— Вяселле? — неспадзявана вырвалася з вуснаў Самуіла. Ён ведаў пра Яніну — дачку гандляра мясам Глеба Кацуры, і пра тое, што брат Марцін збіраецца пасля Вялікадня прасіць бацьку паслаць да Глеба сватоў.

— Вяселле — гэта не справа, гэта радасць, — Барталамей не звярнуў увагі на разгубленасць сына. — Іншае мяне турбуе… Яшчэ з Калядаў я заўважыў, што твайго брата амаль зусім перасталі цікавіць справы ў нашай лаўцы, што ў гутарках з пакупнікамі ён больш цікавіцца рознымі показкамі пра бандытаў, раптоўна памерлых купцоў і нейкія скарбы, — расказчык махнуў рукой і паглядзеў у вочы сыну. І зноў туга і стомленасць з'явіліся ў глыбіні яго зрэнак. — Апошнім часам ён цэлымі вечарамі прападае ў свайго новага сябра Юркі Кацуры, а здараецца, і начуе ў яго. Чым яны там займаюцца — я не ведаю, але заўчора паспрабаваў запытацца пра гэта ў Глеба — ведаеш, што той мне адказаў?

— Здагадваюся, — хмыкнуў Самуіл. Ён ледзьве стрымліваўся, каб застацца сур'ёзным і не пакрыўдзіць бацьку смехам.

А Барталамей працягваў:

— Ён мне сказаў, што яны там пераказваюць адно аднаму даўнейшыя гісторыі пра войны з татарамі і маскавітамі, пошукі скарбаў, нейкія заклінанні і абрады. Разумееш? Скарбы яго цікавяць! А тое, што яму ўжо дваццаць два гады і ён не мае сям'і, — яго зусім не хвалюе! Маці пытаецца: «Ну калі ты, сынок, урэшце прывядзеш у хату нявесту?», а ён без усялякага сораму, бы баран, мармыча адно: «Усяму свой час, матуля!»

— Прывядзе, тата, прывядзе, — падбадзёрыў бацьку Самуіл. — Я таксама ажаніўся ў дваццаць тры гады.

— Ты па начах не бадзяўся па горадзе. Цябе не цікавілі забабоны ні пра войны, ні пра скарбы, ні… цьфу-цьфу, — Барталамей тры разы перажагнаўся на абраз, — ні пра замовы. Навошта шукаць бяду, якая і без таго ніколі ад чалавека не хаваецца?

— А мо ён нявесту так шукае?

— Нявесту? Заклінаннямі? — вочы старога купца ўспыхнулі недаверам. Ён запытальна паглядзеў на сына, але, не ўбачыўшы на твары адказу, прамовіў:

— Нявесту трэба шукаць у агародзе, а не ў карагодзе.

Самуіл згодна хітнуў галавой і, каб заспакоіць бацьку, нагадаў:

— Раней ты сам яму часта расказваў пра тое, як у берасцейскім апалчэнні бараніў горад ад захопнікаў, а потым наводзіў парадак на дарогах, ратуючы свет ад бандытаў.

— Было і такое.

— А мне вось няма чаго расказаць сыну: у войску я не быў, у войнах не ўдзельнічаў, бандытаў не нішчыў.

— А па словах нашага бурмістра пана Ласкевіча выходзіць так, што ты прыносіш гораду больш карысці, чым іншы жаўнер. А тое, што не быў на вайне, дык і дзякуй Богу! Нічога цікавага там няма. Гераічныя расповеды з'яўляюцца пасля, і найчасцей у іх больш гераізму, чым праўды.

— А бітва на Альшаніцы? Ты расказваў, што біўся там.

— Біўся, — уздыхнуў Барталамей. — Зіма ў той год была маласнежная, лютая, некалькі дзясяткаў тысяч татар на чале з царэвічам Малаем скарысталіся гэтым і знянацку напалі на Літву. Дайшлі да Пінска. Мне тады было дваццаць пяць гадоў, а табе — як твайму Васятку цяпер. Некалькі татарскіх атрадаў мы пабілі тут, пад Берасцем. Потым даволі вялікі іх загон, ужо пад камандаю князя Астрожскага, разграмілі пад Пінскам, астатніх дагналі і амаль пагалоўна вынішчылі пад Кіевам на рацэ Альшаніца… Ты думаеш, што я табе раскажу пра тую сечу нешта цікавае, гераічнае? А я тады ўвесь час толькі і думаў пра сям'ю, пакінутую ў Берасці, і ратаваўся ад татарскай шаблі, каб не пакінуць жонку ўдавой, а цябе — сіратой, і забіваў татар не ад таго, што іх ненавідзеў, а ад страху за сваё жыццё і вашы лёсы.

— А потым, па вяртанні, вы ж яшчэ некалькі бандыцкіх ватаг разграмілі?

— Бандыты — сквапныя і палахлівыя людзі, а таму дзве ці тры іх шайкі мы разагналі без усялякіх намаганняў.

— А як ты думаеш, куды яны падзелі нарабаванае?

— Што мы ў іх адабралі, а што яны паспелі прапіць ці недзе пахаваць.

— Вось Марцін і хоча знайсці нешта са схаванага імі.

— Нядобры гэта занятак, — вочы Барталамея пацямнелі. — Дзе дурныя грошы, там заўсёды бяда. Дурныя грошы смярдзяць! Неяк гадоў з дваццаць таму мы з Паўлюком Галавачом вырашылі схадзіць на могілкі, дзе, па словах Паўлюка, пад адным магільных каменем схаваны скарб. Пайшлі ранкам, да ўзыходу сонца. Ужо было відно, бо справа летам адбывалася. Ціха, цёпла, спеў птушак — божае хараство навокал, але як толькі мы наблізіліся да могілак — усё раптоўна сціхла, і мяне тады ахапіла такое пачуццё, быццам нейкі вораг назірае за намі, нават не назірае, а ўжо цэліцца ў спіну аднаму з нас з самастрэла і вось-вось націсне на кручок. Трывога сціснула мне сэрца і я спыніўся, спалохаўся. А яшчэ жоўты туман пасярод магільнага пагорка! Ён узнік з ніадкуль і гэтак павольна, перакочваючыся па роснай траве, папоўз у наш бок. Я адмовіўся ісці на той пагорак і павярнуў дахаты, а Паўлюк пайшоў. Ён не спалохаўся ні туману, ні раптоўнай цішыні, ні трупнага паху. Толькі адно буркнуў: «Усе грошы мае!» і спакойна, прыкульгваючы на левую нагу, пакрочыў да могілак.

— Ну і знайшоў ён там золата?

— Знайшоў, — зноў уздыхнуў Барталамей. Потым падняўся з лавы і закончыў свой аповед: — А праз тыдзень яго вылавілі з Мухаўца з праломленай галавой. — Ён зняў з цвіка свой плашч, накінуў яго на плечы і накіраваўся да выхаду, але ў дзвярах спыніўся. — Я спрабаваў пагаварыць з Марцінам, аднак ён і слухаць нічога не хоча, жартуе толькі... Можа, ты, сынок, пагутарыш з ім, растлумачыш дурноту яго задумы? Баюся — прападзе хлопец, як той Паўлюк!

— Пагутару, тата, — канчаткова зразумеўшы мэту прыходу бацькі, паабяцаў Самуіл.

**2**

Пагутарыць з братам Самуіл вырашыў у нядзелю. У гэты дзень так або інакш ён з сям'ёй збіраўся ісці ў госці да бацькоў — усё ж такі гадавое свята, Вялікдзень. Аднак Насця запярэчыла:

— Не, не тое ты задумаў, Самуіл! У гэты дзень усе будуць разгаўляцца, святкаваць, спяваць хвалу Хрысту, сустракаць валачобнікаў, а ты збіраешся павучаць брата. Недарэчна гэта! Ідзі лепш сёння, у суботу: і з братам пагутарыш, і прыгледзешся, з чым маці пірагі будзе пячы.

Самуіл не спрачаўся, выйшаў на вуліцу, зірнуў у адзін яе канец, у другі, зашпіліў кафтан і нетаропка пакрочыў па драўляным тратуару ў бок гандлёвай плошчы, непадалёку ад якой побач з васкабойняй на Пясчанай вуліцы жыў яго бацька.

Ранак саступаў месца дню — туман павольна адпаўзаў у нізінкі, дзе распадаўся на кавалкі, радзеў, раствараўся ў прасторы пад прамянямі сонца.

Што Самуіл сам ведае пра скарбы? Ды амаль нічога. Чуў, што яны бываюць чыстыя і загавораныя; што іх ахоўваюць або душы нябожчыкаў, або нячыстая сіла; што чыстыя скарбы шукаюць ранкам, перад узыходам сонца, а нячыстыя — вечарам, пасля заходу. Шчыра верыў, што большасць скарбаў — гэта брудныя, крывавыя грошы, што яны не нясуць чалавеку шчасця, а пазбаўляюць яго розуму. Як давесці гэта брату? Ці захоча той слухаць? Ён жа не горш ведае, што «чужыя грошы, бы тыя вошы, багацця не дадуць, а крыві пап'юць!» Ды і навошта яму тыя грошы? У бацькі іх хапае, а мала, дык ён, Самуіл, дапаможа — не самыя ж бедныя ў Берасці людзі!

Абмытае туманам і ранішняй расой, сонца ўрэшце ў поўны рост паднялося над горадам. І адразу, бы па камандзе, весела зачырыкалі вараб'і, зацмокалі сініцы, заспявалі іншыя птушкі, многіх з якіх Самуіл не ведаў. А ў лёгкім блакіце неба, якое яшчэ не паспела адагрэцца ад лютай зімы, заружавела адзіная, падобная да галубінай пярынкі, хмарка. І было нешта такое не па-зямному шчымліва-радаснае ў яе выглядзе, што адразу выцесніла з

галавы цяжкія думкі і пытанні, узняло настрой, дадало ахвоты зрабіць нешта патрэбнае. Ён нават спыніўся, агледзеўся, але вуліца па-ранейшаму была пустой і толькі ў далёкім яе канцы нейкі чалавек з маленькім сабачкам каціў на гандлёвую плошчу возік, прыкрыты халстом. «Пэўна, пекар, — міжволі адзначыў Самуіл. — Вязе прадаваць свае пірагі».

Сонца ўзнімалася вышэй і вышэй, цені ад дрэваў святлелі і рабіліся карацейшымі, невялікія чародкі лёгкіх вераб'ёў з перадсвяточным шумам пераляталі з куста на куст, па вуліцы затупаталі боты, загрукаталі колы — горад ажыў.

**3**

Ля печы, дзе маці чаравала з цестам, гарэла адзіная тоўстая свечка. Самуіл зняў шапку, пераагнаўся на абраз, падышоў да маці і асцярожна, бы нешта крохкае і вельмі далікатнае, абняў яе за плечы.

— А дзе мужчыны? — праз нейкі час у цішы памяшкання прагучала яго пытанне.

— Бацька павёз Цімафею два вэнджаныя кумпякі — той абяцаў абмяняць іх на бочачку нейкага адмысловага мёду, а Марцін корпаецца ў садзе — запякае і вэндзіць рыбу.

— Пайду, пагутару з ім.

— Схадзі, сынок, пагутары, — вочы маці пыхнулі такой цеплынёй і пяшчотай, што Самуіл нават крыху сумеўся сваёй рашучасці.

Марцін сядзеў на альховай цурцы ля вялікай бочкі, праз шчыліны якой у празрыстае ад сонечнага святла неба віліся светлыя стужкі дыму. Побач з ім на зямлі ляжала некалькі кавалкаў паперы, а ў руках ён трымаў бяросту з амаль нябачнымі знакамі.

— Як справы, брат? — Самуіл працягнуў руку для прывітання. — Чым займаешся?

— Ды вось рыбу вэнджу, — павольна падняўся з цуркі Марцін. Выгляд ён меў разгублены, нават спалоханы.

— Па нейкіх асаблівых рэцэптах вэндзіш, — Самуіл хітнуў на паперкі, — ці па-старынцы?

— Па-старынцы: на ядлоўцу, яблыні і альховых галінках.

— Што ж, старое не заўсёды дурное, — Самуіл агледзеўся, падцягнуў да сябе цурку, сеў і толькі потым пацікавіўся:

— А што гэта за граматка ў тваіх руках?

— Гэты кавалак бяросты Грышка Галенда забраў з торбы нейкага жабрака, якога ўчора знайшлі памерлым ля Спаса-Праабражэнскай царквы.

— А Грышка — гэта хто?

— Мой знаёмы, сябар Юркі Кацуры, — неахвотна адказаў Марцін і з-пад ілба недаверліва паглядзеў на брата. — А табе навошта гэта ведаць?

— А мне пра цябе ўсё цікава ведаць, бо ты мой брат і сын майго бацькі. Уцяміў?

— Ну-у, — Марцін падняў на брата вочы і той убачыў там і спагаду, і ўдзячнасць, і непаразуменне. Яшчэ ён убачыў там страх, які змейкай віўся па яго пачуццях, скоўваў іх, халадзіў, не дазваляў выплеснуцца вонкі, і Самуіл зразумеў — недарэмна бацька прыйшоў да яго ўчора ноччу праз гразь, дождж.

— Паглядзець можна? — Самуіл паказаў вачыма на бяросту і працягнуў руку.

Бяроста ўяўляла сабой або таямнічае пасланне, або частку карты: вострым прадметам, — «пэўна, нажом» — адзначыў Самуіл, — на ёй былі надрапаны вялікі і некалькі маленькіх крыжоў, побач з якімі драпежна вілася вузкая лінія.

— Нейкі падлетак цешыўся, — услых выказаў думку Самуіл і перадаў бяросту брату. — Што ў ёй цікавага?

— А я думаю, што гэта карта месца, дзе схаваны скарб, і той жабрак ведаў пра яго і ішоў забраць. — Марцін паднёс сваю цурку бліжэй і сеў побач з братам. — Я думаю, што вялікі крыж — гэта царква і, магчыма Спаса-Праабражэнская…

— Магчыма, — ахвотна пагадзіўся Самуіл і ўжо па-новаму паглядзеў на кавалак бярозавай кары. — А маленькія крыжыкі што азначаюць?

— Могілкі. Там непадалёку змяшчаюцца закінутыя могілкі, якія ў народзе называюць Перуновымі.

— Быў я некалі на іх. А лінія?

— Мухавец, — коратка адказаў Марцін і, узбуджаны думкамі, падхапіўся з месца. — Ты ведаеш, што на гэтых могілках схаваны скарб, мы здагадваемся даўно. Маем нават сведкаў, якія могуць гэта пацвердзіць і якія на ўласныя вочы бачылі…

— Як нехта там закопваў золата.

— Ды не, — крыху сумеўся малодшы. — Яны бачылі валтузню вакол гэтых могілак.

— Цікава. І што гэта за валтузня?

— А смяяцца, як татка, не будзеш? — Марцін паглядзеў у вочы брата і, не ўбачыўшы там смяшынак, падняў з зямлі адну з паперак і пачаў расказваць:

— Летам 1546 года, на Купалле, у Сёмкі Букаты спыніўся нейкі чалавек. Днём ён адсыпаўся, а вечарам сабраў свае пажыткі, разлічыўся за прытулак і папрасіў Сёмку, каб той перавёз яго на той бераг Мухаўца. Сёмка яго перавёз і, крыху пачакаўшы ў чароце, прасачыў за незнаёмцам. Ён бачыў, як той нейкі час стаяў на каленках і маліўся, а з заходам сонца накіраваўся да Перуновых могілак. Куды ён потым падзеўся, Буката не ведае, бо спалохаўся нячыстай сілы і вярнуўся дахаты.

— Чаму ж ён наступным днём не схадзіў на тыя могілкі і не паспрабаваў сам знайсці той скарб?

— Наступныя некалькі дзён, як расказваў Сёмка, былі навальнічнымі.

— Якія яшчэ гісторыі ты ведаеш? Што яшчэ памятаюць людзі?

— Юрка Гацько расказваў, што гадоў трыццаць таму па Замухавеччы хадзілі чуткі, быццам на закінутых могілках за Спаса-Праабражэнскай царквой па начах гараць агеньчыкі. Гацько бажыцца, што ўвачавідкі бачыў гэтыя агеньчыкі, а яго старэйшы брат Нічыпар, які лячыў свойскую жывёлу і крыху знаўся з нячыстай сілай, дык і наогул паспрабаваў знайсці той скарб і выкапаць яго з зямлі. Толькі не ўдалася яго задума — напала на яго ля самых могілак цэлая зграя ваўкоў, ледзьве адбіўся ад іх заступам.

— І шмат у цябе такіх сведчанняў?

— Няшмат, але яшчэ ёсць, — Марцін нахіліўся і падняў з зямлі астатнія паперкі.

— Ты і сапраўды верыш, што на гэтых могілках схаваны скарб? — Не ведаючы, што гаварыць, запытаўся Самуіл. — Мне тата расказваў, як ён сам некалі шукаў золата.

— І мне расказваў. Той скарб быў нячысты, загавораны.

— А твой?

— І наш загавораны, — без ценю сполаху адказаў Марцін. — Але мы вывучылі і загаворы, і малітвы, каб адкапаць яго. Вось толькі дзе дакладна яго шукаць — мы не ведаем, — хлопец у адчаі ўдарыў нагой цурку.

— А бяроста?

— Што ў ёй карыснага? Царква? — пра яе мы і так ведаем. Могілкі на беразе рэчкі? Чым можа быць карысны гэты кавалак кары? Хіба толькі яго ўкінуць у полымя?

— Не спяшайся, нават смецце паліць трэба з толкам, — Самуіл зноў узяў у рукі бяросту, нейкі час уважліва разглядаў малюнак, думаў. Потым загадкава ўсміхнуўся і паклікаў да сябе брата:

— Глядзі сюды, — тыцнуў ён пальцам на два маленькія крыжыкі, што туліліся да самай лініі на карце. — Бачыш адрозненне?

— Крайні крыху карацейшы за суседні, — няўпэўнена адказаў Марцін.

— На ўсіх крыжах ніжняя папярочка нахілена справа налева, а на гэтым — злева направа. Значыць, калі там і ёсць скарб, то ён схаваны пад самым крайнім крыжом. Як табе мая здагадка, Марціне?

— Чым складаней задача, тым прасцей яе рашэнне, — Марцін задумаўся, пачухаў патыліцу. Потым з удзячнасцю абхапіў далонь брата. — І як гэта мы самі не здагадаліся? А сёння ж апошні вечар, калі можна ісці па скарб!

— Пачакай, — замахаў вольнай рукой Самуіл. — Сёння вечарам трэба ісці ў царкву, а не на могілкі. Ты тут нешта блытаеш, брат.

— Нічога я не блытаю. Гэты скарб загавораны, таму ён тры разы на год мяняе месца — ачышчаецца, і адбываецца гэта на Каляды, Вялікдзень і Купалле. Менавіта ноччу перад гэтымі святамі скарбы выходзяць з-пад зямлі і свецяцца ў цемры рознакаляровымі агеньчыкамі. Менавіта ў такую ноч скарб лягчэй за ўсё знайсці і выкапаць.

— Будзе ж яшчэ лета.

— Да лета дажыць трэба, — зусім не задумваючыся над словамі, весела адказаў Марцін. Потым, падкінуўшы ў полымя некалькі сырых паленцаў, зноў прысеў ля Самуіла.

— Чуў я недзе казку, — голас Марціна гучаў бадзёра, узрушана. — Казка невялічкая, просценькая, аднак сэнс у ёй схаваны вялікі, павучальны. Хочаш, раскажу?

— Расказвай.

— Аднойчы, седзячы ў карчме і сёрбаючы нішчымную капусту, жабрак пачуў гутарку двух шляхціцаў, што нейкая ўдава нядаўна памерлага млынара ўжо з месяц прадае млын за адзін пенязь таму, хто першым захоча яго купіць, аднак пакупнікоў пакуль не знаходзілася. Шляхціцы ад душы пасмяяліся з жарту, дапілі мёд, адпачылі і з'ехалі, а жабрак, заціснуўшы ў кулаку ўсё сваё багацце ў адзін пенязь і не зважаючы на непагадзь, пайшоў да млынаркі. І сапраўды — млынарка прыняла яго, як лепшага сябра, а на наступны дзень перапісала на яго імя млын і ўсе гаспадарчыя пабудовы. «Чаму ты так зрабіла?» — запытаўся ў яе былы жабрак пасля таго, як яны зацвердзілі купчую. «Мой муж завяшчаў, каб пасля яго смерці я прадала гэты млын, а атрыманыя грошы аддала б яго палюбоўніцы. Вось я і выконваю завяшчанне мужа».

— Смешная казка, — усміхнуўся куткамі вуснаў Самуіл. — Аднак, што ў ёй павучальнага?

— Павучальнае ў ёй тое, што лёс дае кожнаму з нас шанец, каб разбагацець. Толькі адны ў яго не вераць і смяюцца, а другія — дзейнічаюць.

— Дык ты лічыш, што гэты скарб твой шанец разбагацець? — Самуіл пастукаў пальцам па пругкаму баку бяросты.

— Лічу, — не адводзячы позірку і гледзячы прама ў зрэнкі брата, адказаў Марцін.

— А мяне з сабой возьмеш на могілкі?

— Вазьму, калі не спознішся і прыйдзеш сюды адвячоркам, — усміхнуўся ў адказ хлопец.

**4**

Яшчэ да заходу сонца Самуіл зноў крочыў у двор бацькі. Астылае за дзень, яно ўжо амаль цалкам схавалася за вострымі грабянямі далёкага лесу, але яго прамяні ўпарта прабіваліся праз галіны дрэў, развітваючыся з зямлёй і кідаючы доўгія, няроўныя цені на дарогу. Адчувалася дыханне вечаровай свежасці. Ішоў Самуіл не спяшаючыся, быццам сумняваючыся ў правільнасці свайго рашэння. На душы было цяжка, часам сціскала сэрца. «Старэю ці што?»

Марцін сустрэў яго на панадворку, упіхнуў у рукі невялікі клунак і са словамі: «Хутчэй, братка, хутчэй!» зноў выштурхнуў на вуліцу.

— Бацька не адпусціў бы, — патлумачыў спешку Марцін. — Ён і так цэлы дзень на мяне касавурыцца.

— Ёсць за што, бо нядобрую справу вы задумалі. Адкуль у цябе такая прага да спажывы? Няўжо табе не хапае бацькавых грошай?

— А я не хачу жыць за бацькавай спінай, хачу свабоды, хачу мець свае лаўкі не толькі ў Берасці, але і ў Кобрыне, і ў Пінску, і ў Гародні. Хачу жыць, Самуіл, зараз, а не потым... А людзі хутка забудуцца, адкуль у мяне ўзяліся грошы, памяць людская — кароткая!

— Яно, магчыма, і так, аднак памяць і душа — гэта не адно і тое ж. Душа больш памятлівая. Розумам ты забудзеш зладзейства, а душой — не, будзеш памятаць усё жыццё, будзеш пакутаваць і гэтыя пакуты выпаляць у тваім сэрцы ўсё чалавечае: і дабрыню, і пяшчоту, і спагаду. Заўваж, багатыя людзі больш няшчасныя, іх ніхто не любіць. Іх баяцца, часам паважаюць, але не любяць. А добрага любяць заўжды. Зразумей: немагчыма чалавеку жыць без душы! Без золата — можна, без душы — не!

Марцін маўчаў, пэўна перававарваў пачутае і, каб змяніць тэму размовы, Самуіл пацікавіўся:

— Што ў клунку?

— У якім клунку? — не адразу зразумеў Марцін. Вочы яго, бы ў вар'ята, гарэлі ад нервовага ўзбуджэння, аднак, калі сэнс пытання ўсё ж прабіўся да яго свядомасці, яны прытухлі. — Там крыж, ладан ды тры грамнічныя свечкі.

— Усё ж такі баіцеся нячысцікаў?

— Нячысцікі — гэта драбяза, не вартая ўвагі. Загавораныя скарбы ахоўваюць здані ці нават бесы. Аднак мы ведаем усе патрэбныя малітвы, таму нікога не баімся.

— А калі прачытаеш не тую малітву ці наогул не прачытаеш яе, то што тады чакае скарбашукальніка?

— Смерць!

— Смерць? — у Самуіла раптоўна ўзмакрэў лоб. Ён непрыкметна выцер яго рукавом кафтана і пацікавіўся:

— І ты ведаеш такія прыклады?

— Ды мноства. Шавец Клім Рэпа з Цаглянай вуліцы расказваў, што яго сусед, каваль Грышка Удот, збіраючы на балоце крыцу, знайшоў багаты скарб золата і самацветных камянёў. Дастаючы яго, ён пачуў голас, што спачатку можа ўзяць толькі грошы, палову якіх абавязаны раздаць бедным. Аднак Удот усё золата прапіў, а калі пайшоў на балота, каб забраць каменне, спатыкнуўся аб корч і ўтапіўся ў багне.

— Вясёлая гісторыя, — уздыхнуў Самуіл. — Праўду кажуць людзі, што нячэснае багацце не суцяшае сквапнасць, а толькі распальвае яе.

Марцін не адказаў.

Сонца ўжо схавалася за лесам і адразу прастору напоўніла цяжкая, сырая цемра. Яна пранікала ўсюды, ліпла да рук і твару, непрыемным халадком веяла па спіне, разам з дыханнем пранікала ўнутр, і Самуілу ў нейкі момант падалося, што ён не дойдзе да могілак, што цемра раней выстудзіць яго вантробы, страхам замарозіць сэрца.

— Далёка яшчэ ісці? — каб толькі не маўчаць, запытаўся ён у брата.

— Ужо прыйшлі, — Марцін спыніўся, нягучна свіснуў і, калі з недалёкіх кустоў у адказ прагучаў гэткі ж прыцішаны свіст, гукнуў: — Гэта я, хлопцы.

І адразу з кустоў на дарогу выйшлі два чалавекі. Адзін з іх быў даволі высокі і, як падалося Самуілу, магутнага целаскладу. Другі быў маленькі і ў цемры нагадваў падлетка.

— Ты каго прывёў, Марцін? — прабасіў высокі юнак. — Мы ж дамаўляліся, што ніхто не павінен ведаць пра нашу тайну.

— Не хвалюйся, Грышка. Гэта мой старэйшы брат Самуіл, пра якога я вам расказваў.

— Які служыць лаўнікам пана Ласкевіча?

— Ён, — Марцін павітаўся з сябрамі і, кіўнуўшы на невысокага хлопца, які круціў на далоні нож з адмысловай ручкай, прадставіў:

— А гэта Юрка, брат Яні.

Пасля знаёмства Грышка, на правах старэйшага, пацікавіўся ў Самуіла:

— Ты замовы ведаеш? — і ўбачыўшы, як той у непаразуменні паціснуў плячыма, параіў: — Тады маўчы, а яшчэ лепш — не хадзі з намі, застанься тут ці ідзі ў царкву на «усяночную».

— Я пайду з вамі, — рашуча адказаў Самуіл, — і як прадстаўнік магістрата, хачу папярэдзіць вас, што раскопваць магілы…

— Хочаш ісці з намі — ідзі, але маўчы і не лезь са сваім статутам у чужы манастыр.

Самуіл зноў паціснуў плячыма і прамаўчаў. Спрачацца, лаяцца з незнаёмым яму чалавекам, ды яшчэ ноччу, — было не ў яго правілах, таму ён вырашыў быць назіральнікам, і толькі ў выпадку небяспекі або папярэдзіць юнакоў, або ратаваць іх.

Тым часам скарбашукальнікі ўзялі ў рукі крыжы, запалілі свечкі і, павярнуўшыся тварамі на захад, пачалі чытаць заклінанні. «Дапамажы, Божа, мне, рабу Твайму Юрыю, прыстаўнікоў злосных сіл ад скарба адагнаць, а золата і срэбра, схаваныя ў зямлі, узяць на справы добрыя, богаўгодныя, сіротам малым на суцяшэнне, храмаў божых на пабудову, а мне, Юрыю Кацуры, на чэсны гандаль купецкі», — даносіўся да Самуіла шэпт бліжэйшага да яго хлопца.

Потым пайшла малітва: «Святая Тройца, злітуйся над намі. Гасподзь, ачысці душы нашы. Уладыка, прабач за беззаконне наша. Святы, наведай і пазбаў нас немачы нашай. Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу, зараз і прысна, і на векі вякоў. Амінь».

Потым — зноў заклінанне: «Падымуся я позна вечарам, пайду разам з мілым месяцам па палях, па пагорках, па лясах, па раўнінах. Знайду камень вялікі, …» — далей Самуіл ужо

не слухаў, станміўся. «Дзіцячыя забавы!» — вырашыў ён і пашкадаваў, што сам напрасіўся на гэту начную прагулку.

Прачытаўшы ўсе малітвы і заклінанні, юнакі задулі свечкі і, не звяртаючы ўвагі на Самуіла, ланцужком накіраваліся ў бок Перуновых могілак.

Некалі, гады два таму, па справах магістрата Самуіл быў на гэтых могілках і ўжо тады яны былі недагледжанымі, зарослымі быльнёгам і кустоўем. Ён ведаў, што хавалі тут самагубцаў, бандытаў ці незнаёмцаў. Іх магілы ніхто не агароджваў, а часта нават і крыжа не ставілі. Пакладуць у лепшым выпадку на пагорак амшэлы камень — і дзякуй Богу.

Успамінаючы той паход на Перуновы могілкі, Самуіл усёй сваёй істотай адчуваў, што любы жывы чалавек з'яўляецца быццам працягам свайго памерлага родзіча, а могілкі — гэта тое адзінае духоўнае звяно, якое злучае жывога і нябожчыка, і непакоіць памерлага — што разарваць тое звяно, знішчыць духоўную сувязь, вырачы жывога на зямную адзіноту, на забыццё пасля смерці. «Ці варта ўсё гэта таго золата, якое, магчыма, недзе там і схавана?» — раз за разам пытаўся ён у сябе і раз за разам адказваў: «Не!» — «А можа, пакуль не позна, паспрабаваць растлумачыць гэтым юнакам дурноту іх задумы? Але ж не зразумеюць, выставяць баязліўцам, дурнем ці слабаком». І Самуіл пакорліва крочыў за цёмнымі ценямі ў сырую цемру.

Ля могілак цені спыніліся. Перашэптваючыся, зноў запалілі свечкі і, чытаючы нейкія малітвы, пацягнуліся да крайняй магілы.

Навокал панавала нежывая цішыня. Яна ўціскала ў зямлю. Яна аглушала. Асцярожна, імкнучыся нічым не парушыць яе крохкасці, Самуіл абышоў вакол магільнага пагорка, уважліва агледзеў крыж, які Грышка з Юркам ужо выцягнулі з зямлі і прытулілі да бліжэйшага дрэва. Гэта быў звычайны, струхнелы ад часу і пакрыты зялёным імхом, крыж. «І што ў табе адметнага?» — думкі Самуіла блыталіся, не маглі засяродзіцца на нечым адным, у гэты час самым важным. Ён яшчэ раз ахінуў позіркам зарослы пустазеллем пагорак, гнілы крыж, абышоў хлопцаў, якія з заплюшчанымі вачыма чыталі малітву, спыніўся ў некалькіх кроках за іх спінамі. «Прыдзі і ўсяліся ў мяне, і ачысці думкі мае і памкненні ад рознай брыдоты, і выратуй, Божа, душу маю. Святы Божа! Святы Бессмяротны! Памілуй мяне. Амінь». І раптам, з апошнім «амінь» Самуіл убачыў, як выцягнуты з зямлі крыж успыхнуў жоўтавогненным кастром. Языкі полымя ўзвіліся вышэй дрэў, і ў іх зменлівай жаўцізне яскрава праступіла постаць высачэзнага чалавека з раскінутымі рукамі. Постаць павольна павярнулася да людзей і Самуіл з жахам адчуў, як гарачыня кастра апаліла яго ногі, як яна павольна пачала падымацца вышэй, вышэй. А вогненны чалавек бы вялізнымі крыламі правёў сваімі рукамі па тварах Юркі і Грышкі, вышчарыўся чорным бяззубым ротам і, адарваўшыся ад крыжа, імкліва схаваўся за чорнай завесаю ночы. З ім знікла і гарачка ў нагах Самуіла.

А хлопцы, ні на што не зважаючы, раскопвалі магілу. Юрка і Грышка ўпарыліся, пот буйнымі кроплямі каціўся па іх ілбах, тварах, але яны нічога не заўважалі і толькі секлі заступамі магільны дзёрн. Марцін стаяў побач. У адной руцэ ён трымаў запаленую грамнічную свечку, у другой — крыж. Вусны яго шавяліліся, аднак слоў малітвы было не разабраць, ды да іх ніхто і не прыслухоўваўся.

Самуіл перажагнаўся, паглядзеў на крыж, які, як і раней, стаяў каля дрэва, агледзеў узмакрэлых Грышку і Юрку — ніштo не нагадвала пра вогненнага чалавека. «Няўжо мне падалося?» — з палёгкай падумаў ён і зрабіў некалькі няўпэўненых крокаў да магілы.

— Ёсць! — раптам данёсся ад яе радасны вокліч. — Глядзі, які вялікі. — Юрка падняў над галавой чорную, аблепленую зямлёй карчагу. — Мы багатыя, хлопцы!

— Пачакай, — ахаладзіў імпэт сябра Грышка. — А раптам у ёй проста пясок? Жартаўнікоў жа хапае.

З гэтымі словамі ён забраў у сябра сасуд, паклаў яго на магільны пагорак і лёгенька зверху стукнуў заступам па яго баку. Сасуд раскалоўся на дзве часткі, з якіх на чорную зямлю пасыпаліся залатыя манеты.

— Ого-го-го! — не хаваючы пачуццяў, закрычаў Юрка.

— Заткніся, дурань! — Грышка схапіў сябра за плячо і з усяе сілы трасянуў яго. — Не хапала, каб сюды збеглася палова горада. Лепш падай мне торбу.

Юрка падхапіў торбу, працягнуў яе сябру і яны пачалі павольна, любуючыся бляскам кожнай манеты, парадкаваць знойдзены скарб. Марцін падсвечваў ім свечкай. Усе радава-

ліся, бы дзеці, і толькі Самуіл маўчаў, ніяк не выказваў сваіх пачуццяў. Ён нават не глядзеў на золата, бо яго ўвагу адцягваў тонкі струменьчык жоўтага дыму, што ішоў з разбітай карчагі.

— Што гэта за жоўты дым? — ціха, амаль шэптам запытаўся ён сам у сябе.

Аднак яго пытанне пачуў Грышка.

— Пра які дым ты кажаш, лаўнік? Гэта чорная зайздрасць да нашага шчасця засцілае табе вочы жоўтым туманам. Так я кажу, хлопцы?

— Ага, — адазваўся адзін Юрка, які нават не разумеў, пра што ідзе гутарка.

«Дарэмна ты спрачаешся з імі, — раптам аднекуль зверху да Самуіла данёсся ціхі шэпт ветру. Ён нават не пачуў яго, а адчуў усім целам. — Дарэмна разрываеш сваё сэрца ад бяссілля пераканаць іх. Яны самі выбралі свой шлях і без пакаяння адпусцілі душу, якая ахоўвала гэту магілу, таму самі і адкажуць за свае ўчынкі». Разгублены, збіты з толку Самуіл падняў галаву, аднак акрамя халодных зорак у цёмным небе нічога не ўбачыў.

«Хутчэй адсюль, хутчэй з гэтых могілак, у цемру, там выратаванне», — лаўнік паспешліва аддаліўся ад разрытай магілы.

Цемра дыхнула ў твар холадам. Зусім нядаўна ён праклінаў яе, баяўся, парываўся вырвацца з яе абдымкаў, а цяпер з асалодай глытаў яе шырока раскрытым ротам. Толькі тут, за мяжой могілак, ён адчуў, наколькі спалохаўся, якімі мяккімі, непаслухмянымі сталі ногі, наколькі моцна б'ецца сэрца, напаўняючы жывой крывёй жылы. Ён прытуліўся спінай да тоўстай, пасечанай маланкамі і часам, сасны і нават не заўважыў, як побач з'явіўся брат.

— Багаты скарб знайшлі, Самуіл. Вельмі багаты! — голас Марціна звінеў золатам.

— Хадзем адсюль, — быццам не пачуў брата, абыякава прамовіў Самуіл. — Пайшлі да сем'яў.

— Ты ідзі, а мы цябе дагонім, — вочы Марціна, бы ў ваўкалака, свяціліся ў начной цемры чырвонымі вугольчыкамі. — Толькі бацькам нічога не расказвай.

Калі Марцін зноў адбегся да сяброў, Самуіл адштурхнуўся ад дрэва, выйшаў на знаёмую сцяжынку і, не спяшаючыся, пакрочыў да горада. «Ойча наш, каторы ёсць на небе! Свяціся імя Тваё, прыдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як на небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння, і адпусці нам правіны нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым, і не ўвядзі нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амінь», — шапталі яго вусны.

І ўжо ў хаце, стоячы на каленках перад абразом, ён раз за разам у думках вяртаўся да паходу на могілкі, да сваіх размоў з сябрамі Марціна, убачанага і пачутага там, і чым больш ён успамінаў, тым большы цяжар асядаў на яго душу. Самуіл праганяў дурныя думкі, імкнуўся забыцца ў малітве, аднак думкі ўюнамі лезлі ў галаву і які ўжо раз, шукаючы прычыны свайго незадавальнення, ён усё больш думаў, што паспяшаўся сысці, змаладушнічаў, што трэба сёння ж пагутарыць і з Марцінам, і з яго сябрамі…

Замшэлы крыж так і застаўся дагніваць побач з абязвершанай сасной, якую некалі скалечыла сляпая, а таму бязлітасная да чужога жыцця маланка.

**5**

Раніцай, яшчэ да ўзыходу сонца, Самуіл памыўся крынічнай вадой, у якую жонка, вярнуўшыся з царквы, паклала некалькі залатых манетак і чырвонае асвечанае яйка. Апрануўся ў святочны строй, пабудзіў Васятку і яго, яшчэ соннага і кволага ад сну, таксама прымусіў памыцца. «Каб быў увесь год чыстым, здаровым і чырвоным, бы велікоднае яйка», — прыгаворваў ён, са смехам палліваючы сыну рукі халоднай вадой.

Пакуль мужчыны мыліся, Насця накрыла святочны стол, за які, папярэдне шчыра памаліўшыся Богу, хутка ўселіся сваёй невялікай сям'ёй, каб разгавецца — уволю паласавацца пасля доўгага посту рознымі прысмакамі…

— Ух, — першым стаміўся есці Васятка. Ён важна пахлопаў сябе па тугім жываце і адкінуўся да сцяны. — Ну я і наеўся, на цэлы тыдзень!

— А цяпер пойдзём яшчэ да дзядулі, — усміхнулася задаволеная Насця. — Што ты там будзеш рабіць?

Пачуўшы пытанне маці, сын на імгненне прыціх. Вочы яго акругліліся, вусны скрывіліся і ледзьве не плачучы, ён паскардзіўся:

— А вы ж абяцалі адпусціць мяне валачобнікам!

— Валачобнікам? — вясёлы выраз на твары Насці саступіў месца шчыраму здзіўленню. Яна нават крыху прыўзнялася з лавы: — Ты яшчэ малы хадзіць па дварах.

— Калі мы табе гэта абяцалі? — сур'ёзна запытаў Самуіл.

— Летась.

— Летась? — бацька хмыкнуў у свае рэдкія вусы, задумаўся, згадваючы леташні Вялікдзень. Потым прамовіў: — Калі абяцалі — ідзі. Толькі скажы, з кім ты пойдзеш, дзе будзеце хадзіць і ці ведаеце вы валачобныя песні?

— Хадзіць мы будзем па Кавальскай вуліцы, — радасна падхапіўся з лавы Васятка. — А песні мы ведаем. — І заспяваў:

Пане гаспадару, слаўны мужу,
Хрыстос уваскрос, Сын Божы!
Слаўны мужу над мужамі!
Слава табе, Божа, на ўвесь свет!
А ці спіш, ляжыш, спачываеш...

— Ну хопіць, хопіць, — замахаў рукамі Самуіл. — Пачуўшы твае спевы, гаспадары апошняе аддадуць, каб ты толькі хутчэй сышоў з іх двара.

— Няпраўда, — Насця бліжэй падсела да сына і пагладзіла яго па галаве, — спяваеш ты добра, жаласліва, але ўсё роўна доўга па дварах не хадзіце, а як усіх абыдзеце, то адразу прыходзь да дзядулі. Добра, сынок?

— Добра, — радасна паабяцаў Васятка.

Адпусціўшы сына да валачобнікаў, — купкі дзяцей, што ўжо нецярпліва тапталася на вуліцы ля двара Корчакаў, — пачалі збірацца ў госці і Самуіл з Насцяй, і не паспела яшчэ ранішняе сонца высушыць расу на дарозе, як яны весела і бадзёра, з клункамі ў руках, крочылі да бацькоўскай хаты.

**6**

Барталамей сустрэў гасцей на панадворку, з кожным пахрыстосаваўся, пацікавіўся, дзе Васілёк і, пачуўшы, што той пайшоў з сябрамі валачобнічаць, шырока засмяяўся:

— Малайчына!

— А дзе Марцін? — у сваю чаргу запытаўся Самуіл. — Можа, яшчэ спіць пасля начной прагулкі?

— Пасля якой прагулкі? — Барталамей з непаразуменнем павярнуўся да сына і ўжо раскрыў рот, каб пра нешта ў яго запытацца, але не паспеў — на панадворак выйшла жонка.

— Ну што ты марозіш дзяцей на вуліцы? — нязлобна ўпікнула яна мужа і адразу падалася да нявесткі: — Хрыстос уваскрос, любая!

— Сапраўды ўваскрос, матулечка! — Насця тройчы абнялася і пацалавалася са свякроўкай.

Гэтак жа павітаўшыся з сынам, гаспадыня зноў звярнулася да мужа:

— Запрашай гасцей у хату.

Уладкаваліся за сталом, памаліліся, з'елі па кавалачку асвенчанага яйка, выпілі мёду і прыступілі да ежы. Хутка, паспытаўшы розных прысмакаў і выпіўшы яшчэ па кубку мёду, разгаварыліся. Пакуль жонка з нявесткай абмяркоўвалі смак пірагоў, Барталамей з сынам квола гутарылі пра купецкія справы, а калі жанчыны завялі гутарку пра сваё здароўе, гаспадар не вытрываў:

— Хадзем на панадворак, падыхаем паветрам, — і першым падняўся з лавы.

На панадворку ён хітнуў Самуілу на кароценькую лаву, што стаяла ля студні: «Сядай». Сам жа ўладкаваўся на шырокай калодзе і адразу ж пацікавіўся:

— Пра якую начную прагулку Марціна ты ў мяне пытаўся? — па ўсім было бачна, што гэтае пытанне не давала Барталамею спакою з моманту прыходу гасцей. — Ён мне нічога пра яе не расказваў.

— Учора вечарам ён з сябрамі быў на Перуновых могілках, — зразумеўшы, што бацька нічога не ведае, а таму проста ад яго не адчэпіцца, Самуіл вырашыў расказаць яму праўду. — Там яны адкапалі скарб.

— Скарб? — у голасе Барталамея прагучаў страх. Ён падняўся з калоды, узад-уперад прайшоўся па панадворку, спыніўся насупраць Самуіла: — А ты адкуль ведаеш?

— Я быў з імі.

— Быў з імі? — Барталамей асуджальна, бы затраўлены воўк, паглядзеў у вочы сына: — Чаму ж не спыніў? Навошта дазволіў непакоіць нябожчыка?

— Я спрабаваў іх спыніць, аднак яны не захацелі мяне нават слухаць.

— Цяпер я разумею, пра які сюрпрыз перад адыходам казаў мне Марцін.

— І гэта не апошні сюрпрыз, які ён збіраецца паднесці табе з маці на гэтым тыдні, — Самуіл нават абрадаваўся, што гутарка збочыла ад учарашняй вандроўкі на могілкі.

— Што яшчэ ён прыдумаў?

— Будзе прасіць цябе паслаць сватоў да Глеба Кацуры.

— Да Глеба? — вочы Барталамея палыхнулі недаверам. — Дык яго ж дачцэ, пэўна, няма і чатырнаццаці!

— Ужо шаснаццаць.

— Шаснаццаць? А на выгляд зусім дзяўчо — невялічкая, худзенькая, сціплая. Бачыў яе нядаўна, калі быў у Глеба. Але ж… — гаспадар на імгненне задумаўся, быццам вагаючыся, і ўсё ж вырашыў сказаць, — ці ведае Марцін, што на ёй, як і на ўсім родзе Глеба, ляжыць пракляцце, страшэннае, смяротнае, крывавае?

— Што за пракляцце?

— Мы з Глебам не такія ўжо і сябры, аднак гадоў сем таму, пасля смерці яго жонкі, ён мне расказваў, што раней яны жылі ў Кобрыне. Жылі добра, даволі заможна, пакуль зімой пяцьсот трыццаць шостага года на іх горад знянацку не напаў маскоўскі загон. Маскавітаў было нямнога, сотні дзве, і асаблівай шкоды гораду яны не нанеслі — крыху парабавалі прадмесце, спалілі некалькі двароў і гэтак жа імкліва зніклі. Але для Глеба і яго сям'і гэта быў ракавы напад. Тым днём ён быў у лаўцы і, пачуўшы пра гвалт у прадмесці, кінуўся да свайго двара. Раз'юшаны да бяспамяцтва, з сякераю ў руках, ён уварваўся ў сваю хату і, заўважыўшы двух рабаўнікоў, адзін з якіх рыўся ў куфры, а другі жорстка збіваў яго жонку, не задумваючыся пусціў у ход зброю. Першы маскавіт памёр адразу і ціха. Другі ж, хаця Глеб і рассек яго амаль напалам, перад сваёй канчынай паспеў сказаць некалькі слоў, і словы гэтыя аказаліся пракляццем.

— Падумаеш, на вайне амаль кожны забіты праклінае свайго забойцу.

— Справа ў тым, сынок, што той другі рабаўнік быў маскоўскім святаром. Глеб пра тое пракляцце нікому не расказваў, а каб схавацца ад яго, пераехаў у наш горад. Аднак недзе гады праз тры пасля пераезду ля Берасця знайшлі забітым яго старэйшага сына. Потым раптоўна памерла яго дачка, за ёй — жонка… Ёсць над чым задумацца мужыку.

— Проста супадзенне, — Самуіл ніяк не хацеў паверыць у праклён маскавіта, не мог пагадзіцца з такой несправядлівасцю — пракляцце рабаўніка забірае жыцці сумленных людзей!

— Глеб расказваў, што пасля кожнай смерці родных да яго ў сне з'яўляўся засечаны ім поп і пахваляўся, нібы гэта ён пазбавіў жыцця яго дзяцей і жонку, і нібы душа яго не супакоіцца, пакуль не звядзе з гэтага свету апошняга з роду Кацураў.

— А ці звяртаўся Глеб…

— Бацюшка наш, пасля смерці Глебавай жонкі, асвяціў яго хату, а потым, між іншым, яшчэ параіў звярнуцца па дапамогу да мясцовай знахаркі Халімоніхі.

— Дапамагло?

— Не ведаю, — няўпэўнена пацiснуў плячыма Барталамей, — але ж пакуль у сям'і Кацуры ціха і, дасць Бог, так будзе і надалей.

І, быццам абвяргаючы гэтыя словы, раптоўна расчыніліся веснічкі і на панадворак Корчака заскочыў незнаёмы, узлахмачаны і расчырванелы ад бегу, хлапчук. Убачыўшы

мужчын, ён спыніўся, перавёў дыханне, рукавом святочнай кашулі выцер нос і толькі потым скарагаворкай выпаліў:

— Стражнікі хочуць забраць у астрог Янінку і вашага Марціна.

— Дзе? — падхапіўся з лавы Самуіл. — За што?

— Не ведаю. Мяне дзядзька Глеб папрасіў толькі, каб я хутчэй паклікаў да яго Корчака.

— Вось табе і сюрпрыз на Вялікдзень, — расчаравана выгукнуў бацька і, у адчаі рыпнуўшы зубамі, дадаў: — Марцін трымае слова.

## 6

На двары Глеба Кацуры было людна. Акрамя трох стражнікаў, якіх Самуіл добра ведаў і з якімі павітаўся кіўком галавы, там штурхалася яшчэ з дзясятак цікаўных — не кожны дзень у іх ціхім і спакойным горадзе забівалі людзей.

Самуіл наблізіўся да Глеба, пацікавіўся, што здарылася, аднак той не адказаў на словы лаўніка і толькі раз за разам прасіў прабачэння ў нейкай Аксінні.

— Не чапай ты яго, — побач з Корчакам няведама адкуль з'явіўся Фёдар Буцюта. — Звар'яцеў ад гора мужык. Гэта не жартачкі адразу згубіць і сына, і дачку.

— Што тут адбылося, Фёдар? — Самуіл павярнуўся да сябра тварам. — Дзе мой брат?

— Давай адыдземся, — Фёдар падхапіў Самуіла за локаць і, адвёўшы яго на некалькі крокаў ад Кацуры, прадоўжыў паўшэптам: — Я яшчэ сам не разабраўся, што тут адбылося, але зразумеў вось што: сын Глеба Юрка Кацура гэтай ноччу, замест таго, каб славіць уваскрашэнне пана нашага Ісуса Хрыста, разам са сваім сябрам Грышкам Галендай недзе выкапалі скарб і, дзелячы яго, пасварыліся. Галенда, як мацнейшы, задушыў Юрку, але і сам не ўратаваўся — яго зарэзала сястра Юркі, вунь тая маленькая паненка.

Самуіл міжволі пагледзеў у той бок, куды паказаў вачыма Фёдар. Ён убачыў невысокую, тоненькую, бы хварасцінка, дзяўчыну. Яна і сапраўды хадзіла каля ўваходу ў родную хату, але крокі ў яе былі роўныя, рукі рухаліся плаўна, паварот галавы быў горды, а на твары яе, чыстым і прыгожым, чыталася хваляванне за некага іншага, але не за сябе — і наогул было ў ёй нешта такое, што збянтэжыла Самуіла, пракацілася па грудзях шчымлівай хваляй, адначасна выклікала пачуцці і жалю, і спагады, і павагі. «Няўжо гэтае птушаня, баронячы брата, зарэзала Грышку?» — прамільгнула ў яго галаве. Ён нават усміхнуўся яе недарэчнасці, а ўслых пацікавіўся:

— А пры чым тут мой брат і дзе ён цяпер?

— Твой брат, хаця і прыйшоў сюды пазней за мяне, сцвярджае, што гэта ён забіў Грышку, што за забойства трэба караць яго, а не Яніну, і што ён не выйдзе з хаты, пакуль яго не арыштуюць і не адвядуць у астрог.

— Балван, — вылаяўся Самуіл. Ён стаміўся слухаць аповед Фёдара, яму не спадабалася бязладдзе на двары Кацуры, яго раздражнялі жарты і позіркі выпадковых цікаўных.

— Хто вядзе следства? — запытаўся ён, стрымліваючы шаленства.

— Пакуль ніхто не вядзе, — абыякава пацiснуў плячыма сябар. — Я жыву тут побач, таму мяне першага і паклікалі, а ўжо я выклікаў сюды стражнікаў.

— Зразумела, — у голасе лаўніка з'явілася сталёвае адценне. Ён махнуў рукой жаўнерам і, паказваючы на натоўп цікаўных, скамандваў: — Ачысціце двор ад чужых і зачыніце вароты.

Потым павярнуўся да Фёдара:

— А ты, Федзя, пакажы мне месца злачынства

— Хадзем, — Фёдар зноў пацiснуў плячыма. — Хаця на што там глядзець? Хіба на золата!

Хата Глеба Кацуры злучалася з прырубам і клеццю. Справа ад уваходу высілася печка. На покуці віселі абразы пад чыстым узорыстым набожнікам. Там жа стаяў і стол з амаль некранутымі стравамі, побач на шырокай лаве ў адзіноце сядзеў Марцін. Убачыўшы брата, Марцін падхапіўся, вінавата ўсміхнуўся, але прамаўчаў.

Прамаўчаў і Самуіл. Ён зняў шапку, перажагнаўся на абразы і, не паварочваючы галавы, звярнуўся да Фёдара:

— Дзе забітыя?

— А вось тут, — рукою паказаў налева Фёдар і першым накіраваўся ў бок клеці

У невялікім памяшканні панаваў паўзмрок. Маленькае слюдзяное акенца прапускала няшмат святла, а таму Самуіл з цяжкасцю адрозніў спачатку цела аднаго забітага, потым — другога.

— Падай свечку, — распарадзіўся ён і агледзеўся.

Пакуль ён разглядаў пакой, Фёдар прынёс падсвечнік з трыма свечкамі і ўжо пры іх святле Самуіл уважліва агледзеў нябожчыкаў.

Юрка ляжаў ля стала. Яго твар быў пунсовым, вочы амаль павылазілі з вачаніц, шырокі язык да самага кораня вываліўся з рота, а аб прычыне смерці яскрава сведчыла вяроўка, туга зацягнутая вакол шыі.

— З гэтым зразумела, — раз за разам палахліва жагнаючыся, прагаварыў Фёдар. — Грышка зацягнуў на яго шыі ўдаўку, а вяроўка ільняная, тонкая, таму зацягнулася туга.

— Памаўчы, — Самуілу таксама было не па сабе ад выгляду нябожчыка, аднак ён перамог гідлівасць і, апусціўшыся побач з забітым на кукішкі, уважліва агледзеў яго раздзёртую да крыві шыю і акрываўленую правую руку.

Потым, не кажучы ні слова, падняўся, кінуў позірк на стол, на якім трыма залатымі купкамі ляжалі манеты, на труп Грышкі і запытаўся:

— Хто першым знайшоў нябожчыкаў?

— Тодар Мірун расказваў, што раніцай ён пабачыў Глеба на панадворку і вырашыў зайсці да яго, каб пахрыстосавацца і выпіць з суседам за свята па кубку мёду. І толькі ён адчыніў веснічкі, як з хаты да яго слыху данёсся кароткі жаночы вокліч. Крык пачуў і Глеб і адразу, не марудзячы, кінуўся да хаты. Тодар прыбег ужо за ім. І што ён убачыў? Задушанага Юрку, зарэзанага Грышку і Яню, якая без прытомнасці, з акрываўленым нажом у руках, ляжала недзе тут, дзе зараз стаім мы.

— А дзе нож?

— У мяне, — неахвотна адказаў Фёдар і выцягнуў з-за халявы свайго бота нож з адмысловай ручкай, які мінулым вечарам Самуіл бачыў у руках Юркі.

Самуіл да нажа нават не дакрануўся, хаця адразу ж пазнаў яго.

— Няхай нож будзе пакуль у цябе, — ён нахіліўся і ўважліва агледзеў цёмныя плямы на падлозе. Потым выпрастаўся, яшчэ раз кінуў грэблівы позірк на золата і выйшаў з клеці ў хату. Там ён апусціўся на лаву побач з братам, крыху памаўчаў, ціха запытаўся:

— Ты на самай справе думаеш, што Яня магла забіць Грышку?

— Гэта я яго зарэзаў.

— І чым ты яго зарэзаў? — сумна ўсміхнуўся Самуіл. — Кулаком? Пальцам?

Марцін не адказаў.

— Добра, — невядома з чым пагадзіўся Самуіл і звярнуўся да Фёдара: — Сядай, Федзя, будзем разважаць разам

Фёдар паставіў на стол падсвечнік, крыху падумаў і з дзелавым сапеннем, па-свойму разумеючы важнасць моманту, уладкаваўся за сталом прама пад абразамі.

— Я думаю, што сварка паміж Юрыем і Грышкам адбылася з-за золата…

— Правільна, — не ўтрымаўся Фёдар, — але з імі была яшчэ і Яня, бо золата раздзелена на тры часткі.

— Не было там Яні! — узвіўся Марцін.

— Хто ж тады быў трэцім? — бы ў адчаі, Фёдар падняў угору рукі. Потым, дурашліва ўсміхнуўшыся, звярнуўся да Марціна: — А, можа, трэцім з імі быў ты, Марцінка?

— Хопіць спрачацца, — павысіў голас Самуіл і пагрозліва паглядзеў на брата: — І ты маўчы, не паказвай іншым сваю дурноту… Я цалкам згодны з табою, Федзя, — ужо спакойным, нават лагодным тонам працягваў Самуіл і такі пачатак размовы бальзамам праліўся на душу Фёдара. — Грышка і Юрка дзялілі знойдзены імі скарб на тры часткі, бо адну з іх збіраліся ахвяраваць Спаса-Праабражэнскай царкве. Аднак Грышка пачаў пудлаваць, надзяліў сабе больш золата і Юрку гэта не спадабалася. Яны пачалі спрачацца, потым схапіліся за грудкі і Грышка, як мацнейшы, паспрабаваў прыдушыць Юрку, але, тут ты,

Федзя, зноў маеш рацыю, вяроўка аказалася ільняной і моцна зацягнулася на шыі небаракі. Задыхаючыся, з апошніх сіл, Юрка пырнуў свайго хаўрусніка нажом у жывот… Уласна кажучы, ты, Федзя, правільна апісаў гэта забойства. Малайчына!

— А Янька? Мірун жа сам бачыў яе з акрываўленым нажом у руках!

— Глеб, са слоў Міруна, таптаўся на панадворку і не чуў спрэчкі свайго сына з сябрам. А Яня — чула. Яна, напэўна, стаяла ля дзвярэй і падслухоўвала, і заскочыла ў пакой толькі тады, калі пачула стук ад падзення на падлогу цела брата. Яна схапіла з падлогі нож, якім Юрка пырнуў Грышку, кінулася да брата, каб перарэзаць вяроўку на яго шыі, але... У яе проста не хапіла душэўнай моцы бачыць так блізка выскал гвалтоўнай смерці і яна, згубіўшы прытомнасць, сама павалілася побач з братам… Я правільна агучыў твае думкі, Федзя?

— Ну-у, яно так і было, — Фёдар пачухаў патыліцу. — Вось толькі золата…

— А што золата? — абыякава паціснуў плячыма Самуіл і шырока ўсміхнуўся сябру. — Золата — гэта ўжо задача Глеба Кацуры, ён няхай і вырашае, куды яго дзяваць. Ты ж сваю справу зрабіў выдатна, следства правёў бліскуча і галоўнае — хутка. Думаю, пан Ласкевіч цябе адзначыць.

Твар Фёдара расплыўся ў самазадаволенай усмешцы.

— Ну што ж, — ён падняўся з лавы і на развітанне працягнуў руку Самуілу. — Тады я распараджуся, каб стражнікі адвезлі цела Грышкі да родных…

— У яго няма родных, — урэшце адазваўся і Марцін. — Ён наогул не мясцовы.

Фёдар падазрона паглядзеў на Марціна, потым перавёў разгублены позірк на Самуіла.

— А няхай стражнікі пахаваюць яго на Перуновых могілках, — знайшоўся Самуіл. — Месца там ціхае, спакойнае, і лішніх пытанняў ніхто задаваць не будзе.

— І праўда! — абрадаваўся парадзе Фёдар і, задаволены, ён выйшаў вонкі.

У хаце зрабілася ціха. Браты думалі кожны пра сваё, аднак маўчалі, баяліся сказаць лішняе, непатрэбнае.

— Хопіць сядзець ёлупнем у хаце, — першым загаварыў Самуіл. — Ідзі супакой Яню, а то зусім згарыць дзяўчына ад гора і невядомасці.

— А Глеб?

— Глеба не кранай. Ён, бы сабака, павінен у адзіноце перабароць бяду, пабыць сам-насам з мінулым. Потым, апоўдні, пагавары з ім, налі яму кубак акавіты і прасачы, каб ён лёг спаць.

— А-а…

— Цела Грышкі забяруць стражнікі, Юрку крыху пазней абмыюць суседкі. А золата? Прыбяры яго з вачэй неадкладна, потым вырашыш, што з ім рабіць.

— Не патрэбна яно мне такое!

— Ты ж нядаўна казаў, што яно не мае паху! — Самуіл падняўся з лавы і паспрабаваў зазірнуць брату ў вочы. — Навошта ж тады хадзіў за ім учора?

— Дурнем быў!

— Добра, — адмахнуўся ад братавых слоў Самуіл і накіраваўся да ўваходных дзвярэй, і ўжо ля парога спыніўся, нешта ўспомніў. — Хрыстос уваскрос, брат! — дайшоў да Марціна запознены напамін.

— Сапраўды ўваскрос!



*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

# КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА



***Чарльз Дзікенс (Charles John Huffam Dickens)... насіў неверагодныя камізэлькі, якія колерам нагадвалі заход пракаветнага сонца. Гэта пра яго так Чэстартан піша. Нашы перакладчыкі — студэнты МДЛУ — ні з першым, ні з другім асабіста не знаёмыя: падарожжы па часе не ўваходзяць у праграму вучэбнай практыкі. Але яны зрабілі чытачам «М» калядны падарунак — гэты сумесны пераклад дзікенсаўскай «Каляднай Ялінкі». Ацэніце?***

Сёння ўвечары я назіраў за дзецьмі, якія вясёлым гуртам абкружылі прыгожую нямецкую цацку — Калядную Ялінку. Дрэва стаяла ў сярэдзіне вялікага круглага стала і ўзвышалася над іхнімі галовамі. Яно ззяла агеньчыкамі незлічоных свечак і бляскам яскравых цацак. Сярод галін што толькі не хавалася! І лялькі з румянымі шчочкамі, і сапраўдныя гадзіннікі (стрэлкі маглі рухацца амаль бясконца), якія тут і там звешваліся з галін, і адпаліраваныя столікі, крэслы, ложкі, шафы, насценныя гадзіннікі, і шмат якой яшчэ мэблі (па-майстэрску вырабленай з волава ў Вулвергэмптане) было схавана ў глыбіні галін, нібы часткі чарадзейнай гаспадаркі. Маленькія шыракатварыя чалавечкі, больш прыемныя на знешнасць за пераважную колькасць людзей, весела назіралі зверху і чакалі, пакуль хто-небудзь зніме з іх галовы і забярэ цукеркі. Побач можна было знайсці скрыпкі, барабаны, бубны, кнігі, скрынкі з інструментамі, фарбамі, цукеркамі — усе магчымыя віды скрынак; цацкі для старэйшых дзяўчынак зіхацелі больш за золата і каменні дарослых. На дрэве кошыкі і падушачкі для шпілек розных памераў суседнічалі са стрэльбамі, мячамі ды сцягамі; вядзьмаркі прадказ-

валі будучыню, стоячы на зачараваных колах з кардону. Ваўчкі, ігольніцы, ачышчальнікі для пер'яў, флаконы з нюхальнай соллю, картачкі з пытаннямі, падстаўкі для букетаў, фрукты, якія здаліся б сапраўднымі, калі б не бліскучы лісток з залатой фольгі, яблыкі, грушы, грэцкія арэхі з сюрпрызамі… Карацей кажучы, як адна прыгожая дзяўчынка перада мной з захапленнем прашаптала сваёй сяброўцы: «Там было ўсё, і нават болей».

Дрэва было ўвешана дзіўнымі рэчамі, нібыта фруктамі, і гэтыя фрукты, на якія з усіх бакоў былі накіраваны позіркі дзяцей — некаторыя з іх нават і да стала не даставалі, а некаторыя і зусім сядзелі, прытуліўшыся да грудзей маці, цёткі ці нянькі — сталі ўвасабленнем дзіцячых слабасцей. Тады я задумаўся пра тую некранутую прыгажосць дрэў, якія растуць, і усіх рэчаў, што ствараюцца на зямлі.

Я вярнуўся дадому і, калі ўсе ўжо спалі, успаміны дзяцінства, такія прыемныя і прывабныя, што немагчыма было ім супраціўляцца, захапілі мяне. Я пачаў узгадваць, што ж мы памятаем лепей за ўсё з галін Каляднай Ялінкі, па якіх прабіраліся ў дарослае жыццё.

У сярэдзіне пакоя ўзвышаецца дрэва-прывід, не сціснутае сценамі ці столлю. І, гледзячы на летуценную яркасць яго верхавіны — таму што мне здаецца, што гэтае дрэва расце не ўніз, а ўверх — я ўзіраюся ў свае самыя раннія калядныя ўспаміны!

Спачатку цацкі. Вось там, наверсе, сярод зялёнага падуба з яго чырвонымі ягадамі, схавалася Лялька-Куляйка, якая ніколі не падае, але і стаяць спакойна не будзе — працягне катацца сюды-туды на сваім тоўстым жываце, а потым, калі я засмяюся надзвычай гучна, утаропіцца на мяне сваімі маленькімі, як у рака, вачыма, што ажно прыйдзецца хаваць свой страх. Зусім побач — д'ябальская табакерка, з якой выскаквае дэманічная постаць Саветніка ў чорнай мантыі, з ускудлачанымі валасамі і шырока раскрытым ротам з чырвонай тканіны. На яго брыдка было глядзець, але і падзецца ад яго не было куды: у маіх снах ён заўсёды з'яўляўся са сваёй табакеркі нават тады, калі менш за ўсё чакаеш. Зусім як тая жаба, у якой на хвасце паліровачны воск: ніколі не ведаеш, адкуль яна скокне і калі, праляцеўшы над свечкай, сядзе табе на далонь і пакажа сваю зялёную ў чырвоных кропках спіну — яна дужа брыдкая. Кардонная дама ў спадніцы з блакітнага шоўку, якая прыхілілася да падсвечніка на той жа галіне і нібыта чакае запрашэння на танец, выглядае добрай, яна прыгожая; але не магу сказаць гэтага пра кардоннага чалавечка, крыху большага за яе, якога вешаюць на сцяну і цягнуць за шнурок — было нешта дужа злавеснае ў яго твары, а калі ён закідвае ногі сабе на шыю (што здараецца часта), ён натуральна страшэнны, нават у адным пакоі з ім заставацца жудасна.

А гэтая жахлівая маска! Калі яна ўпершыню паглядзела на мяне? Хто яе тады надзеў і чаму я так спужаўся, што яе вобраз заўсёды са мной, нават зараз? Сама маска не брыдкая, нават павінна была быць смешнай, але чаму цвёрдыя рысы аказаліся такімі невыноснымі? Вядома, не таму, што пад ёй хаваўся чалавечы твар. З такім жа поспехам твар можна было прыкрыць фартухам, і хаця я палічыў бы за лепшае, каб і яго не было, але фартух усё ж не такі жудасны. Мабыць, уся справа была ў нерухомасці маскі? У лялькі таксама твар нерухомы, але ж яе я не баяўся. Ці, магчыма, мяне здзівіла тое, як можа змяніцца твар, і маім трапяткім дзіцячым сэрцам авалодаў страх, што раней ці пазней такое здарыцца з усімі людзьмі! Нішто не здолела прымірыць мяне з ёй. Ні барабаншчыкі, якія тужліва чырыкалі, калі нехта паварочваў ручку; ні нават полк жаўнераў з аркестрам, якіх па чарзе даставалі

са скрыні ды насаджвалі на кароткія, разам счэпленыя шпянькі; ні старая, зробленая з пап'е-машэ, жанчына, якая адразала два кавалкі пірага маленькім дзецям, — нічога не здолела мяне супакоіць. Мне паказалі, што маска зроблена са звычайнай паперы, а потым зусім закінулі яе на шафу і сказалі, што болей яе ніхто не надзене, але і гэта не дапамагло. Аднаго толькі ўспаміну пра гэты застылы твар, простага ведання, што ён недзе ёсць, хапала, каб я прачынаўся ўначы ў поце і з жахам крычаў: «Я ведаю, яна ідзе! А-а-а! Маска!»

У дзяцінстве я нават не думаў спытацца ў бацькоў, з чаго зроблены мой стары добры вослік з кошыкам — такой сапраўднай здавалася яго скура навобмацак! А чорны конь у чырвоныя яблыкі, такі вялікі, што на яго можна было ўсесціся верхам? Мне ніколі не хацелася дазнацца, што магло давесці яго да такога дзіўнага стану, а той факт, што падобныя коні нячаста разгульвалі па Ньюмаркеце, гарадку, знакамітаму на ўсю Англію сваімі стайнямі і іпадромам, нікольki мяне не здзіўляў. Побач з ім вышыхтавалася чацвёрка цьмяных, бясколерных конікаў, якія везлі воз з сырам і якіх можна было распрагаць ды ставіць пад піяніна, што было для іх стайняй. На кончыках іх хвастоў было прышыта нешта падобнае да ўрыўкаў футравага каптура; гэты ж зношаны каптур выступаў і ў ролі грывы. Замест ног да іх тулаваў былі прымайстраваны калкі; але чараўніцтвам Каляд гэтыя конікі ператвараліся ў заводных жарабцоў. Тады нават збруя, прыхапкам прыбітая да грудзей, не магла сапсаваць маё ўражанне — я папросту не заўважаў гэтага. Пазней мне ўсё ж такі стала вядома, што музыка, якая гучала, калі вазок рухаўся, стваралася калыпкамі і правадкамі, уяўляеце сабе? Мая невалячка заўсёды здавалася мне лагоднай, хоць і нейкай дурнаватай; ну навошта па адной драўлянай рамцы караскацца ўгару, а потым галавой наперад па другой вяртацца ўніз? А вось на ўсходы Якава, гэткае цуда з цудаў, я не мог нарадавацца. На кожнай з прыступак, якія былі зроблены з чырвонага дрэва і з шумам высоўваліся адна за адной, можна было ўбачыць розныя малюнкі, а яшчэ яны былі зверху дадолу ўсеяны маленькімі званочкамі.

Ой, а лялечны дом! Канешне, яго ўладальнікам быў не я, але з гаспадаром я быў на кароткай назе і часам туды наведваўся. Што ёсць будынак Парламента Вялікабрытаніі ў параўнанні з гэтым замкам з каменным фасадам, сапраўднымі шклянымі вокнамі, ганкам і гаўбцом, у шмат разоў зялянейшым ды пышнейшым за тое жудаснае падабенства, якое чамусьці ўсталёўваюць нават у аранжарэях? Калі ўся пярэдняя частка дома здымалася, было бачна, што лесвіца паміж першым і другім паверхамі адсутнічала, але варта было паставіць фасад на месца, і дом зноў быў як сапраўдны. У любым выпадку, лесвіца была адзінай нястачай дома. Знутры пакоі былі раздзельныя: густоўна абстаўленыя гасцёўня, спальня, але найпрыгажэйшай была кухня з нязвыкла мяккімі каміннымі прыладамі і малюсенечкім посудам. У кухні стаяла маленечкая пліта, каля якой застыў у адной паставе алавяны кухар. Да кожнага прыёма ежы збіраўся падсмажыць дзве рыбіны. Я глядзеў на драўляныя талерачкі з такімі стравамі як вяндліна і індычка, прыпраўленыя чымсьці зялёным, што асацыявалася ў мяне з мохам, і адчуваў сябе жабраком на Бармесідавым банкеце — стравы ж тыя былі прыклеены да талерак. Зараз я думаю прапанаваць усім сучасным суполкам змагання за цвярозасць навучыцца гатаваць такую гарбату, якую я піў з блакітнага фаянсавага набору, вадкасць з якога не разлівалася, і ад таго, што яе налівалі з маленькай драўлянай бочачкі, смакам нагадвала запалкі. Хто захоча адмовіцца ад гарачыльных напояў дзеля такой амброзіі! Ці важна тое, што

не прызначаныя для выкарыстання шчыпцы для цукру нічога не маглі ўхапіць сваімі няўмелымі, як рукі Панча, клюшнямі? Аднойчы я, выпадкова праглынуўшы расталую ў занадта гарачай гарбаце лыжачку, падумаў, што атруціўся, і завішчаў, да смерці напалохаўшы шаноўнае грамадства, але нічога страшнага не адбылося, акрамя таго, што было з'едзена некалькі кавалачкаў сапсаванай лыжачкі.

На галінах ніжэй, каля зялёных галубоў і малюсенькіх копій садовых прылад, былі густа навешаны кнігі. Самі па сабе яны былі танюткімі, але колькасць іх бліскучых гладкіх вокладак яркіх адценняў зялёнага і чырвонага зачароўвала. Са старонак кніг на мяне глядзелі тлустыя чорныя літары. «А — аловак, майстар на ўсе рукі, ён можа намаляваць увесь свет». Несумненна! А на наступнай старонцы ўжо адлюстраваны апетытныя ажыны, і таксама на «А». У свой час ён шмат чаго дамогся, гэты А, як і большасць ягоных сяброў, акрамя, мабыць, Э, які сустракаўся ў нашых краях гэтак жа рэдка, як Эдэльвейс ці Эўкаліпт; Ю, які даўно састарыўся і будзе навек пахаваны разам з Юнонай і Юпітэрам, ды Ў, з якім не жадае заручыцца ніводнае слова і які вымушаны ўсё жыццё бегчы з аднаго месца на іншае. Але паглядзіце — зараз ялінка ператвараецца ў бабовае сцябло, тое ж самае велізарнае бабовае сцябло, па якім Джэк залез у волатаву хату! А вось і самі волаты, двухгаловыя і вельмі цікавыя, з дубінкамі за плячыма стройнымі шэрагамі маршыруюць па суках, за валасы цягнучы рыцараў і дам да стала. Якую шляхетнасць надаюць Джэку хуткія ногі і востры меч! Калі я гляджу на яго, мяне зноў і зноў адольваюць роздумы. Я пытаю сябе, ці могуць у свеце існаваць некалькі Джэкаў, але хочацца верыць, што сапраўдны, вядомы і шаноўны Джэк усё ж такі адзін, што ён адзін даў рады ўсім злодзеям і адзін здзейсніў усе подзвігі.

Які колер часцей сустракаецца падчас Калядных гулянняў? Так, чырвоны. Чырвоны Каптурок з казкі быў якраз такім. Дзяўчынка хавалася за адной-адзінюткай ялінкай, якая ўвасабляла цэлы лес. Аднойчы на Каляды яна прыйшла да мяне са сваім кошыкам і папярэдзіла пра злосць і здраду падступнага Ваўка, які з'еў яе бабулю, а потым, не наталіўшы голад, з'еў і яе, папярэдне адпусціўшы знакаміты жарт пра зубы. Тады я закахаўся ў першы раз. Мне здавалася, што я змагу спазнаць сапраўдную асалоду толькі калі ажанюся з дзяўчынкай у чырвоным каптурыку. Але гэтаму не было наканавана адбыцца, і мне нічога не заставалася, як, знаходзячы ваўка ў Ноевым каўчэгу, зноў і зноў ставіць яго апошнім у чарзе на выратаванне. Так я хацеў зняважыць гэтага, як я думаў, амаральнага монстра. Якім жа цудоўным быў Ноеў каўчэг! Ён, праўда, трымаўся на вадзе ў карыце з рук прэч дрэнна; жывёлаў трэба было па адной прапіхваць праз дах, а потым спадзявацца, што яны не вываляцца з няшчыльна замкнёных на драцяную завесу дзвярэй. Але што мне былі тыя пакуты, калі я цешыўся мухай, і амаль такой жа велізарнай, як слон, багоўкай, і матылькoм — сапраўды, хараство выратуе свет! А гуска, чые лапкі былі такія маленькія і якая так дрэнна на іх трымалася, што звычайна падала наперад і збівала з ног усё астатняе жывёльнае царства. А Ной з яго сям'ёй, падобныя да дураслівых таўкачыкаў тытуню; а леапард, які прыліпаў да цёплых маленькіх пальчыкаў, а хвасты большых жывёл, што паступова пераўтвараліся ў раскудлачаны шматок нітак!..

Тсс! Зноў лес, і хтосьці на вяршаліне дрэва — ні Робін Гуд, ні Валянцін, ні Жоўты Карлік (я пакінуў яго і ўсе цуды з казак Матухны Банч незаўважанымі). Не, гэта ўсходні Кароль, з бліскучай шабляй, у чалме. Клянуся Алахам! Там два ўсходнія Каралі, бо я бачу яшчэ аднаго за яго плячыма. Унізе на

траве, каля каранёў дрэва, выцягнуўся ва ўвесь рост і спіць чорны, як сажа, Велікан, паклаўшы галаву на калені дзяўчыны; каля іх — шкляная скрыня, зачыненая на чатыры замкі з бліскучага металу; у ёй Велікан трымае дзяўчыну, калі не спіць. Вось я бачу чатыры ключы на яго папрузе. Дзяўчына робіць знакі двум Каралям на дрэве, якія нячутна спускаюцца. Так пачынаецца адзін з сюжэтаў знакамітых казак «Тысячы і адной ночы».

О, цяпер усе вядомыя рэчы робяцца невядомымі і дзіўнымі для мяне! Усе лямпы цудоўныя, усе пярсцёнкі — талісманы. Звыклыя гаршчкі з-пад кветак паўнюткія скарбу, злёгку прысыпанага зямлёй зверху; дрэвы растуць, каб у іх хаваўся Алі-Баба; біфштэксы адно каб кідаць іх у Дыяментавую даліну, дзе каштоўныя камяні прыліпнуць да іх і адкуль арлы аднясуць іх у свае гнёзды, дзе гандляры спудзяць іх гучнымі крыкамі. Усе пірагі робяцца па рэцэпце сына візіра з Бусары, які зрабіўся кандытарам пасля таго, як яго высадзілі ў адным споднім ля варот Дамаска. Кожны шавец — Мустафа і мае звычку сшываць парэзаных на чатыры часткі людзей, якіх да яго прыводзяць з завязанымі вачыма.

Любое колца, умацаванае ў камень, — уваход ў пячору, якая толькі і чакае чараўніка. Трошкі агню, вядзьмарства — і тады зямля скаланецца. Усе прывезеныя да нас фінікі раслі на тым жа дрэве, што і той нешчаслівы фінік, чыёй костачкай гандляр выбіў вока нябачнаму сыну джына. Усе масліны — з таго запасу, пра які даведаўся Уладыка прававерных, калі падслухаў хлопчыка, каторы, гуляючы, уяўна судзіў хлуслівага прадаўца маслін; усе яблыкі — сваякі таго яблыка, што быў куплены (разам з двума іншымі) у садоўніка султана за тры цахіны і які ў дзіцяці скраў высокі чорны раб. Усе сабакі нагадваюць таго сабаку, на самай справе пярэваратня, які скокнуў цераз прылавак пекара і паклаў лапу на фальшывую манету. Увесь рыс падобны да таго рысу, які жудасная жанчына-вампір магла збіраць толькі па зярнятку з-за сваіх начных пагулянак на могілках. Нават мой цацачны конік (вось ён, з выкручанымі ноздрамі — прыкмета пароды!) павінен мець калочак у шыі, каб панесці мяне, як драўляны конь імчаў прынца Персіі на вачах усіх прыдворных яго бацькі.

Так, кожная рэч, якую я бачу сярод верхніх галінак маёй калляднай ёлкі, бачыцца мне ў гэтым цудоўным свеце. Калі я прачынаюся ў ложку на світанні халодным цёмным зімнім ранкам і белы снег цьмяна зіхаціць праз заінелыя шыбы, я чую голас Дынарзады: «Сястра, сястра, калі яшчэ не спіш, малю цябе, скончы гісторыю пра маладога караля з Чорных выспаў». Шахерызада адказвае: «Калі мой уладыка султан дазволіць мне пражыць яшчэ дзень, сястра, я не толькі скончу гэтую, але і раскажу яшчэ больш цудоўную гісторыю». Затым султан пакідае пакой, не даючы загад аб пакаранні, і мы ўтрох зноў можам дыхаць.

На гэтай вышыні маёй ялінкі я пачынаю бачыць жудасны кашмар, выкліканы індычкай, ці пудынгам, ці салодкім піражным, ці фантазіямі, дзе перамешаны Рабінзон Круза на бязлюдным востраве, Філіп Кворл сярод мартышак, Сэндфард і Мертан з містарам Барлаў, Матухна Банч і Маска; ці, можа, гэта вынік нястраўнасці, да якой прыбавіліся ўяўленне і празмернае лекаванне. Кашмар невыразны, што я не разумею, чаму ён выклікае бязмежны жах, але ведаю, што гэта менавіта так. Я магу разгледзець толькі безліч бясформенных рэчаў, якія нібы ўтрымліваюцца моцна перабольшанымі шчыпцамі, што раней хапалі цацачных салдацікаў, і яны то падступаюць павольна пад самыя вочы, то знікаюць у бясконцай далечыні. Калі яны падступаюць, робіцца горш. З імі звязаны для мяне ўспаміны пра зімовыя

вечары, неверагодна доўгія; пра тое, як даводзілася рана класціся спаць у пакаранне за нязначны праступак і як я прачынаўся праз дзве гадзіны, адчуваючы, што праспаў дзве ночы; пра роспачнае чаканне раніцы, што ніяк не надыходзіць, і пра прыгнятальныя дакоры сумлення.

А вось я бачу маленькія агеньчыкі, якія цудоўным ланцужком падымаюцца з падлогі па шырокай зялёнай заслоне. Вось звініць званочак — чароўны званочак, чый гук для мяне дагэтуль не падобны да іншых, — і гучыць музыка сярод гоману галасоў і духмянага водару мандарынавых шкарлупак і алею. Зараз жа чароўны званочак загадвае музыцы спыніцца, і шырокая зялёная заслона велічна падымаецца — пачынаецца Прадстаўленне! Верны сабака з Мантаржы помсціць за смерць свайго гаспадара, злачынна забітага ў лесе Бондзі; і пацешны Селянін, з чырвоным носам і ў вельмі маленькім капелюшы, якога я з гэтай пары лічу за сябра (здаецца, ён быў Слугой ці Конюхам у сельскай карчме, але шмат гадоў прайшло з таго часу, як мы з ім сустрэліся), заўважае, што адвагі сабаку сапраўды не пазычаць, і навечна гэта камічнае параўнанне не згасне і не завяне ў маёй памяці, застанецца лепшым з усіх жартаў на ўсё жыццё. Ці раптам я з горкімі слязьмі даведваюся, як няшчасная Джэйн Шор, уся ў белым і з распушчанымі каштанавымі валасамі, блукала, галодная, па вуліцах; ці як Джордж Барнуэл забіў самага паважанага ў свеце дзядзьку і потым так бедаваў, што яго павінны былі адпусціць.

Каб супакоіць мяне, хутка з'яўляецца Пантаміма — дзівосны феномен — калі страляюць клоўнамі з зараджанай марціры па вялізнай жырандолі, гэтым яскравым сузор'і; калі Арлекін, увесь пакрыты луской з чыстага золата, выкручваецца і зіхаціць, як дзіўная рыба; калі Панталон (мяркую, не будзе нічога непачцівага, калі я ў думках прыраўноўваю яго да свайго дзядулі) усоўвае распаленую качаргу ў кішэню ды крычыць: «Хтосьці ідзе!» ці выкрывае Клоўна ў дробным крадзяжы, прыгаворваючы: «Цяпер я бачыў, што гэта зрабіў ты!», бо тут Усё здольнае з лёгкасцю ператварыцца ў Нешта; і «Няма нічога, чаго б не змяняла думка». І цяпер я, мабыць, упершыню разумею тужлівае адчуванне — якое часта ўзнікала ў далейшым жыцці, — што я буду няздольны заўтра вярнуцца ў сумны і сталы свет; што я хачу заўсёды жыць у светлай атмасферы, якую пакідаю; што я так кахаю маленькую фею з чароўнай палачкай, падобнай да жэзла нябеснага цырульніка і мару пра чароўнае бяссмерце разам з ёй. Ах, яна вяртаецца ў многіх абліччах, калі маё вока блукае па галінах маёй Каляднай Ялінкі, і гэтак жа часта знікае, — яна ні разу не засталася са мной!

З гэтай чароўнасці ўзнікае цацачны тэатр — вось ён, са знаёмым прасцэніумам і дамамі ў пер'і ў ложах — і ўсе заняткі звязаны з клеем, смалой і акварэллю пры пастаноўцы «Млынара і яго работнікаў» і «Элізабэт, ці «Выгнанне ў Сібір». Нягледзячы на некаторыя здарэнні і збоі (асабліва неабгрунтаваная схільнасць шаноўнага Кельмара і некаторых іншых адчуваць слабасць і згінацца ў хвалюючыя моманты драмы), багаты свет фантазіі такі прывабны і ўсеабдымны, што ў самым нізе маёй Каляднай Ялінкі я бачу цёмныя і брудныя, у дзённы час, сапраўдныя тэатры, упрыгожаныя гэтымі асацыяцыямі, як самымі свежымі гірляндамі з самых рэдкіх кветак, і ўсё яшчэ чароўныя для мяне.

Але паслухайце! Калядоўшчыкі спяваюць свае песні і перапыняюць мой дзіцячы сон! Якія вобразы звязваю я з гэтай каляднай музыкай, як бачу іх, прадстаўленых на маёй Каляднай Ялінцы? Здаўна вядомыя, раней за ўсіх астатніх, яны збіраюцца вакол майго маленькага ложка. Анёл звяртаецца да

групы пастухоў у полі; вандроўцы, узняўшы вочы, сочаць за зоркай; немаўля ў яслях; дзіця ў прасторным храме размаўляе з сур'ёзнымі людзьмі; урачыстая постаць з лагодным і прыўкрасным тварам бярэ за руку мёртвую дзяўчыну і ўваскрашае яе; ды зноў ля гарадской брамы заклікае да жыцця сына ўдавы з яго смяротнага ложка; натоўп людзей зазірае ў расчынены дах пакоя, дзе ён сядзіць, і на вяроўках яны спускаюць хворага разам з ложкам; ён жа ў буру ідзе па вадзе да карабля; вось ён на беразе мора навучае вялікую колькасць людзей; вось сядзіць з дзіцём на каленях, а вакол яго іншыя дзеці; а вось вяртае зрок сляпому, мову нямому, слых глухому, здароўе хвораму, сілу кульгаваму, веды невуку; і вось памірае на крыжы пад аховай узброеных жаўнераў, і апускаецца змрок, трасецца зямля і толькі самотны голас чуецца: «Даруй ім, бо не ведаюць, што чыняць!»

На ніжэйшых, больш сталых галінах ялінкі, калядныя ўспаміны месяцца гэтак жа шчыльна. Падручнікі загорнуты; змоўклі Авідзій і Вяргілій; патройнае правіла з яго нахабнымі і ўедлівымі пытаннямі даўно пройдзена; Тырэнцы ды Плаўт больш не граюцца на арэне з ссунутых партаў, пакрытых кляксамі, засечкамі і шчарбінамі; крыкетныя біты і мячы высока закінуты разам з пахам вытаптанай травы і заглушаным гоманам у вячэрнім паветры; ялінка яшчэ зялёная, яшчэ вясёлая. Калі б я больш не прыязджаў на Каляды дадому, тут хапіла б іншых хлопчыкаў і дзяўчынак (дзякуй Богу!) пакуль свет стаіць, бо яны прыязджаюць! Вось яны весела танчаць і гуляюцца на галінах маёй ялінкі, блаславі іх Бог, і сэрца маё гуляе і танчыць разам з імі!

Але ж пакуль і я прыязджаю дадому на Каляды. Мы ўсе прыязджаем ці павінны прыязджаць на кароткія вакацыі — а чым даўжэй, тым лепей — з той вялікай школы-інтэрната, дзе мы ўвесь час б'емся над нашай арыфметыкай, прыязджаем, каб адпачыць і даць адпачыць іншым. А куды б мы маглі наведацца… ды хаця б туды, дзе яшчэ не бывалі, туды, куды нас панясе ад Каляднай Ялінкі наша фантазія!

Наперад, у зімовую далячынь! На ялінцы ёсць і гэта! Па нізіннай туманнай зямлі, скрозь балоты і туманы, да доўгіх пагоркаў віецца яна, цёмная, як пячора, паміж густых зараснікаў, якія амаль закрываюць бліскучыя зоркі; да шырокай вышыні, пакуль мы нарэшце не спынімся ў раптоўнай цішыні. Звон на браме мае глыбокі, напалову жудасны гук у марозным паветры; расчыненыя вароты пагойдваюцца на завесах; і калі мы пад'язджаем да вялікага дома, мігатлівае святло ў вокнах разгараецца яшчэ ярчэй і дрэвы абапал дарогі ўрачыста разыходзяцца, каб нас прапусціць. Час ад часу на працягу дня пранясецца па адбеленым дзірване спалоханы заяц; ці аддалёны тупат аленевага статку па цвёрдай зямлі на хвіліну парушыць цішыню. Іх пільныя вочы, напэўна, і зараз, калі прыгледзецца, зазіхацяць пад папараццю ледзянымі расінкамі; але алені прыціхлі і прыціхла ўсё навокал. Такім чынам, калі святло ў вокнах разгараецца ярчэй і дрэвы разыходзяцца і сыходзяцца за намі зноў, быццам забараняючы адступленне, мы пад'язджаем да дома.

Дома вельмі ўтульна: пахне смажанымі каштанамі і іншымі смачнымі стравамі, а мы расказваем Зімовыя гісторыі — гісторыі пра прывідаў вакол Каляднага каміна, і не кранаемся з месцаў, хіба толькі прысоўваемся бліжэй да агню. Гэта стары дом з процьмаю вялікіх камінаў, дзе вялікія бярвенні паляць, а змрочныя партрэты (з некаторымі з іх звязаны не менш змрочныя легенды) злосна паглядаюць з дубовых абшывак сцен. Мы цяпер — шляхцічы сярэдняга ўзросту і разам з гаспадаром, ягонай жонкай і гасцямі сядзім за багата накрытым сталом — падчас Калядаў хата поўніцца людзьмі, пасля чаго ідзём адпачываць. Наш пакой вельмі стары. Паўсюль

габелены. Нам не да спадобы партрэт кавалера ў зялёным, што вісіць над камінам. Вялікія чорныя бэлькі праходзяць па столі, а вялікі чорны каркас ложка ля падножжа падтрымліваюць дзве вялікія чорныя фігуры, што, здаецца, назнарок дзеля нашага жылля сышлі з надмагільных помнікаў у старым баронскім храме, які месціцца ў парку. Але мы не прымхлівыя, і нас гэта не бянтэжыць. Вось! Мы адпусцілі свайго слугу, замкнулі дзверы і сядзім перад агнём у роздумах. Урэшце мы кладзёмся спаць. Вось! Немагчыма заснуць. Усё варочаемся і не можам заснуць. Зманлівае святло вуголля, што тлее, надае пакою прывідны выгляд. Мы міжвольна паглядаем з-пад коўдры на дзве чорныя фігуры і кавалерыста — таго самага, у зялёным, з нейкім шалёным позіркам. У мільгаценні святла, здаецца, яны то набліжаюцца, то аддаляюцца, што непрыемна, хоць мы і без забабонаў. Вось! Пачынаем нервавацца — і ўсё больш і больш. Мы кажам: «Гэта дурасць, але гэта немажліва вытрымаць, і мы зробім выгляд, што захварэлі, і паклічам — хай хто-небудзь прыйдзе». Вось! Толькі збіраемся дзейнічаць, як замкнёныя дзверы адчыняюцца, і ў пакоі з'яўляецца змярцвела-бледная кабета з доўгімі светлымі валасамі; яна плаўна набліжаецца да агню і, заломваючы рукі, сядае на пакінутае тамака крэсла. Потым прыкмячаем, што вопратка яе вільготная. У нас язык прыліп да паднябення, а мы і слова не можам мовіць, але працягваем унікліва назіраць за ёю. Адзенне яе вільготнае, у доўгіх валасах заблыталася ціна; апранута яна па модзе замінулага стагоддзя; а на поясе — вязанка ржавых ключоў. Вось! Сядзіць яна, а мы так расхваляваліся, што не ў стане і прытомнасць страціць. Неўзабаве яна ўстае і спрабуе ўсе замкі сваімі ржавымі ключамі, але ніводзін не падыходзіць; затым яна спыняе свой позірк на партрэце кавалера ў зялёным і кажа ціхім злавесным голасам: «Пра гэта ведаюць алені!», пасля чаго зноў заломлівае рукі, рухаецца міма ложкаў і сыходзіць праз дзверы. Мы хутка апранаем халаты, хапаем пісталеты (мы заўсёды іх бяром у вандроўкі) і шыбуем наўздагон, але дзверы аказваюцца замкнёнымі. Мы паварочваем ключ і прасоўваемся ў цёмную галерэю — нікога. Мы цягнемся назад, спрабуючы знайсці слугу. Але не атрымліваецца. Світанне мы сустракаем, блукаючы па галерэі, потым вяртаемся ў пакой, засынаем, нас будзяць слуга (ён жа не баяўся ніякіх зданяў) і сонечнае святло. Вось! Неахвотна снедаем, і ўсе прыкмячаюць наш дзівакаваты выгляд. Пасля сняданку мы з гаспадаром абыходзім дом і падводзім яго да партрэта кавалера ў зялёным — і тут усё высвятляецца. Гэты кавалер ачмурыў маладую аканомку, знаную прыгажуню, што аддана служыла гэтай сям'і; яна скончыла жыццё самагубствам у сажалцы, а цела яе знайшлі значна пазней, калі алені не захацелі больш піць ваду з гэтага стаўка. З таго моманту пайшлі чуткі, што апоўначы кабета наведвае дом (асабліва той пакой, дзе меў звычку спаць той самы кавалер у зялёным), спрабуючы старыя замкі сваімі ржавымі ключамі. Вось! Мы распавядаем гаспадару дома, што мы бачылі, і па яго твары праходзіць цень страху; ён упрошвае нас утойваць усё; мы так і робім. Але гэта ўсё шчырая праўда; і перад смерцю (а цяпер мы ўжо адышлі ў вечнасць) мы паведамілі пра гэта некаторым надзейным людзям.

Такіх старых дамоў безліч: з гулкімі галерэямі, змрочнымі раскошнымі спальнямі, з зачыненымі ўжо шмат гадоў флігелямі, аблюбаванымі зданямі, дзе, шпацыруючы, адчуваеш прыемны халадок, сустракаючы прывідаў у любой колькасці, але (і гэта варта, напэўна, прыкмеціць) абмежаванай парачкаю агульных тыпаў і разрадаў, таму што прывіды не вылучаюцца нейкай своеасаблівасцю і блукаюць пратаптанымі дарожкамі. Таму бывае,

што ў нейкім пакоі нейкага маёнтка, дзе застрэліўся нейкі лорд, баранет, рыцар ці проста шляхціч, ёсць нейкія масніцы, з якіх не сыходзіць кроў. Можна іх скрэбці ды скрэбці, як гэта робіць цяперашні гаспадар, ці стругаць ды стругаць, як гэта рабіў яго бацька, ці шараваць ды шараваць, як яго дзед, ці паліць ды паліць кіслотамі, як яго прадзед, але крывяная пляма застаецца — не больш яркая, не больш бледная, не павялічваецца і не змяншаецца — заўсёды тая ж самая. Бывае, у іншым такім доме ёсць загадкавыя дзверы, што немажліва адчыніць; альбо тыя, што немажліва зачыніць, ці дзіўнае гучанне калаўрота, стуканне малатка, ці нечыя крокі, крыкі, стогны, грукат каня, ці бразганне ланцугоў. Ёсць яшчэ гадзіннік на вежы, што апоўначы выбівае трынаццаць разоў — знак немінучай смерці галавы сям'і; альбо прывідная чорная нерухомая карэта, якую заўсёды хто-небудзь ды ўбачыць у такі час, чакае ля брамы, што вядзе ў конны двор. Альбо бывае так, як здарылася з лэдзі Марыяй, калі яна паехала пагасцяваць у занядбаны замак у горнай Шатландыі і, стомленая пасля доўгай дарогі, легла спаць рана, а раніцай за сняданкам наіўна выказала сваё здзіўленне познім вечарынам у гэтым аддаленым месцы і паскардзілася, што ніхто яе пра гэта не папярэдзіў перад тым як яна пайшла адпачываць. Тут усе пачалі пытаць ледзі Марыю, што яна мае на ўвазе. Яна паведаміла, што цэлую ноч пад яе вокнамі кружылі і кружылі нейкія карэты. Тут гаспадар збялеў, збялела і яго жонка, а Чарльз Макдудл з клана Макдудлаў падаў знак лэдзі, каб тая не мовіла больш ні слова, і павісла цішыня. Пасля снядання Чарльз расказаў лэдзі Марыі, што ёсць павер'е ў сям'і, быццам гэтыя шумлівыя карэты, якія заязджаюць на двор, прадракаюць смерць. Так яно і адбылося: праз два месяцы ўласніца замка памерла. А лэдзі Марыя, якая з'яўлялася фрэйлінай, расказвала пра тое старой каралеве Шарлоце, насуперак каралю, які ўсё дзёўб: «Што? Што? Якія здані? Няма іх, гэта байкі!» І ўсё працягваў паўтараць, пакуль не ішоў спаць.

Яшчэ некалі сябар нашага знаёмага, калі ён вучыўся ва ўніверсітэце, меў сябра, з якім у яго была дамоўленасць, што калі душа пасля смерці вяртаецца на зямлю, тады той, хто з іх першы памрэ, з'явіцца другому. З цягам часу наш сябар забыўся пра тую дамоўленасць; жыццёвыя шляхі сяброў разышліся. Але аднойчы ўначы, праз шмат гадоў, калі наш герой, трапіўшы ў паўночную Англію, заначаваў у гасцініцы, у месячным святле ён убачыў свайго сябра, які, стоячы каля акна, пільна глядзеў на яго! Здань, калі да яе звярнуліся, шэптам, але вельмі выразна адказала: «Не падыходзь да мяне. Я памёр. Я з'явіўся, каб выканаць сваё абяцанне. Я прыйшоў з іншага свету, але не маю магчымасці выкрываць яго таямніцы!» Потым здань стала бляднець і, расплываючыся, знікла ў месячным святле.

Або іншы выпадак: у першага ўладальніка цудоўнага Лізавецінскага замка, добра вядомага ва ўсёй нашай акрузе, была дачка. Вы чулі пра яе? Не? Дык вось, аднойчы, летнім вечарам, у змроку, прыгожая дзяўчына сямнаццаці гадоў выйшла ў сад, каб нарваць кветак, і, раптам спалоханая, забегла ў хату да бацькі і кажа: «Ох, дарагі бацька, я сустрэла сама сябе!» Ён абняў яе і сказаў, што гэта толькі здалося ёй, але яна адказала яму: «Не, не! Я сустрэла сама сябе на алеі. Я была бледнай і збірала звялыя кветкі, потым, павярнуўшы галаву, падняла іх над сабой!» І ў тую ж ноч яна памерла; а карціна, якая адлюстроўвала яе жыццё, была пачата, але так і не была скончана, і цяпер яна стаіць недзе ў хаце, павернутая да сцяны.

Або дзядзька жонкі майго брата, цёплым вечарам, калі заходзіла сонца, вяртаючыся вярхом дадому, сустрэў чалавека, які стаяў перад ім на сярэ-

дзіне вузкай дарогі. Ён падумаў: «Чаму гэты чалавек у плашчы стаіць тут! Ці ён хоча, каб я яго пераехаў?» Але постаць не рухалася. Яму стала жудасна ад гэтага, але ён збавіў ход і працягваў ехаць далей. Калі наблізіўся да чалавека, ды так, што ледзь не зачапіў яго страмёнам кола, яго конь струхнуўся, а той чалавек пасунуўся нейкім незвычайным, незямным спосабам — адыходзячы, і быццам не перастаўляючы нагамі — і знік з вачэй. Дзядзька жонкі майго брата ўсклікнуў: «Божа ж мой! Гэта Гары, мой кузен з Бамбея!» — потым ён даў шпоры каню, які раптам змыліўся, і, здзівіўшыся незвычайнымі паводзінамі госця, памчаўся да сваёй хаты. Там зноў сустрэў тую самую постаць, але цяпер яна ўваходзіла ў гасцёўню праз высокія шкляныя дзверы. Дзядзька кінуў павады прыслузе і паспяшаўся за ёй. Яго сястра сядзела ў гасцёўні адна. «Эліс, а дзе мой кузен Гары?» «Твой кузен?» «Так, які жыве ў Бамбеі. Я бачыў яго па дарозе да хаты і зараз, як ён толькі зайшоў сюды». Ніхто ў хаце не бачыў нікога, але ў тую самую гадзіну, як высветлілася пазней, гэты кузен памёр у Індыі.

Або тая разважлівая векавуха, якая памерла ў дзевяноста дзевяць гадоў, і да апошняга захавала яснасць думкі, — яна сваімі вачыма бачыла Хлопчыка-Сірату. Гісторыя, якую часта няправільна расказваюць, але насамрэч усё было наступным чынам. Падзеі тыя звязаны з нашай сям'ёй, а старая лэдзі належала да нашай сям'і. Калі ёй было гадоў сорак, яна была жанчынай надзвычайнай прыгажосці (каханы яе памёр маладым, яна больш не выйшла замуж, хаця прапаноў было шмат). Аднойчы яна прыехала пагасцяваць да свайго брата, індыйскага купца, у маёнтак, ім нядаўна набыты ў графстве Кент. Хадзіла гаворка, што калісьці кіраванне маёнткам было даручана апекуну малога хлопчыка, і апякун гэты, які быў спадчыннікам маёмасці, загубіў хлопца сваім жорсткім і бязлітасным абыходжаннем. Яна пра гэта нічога не ведала. Казалі, што ў яе спальні была клетка, у якую апякун нібыта саджаў хлопчыка. Нічога такога там не было. Была толькі камора. Яна пайшла спаць, уначы не падымала ніякай трывогі, а раніцай спакойна спытала ў сваёй служкі, калі тая ўвайшла: «Хто быў гэты журботны хлопчык, што ўсю ноч выглядваў з каморы?» Пакаёўка замест адказу голасна ўскрыкнула і выбегла з пакоя. Лэдзі здзівілася, але яна была жанчынай выдатнай сілы духу; сама апранулася, спусцілася ўніз і зачынілася сам-насам са сваім братам. «Вось што, Уолтар, — казала яна, — мяне ўсю ноч непакоіў журботны хлопчык, што ў маім пакоі выглядваў з каморы, якую я не магу адчыніць. Гэта нейкае свавольства?» «На жаль не, Шарлота, — кажа ён, — з гэтым домам звязана легенда пра Хлопчыка-Сірату. Што ён рабіў?» «Ён ціхенька адчыняў дзверы, — кажа яна, — і зазіраў да мяне. Часам рабіў крок або два ў пакой. Тады я клікала яго, каб пагутарыць, а ён уздрыгваў, залазіў у камору і зачыняў дзверы». «Камора не звязана ні з адным пакоем дома, Шарлота, — адказаў яе брат, — і яна забіта цвікамі». Гэта было безумоўнай праўдай, і двое цесляроў працавалі з ранку да абеду, каб яе адчыніць для праверкі. Тады яна пераканалася, што бачыла Хлопчыка-Сірату. Але самае жудаснае і страшэннае ў гэтай гісторыі тое, што Хлопчыка таксама бачылі па чарзе трое сыноў яе брата, кожны з якіх памёр у малалецтве. У кожным выпадку было ўсё аднолькава: за дванаццаць гадзін да хваробы хлопчык прыбягаў дадому ў гарачцы і казаў маці, што ён, маўляў, пад пэўным дубам, на вядомай паляне гуляў з дзіўным хлопчыкам — прыгожанькім, журботным, які быў вельмі баязлівы і падаваў яму знакі! Але па горкім досведзе бацькі пераконваліся, што гэта быў Хлопчык-Сірата, і дзецям, з якімі ён вырашыў пагуляць, жыць заставалася нядоўга.

Легіён — імя германскім замкам, дзе мы сядзім да позняй ночы, чакаючы Прывіда; дзе нас суправаджаюць да нашага пакоя, прыбранага дастаткова ахайна для нашага прыезду; дзе мы пазіраем на цені, якія агонь у каміне, патрэскваючы, адкідвае на голыя сцены; дзе нам становіцца самотна, калі гаспадар гасцініцы і яго прыгожанькая дачка нас пакідаюць, перад гэтым падклаўшы дроў у агонь і паставіўшы на стол невялічкую вячэру — халоднага смажанага каплуна, хлеб, вінаград і бутэльку старога рэйнвейна; гулка зачыняцца за імі дзверы, адны за адной, як грукат злавеснага грому; і дзе ў перадсвітальныя гадзіны нам адкрываюцца разнастайныя звышнатуральныя тайны. Легіён — імя нямецкім студэнтам, якім не даюць спакою прывіды, у прысутнасці якіх мы яшчэ больш прысоўваемся да агню, калі раптам расчыняюцца дзверы, а школьнік, што сядзеў у кутку пакоя, шырока расплюшчвае вочы і ўцякае з услончыка, на які ён прысеў. Багаты ўраджай такіх пладоў, што зіхацяць на нашай Каляднай Ялінцы, квітнеюць на самай вяршаліне, усё больш выспяваючы ў самым нізе!

Сярод нядаўніх забавак і фантазій, што вісяць там, часам больш пустыя, і менш чыстыя, — нязменныя вобразы любых старых калядных песень, мяккай вечаровай музыкі. І няхай карціны майго дзяцінства, хаця б і акружаныя свецкімі турботамі, застануцца ў памяці назаўсёды добрымі. І ў кожным вобразе і ўяўленні, што прыносіць з сабой зімняя пара, няхай яркая зорка, што павісла над дахам беднякоў, стане зоркай для ўсяго хрысціянскага свету! О, пачакай хвіліну, не знікай, Калядная Ялінка, твае ніжнія галіны такія цёмныя, дай мне зірнуць яшчэ раз! Я ведаю, сярод тваіх лапак ёсць пустыя месцы, дзе зіхацелі і ўсміхаліся любыя мне вочы, якія зараз ужо згаслі. Аднак там, увышыні, я бачу ўваскрашальніка мёртвай дзяўчыны і сына ўдавы; і Бог добры! І калі мой узрост хаваецца ад мяне ў тваім пышным прыполе, о, дазволь мне, ужо сівому, звярнуць да гэтай постаці дзіцячае сэрца, чысціню і спадзяванні!

А зараз ялінка ўпрыгожана яркай весялосцю, песнямі, танцамі і бадзёрасцю. І гэта добра! Вітаю цябе, нявіннае і чаканае, пад галінамі Каляднай Ялінкі, якая ніколі не адкідвае змрочнага ценю! А калі ён знікае пад зямлёй, я чую шэпт скрозь іглiцу: «Гэта — як памяць пра запавет любові і дабрыні, спачування і міласэрнасці. Гэта — на памяць пра Мяне!»

***Пераклад з англійскай:***
***Дар'і СТАНЦЭЛЬ, якая хоча вынайсці трэці сінонім да слоў «каханне» і «любоў», жадае авалодаць сакрэтамі старажытнай беларускай кухні і марыць пра жыццё ў вёсцы,***

***Ані КАСТУНОВАЙ, якая захапляецца гісторыяй, геаграфіяй і літаратурай, лічыць, што лінгвістычны ўніверсітэт пасуе ёй як нішто іншае,***

***Мацея БЯНЬКО, які ў дадзенай перакладчыцкай камандзе з'яўляецца адзіным хлопцам — і не вельмі пакутуе, спрабуе акунуцца ва ўсе глыбіні мастацтва — будзь то кіно, літаратура, маляванне ці дрынканне на гітары перад вогнішчам,***

***Любы КІСЕЛЬ, тыповага інтраверта, якая захапляецца музыкай, гісторыяй і марыць пабываць у халоднай і снежнай Скандынавіі, а таксама***

***Ані ГАВОРСКАЙ, Лізы ВАСІЛЕВІЧ, Марыны ЯНГІРАВАЙ.***

***Падрыхтоўка да друку Вольгі МАРОЗАВАЙ***

# ...А ПАЧАЛОСЯ З КАЗКІ

*Ёсць прапанова пазнаёміцца з творчасцю Фаіны Наканечнай, студэнткі чацвёртага курса спецыяльнасці «Міжнародная журналістыка». У нас на кафедры даўно склалася традыцыя прымаць і абмяркоўваць мастацкія творы студэнтаў розных спецыяльнасцей, бо мы шчыра верым, што калі студэнт мае літаратурныя здольнасці, а можа, нават і талент, то яго трэба заахвоціць не кідаць займацца прыгожым пісьменствам і дапамагчы ўвайсці ў сучасны літаратурны працэс.*

*Фаіна Наканечная нарадзілася ў 1993 годзе ў Слоніме. Там яна вучылася ў Ліцэі № 1 у класе з філалагічным ухілам. З ранняга дзяцінства дзяўчына цікавілася літаратурай, прычым самай рознай. Тата Фаіны часта ездзіў на працу ў Маскву і, вяртаючыся ў родны Слонім, у якасці падарунка заўжды прывозіў дачцэ незвычайныя рознакаляровыя энцыклапедыі, а таксама кнігі дзіцячых паэтаў і празаікаў.*

*Аднойчы, калі Фаіне было шаснаццаць гадоў і яна раз і назаўжды вырашыла стаць журналістам, працуючы карэспандэнтам у раённай газеце, мама дзяўчыны прыгадала, як калісьці яе малая дачка сказала: «Вось было б добра стаць пісьменнікам! Яны ж такія прыгожыя кнігі маюць. Прыйдзе хтосьці да іх у госці, а яны пакажуць свае кнігі, пахваляцца». І гэтыя крыху наіўныя словы Фаіны не былі выпадковым слоўным пасажам: юная аўтарка пачала пісаць казкі і казачныя апавяданні, якія рэгулярна публікавала ў «Слонімскай газеце». Фаіна прызнаецца, што яна не ведае, чаму выбрала менавіта жанр казкі. Гэта атрымалася неяк само сабой, бо так падказвала натхненне. Аднойчы ўвечары дзяўчына села за пісьмовы стол і літаральна за некалькі гадзін напісала казку «Разумная парада» пра разважлівага і кемлівага хлапчука, які правучыў іншых хлапчукоў-шкоднікаў ды гарэзаў. Супрацоўнікі рэдакцыі спыталі ў Фаіны, ці дапамагаў ёй хтосьці. Даведаўшыся, што дзяўчына пісала сама, яшчэ больш здзівіліся і запрасілі юную аўтарку пісаць для дзіцячай паласы штомесяц. Фаіна пагадзілася і пісала для «Слонімскай газеты» на працягу чатырох гадоў.*



*Цяпер Фаіна піша артыкулы на міжнародную тэму ў медыяцэнтры БДУ. Яна праходзіла спецыялізаваную практыку ў Германіі і Швецыі. Менавіта ў Швецыі больш падрабязна пазнаёмілася з казкамі пра «Мумі-Троляў». Пераасэнсавала іх і вырашыла, што было б добра напісаць падобную казку. Але зараз на гэта бракуе часу. Калі Фаіна мае хоць колькі вольных хвілін, то піша невялічкія апавяданні для дзяцей і падлеткаў. Дзяўчына прызнаецца, што больш піша на рускай мове, але хацелася б пісаць і па-беларуску. «Па нацыянальнасці я напалову яўрэйка і немка — па маці, а па бацьку — украінка, — гаворыць Фаіна. — Гэты "мікс" крыві ніколі не перашкаджаў мне пісаць і чытаць па-беларуску. З кожным годам ў мяне атрымліваецца ўсё лепей».*

***Арцём КАВАЛЕЎСКІ***

*Фаіна НАКАНЕЧНАЯ*

# ЧОРНАЯ ПТУШКА

Здарылася гэта, калі я была зусім маленькай дзяўчынкай. У такі час, калі толькі пачала ўдумліва разглядаць навакольны свет.

Я вельмі палюбіла прыроду, бо нарадзілася ў такім месцы, дзе заканчваўся горад і пачыналіся вёскі. Нават першае, што я памятаю ў жыцці — нясцерпны боль ад пчалінага ўкусу. Чым раззлавала пчолку — не памятаю. Можа, хацела ўзяць істотку ў свае рукі, калі тая сядзела на кветцы.

Асабліва любіла я хадзіць з матуляй да рэчкі. У той час яна была яшчэ чыстая і глыбокая. Нават памятаю, як вудзілі на яе беразе сялянскія дзеці. Шлях да рэчкі пралягаў праз поле, якое калісьці было балотам. Але ведалі пра тое толькі мае дзед ды бабуля. А тады хадзілі, ды і цяпер ходзяць па гэтай мяккай глебе кароўкі ды жуюць сваю зелёную жуйку.

Далей цягнулася танюткая паласа шашы. Ад яе пачыналася духмянае поле разнатраўя. Памятаю: хацела нарваць адной травы, вельмі падобнай да крапівы, але з вельмі прыемным пахам. Толькі наблізілася да яе, як маці ўзяла мяне за руку і павяла далей. «Гэта мята, — нібы адказвала яна майму здзіўленаму позірку. — Зараз пойдзем, а як будзем вяртацца дадому — нарвеш сабе трохі». І я паслухмяна крочыла наперад.

У травах адкрываўся праход далей, да бабровай плаціны. Колькі я ні хадзіла туды, на жаль, ніколі не бачыла ніводнага бабра. А цяпер нават не ведаю: можа, плаціны ўжо і няма на белым свеце.

Ішлі далей. Наперадзе паказваліся дахі сялянскіх хат. Недалёка ад іх ляжала невялічкае возера — такое зарослае і прыгожае, што было падобна да азёр у старых кінастужках. Яно яшчэ доўга паўставала ў мяне перад вачыма і вельмі часта снілася.

Вось на гэтым самым возеры я ўпершыню ўбачыла чорнага бусла. Так, так! Вы не памыліліся — таго самага, што зараз, як і тады, быў у Чырвонай кнізе! Кнізе, якую падарыў мне тата.

Сустрэча наша была нядоўгай: я ўбачыла толькі, як птушка, узмахнуўшы крыламі, узнялася высока ў неба. Тады я пацягнула матулю за сукенку і стала крычаць: «Мама, мама! Глядзі! Чорны бусел! Ён паляцеў у неба!» Але матуля не адказала мне, толькі ўсміхнулася сваёй добрай усмешкай. Можа, яна і не паверыла мне.

Увечары мы ішлі дадому тым жа шляхам. Я паглядзела на возера, але, на жаль, бусла не сустрэла. Назбірала вялікі букет мяты. Ён іскрыўся і смачна пах у маіх танюткіх ручках. Калі мы прыйшлі дадому, я пасадзіла некалькі парасткаў, незнарок вырваных з карэннем.

…Стала я дарослай. Мы з мамай ужо не ходзім на рэчку: змялела зусім. Але, калі я пачынаю забываць пра чорнага бусла, гляджу на духмяную мяту, якая расце за домам. Тады ўсё ўспамінаю.

# КРЫЛЫ НАД СЛАНЕЧНІКАМ

Я памятаю, што тады ішоў дождж. На вуліцы было шматлюдна: усе хацелі хутчэй схавацца ад непагадзі ў сваіх цёплых дамах. Тады я ўпершыню заўважыў яе — дзяўчыну з доўгімі валасамі, падобнымі да марскіх хваль. Яна не бегла, як усе іншыя, — толькі ўсміхалася кроплям, што падалі з неба… Памятаю: тады я ўпершыню ўбачыў яе слёзы. Яны былі празрыстыя і чыстыя, як той дождж. Я хацеў даведацца, чаму яна плача, падышоў і спытаў: «Чаму такая прыгожая дзяўчына плача? Ці не лепш ёй будзе пайсці дадому?»

— Не, не лепш. У мяне няма дома, — адказала яна.

— Не трэба вам так гаварыць! — не стрымаўся я і дадаў: — Калі вы пасварыліся са сваімі бацькамі, дык ведайце: яны заўсёды будуць вас любіць (тады чамусьці я ўспомніў сваю маці), яны даруюць вам усё.

— Не, вы мяне не зразумелі, — усміхнулася яна. — У мяне няма мамы, таты, братоў — усіх, каго вы, людзі, называеце сям'ёй.

Тады я падумаў, што гэтая дзяўчына — сірата. Але чаму яна гаварыла «ўсіх, каго вы, людзі, называеце»?..

«Можа, яна звар'яцела ці нават збегла з бальніцы, ходзіць пад дажджом і плача…» — разважаў я.

Але, калі паглядзеў на яе адзежу, заўважыў, што дзяўчына была добра апранута: модныя джынсы, майка, на якой намаляваны нейкі рок-гурт, на нагах — кеды. Усё адзенне было новым і, відаць, нятанным.

Тады я заўважыў, што і постаць яе вельмі зграбная… І ва ўсім яна вельмі прыгожая дзяўчына — не скажаш, што дурніца ці вар'ятка…

— Доўга яшчэ вы тут будзеце мяне разглядаць? — незадаволена запыталася яна.

— Чаму вы так гаворыце?— вінавата адказаў я. — Можа, вы мне падабаецеся, вось я на вас і гляджу.

— А вы мне — не, — проста адказала яна. — Вы самы звычайны хлопец. Вы шосты, хто падышоў да мяне і сказаў, што я яму падабаюся.

— А хто-небудзь з вашых «лічбаў» спытаў, чаму вы плачаце? — я паглядзеў ёй у вочы.

— Не, вы першы… — яна апусціла вейкі, а потым вінавата прамовіла: — Вы не такі, як іншыя, але, прабачце, мне трэба ісці, я спазняюся ў інстытут.

— Толькі скажыце, як вас завуць? Мы ўбачымся?

— Мы ніколі больш не ўбачымся, — адказала яна і ўскочыла ў дзверы аўтобуса, якія адразу ж зачыніліся.

Я не спаў тры дні… Я нават перастаў есці. І тады маці сказала, што я закахаўся. Але я нічога не мог ёй адказаць, бо ведаў, што больш ніколі не ўбачу дзяўчыну, якая стаяла пад дажджом.

На чацвёрты дзень мне прысніўся сон: іду я летам па полі, а яно ўсё ў сланечніках, якія цягнуцца вышэй за неба; а па полі насустрач мне ідзе яна — мая дзяўчына, ідзе ў белай празрыстай сукенцы, што нават свеціцца ад цёплага сонейка; яна адварочваецца ад мяне, і я бачу святло ад яе плячэй, бачу яе крылы. Яна падыходзіць да мяне, абдымае за плечы, а я цалую яе, і няма на свеце шчасця, большага за гэтае.

…Прайшло ўжо шмат часу пасля таго сну. У мяне ёсць дзеці — сын Міша і дачка Джулія. А калі я кажу сваёй жонцы пра мой даўні сон, яна ўсё смяецца, гладзіць свае доўгія валасы-хвалі і адказвае:

— Я не дазваляла бачыць табе маіх крылаў, нават у сне, мой «шосты».

*Валерыя РАДУНЬ*

# КАЗКІ І ЛЮДЗІ

Што такое для чалавека казка?

Лепш пачнём не так. Казка, як гавораць сур'ёзныя энцыклапедыі, гэта магіла міфа. Нешта такое, што сотні гадоў таму было прадметам пакланення і жаху, становіцца смешным, простым і несапраўдным. Хто, апрача зусім малых, баіцца Бабы Ягі ці Неўміручага Кашчэя?

Але, што для нас казка? Для тых, хто зусім ужо далёка адышоў ад міфалагічных часоў? Фэнтэзі-прыгода? Забаўляльная гісторыя для малых? Ці нешта, што нас па-свойму вучыць?

А калі вучыць, то чаму? Многія народныя казкі без апрацоўкі — даволі жорсткія, не без чорнага гумару, і зусім не для дзяцей, па некаторых прычынах. І казкі Андэрсана — таксама жорсткія, і разумныя, і прыгожыя — зноў не для дзяцей.

А што тады для дзяцей?

Чаму лічыцца, што дзіця не зразумее? Чаму казкі, як у адным сатырычным мультфільме, робяць стэрыльнымі — бо не дай Бог дзіця спужаецца? «Гады чатыры я быў бессмяротным», — казаў Самуіл Маршак. Ці трэба ведаць дзецям пра жорсткасць свету, смерць, несправядлівасць?

Прынамсі, як паказвае практыка, дзеці любяць страшныя казкі. Іх не менш, чым нас хвалююць пытанні жыцця і смерці, яны пра гэта па-свойму думаюць. Можна доўга спрачацца пра мастацкія і псіхалагічныя аспекты казкі. Можна доўга выводзіць формулы казак для дзяцей асобных узростаў. А можна проста чытаць (ці глядзець) і разважаць. Уважліва і з любоўю.

Яна з чалавекам побач са старадаўніх часоў, яна вучыць, пужае, смяецца і плача з намі. А мы не перастаем расказваць, пісаць і выдумляць казкі. Чаму? Мабыць, таму, што наша жыццё не такое казачнае. А казка — такая рэч, дзе ўсё магчыма. Не толькі цудоўныя краіны і чараўнікі. Але і тое, што дабро можа перамагчы.

Як бы ні было, казкі — заўсёды для нас, незалежна ад узросту. А калі падумаць, то казкі — гэта мы. Хто ведае, можа, здольнасць верыць у казкі дапаможа нам аднойчы паверыць у сябе?..

Алесь ДУБРОЎСКІ

# РЭДАКТАР І ПАЭТЫЧНЫ ТВОР:
## крытэрыі мастацкасці тэксту і праблема літаратурных іерархій

*Рэдактар твораў мастацкай літаратуры — іх першы крытык, і адна з задач, якія стаяць перад ім, родная адной з найважнейшых задач літаратурнай крытыкі — высветліць эстэтычны ўзровень твора і паставіць яго на тое ці іншае месца ў літаратурнай іерархіі. Гэта неабходна, акрамя ўсяго іншага, для вырашэння самых будзённых задач: для адказу на пытанне пра тое, можна ці нельга друкаваць твор, якім тэкстам аддаць перавагу, як арганізоўваць «палітыку выдання» і г. д. Спецыфіка ж паэтычных твораў такая, што правіць няўдалы вершаваны тэкст вельмі складана, і тут разуменне крытэрыяў мастацкасці дапаможа рэдактару не марнаваць час на непатрэбную працу. Адказ на пытанне, добры перад намі верш ці дрэнны, — гэта справа не суб'ектыўнага густу, а метадалогіі, у якой рэдактару варта разабрацца, калі ён хоча быць прафесіяналам.*

Тэорыя літаратуры самой сваёй структурай — эстэтыка літаратуры, паэтыка літаратуры, тэорыя літаратурнага працэсу — падказвае нам, па якім шляху можна ісці ў справе асэнсавання крытэрыяў мастацкасці. Кожны з названых раздзелаў дазваляе фармуляваць адказы на пастаўленае пытанне ў сваіх катэгорыях. Такі падыход дасць неабходную цэласнасць і засцеражэ ад выпадковасці і суб'ектыўнасці меркаванняў.

Так, эстэтыка літаратуры разглядае яе як адзін з відаў мастацтва і прапануе найбольш агульныя формулы вызначэння крытэрыяў мастацкасці. Як піша А. М. Андрэеў, «пытанне пра крытэрыі мастацкасці непазбежна ўпіраецца ў сістэму сувязей, дзе вылучаюцца апорныя, ключавыя звёны, а менавіта: Прыгажосць (эстэтычнае вымярэнне), Дабро (этычны аспект), Ісціна (пачатак філасофскі). Змест прыгажосці — ісціна (арыентаваная на дабро). Інакш кажучы, прыгажосць з'яўляецца спосабам арганізацыі сэнсу. Раз гэта так, змястоўным крытэрыем мастацкасці з'яўляецца ступень семантычнай насычанасці…» [1, с. 39]. Літаратура — від мастацтва, і прыгажосць (вымярэнне эстэтычнае) — той аспект, без якога твора мастацтва не будзе. Бессэнсоўна гаварыць пра магчымасць выканання творам такіх функцый, як пазнавальная, выхаваўчая і г. д., калі гэты твор не выконвае функцыі эстэтычнай, калі ён не выклікае эстэтычнай асалоды. Бясспрэчна, крайнія канцэпцыі «чыстага мастацтва» спрабуюць вылучыць прыгажосць за кошт астатніх двух аспектаў, але гісторыя мастацтва паказвае, што класікай робяцца тыя творы, якія (па словах А. М. Андрэева) рэалізуюць сітуацыю не «адно за кошт другога», а «адно з дапамогаю другога» [1, с. 39]. Трыяда катэгорый Прыгажосць — Дабро — Ісціна, калі яны не аўтаномныя, а функцыянальна ўзаемазвязаныя, нараджаюць «выніковую» катэгорыю — Гармонію. Бясспрэчна таксама, што гэтая гармонія нараджаецца не заўсёды (асабліва яе бессэнсоўна чакаць, калі ў мастака і не было такой устаноўкі, калі ён імкнуўся стварыць «чыстую прыгажосць» або апаэтызаваць ілжывыя ці антыгуманныя ідэалы). У дастаткова зграбнай мастацкай форме можа быць увасоблены прымітыўны змест. Але вось тут мы і бачым магчымасць пакуль што ў самым агульным плане, але ўжо падысці да праблемы літаратурнай іерархіі. Банальнасць уяўленняў пра ісціну, дабро і зло, шаблоннасць светаўспрымання, увасобленыя ў творы, — заяўка на ўключэн-

не тэксту ў найніжэйшую іерархічную катэгорыю літаратуры. Як піша В. Я. Халізеў, «паралітаратура абслугоўвае чытача, чые паняцці пра жыццёвыя каштоўнасці, пра дабро і зло вычэрпваюцца прымітыўнымі стэрэатыпамі, імкнуцца да агульнапрызнаных стандартаў» [8, с. 128—129].

Нельга не заўважыць, што вышэйадзначаная формула патрабуе канкрэтызацыі, бо магчымасці прозы і паэзіі ў выяўленні такіх катэгорый, як дабро і ісціна, а таксама і само паняцце прыгажосці ў адносінах да паэзіі і прозы даволі розныя. І таму абсалютна арганічным будзе пераход да другога раздзела тэорыі — паэтыкі літаратуры.

Спачатку варта сказаць пра тое, што яднае паэзію і прозу. І дабро, і ісціну ў мастацкай літаратуры пісьменнік можа выявіць няйначай як праз *мастацкі вобраз* — «асобы спосаб эстэтычнага асэнсавання рэчаіснасці ў канкрэтнай, індывідуальна-пачуццёвай форме» [6, с. 42]. Інакш гэта будзе публіцыстыка ці штосьці іншае. Адрозненні вынікаюць з адрозненняў у спецыфіцы вобразнасці ў прозе і паэзіі. У прозе ў цэнтры вобразнай сістэмы стаіць канцэпцыя асобы, увасобленая ў вобразе-персанажы. У паэзіі асоба нікуды не знікае, але гаварыць пра вобраз-персанаж тут даволі праблематычна, бо асоба праяўляе сябе перш за ўсё ў дзеяннях, ва ўчынках, якія паўнавартасна могуць быць прадстаўлены толькі ў эпасе і драме. У лірыцы перад намі ў асноўным толькі выказванне. Так, сапраўды існуе паняцце *лірычны герой*, але ім больш арганічна карыстацца не ў дачыненні да асобнага верша, а пры разглядзе ўсёй творчасці паэта, дзе гэты вобраз можна ўбачыць у дынаміцы. Што ж тады стаіць у цэнтры вобразнай сістэмы лірыкі? Ці мы проста маем справу з думкамі і пачуццямі, зашыфраванымі ў тропах? Адразу скажам, што калі акрамя *вось такой вобразнасці* ў выглядзе «трапеічнай шыфроўкі» ў творы больш нічога няма, то прэтэндаваць на высокае месца ў літаратурнай іерархіі твор ужо не можа. У цэнтры вобразнай сістэмы «высокай лірыкі» павінен стаяць вобраз-канцэпцыя, або вобразная канцэпцыя свету (жыцця) у мініяцюры. Пры гэтым даволі цікава, што найбольш зручны інструментарый на лексіка-фразеалагічным узроўні тут прапануе не столькі *метафорыка*, колькі *афарыстыка* (прычым гаворка ідзе хутчэй не пра выкарыстанне гатовых афарызмаў, а пра такія аўтарскія слоўныя фармулёўкі, якія самі робяцца афарызмамі). Сапраўды, звернем увагу на тое, што канцэпцыя вельмі часта жыве не ў тропах, а ў даволі празрыстых, але афарыстычных радках: «And yet, by heaven, I think my love as rare as any she belied with false compare» (В. Шэкспір); «Как дай вам Бог любимой быть другим» (А. Пушкін); «Нет у вас родины, нет вам изгнания» (М. Лермантаў); «Быть знаменитым некрасиво» (Б. Пастарнак); «Частности мелом отмечать — дело портных» (М. Цвятаева); «Мне сняцца сны аб Беларусі» (Я. Купала); «Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?» (М. Багдановіч); «Чым Бог бліжэйшы да зямлі, тым Ён нябеснейшы» (Р. Барадулін). Прычым, калі вярнуцца да 130-га санета В. Шэкспіра, цытатай з якога мы пачалі, то ўбачым, што яго ідэйны змест будуецца менавіта на адмаўленні трапеічнай вобразнасці: «My mistress' eyes are nothing like the sun…»

Прыведзеныя разважанні будуць яшчэ больш зразумелымі, калі згадаць, чым з'яўляецца лірыка як род літаратуры. Высокая лірыка — не проста «думкі» ці «пачуцці» (паэзія можа выражаць большае за «проста пачуцці», але не зусім прыдатная для выражэння строга рацыяналізаванага зместу), а «разумныя пачуцці» — выраз А. М. Андрэева, якому, у прынцыпе, і належыць фармулёўка дадзенага крытэрыю [гл. 1, с. 104—115]. Змест высокай лірыкі — пачуццё, якое пераходзіць у светапоглядную формулу. У масавай, нізкапробнай паэзіі мы чытаем: «Я цябе кахаў, ты мяне не кахала». У высокай паэзіі мы чытаем: «Я вас любил… как дай вам Бог любимой быть другим». А гэта той паэт, які сказаў: «…поэзия, прости Господи, должна быть глуповата». Іншымі словамі, можна, бясспрэчна, прытрымлівацца і меркавання Георгія Іванава, паводле якога залішне глыбокая думка можа нашкодзіць паэзіі, але гісторыя літаратуры сведчыць, што класікай робяцца тыя творы, у якіх думка як мінімум прысутнічае. Дарэчы, вялікае пытанне — у якой ступені сур'ёзна Г. Іванаў гэта казаў. Вось цытата: «Мысль в стихах — приправа полезная, но не необхо-

**Можна, бясспрэчна, прытрымлівацца і меркавання Георгія Іванава, паводле якога залішне глыбокая думка можа нашкодзіць паэзіі, але гісторыя літаратуры сведчыць, што класікай робяцца тыя творы, у якіх думка як мінімум прысутнічае**

димая. Еще менее обязательна новизна или оригинальность мысли. <…> Глубокая или новая мысль может даже повредить стихотворению, как вредит вычурная метафора или слишком звонкая рифма. Баратынский это хорошо знал. Переданные прозой его стихи — прозвучат как захудалые афоризмы» [2, с. 645—646]. Але перадаць вершы прозай немагчыма. Можна толькі паспрабаваць рацыяналізаваць, «расшыфраваць» «ідэйны змест». І калі сур'ёзны філолаг аналізуе сур'ёзны твор, то атрымліваецца тэкст па аб'ёме ў шмат разоў большы за сам верш, прычым далёка не банальнага зместу, але гэта менавіта пры наяўнасці той думкі, якая з'яўляецца «не неабходнай» хіба што ў тым сэнсе, што сапраўды існуе безліч вершаў без яе. Вершы гэтыя могуць быць надрукаваны, бо фармальна яны абсалютна прыстойныя, «якасныя». Вось толькі яўна не шэдэўральныя. Як не ўспомніць словы А. А. Фета: «В произведении истинно прекрасном есть и мысль…» [Цыт. па: 3, с. 152]? Ю. М. Лотман пісаў: «Дрэнныя вершы — вершы, якія не нясуць інфармацыі або нясуць яе ў занадта малой меры» [4, с. 128]. (Ніжэй мы звернемся да кантэксту, у якім гэта было сказана.) Такім чынам, мы зноў выйшлі на тэму літаратурнай іерархіі, а таксама ўбачылі, у чым спецыфіка ўвасаблення ў паэтычным тэксце *змястоўных* катэгорый Ісціны і Дабра: яны ўвасабляюцца ў выглядзе вобраза-канцэпцыі, «тэкставы цэнтр» якога лексічна выражаецца не столькі тропам, колькі афарызмам (тропы могуць прысутнічаць ці адсутнічаць, і вельмі важна разумець, што іх наяўнасць ці колькасць увогуле не з'яўляюцца крытэрыем мастацкасці, бо і металагічны, і аўталагічны стыль маюць поўнае права на існаванне; крытэрыем можа быць толькі якасць тропаў).

Знаходзячыся ўсё яшчэ ў сферы паэтыкі літаратуры, пяройдзем да *фармальных* крытэрыяў мастацкасці паэтычнага твора, у чым нам дапаможа вершазнаўства.

Як было сказана, сама катэгорыя прыгажосці ў паэзіі і прозе па-рознаму ўвасабляецца. Тое, што ў паэзіі стварае прыгажосць, у прозе ўспрымалася б як *прыгожасць*.

Сутнасць адрознення паэзіі ад прозы выцякае з сутнасці адрознення вершаванага маўлення ад празаічнага, але нятоесная апошняй. Як вядома, вершаваны тэкст — гэта тэкст, рытміка якога штучна арганізавана. Ёсць фактары, якія ўскладняюць адказ на пытанне пра адрозненне паэзіі ад прозы: 1) у розныя эпохі гэтыя паняцці разумеліся па-рознаму; 2) мяжа паміж паэзіяй і прозай (як зместавымі катэгорыямі) не абсалютная; 3) мяжа паміж вершам і прозай (як фармальнымі катэгорыямі) не абсалютная; 4) сама мяжа паміж формай і зместам не абсалютная. Таму адказ можна даць не назваўшы нейкія структурныя кампаненты, якія быццам бы павінны адрозніваць паэзію ад прозы, а зразумеўшы нейкі *дынамічны прынцып* арганізацыі гэтых дзвюх форм мастацкага слоўнага выказвання. Штучная, як было сказана, рытмічная арганізацыя вершаванага маўлення робіць галоўнай сінтаксічнай фігурай верша інверсію: выказванне трэба «ўпісваць» у метр, для гэтага словы трэба перастаўляць, адыходзячы ад прамога іх парадку. Інверсія, як вядома, лагічна вылучае менавіта тыя кампаненты выказвання, якія адыходзяць ад прамога парадку слоў. Але частотнасць інверсіі ў вершах стварае сітуацыю, пры якой вылучаецца *большасць* слоў. На гэта накладаецца рытм, які «заглушае» звычайны сінтаксіс і прымушае зусім інакш слухаць тэкст (а менавіта — як мелодыю). Акрамя інверсіі і рытму, функцыяй вылучэння валодае рыфма і іншыя фанетычныя сродкі (алітэрацыя, асананс і г. д.). Такім чынам, механізм *моўнага вылучэння* робіцца скразным прынцыпам арганізацыі вершаванага маўлення, што мяняе псіхалогію чытацкага ўспрымання. Паэзію навучыўся чытаць той, хто навучыўся *слухаць* тэкст, яго моўную структуру, па аналогіі з музычнай мелодыяй. У добрай прозе, прынамсі

рэалістычнай, *мова амаль не заўважаецца*. У паэзіі ж сама мова робіцца кампанентам зместу. Менавіта такая «дробязь», як *татальная інверсіяванасць вершаванага маўлення, робіць дынамічным прынцыпам арганізацыі паэзіі ўстаноўку на моўнае выражэнне, а прынцыпам разумення паэзіі — устаноўку на «счытванне мовы», якая перастае быць толькі сродкам і робіцца кампанентам паэтычнага зместу*. Чагосьці надзвычай новага і асабліва рэвалюцыйнага ў гэтай канцэпцыі няма. Ролю інверсіі добра растлумачыў А. С. Яскевіч [гл. 9], у выказванні пра тое, што элементы, якія з'яўляюцца ў мове фармальнымі, набываюць у паэзіі семантычны характар, вядомыя па тэкстах Ю. М. Лотмана [гл. 4, с. 47], а ў В. П. Рагойшы мы чытаем: «У паэзіі само гучанне слова становіцца сродкам выяўлення» [6, с. 12]. Але цікава звярнуць увагу на тое, што гэта было вядома яшчэ Гегелю. Н. Д. Тамарчанка цытуе наступныя словы філосафа: «…сказаць толькі дзеля самога выказвання, — і вось так выраз робіцца паэтычным…» [Цыт. па: 7, с. 165]. І пасля гэтай цытаты Н. Д. Тамарчанка зазначае: «Тут мы заўважаем вялікае падабенства да вызначэння паэтычнага маўлення як "маўлення з устаноўкай на выражэнне" у рускіх фармалістаў (Р. В. Якабсон, Б. В. Тамашэўскі)» [7, с. 165].

З усяго сказанага вынікае наступны крытэрый мастацкасці паэтычнага твора на ўзроўні формы: высокамастацкі вершаваны тэкст характарызуецца фармальнай, у тым ліку моўнай, бездакорнасцю. Такія патрабаванні не прад'яўляюцца да прозы, прынамсі яны там змякчаюцца. Увогуле, немагчыма нават акрэсліць, што павінна была б уяўляць сабою «фармальная бездакорнасць» у прозе. Лягчэй пачаць пералік вельмі сур'ёзных фармальных заган у самых вялікіх шэдэўрах прозы. У дачыненні ж да паэзіі, наадварот, акрэсліць аб'ём названага паняцця няцяжка. Напрыклад, гэта захаванне законаў абранай сістэмы вершавання, адсутнасць банальных рыфм, на моўным узроўні — захаванне такой камунікатыўнай якасці маўлення, як чысціня, адсутнасць няправільных граматычных форм, выпадкаў няправільнай акцэнтуацыі (што было б вельмі цяжка выправіць) і да т. п. Гэта не значыць, што фармальныя крытэрыі мастацкасці верша прымітыўныя, а засвоіць і зразумець іх вельмі лёгка (толькі для тлумачэння таго, чым адрозніваецца добрая рыфма ад дрэннай, спатрэбіцца нямала часу). Але прынцыпова гэта магчыма. Ад рытмічнага і да кампазіцыйнага ўзроўню — структура і мастацкія вартасці паэзіі могуць быць апісаны. У гэтым плане з прозай сітуацыя больш складаная, бо (па словах Ю. М. Лотмана) проза сапраўды больш складаны мастацкі феномен.

Дарэчы будзе сказаць і пра тое, што патрабуецца і розная рэдактарская тактыка ў наступных выпадках. Дапусцім, колькасць тэхнічных недахопаў у вершы такая, што выпраўляць яго немагчыма. Такі верш нельга друкаваць. Колькасць тэхнічных недахопаў у прозе можа быць сапраўды вялікая, але рэдактар можа ўбачыць мастацкую каштоўнасць твора і разам з аўтарам давесці тэкст «да кандыцыі». Наадварот, празаічны тэкст можа быць даволі «чыстым», але *ні пра што*. Цалкам магчыма, што ён не будзе дапушчаны ў друк. У выпадку вершаваных твораў мы бачым, што такіх вершаў друкуецца нямала (*пры адсутнасці грубых фармальных недахопаў*). І, хутчэй за ўсё, вінаваціць рэдактараў тут не трэба: яны, як нам здаецца, інтуітыўна адчуваюць адносную нармальнасць гэтай сітуацыі. Проста, сапраўды, трэба адрозніваць мінімальныя крытэрыі мастацкасці верша, якія дазваляюць прыняць рашэнне пра публікацыю твора, і «высокія» крытэрыі, па якіх вызначаецца значнасць твора ў гісторыі літаратуры.

Ці азначае гэта, што ў паэтычных шэдэўрах няма моўных няправільнасцей? Прыклады паказваюць, што гэта не так. Мы ўжо цытавалі той верш Лермантава, у якім ёсць радок: «Мчитесь вы, будто как я же, изгнанники…» (плеанастычнае ўжы-

**Немагчыма нават акрэсліць, што павінна была б уяўляць сабою «фармальная бездакорнасць» у прозе. Лягчэй пачаць пералік вельмі сур'ёзных фармальных заган у самых вялікіх шэдэўрах прозы**

ванне злучнікаў *будто* і *как* і абсалютна непатрэбная часціца *же*). У Цютчава і Маякоўскага — няправільныя націскі, у Максіма Багдановіча — беларуская мова, далёкая (па аб’ектыўных прычынах) ад нормы нават у разуменні пачатку мінулага стагоддзя, у Караткевіча — тыя ж няправільныя націскі і граматычныя формы (тыпу *каменні*, *карэнні*) і г. д. Ці ёсць тут нейкая супярэчнасць? Няма! І на гэта два аргументы. *Па-першае*, няправільнасць можа ўваходзіць у лік мастацкіх сродкаў. Мы ўжо цытавалі словы Ю. М. Лотмана пра дрэнныя вершы. Звернемся да іх яшчэ раз, але ў больш шырокім кантэксце: «Добра пісаць вершы — пісаць адначасова і правільна і няправільна. Дрэнныя вершы — вершы, якія не нясуць інфармацыі або нясуць яе ў занадта малой меры. Але інфармацыя ўзнікае толькі тады, калі тэкст не ўгадваецца наперад. <…> …Добрыя вершы, вершы, якія нясуць паэтычную інфармацыю, — гэта вершы, у якіх усе элементы чаканыя і нечаканыя адначасова. Парушэнне першага прынцыпу зробіць верш бессэнсоўным, другога — трывіяльным» [4, с. 128]. Няправільнасць — толькі адзін са сродкаў стварэння нечаканасці. Асабліва ж падкрэслім фразу «пісаць *адначасова* і правільна і няправільна». Гэта азначае, што нейкая прыватная няправільнасць не будзе ўспрымацца менавіта ў якасці няправільнасці. Яна будзе арганічна ўваходзіць у мастацкую структуру твора. Там яна будзе *правільнай*. Але каб гэта атрымалася, моўныя нормы і законы вершавання трэба як мінімум *ведаць*. Калі паэт ужывае няправільны націск таму, што *не ведае* правільнага, — пра які мастацкі сродак тут можна казаць? А любы мастацкі сродак павінен быць матываваным. Пры гэтым матываванасць ні ў якім разе не азначае адступлення ад моўных нормаў з прычыны неабходнасці захаваць рытм ці рыфму. Гэта прафанацыя, і калі рэдактар бачыць такое — гэта падстава звярнуць увагу аўтара на праблему. Адсюль, *па-другое*, вынікае, што далёка не ўсе няправільнасці нават у вялікіх паэтаў павінны ўспрымацца як дазвол усім астатнім парушаць законы вершавання ці моўныя нормы. Многія тэксты класікаў не пагоршыліся б, калі б там не было тых ці іншых няправільнасцей.

Што дае нам трэці раздзел тэорыі літаратуры — тэорыя літаратурнага працэсу — для разумення крытэрыяў мастацкасці?

Некаторыя адказы напрошваюцца самі, але з’яўляюцца даволі простымі: архаічнасць, эпігонства — відавочныя недахопы, якія катастрафічна зніжаюць мастацкую вартасць твора. Разам з тым тэорыя літаратурнага працэсу прымушае звярнуць увагу і на тое, што пытанне пра крытэрыі мастацкасці больш складанае, «чым хацелася б». Праблема ў тым, што крытэрыі мастацкасці далёка не аднолькавыя ў розных *мастацкіх метадах*. У гэтым плане трэба згадаць вядомае правіла крытыка / рэдактара: судзіць мастака трэба па законах, якія ён сам над сабою прызнае. Пры гэтым няма «добрых» і «дрэнных» метадаў (як бы ні хацелася нават многім літаратуразнаўцам сцвярджаць адваротнае). Няма іх таму, што ўсе мастацкія метады — арганічнае параджэнне эпохі. Але ёсць метады з большымі ці меншымі абмежаваннямі. І вось гэта ўжо радуе, бо дазваляе меркаваць, што акрэсленыя вышэй крытэрыі мастацкасці ўсё ж маюць аб’ектыўнае значэнне і не могуць быць проста адкінуты прадстаўнікамі таго ці іншага метаду: калі такое адкіданне адбываецца, мастацкі метад сам прызнаецца ў сваіх абмежаваннях. Так, постмадэрнізм спрабуе адкінуць катэгорыю ісціны. Але аб’ектыўнае прачытанне корпусу постмадэрнісцкіх тэкстаў паказвае, што сам постмадэрнізм сёння блізкі да самавычарпанасці. Авангардызм даволі часта спрабаваў саму катэгорыю прыгажосці разумець вельмі спецыфічна: напрыклад, футурысты (а таксама неаавангардысты другой паловы XX стагоддзя і інш.) паэтызавалі не *харaство*, а *пачварнасць*. Але што такое авангардызм, як не метад, які ад самага свайго пачатку нясе ў сабе сваю вычарпанасць — яшчэ ў большай ступені, чым постмадэрнізм, бо апошні працуе з традыцыяй, а першы імкнецца яе адмовіць і засяроджваецца на культе навізны? Навізна дзеля самой навізны — чым не прызнанне ў прынцыповай самавычарпанасці?

Абмежаванні метаду могуць быць структурныя і выяўленчыя. Чым больш структурных абмежаванняў мае метад, тым менш ён абмежаваны ў выяўленчым плане (рэалізм) і наадварот (авангардызм). Адсюль і вынікае, што некаторыя метады хутчэй прыходзяць

да стану вычарпанасці, іншыя — больш павольна. Ставіцца да гэтага трэба спакойна, без ідэалагічнага надрыву. Абсалютна ўсе метады зрабілі ўнёсак у культуру, творы прадстаўнікоў усіх метадаў дапамагаюць лепей зразумець эпоху.

Для эпохі сучаснай актуальнымі застаюцца чатыры метады — рэалізм, мадэрнізм, авангардызм, постмадэрнізм. Працягваюць з'яўляцца творы ўсіх чатырох названых метадаў. Рэдактар павінен быць вольным ад густавага суб'ектывізму. У Беларусі не тая сітуацыя, калі можна адзін часопіс зрабіць чыста авангардысцкім, другі — рэалісцкім і г. д. Улічваючы, што паэзію рэдагуюць паэты, трэба сказаць, што аб'ектыўнасць паэта як рэдактара — абсалютна неабходная прафесійная якасць. Як паэт ён можа адчуваць, што тэксты, якія яму прынеслі, вельмі далёкія ад яго паэтычных густаў, але ў якасці рэдактара ён павінен ацэньваць іх аб'ектыўна і карыстацца менавіта аб'ектыўнымі крытэрыямі мастацкасці, а не прыватнымі крытэрыямі «*свайго*» мастацкага метаду.

Рэдактару важна арыентавацца ў мастацкіх метадах, бо гэта дазволіць пазбегнуць даволі распаўсюджанай нават у калялітаратурных колах памылкі. Заключаецца яна ў тым, што даволі часта чытач (крытык, рэдактар) спрабуе падыходзіць да твора, напісанага ў адным мастацкім метадзе, з крытэрыямі іншага метаду. Асабліва гэта заўважаецца за чытачамі, выхаванымі на рэалізмацэнтрычных ідэалах: у іх і Чацкі паводзіць сябе «неразумна», і Шэкспір піша «нерэалістычна».

Такім чынам, тэорыя літаратурнага працэсу дазваляе нам як удакладніць крытэрыі мастацкасці, так і наблізіцца да разумення праблемы літаратурных іерархій у разрэзе рэдактарскага аналізу і ацэнкі мастацкага твора.

У якасці заключэння прапануем схему пабудовы літаратурнай іерархіі, якая можа дапамагчы рэдактарам арыентавацца ў сістэме мастацкіх каштоўнасцей.

Звычайна прапануюць трохступеневыя іерархіі: літаратура высокая, масавая і белетрыстыка, або элітарная, высокая і масавая і г. д. Ёсць сэнс захаваць гэтую трохступеневасць, але ўдакладніць яе. Сапраўды, у агульным плане зразумела, што высокая літаратура — гэта тая, у якой разгледжаныя крытэрыі мастацкасці захоўваюцца. Тады пад масавай трэба разумець тую, у якой яны ігнаруюцца, «здымаюцца», а пад элітарнай — тую, у якой выпрацоўваюцца нейкія «свае», індывідуалістычныя, крытэрыі. Звычайна менавіта пра элітарную літаратуру кажуць, што ў ёй крытэрыі мастацкасці прынцыпова незразумелыя, неаб'ектыўныя, расплывістыя. Пры гэтым важным крытэрыем размеркавання твораў па розных узроўнях робіцца шырыня чытацкай аўдыторыі. У элітарнай літаратуры яна найменшая, у масавай — найбольшая. Высокая літаратура мае адносна шырокую аўдыторыю.

Пры ўсёй зразумеласці гэтай трохступеневай іерархіі аказваецца, што не ўсе літаратурныя феномены ў яе ўпісваюцца. Напрыклад, у адным з дапаможнікаў чытаем: «Масавая літаратура прадстаўлена ў асноўным прозай. Гэта і зразумела. У паэзіі імітаваць думкі і пачуцці значна цяжэй, нездарма паэзія маскульту ў асноўным засяроджана на песні» [5, с. 309]. Але як быць, напрыклад, з паэзіяй, якая не мае нават адносна шырокай аўдыторыі, але па сваім узроўні максімальна блізкая да высокай (не элітарнай)? Або з паэзіяй, якая па ўзроўні не цягне на высокую, але ніякай масавай аўдыторыі не мае?

Прапануем размеркаваць усе літаратурныя феномены ў сем разрадаў, якія размяшчаюцца на трох узроўнях. У гэтай класіфікацыі найбольш поўна ўлічваюцца як крытэрыі мастацкасці, так і шырыня чытацкай аўдыторыі.

*Узровень высокай літаратуры.*

1-ы разрад. Элітарная літаратура (літаратура з «індывідуалістычнымі» крытэрыямі мастацкасці, не разлічаная на шырокую аўдыторыю). Звяртаем увагу на тое, што яе аднясенне да першага (быццам бы найвышэйшага) разрада абсалютна ўмоўнае. На практыцы крытэрыі мастацкасці ў элітарнай літаратуры настолькі расплывістыя, што бывае цяжка размежаваць яе з творамі пятага і нават сёмага разрадаў.

2-і разрад. Уласна высокая літаратура (літаратура, якая вытрымлівае аб'ектыўныя, выпрацаваныя гісторыка-літаратурным працэсам крытэрыі мастацкасці; сюды адносіцца *асноўны корпус класікі*, якая ўключаецца ў вучэбныя

**Далёка не ўсе няправільнасці нават у вялікіх паэтаў павінны ўспрымацца як дазвол усім астатнім парушаць законы вершавання ці моўныя нормы. Многія тэксты класікаў не пагоршыліся б, калі б там не было тых ці іншых няправільнасцей**

праграмы па літаратуры). Гэтыя творы маюць шырокую чытацкую аўдыторыю.

*Сярэдні ўзровень.*

3-і разрад. Літаратура, якая вытрымлівае аб'ектыўныя мастацкія крытэрыі, але не набыла па розных прычынах шырокай чытацкай аўдыторыі (напрыклад, з-за спецыфічнай моўнай сітуацыі ў Беларусі сюды будзе адносіцца вялікі корпус твораў беларускай літаратуры, акрамя класічных, якія належаць да другога разраду).

4-ы разрад. Літаратура, якая мае шырокую чытацкую аўдыторыю, але спрэчныя мастацкія вартасці. Гэта тэксты, якія ствараліся з устаноўкай на стварэнне твора мастацтва, але і з устаноўкай на поспех у самай living рознай, у тым ліку непадрыхтаванай, публікі. Сюды, дарэчы, адносяцца вельмі часта творы постмадэрнізму, бо пераадоленне мяжы паміж высокай і масавай літаратурай — адзін з пастулатаў постмадэрнізму.

5-ы разрад. Літаратура, якая стваралася з устаноўкай на стварэнне твора мастацтва, але мае даволі нізкія мастацкія якасці і амаль не мае чытацкай аўдыторыі. Сёння, хутчэй за ўсё, сюды трэба аднесці найгоршыя творы сацыялістычнага рэалізму.

*Узровень нізкай літаратуры.*

6-ы разрад. Масавая літаратура, якая не вытрымлівае крытэрыяў мастацкасці і стваралася як камерцыйны прадукт. Мастацкія крытэрыі проста «здымаюцца» пры напісанні такіх тэкстаў.

7-ы разрад. Тэксты аматараў ад літаратуры, якія *не маюць уяўлення* аб крытэрыях мастацкасці. У адрозненне ад масавай літаратуры, такія тэксты амаль ніякай чытацкай аўдыторыі не маюць. Гэта графаманія і сумежныя з ёю з'явы.

Часам магчымыя пераходы з аднаго разраду ў іншы (асабліва з трэцяга ў другі).

Дадзеная класіфікацыя мае відавочную каштоўнасць для рэдактараў (напрыклад, пры вырашэнні пытанняў выдавецкай палітыкі). Па сутнасці, гіпатэтычнае аднясенне твора да аднаго з пералічаных разрадаў — гэта этап, якім і павінен завяршацца рэдактарскі аналіз мастацкага тэксту.

**ЛІТАРАТУРА:**

1 Андреев, А. Н. Основы теории литературно-художественного творчества: пособие для студ. филол. фак. / А. Н. Андреев. — Минск: БГУ, 2010. — 216 с.

2. Иванов, Г. В. Стихи. Проза / Г. В. Иванов. — Екатеринбург: У-Фактория, 007. — 704 с.

3. История русской литературы XIX века. 40—60-е годы : учеб. пособие для вузов / под ред. В. Н. Аношкиной, Л. Д. Громовой. — 3-е изд., испр. — М.: Оникс, 2006. — 512 с.

4. Лотман, Ю. М. О поэтах и поэзии / Ю. М. Лотман. — СПб.: Искуство—СПБ, 1999. — 848 с.

5. Основы литературоведения : учеб. пособие для филол. фак. пед. ун-тов / В. П. Мещеряков [и др.]; под общ. ред. В. П. Мещерякова. — М.: Московский Лицей, 2000. — 372 с.

6. Рагойша, В. П. Паэтычна слоўнік / В. П. Рагойша. — 3-е выд., дапрац. і дапоўн. — Мінск: Бел. навука, 2004. — 576 с.

7. Теория литературы : учеб. пособие для студ. филол. фак. высш. учеб. заведений: в 2 т. / под ред. Н. Д. Тамарченко. — М.: Академия, 2004. — Т. 1: Теория художественного дискурса. Теоретическая поэтика / Н. Д. Тамарченко, В. И. Тюпа, С. Н. Бройтман. — 512 с.

8. Хализев, В. Е. Теория литературы : учеб. / В. Е. Хализев. — М.: Высш. шк., 1999. — 398 с.

9. Яскевич, А. С. Ритмическая организация художественного текста / А. С. Яскевич. — Минск: Навука і тэхніка, 1991. — 208 с.

*Вячаслаў МАРТЫСЮК*

# ШУКАЮЧЫ КАГАНЦОВЫ ТВОРЫ

Архіў Казіміра Карлавіча Кастравіцкага (Каруся Каганца; 1868—1918) ва ўсёй сваёй цэласці да нас не дайшоў. Яго фрагменты, улучна з самага рознага характару з адзінкавымі дакументамі, звязанымі з жыццём і творчасцю «светача беларускага культурнага і грамадскага жыцця дзевятнаццатага і дваццатага сталецццяў» (М. Каспяровіч), захоўваюцца сёння ў Мінску, Вільні, Варшаве, Маскве, Санкт-Пецярбургу. Рэшта ж — загінула, або — цешма сябе надзеяй — пакуль што проста не знойдзена.

Каганцоў даробак наагул мае нешчаслівы лёс. Пісьменнік не дачакаўся паўнавартага зборніка твораў пры сваім жыцці, не адразу выйшаў гэткі зборнік і па яго смерці (былі паасобныя публікацыі, напісанае / укладзенае / апрацаванае / перакладзенае ў суаўтарстве ды выданні п'ес «Модны шляхцюк» і «У іншым шчасці няшчасце схавана»). У 1909 ці 1910 годзе ягоную кніжку мелася выпусціць выдавецтва «Нашай Нівы». І не выпусціла. Перад тым, прыкладна ў 1906-м, на заказ пецярбургскай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» Каганец рыхтаваў дзіцячую чытанку. На жаль, гэтаму праекту таксама не суджана было рэалізавацца. Нарэшце, ёсць цьмяныя звесткі-сведчанні пра Каганцовы спробы надрукавацца ў Львове. У 1918 годзе, калі Казіміра Карлавіча не стала, жонка яго, Ганна Канстанцінаўна Кастравіцкая, перадала мужавы паперы для захавання, вывучэння і выкарыстання Язэпу Лёсіку, і праз 1919—1920 гады апошні займаўся іх разбіраннем і парадкаваннем, паралельна публікуючы сёе-тое ў розных перыядычных выданнях, а ў 1922 годзе рабіў захады дзеля надрукавання поўнага збору твораў Каганца, падрыхтаваўшы машынапіс і здаўшы яго ў адно з выдавецтваў (дзе той машынапіс згубіўся). Пісьменнікавы аўтографы Лёсік неўзабаве перадаў у Аддзел беларускай літаратуры і бібліяграфіі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна; зробленыя ім з некаторых аўтографаў копіі захоўваліся ў зборах Літаратурнай камісіі Інбелкульта. Там іх вывучэннем займаўся мовазнавец і краязнаўца Мікола Каспяровіч. Плёнам Каспяровічавых студыяў сталі грунтоўныя артыкулы: «Карусь Каганец. Да 10-й гадавіны смерці» (Маладняк. — 1929. — № 10), «Там, дзе тварыў Каганец» (Наш Край. — 1928. — № 10), публікацыі некаторых празаічных і вершаваных твораў. Каспяровіч, пішучы пра спадчыну Казіміра Карлавіча, паведамляў: «Магчыма, што ў канцы разбірання сваіх калекцый праф. Эпімах-Шыпіла (Менск, Рэвалюцыйная, 21) знойдзе якія-небудзь творы нябожчыка; што-колечы ёсць у вядомага бібліяфіла Рамуальда Зямкевіча (Варшава), але ўсё гэта пакуль што яшчэ недаступна для агляду». Ці знайшлося што-колечы ў калекцыях Эпімах-Шыпілы і ў Зямкевічавых зборах — мы не ведаем: калекцыі першага зазналі вялікія страты, а лёс збораў другога да канца не высветлены. (У 1918 годзе ў газеце «Вольная Беларусь», № 29, была надрукавана Каганцова апрацоўка народнай легенды «Адкуль зязюля ўзялася?» з пазнакаю «З архіву Рамуальда Зямкевіча»; Каганцу Зямкевіч прысвяціў і апошні раздзел свайго нарыса «Стары Мінск у беларускіх успамінах», але гэтая публікацыя дагэтуль не выяўлена).

Апошнія звесткі пра Каганцоў архіў у поўным сваім выглядзе мы спатыкаем у артыкуле «Неопубликованные рукописи» (Советская Белоруссия. — 1941. — 9 янв.). У часе вайны тыя рукапісы былі часткова

знішчаныя, часткова вывезеныя за мяжу. У паваенны час рэшткі некалі вялікага архіва аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры вярнуліся на айчыну. І захоўваюцца цяпер у Аддзеле рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, утварыўшы там асобны фонд. Асобны фонд Каруся Каганца ёсць і ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. А таксама згаданыя ў пачатку нашага артыкула дакументы ў старасховах іншых краін.

Спробу ўкладання збору твораў Кастравіцкага ў познесавецкі час зрабіў Сцяпан Александровіч, і яна мела плён: у 1979 годзе выйшаў тамок «Карусь Каганец. Творы». У кніжку ўвайшло апублікаванае Казімірам Карлавічам пры жыцці, пасмяротныя публікацыі і некаторыя архіўныя матэрыялы. Тамок гэты, зрэшты, далёкі ад паўніні. З дзвюх прычын: пэўную частку пісьменнікавага даробку ў той час не дазволілі надрукаваць (як, прыкладам, духоўныя вершы); другая ж прычына палягала ў тым, што не ўсе апублікаваныя творы Каганца даследніку ўдалося выявіць. Асобных нумароў газет і часопісаў, якія ўтрымвалі тыя творы, проста не знайшлося ні ў Беларусі, ні за яе межамі. Пра звязаныя з гэтым цяжкасці Сцяпан Хусейнавіч расказваў у адным з інтэрв'ю: «…Шмат невядома пра Каруся Каганца: не ўдалося знайсці многія матэрыялы пісьменніка, асабліва празаічныя творы. Ёсць звесткі, што яны друкаваліся ў 1918—1919 гадах. Напрыклад, “Вольная Беларусь” (1918, № 37) змясціла вялікую падборку “З папераў Каганца” з пералічэннем ягоных твораў, якія, мяркуючы па назве, пераважна з'яўляліся апрацоўкамі беларускіх народных казак: “Мужык і пан”, “Кра-кра”, “Ку-ку”, “Хітры злодзей”, “Кісель”, “Цыган і поп”, “Сумленны злодзей”, “Кацярына”, “Завошта сабакі, каты і мышы ненавідзяць адзін аднаго?” “Адкуль пчолы ўзяліся?” і інш. Аднак дзе я ні шукаў (вёў перапіску з архівамі ПНР і нашай краіны) — нічога не знайшоў» (Кнігі і людзі…: [Інтэрв'ю С. Александровіча Я. Янушкевічу] // Янушкевіч, Я. За архіўным парогам. — Мн., 2002. С. 196—197).

* * *

Згаданая Сцяпанам Хусейнавічам публікацыя ў «Вольнай Беларусі» вельмі зацікавіла мяне ў свой час. І мне на гвалт захацелася адшукаць тыя творы. Або, прынамсі, здабыць падрабязнейшую інфармацыю. Я стаў збіраць, як той казаў, «дасье» на гэтую публікацыю, перш-наперш звярнуўшыся да паказальніка Ю. Бібіла «Летапіс беларускага друку. Ч. 4. Перыядычны друк на беларускай мове» (Мн., 1929). На старонцы 119, пазіцыя 4448, стаяла наступнае бібліяграфічнае апісанне: Каганец К. З папераў К. Каганца… Далей — пералічэнне твораў (апрача названых Александровічам, былі там і гэткія: «Атвет дзяўчыны», «Разумны хлопец і нездагадлівы злодзей», «Салдат-злодзей», «Чаму ластаўку грэх забіць?», «Адкуль шэршні ўзяліся?»), жанравае азначэнне «проза» і спасылка на той самы нумар газеты, пра які ішлося ў вышэй цытаваным інтэрв'ю. «Спіс беларускіх перыдычных выданняў, якіх няма ў бібліятэках Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільнюса і Кіева», змешчаны ў зборніку «Вяртанне» (Мн., 1992. С. 216), паведамляў, што нумары 37—38 «Вольнай Беларусі» за 1918 год (а таксама два нумары за 1917 год) уважаюцца страчанымі; гаварыў пра гэта і А. Жынкін у прадмове да «Твораў» Язэпа Лёсіка (Мн., 1994. С. 14). Мае спробы выявіць тыя нумары ў далёкім замежжы былі бясплённымі. Ранейшы імпэт паступова знікаў. Тады я пастанавіў змяніць кірунак сваіх шуканняў і паспрабаваць знайсці сляды Каганцовых апрацовак у іншых выданнях. Прыкладам, з даследаванняў Ю. Туронка я ведаў, што Казімір Кастравіцкі меў беспасярэдняе дачыненне да зборніка «Казкі» (Пецярбург, 1904), браў удзел у яго рыхтаванні (Туронак дапускаў таксама мажлівасць удзелу ў рыхтаванні Казіміравага брата, Амброжыя Кастравіцкага, які мог выступіць фундатарам выдання). Наводзіла на роздумы і тое, што пецярбургскія «Казкі» ўлучалі не арыгінальныя аўтарскія творы, а былі, паводле Туронка, «перадрукам пяці выбраных казак, змешчаных П. В. Шэйнам у другім томе ягоных прац “Материалы для изучения быта и

языка русского населения Северо-Западного края"» (Пецярбург, 1893). (Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. — Вільня, 2006. С. 48—49). Заставалася пазнаёміцца са зместам зборніка і з Шэйнавымі запісамі. І тут мяне чакала колькі адкрыццяў. Першае, у пецярбургскай кніжцы знайшлася казка «Мужык і пан» (успомніма аналагічны твор з падборкі ў «Вольнай Беларусі»). Другое, у Шэйнавым зборніку знайшлася рэшта твораў з тае падборкі. Але ж мяне цікавілі не Шэйнавы запісы, а іх апрацоўкі! (Аднае знаходкі для мяне было замала.) Толькі дзе ж іх шукаць? І тут мне прыйшло ўдум, што Лёсік мог перадрукаваць тыя апрацоўкі ў якім-колечы іншым выданні. Прыкладам, у сваіх чытанках для дзяцей. Нейкая патрэбная мне інфармацыя магла быць і ў бібліяграфічных даведніках 1920-х. (Бібілаў даведнік я ўжо ведаў). Скажам, у кнізе Ал. Шлюбскага «Матар'ялы да беларускае бібліяграфіі. Т. IV. Этнаграфія» (Мн., 1927). Абеглага знаёмства з кнігаю было досыць, каб на вока ўспала пазіцыя: «Завошта сабакі, каты і мышы ненавідзяць адзін аднаго?». А побач спасылка: каляндар «Заранка» (Менск, 1919). Я заказаў каляндар, адразу зацеміўшы прозвішча рэдактара (ім, як вы ўжо здагадаліся, быў Я. Лёсік), перагарнуў і, апрача адзначанай Шлюбскім казкі, знайшоў яшчэ тры: «Хітры злодзей», «Адкуль пчолы ўзяліся?», «Адкуль шэршні ўзяліся?».

* * *

Ніжэй я прапаную чытачам «Маладосці» пазнаёміцца з плёнам маіх шуканняў. І змяшчаю тэксты пяці беларускіх казак, апрацаваных Карусём Каганцом. Адзначу тут, што тэксты, змешчаныя ў календары «Заранка», падаюцца як «народныя казкі» (твор «Хітры злодзей» вызначаны як «жарт»), не маючы пры сабе ніякае інфармацыі што да ролі Каруся Каганца ў іх апрацаванні. Трэба думаць, Язэп Лёсік уважаў іх перадусім за творы «агульна-народныя» (хай сабе яны зазналі апрацаванне): маўляў, народ іх стварыў, народу яны і належаць. І таму не паставіў Каганцова прозвішча. Мяркую, прыкладна такая самая спасцярогa магла быць пры публікацыі твораў у «Вольнай Беларусі» (якую я не трачу надзеі ўсё ж некалі знайсці), хоць і з пазнакаю «З папераў К. Каганца».

Тэксты падаюцца збольшага з захаваннем арыгінальнага правапісу; правапіс казкі «Мужык і пан» уніфікуецца на карысць правапісу тэкстаў, змешчаных у календары «Заранка».

## МУЖЫК І ПАН

Адзін мужык увідзеў у пана добрую сьвіньню з парасятамі. Ён пашоў і стаў кланяцца сьвіньні. Гэта відзела пані з ганку. Яна паслала лёкая папытаць: чаму ён сьвіньні кланяецца? А той кажаць:

— Гэта мая Рабка жэніцца, а ваша Белка маей Рабцы родная цётка, дык я заву на вясельле, а яна ўсё кажаць: ня хочу!

Лякай пашоў і сказаў пані. Тая разрагаталася і сказала паклікаць мужыка. Мужык прышоў. Тагды пані кажа:

— Што ты нашай сьвіньні кланісься?

— А во' што: у мяне ёсь Рабка, а ваша Белка ей родна цётка, дык мая Рабка жэніцца і просіць вашае Белкі на вясельле, — вот я і прышоў прасіць, а яна кажаць: ня хочу!

— Ха-ха-ха!.. Ну дак як-жа ты яё павядзеш, — кажаць пані, — ці павязеш?

— Не, павяду, калі пойдзе, — я прышоў.

— А парасяты як будуць?

— Ізь дзеткамі прасіла Рабка каб пусьцілі.

— Ну так я скажу, каб запраглі каня і палажылі Белку, а калі не захоча ляжаць, то прывязаць, а парасят у мяшок.

Пані прыказала запрагці каня, палажыць на воз сьвіньню і парасят і даць мужыку.

— Ці хутка ты назад прывязеш?

— Хутка, мая панічка.

Мужык сеў і паехаў. Пана не было ў дварэ. Як прыехаў пан, так пані яму кажаць:

— У нас мужык быў, ён нашай Беліцы кланяўся, прасіў на вясельле. Я яе пусьціла і каня дала ехаць.

А пан кажаць:

— Во’ дурная, а мужык ашукаў; прападзе і конь, і сьвіньня з парасятамі. Скарэй коні давайце!

Далі тройку з званком. Пан сеў і пытае:

— Куды-ж мужык паехаў?

— А во’ сюды, — кажуць людзі і паказалі пану дарогу.

Пан туды і паехаў. А мужык пачуў званок, зьвярнуў у лес. Там закалоў сьвіньню з парасятамі, каня прывязаў, а сам вышаў на дарогу, наклаў кучу гною, накрыў шапкаю і сядзіць. Едзе пан.

— На бок! — крычыць панскі кучар.

— Не, паночак, не! Едзьце вы сабе на бок, — мне ня можна!

Пан сказаў кучару аб’ехаць мужыка. Мінуўшы мужыка, пан застанавіўся і пытае:

— Ці ня бачыў ты, мужычок, тут мужыка едучы і везучы сьвіньню з парасятамі?

— Відзеў, паночак! Ён тут нядаўна ехаў.

— А ці знаеш, куды ён паехаў?

— Знаю.

— Пакажы-ж нам дарогу.

— Не, паночак, не! Мне із месца ня можна зысьці. Калі хочаце, то я вам дарогу скажу: вы будзеце тут проста, патым зворощіце крута-крута ўправа, а там крута-крута ўлева і так далей.

Пан і пытае хурмана:

— Ці патрапіш?

— Не, пане!

— І я не патраплю.

Тагды пан пытае ў мужыка:

— Ці дагнаў-бы ты яго?

— Чаму не, пане? Я-бы яго зараз прыцяг ік вам.

— Ну, дагані, я табе заплачу.

— Не, крый Божа! Мне зь месца ня можна зысьці.

— Чаму-ж табе ня можна зысьці? Што ты тут робіш?

— Гэта, паночак, ехаў мой пан і сустрэўся з знаёмай паняю, і тая пані падаравала яму шчыгла. Дык пан сказаў мне яго дзяржаць, пакуль ён будзець ехаць назад.

— Ну так ты едзь з маім хурманам, а я буду вартаваць.

— Не, пане, ня хочу: тагды мне ад пана жыцьця ня будзе, як ты ўпусьціш шчыгла.

— Я не ўпушчу.

— Не, пане, не паверу.

— Ну дык я буду вартаваць з хурманам, а ты едзь адзін.

— Не, ня хочу!

— На табе сто рублёў, едзь!

— Не, баюся, пане: вы пусьціце шчыгла.

— Да ня пусьцім-жа!

Мужык узяў сто рублёў і сеў ехаць. А пан пытае:

— Ці хутка ты вернесься?

— Цераз гадзіну, паночак, я тут буду.

Мужык паехаў. Па дарозе ён адчапіў званок, заехаў у лес, узяў каня з сьвіньнёю і парасятамі і паехаў.

Пан з хурманам чакалі гадзіну — мужыка няма, прачакалі другую — яго няма. Тагды хурман кажаць:

— Пані была дурань, а пан яшчэ дурней — аддаў тройку каней і сто рублёў. А пан кажаць:

— Цо ты мувіш, дурню! Я як зраблю аб’яўленьне: чый шчыгал, так і знайду злодзея.

Потым пачало сонца заходзіць, а хурман кажаць:

— Ня хочу ўжо сядзець, я есьці хочу, — хадзем у двор.

А пан кажаць:

— Ну так ты бяры шчыгла, а я буду падымаць шапку.

Троха падумаўшы, пан кажаць:

— Не! Ты ўпусьціш; ты падымай шапку, а я буду браць шчыгла.

Хурман узяў за вяршок, а пан абедзьве рукі падсунуў пад шапку. Хурман як падыме шапку, дык пан разам абодзьвемі рукамі як хопіць — дык проста ў гной. Тут як закрычыць:

— А дурань! А галган! Во’ шчыгол!

А хурман кажаць:

— Я гаварыў, што пані дурная, а пан дурней.

А пан крычыць:

— На, отсеч мне рэнцы! Цо мне зробіць?

— А што вам, пане, зрабіць? — кажа хурман. — Абатрэце аб траву.

Пан так і зрабіў, і пашлі яны ў двор. Прышоўшы, пан і кажаць пані:

— Ты дурная: аддала каня і сьвіньню з парасятамі, а я дурней: аддаў трох каней і сто рублёў, а яшчэ рэнцы так убэсьціў, ванюць дужа, хоць отсеч трэба. Пані разрагаталася. А мужык і цяпер езьдзіць на панских канях.

*Паводле: Казкі. — Пб., 1904. С. 18—21.*

## ХІТРЫ ЗЛОДЗЕЙ

У аднаго гаспадара вісела ў сенцах пад страхою сала. Забраўся ўночы злодзей, адарваў сала, але і сам з салам паляцеў спотырч вобзямлю. Пачуў гаспадар стукат, выйшаў у сенцы, а злодзей і кажа:

— Ці ня купіш, вашаць, сала?

— Навошта яно мне, калі ў мяне і свайго даволі?

— А я думаў, што купіш! Каб ведаў, дык ня цяг бы сюды гэткі ценжар. Трэба несьці другому. Паддай, калі ласка!

Гаспадар ахвотна паддаў сваё сала зладзею на плечы.

## ЗАВОШТА САБАКІ, КАТЫ І МЫШЫ НЕНАВІДЗЯЦЬ АДЗІН АДНАГО?

Перш і сабака меў шляхэцкія паперы. Але, ведама, дзе-ж яму зь імі насіцца? Вот і аддаў ён на перахоў кату, кажучы: «Схавай, братка, дзе высока пад страхою, там цалейшыя будуць». Кот пабаяўся хаваць пад страхою, каб хто не знайшоў, а аддаў мышам, каб яны занесьлі пад падлогу. А тагды яшчэ ўсе — і сабакі, і каты, і мышы, і ваўке жылі ў згодзе. Адно бачыць сабака, што яго ніхто не шануе. Акрыўдзіўся ён ды думае: «Хіба я свае паперы ім пакажу. Няхай знаюць, што я ня быле хто!» Пашоў ён к кату па паперы. Тэй палез пад падолгу, аж іх даўно мышы зьелі. З тых пор і пашла ў іх гэтая вайна. Сабака спаганяе злосьць на кату, а кот на мышы, а мыш ня хоча ўступіць і, як нападзе на які папер, дык грызе яго на дробныя кусочкі.

## АДКУЛЬ ПЧОЛЫ ЎЗЯЛІСЯ?

Ішоў Спас па сіняму мору і бачыць: сярод мора на камені сядзіць вельмі красная дзяўчына і плача. І што падзе сьляза, то выляціць пчала. Спаса жаль агарнуў, як глянуў ён на сьлёзы тае дзяўчыны. Ня вытрываў Спас і заплакаў, сказаўшы: «Хай-жа і Мая сьляза будзе між тваіх!» Пала сьляза Спаса, і вылецела вялікая пчала-матка.

## АДКУЛЬ ШЭРШНІ ЎЗЯЛІСЯ?

Спачатку Бог стварыў адных толькі пчол на карысьць і пажытак людзям. Чорту завідна стала, і стаў ён прасіць у Бога, каб Ён даў яму трохі гэтакіх пчол, каб карысьць мець. Бог загневаўся за гэта на чорта, схапіў прыгаршчы пчолаў і кінуў іх проста чорту ў вочы. Пчолы ад удару шмат пабольшалі, а дакрануўшыся да чортавага твару, сталі гадзючымі і кусьлівымі, да разьляцеліся ва ўсе бокі шэршнямі. І цяпер яшчэ шэршань, перш чым укусіць, стараецца ударыць у твар.

*Паводле: Каляндар «Заранка», праваслаўны і каталіцкі... — Менск, 1919. С. 4, 24, 26.*



Міхась СТРАЛЬЦОЎ

# [УСПАМІНЫ ПРА ЕЎДАКІЮ ЛОСЬ]



У маёй памяці **Еўдакія Лось** неадлучная ад успамінаў пра пачатак шасцідзясятых гадоў. Неблагі тады быў час. Нешта такое асаблівае, падобнае на казытлівую прысутнасць надзеі, нейкіх спадзяванняў на перамены, лунала ў паветры, востра казытала пачуццё і думку.

Увачавідкі большала моладзі ў нашым пісьменніцкім Саюзе. Будаваўся дом на вуліцы Чарнышэўскага, дзе неўзабаве пасяліліся разам з выдавецкімі работнікамі і нашы літаратары. Першым тым пасля наваселля летам шчыра цвілі на клумбах кветкі, на двары буяла кустоўе. Зранку і пад вечар Караткевіч выходзіць на балкон да сваіх галубоў. На лаўцы ля пад'езда, сцішаны і ўсмешлівы, сядзіць Язэп Пушча. Чарнявы, як грак, Антон Алешка, паціскаючы плячыма, ківаючыся, загаворвае да яго. Выдавецкі бухгалтар Пеўзнер палівае клумбу. Змрачнаваты Уладзіслаў Нядзведскі аднекуль самапасам вяртаецца дамоў, іранічна-сур'ёзна выглядваючы «нешта на мясцовасці». Еўдакія Лось з кветкамі ў руках вяртаецца з нейкага выступлення — святочная, зіхоткая, шамоткая (тады была мода на блішчастыя сукенкі). Бачу яе выразна, нібы было гэта ўчора, а ў памяці паўстаюць радкі з яе верша, які яна часта на выступленнях перад чытачамі згадвала на памяць. Там пра малодшую сястру, пра яе бясхмарнае юнацтва, недададзенае самой паэтэсе і яе пакаленню ў пасляваеннай маладосці:

На танцы пайшла харошая,
З журбою пайшла маёй.

А ёй, паэтэсе, і сапраўды, можа, было недададзена пры жыцці — і дабротаў жыццёвых, літаратурнага ды іншага прызнання. Можа таму, з вялікай ахвотай яна ішла да свайго чытача, ездзіла, выступала, перапісвалася. Насуперак абыякавасці крытыкі, літаратурнага асяроддзя. Не будзем вінаваціць яе за гэта. Замест таго, каб раздражняцца, варта было б зразумець яе, стаць бліжэй, падтрымаць. А мы думалі, што яна сама сябе абароніць, што ёй гэта нічога не варта. Што гэта не так, мы зразумелі, калі яна захварэла.

Зразумелі яе мужнасць, дабрыню, шырыню яе погляду на жыццё, зразумелі, што яна, можа, больш, чым хто іншы з яе паэтычнага пакалення, была ўражана і памяццю вайны, і памяццю гаротных пасляваенных нястач,

здолеўшы сказаць пра свой першапачатковы жыццёвы вопыт непаўторна і балюча. Але мала гэтага. Тую меру разумення жыцця і чалавечага трывання яна перанесла і ў дзень сённяшні, зрабіўшы яго і паэтычным, і чалавечым працягам роздуму пра час, — не застаўшыся думкай і вопытам толькі там, на пачатку сваёй дарослай свядомасці. Літаратар ведае, якой цаны можа каштаваць такая перамога над сабой. А Еўдакія Лось заплаціла гэтую цану, будучы чалавекам грамадскім і грамадзянскім у сапраўдным значэнні гэтага слова. Адсюль і яе паэтычная раскрытасць і адкрытасць усяму новаму ў жыцці, пачуццё адказнасці, адчуванне думкі народнай. Як усяго гэтага не хапае нам сённяшнім, нягледзячы на тое, што вось зноў нешта зрушылася ў грамадстве, што зноў час патрабуе і асабістага, непазычанага пафасу, рызыкі і болю. Я ўпэўнены, што Лось, не чакаючы дазволу, напісала б і пра Чарнобыль, і пра сасмяглае сёлетняе лета трывогі нашай.

На травінцы пад вясёлкай
Крошка-кропелька дрыжыць.
І спявае перапёлка
ў Бараўлянах:
«жыць» ды «жыць»!

Вусцішна трохі чытаць гэта.

Ёсць змрочныя сімвалы ў нашым жыцці, але ж ёсць і надзея, і адказнасць, і памяць — пра тых, хто быў да нас, пра тых, з кім разам ішлі, але хто дачасна падбіўся ў дарозе, завяшчаючы нам ісці далей.

Еўдакія Лось аднойчы напісала:

Уся мая прафесія
ў адным-адзіным сэрцы…
Але яно, на жаль,
безабароннае.

Але сэрца наша, на шчасце, безабароннае і перад праўдзівым і шчырым радком паэзіі, у тым ліку і паэзіі Еўдакіі Лось. Яе слова непрымусова і вольна пасяляецца ў ім, нашым сэрцы, прарастае нашай удзячнасцю і любоўю да ўсяго вартага ў жыцці.

***Ад публікатара.*** *Нядаўна класік літоўскай паэзіі Томас Венцлова на пытанне пра свае прыярытэты ў сучаснай рускай літаратуры адказаў так: «Невядомы ліст Мікалая Ляскова мне цікавейшы за новы раман Сарокіна». Тое самае можна аднесці да кожнай, бадай, культуры. Увага да майстроў-стылістаў мінулых гадоў — натуральная з'ява. Для беларусаў гэта — Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Вячаслаў Адамчык, Іван Пташнікаў і, без сумневу, Міхась Стральцоў.*

*Апошні ніколі не пісаў мемуараў. Але, пільна ўчытваючыся ў ягоныя крытычныя артыкулы 1980-х гадоў, можна ўбачыць раскіданыя то там, то сям мемуарныя ўстаўкі, якія аўтар свядома ўводзіў у аповед. Як правіла, гэта быў пачатак артыкула, і фрагмент успамінаў рабіўся нібыта запеўкай да ўсяго аналітычнага разбору вершаў ці прозы. Відавочна, Стральцоў узіраўся ў мінулае і бачыў яго каштоўнасць як матэрыялу (магчыма, задумваючыся пра будучую сваю аўтабіяграфічную кнігу). Аднак уласна мемуарны тэкст у яго толькі адзін. Ён і прапануецца чытачам «Маладосці» (зрэшты, і тут больш правільна гаварыць пра эсэ, чым пра ўласна ўспаміны).*

*Неўзабаве пасля смерці Еўдакіі Лось, напрыканцы 1970-х і ў 1980-я гады сёстры паэткі вырашылі сабраць і выдаць кнігу ўспамінаў пра Еўдакію Якаўлеўну. Шмат хто з вядомых літаратараў адгукнуўся на іх прапанову, аднак да выдання справа так і не дайшла. Доўгі час у нас, у рэдакцыі «Маладосці», захоўваўся машынапісны варыянт кнігі (магчыма, няпоўны), які пасля быў вернуты сястры паэткі — Марыі Якаўлеўне. Стральцоўскага тэксту, што праўда, там не было, аднак відавочна, што пісаўся ён менавіта для гэтага выдання. У тэксце аўтар гаворыць «пра Чарнобыль, і пра сасмаглае сёлетняе лета трывогі нашай», што дазваляе датаваць мемуары летам 1986 года. Загаловак дадзены ўмоўна (з прычыны адсутнасці яго ў арыгінале), і таму заключаны ў квадратныя дужкі.*

*Успаміны друкуюцца ўпершыню паводле машынапісу, які захаваўся ў паперах Міхася Стральцова: БДАМЛМ. Ф. 361. Воп. 1. Спр. 31. Арк. 1-3.*

***Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ***

*Маргарыта ДЗЯХЦЯР*

# КАНТЫНЕНТАЛЬНЫ СНЯДАНАК

***«Аднойчы ў цэнтры Менску пабудавалі пяцізоркавы гатэль. Валодаў ім нейкі замежны мільянер Ніндзя. І жылі ў гэтым гатэлі вядомыя людзі: прэзідэнты, спартсмэны, зоркі эстрады... І ўсё яны елі кантынентальныя сняданкі».***

«Кантынентальны сняданак» — гэта твор не проста пісьменніка, але і чалавека, які працаваў у гатэлях і ведае, што на самай справе адбываецца ў тым асяроддзі. Як здек успрымаецца папярэджванне Календы: «Усе героі і падзеі кнігі выдуманыя, любыя супадзенні выпадковыя».

Аказваецца, працу ў гатэлі можна параўнаць з працай на заводзе: «заробак заўсёды малы, але ня вельмі — так, каб пражыць да наступнага заробку». Здаецца, нічога складанага, але на самай справе — гэта калектыў, які не прымае спробы адасобіцца з кнігаю ў кладоўцы, засціланне чужых ложкаў і мыццё чужых ануч.

Сквапныя пакаёўкі, якія выпіваюць дарагое віскі з міні-бара пастаяльцаў, бармены, якія запісваюць абеды / вячэры / алкаголь / і ўсё тыя ж кантынентальныя сняданкі на рахунак госця нумара 607, якога ніхто ў вочы не бачыў і не ведае пра яго нічога за выключэннем немагчымага багацця. Парыкмахеры, масажысткі, бухгалтары, якія не супраць нажыцца на сваіх пастаяльцах. Інвестары, шэйхі і менеджары, — людзі, якія звальняюць усіх сквапных, п’яных і несумленных супрацоўнікаў. Такім прадстае гатэль у Сяргея Календы. І гэта яшчэ не самае горшае. Самае страшнае тое, што Мінск малюецца не такім ужо чыстым, а хутчэй заганным у маральным плане горадам. Хаця заганныя ў асноўным пастаяльцы дарагога пяцізоркавага гатэля, супрацоўнікі якога за сімвалічны для замежніка кошт знойдуць яму забаву на адну ноч. А гэта ўсё «грошы, грошы, паўсюль грэбаныя грошы, паперкі, якія дыктуюць свае правілы…»

У гатэлі яшчэ здымаюць рускія серыялы. Мала грошай пастаяльцаў, можна здабыць яшчэ. Ад тых, каму шкада выкідаць іх на радзіме, таму яны прыязджаюць да нас і нават знаходзяць танных сцэнарыстаў, якіх потым не могуць пазбавіцца, а хочуць. Бо сцэнарысты маюць рацыю, у кожны свой тэкст укладваючы словы: «Мы ўсе цяжка хварэем, але пра гэта яшчэ ня ведаем. Мы ўсе — змесцівы вірусаў і бактэрый, і нас чакае выбух».

Мы хворыя, а асабліва хворы «стафф» гатэлю. Хворыя яны і на зайздрасць, і на любоў да грошай і на няшчырасць. Бо жыццё прымусіла працаваць там, дзе спраўджваюцца чужыя жаданні, а яны, гэты самы «стафф», павінны іх выконваць. Добра быць Джынам, калі гэта хоць асалоду прыносіць.

У такім тэксце павінна быць нешта добрае, нешта светлае. І пад гэтым «светлым» я маю на ўвазе герояў. Далёка не ўсіх, але ж… Жыццё іх было падобнае да шахматнага цугцвангу — «які ход ня зробіш, усё адно будзе кепска, й штосьці страціш». Тады навошта нешта мяняць? Куды ні пойдзеш — усюды цуг-цванг. Але хтосьці змагаўся. Хтосьці задумаў барацьбу з уладальнікамі і начальствам гатэля, хтосьці проста помсціў. Усе хацелі на волю. Але не маглі. Трэба зарабляць, бо «якія яшчэ мэты па жыцці могуць з’яўляцца ў чалавека, калі галоўны паказнік заможнасці цяпер — гэта кватэра й машына…»

Праца кіпіць, жаданні выконваюцца, сняданкі гатуюцца. Кажуць, у гатэлях можна добра зарабіць. Але гэта проста плёткі. Ці хацелі б вы там працаваць? Ці хацелі б там пажыць? Хацелі б з’есці кантынентальны сняданак, які рабілі вам з нелюбоўю, нават з нянавісцю? Хацелі б аддаць за яго цэлы скарб, каб атрымаць асалоду ад ежы, колькасць якой абмежавана, як абмежаваныя і пастаяльцы гатэля і бязвольныя супрацоўнікі? Дзверы гатэля заўсёды адчынены для тых, у каго ёсць грошы:

— Добры дзень! Запрашаем! Які б нумар вы хацелі?

*Аксана ВАРАТНІКОВА*

# ШЛЯХІ МАСТАКА — НАШЫ ШЛЯХІ. АНТЫЎСПАМІНЫ

У каталогу выставы да 100-годдзя Яўгена Красоўскага размешчаны твор «На аднаўленне Мінска» 1944 года. На графічным аркушы па ўскраі калоны палонных як быццам крочыць мая маці ў галёшах, са зброяй. Вось так я з ёй, а можа, з падобнай жанчынай, сустрэлася. Праз твор мастака.




У маміны часы «надзейных», былых партызан і салдат, па чарзе ставілі сцерагчы калоны нямецкіх палонных, што ішлі на працу. І мама была з надзейных.

Яна амаль нічога не распавядала. Не магла ўспамінаць — балюча. Не хацела ўспамінаць — небяспечна. Прамаўчала ўсё жыццё.

Усё, што на ёй, — абвіслае, стаптанае, на плячах ватоўка. Калі ўжо вартавалі жанчыны, то немцы, мабыць, не былі небяспечнымі, працоўныя пчолкі. Да канца ХХ стагоддзя лічылася, што калі палонны немец будаваў дом, складаў камін, шыў вопратку, то гэта ўсё высокай якасці. Сёння едуць у Германію і праграмісты, і пісьменнікі, і ўрачы, і музыканты — на чужы хлеб, і маюць радасць.




Падарожжы, падарожнікі…

З апошняга. Танюткі, такі пранізлівы грузінскі матыўчык Лары Густавай (непаўторны, толькі для нас спявалася) і ўражанні пра Тбілісі. Гэта было натхняльна! А мне раптам убачылася, як Караткевіч трапіў у Братыславу (сустракаўся з перакладчыкам) і завітаў на здымкі фільма «Пушчык едзе ў Прагу». Тэма мядзведзяў. У яго ўжо мелася на той час філасофскае апавяданне «У мяне былі мядзведзі», ды і на здымкі кіно любіў ездіць. А тут за мяжу, у Чэхію. Складана, без грошай, шчаслівы і вольны на некаторы час ад барацьбы за гуманізм на Радзіме. Чужая культура расхінала полаг часу, аб'ядноўвала з вольнымі людзьмі даўніны, уносіла ў яго казкі свой радок пра тое, як усё паходзіць з Беларусі, Вялікага Княства Літоўскага. А гэта ж толькі казка, вандроўка, маштабны «Пушчык едзе ў Прагу». Спыталі яго аднойчы, ці сапраўды тое, што пісаў для фільмаў, і ёсць жыццё. Ён сказаў: «Не, я троху прыдурваюся!» Ён, Уладзімір Сямёнавіч, — пра мінулае і іншых, але вельмі падоб-







ных да нас, мы — пра яго і прынцыпы літаратуры, ён — пра нас у будучым… Такі доўгі, бясконцы тунэль. З удзелам мастака Красоўскага, яго экслібрыса для бібліятэкі Караткевіча. Такім чынам, экслібрысы і партрэты Яўгена Красоўскага — гэта галерэя-партал, асобны ўваход у гісторыю! І калі ёсць асалода ад руху — глядзіце яго экслібрысы, рух спецыяльна прыпынены для разглядання! Экслібрыс дзейнічае як лекі — ад «гіпер-тонусу», ад мітусні.

Караткевіч — персона, так пачынаецца тэма сяброў і пранікненне ў пэўнае мастацкае кола. Але для іншага Караткевіч — як маці! Нарадзіў і выхаваў думкі, ідучы як быццам паралельна. Яго партрэт вы бачыце. Толькі быў бялейшы тварам. А па законах графікі атрымалася цяжкая постаць, мужная. Не скажаш, што гэты чалавек плакаў ад няўдачы, крыўды і ліў п’яныя слёзы па памерлай сваёй Валі. Апошняе было невыносна і дабіла яго. Ён не захаваў свой скарб!

Толькі адно сяброўства, застаўся партрэт і экслібрыс для прыватнай бібліятэкі Караткевічаў, якой ужо няма, бо чытач...

Наступны крок — налепка на кнігу, ex libris, з лацінскай «з кніг». Унучка мастака Вольга скажа: «Сябравалі блізка, Караткевіч часціў у ягонай майстэрні!» І для нас гэта ключ да вобразаў.

А мы паступова крочым далей. І сустракаем твор пра наведвальнікаў карціннай галерэі. Няпроста ідзе да сваёй кампазіцыі Яўген Красоўскі. Бярэ дэмакратычную ідэю Васілія Пукірава, селяніна з Цвярской губерніі. Да таго ж самародка, якога вучыў некаторы час іканапісец у Магілёве. Можа, і не важны гэты факт, але… Мастак аднаго твора стаў прафесарам «жывапісу народных сцэн» Акадэміі мастацваў.

Пра карціну ў карціне. Наведвальнікі, вясёлыя і правільныя, савецкія, стоячы ля трагічнага твора Пукірава «Няроўны шлюб», на самай справе выдаюць маральныя норавы. А мы праз столькі год глядзім і таксама нешта мяркуем. Адна студэнтка лічыць, напрыклад, што не змагла б вучыцца без такога сівенькага дзядка. І гэта норма, бо вучыцца — справа богапатрэбная.

Вось твор 1956 года. Немагчыма было казаць пра пытанне жанчын асобна ад будаўніцтва камунізму. Таму мастак не стаў і называць услых, як яго турбуе будучыня, прынамсі, другая палова ХХ стагоддзя. У школьнай форме дзяўчынка, якая мо зараз чытае гэтыя радкі, бо да гэтых часоў цікавіцца мастацтвам. А мо нават ходзіць на

выставы ў Мастацкі музей на Леніна!

Мастак мог пісаць багатага купца-грузіна, уводзіць вобраз свахі, іншы сацыяльны тыпаж. А мог цікава размясціць групу ад жаніха, злева, і ад нявесты, справа.

Каб вы бачылі, якія партрэты сёння малююць мастакі нашаму чынавенству, са стрэльбай, з трафеямі, «а-ля парсуна» — з гербамі! Сваха сёння існуе на ўзроўні тэлебачання. І гэта ўсё першым ахапіў Васілій Пукіраў, а потым транслявараў наш мінскі мастак Яўген Красоўскі.

Букетам бэзу, які ён пісаў часта, з найвысокай асалодай, не абмяжоўваецца магічны пэндзаль гарадскога дзівака. Дабрыня — вось галоўная рыса яго самасці! Бо дапамагаць жыць — гэта і ёсць творчасць. І драбільшчыкі камянёў Курбэ, француза, натхнілі зірнуць на цяжкую працу рабочых МТЗ. Вось які факт ёсць у біяграфіі нашых трактароў, што шукаюць патрыятызму для новай генерацыі беларусаў.

Жывём сённяшнім днём. А ён нічога не варты без гэтых людзей, па-дзей. Дзеяў. Дзе-я? Ў!

Мае антыўспаміны: сучаснае бачанне творчасці Яўгена Красоўскага, заўсёды новае жыццё мастака, які паўсядзённасць рабіў геройствам, назваўся нашым Курбэ, а рэалізм у нашым краі пашыраў да межаў павагі натуральнасці і шчырых пачуццяў. Мы яшчэ раз паказалі, што традыцыі рэалізму ў прасторы часу найбольш устойлівыя, бо яны звязаны з кожным жыццём, перад мастацтвам усе роўныя як перад вечнасцю, і простая школьніца, і Караткевіч з Брылём. Бо мастацтву цікавыя ўсе. Мастак — як корань, а мы ўбачылі новую крону над яго Дрэвам Жыцця. А сувязь з Дрэвам жыцця прамая, таму што спрадвеку лічылася: такім чынам чалавек набывае згубленую бессмяротнасць.






Трэба ісці садзіць сваё дрэва.

***Хто далучаецца:***
***Ларыса ГУСТАВА**, праніклівы знаўца духоўных і народных песень.*
***Вольга і Яўгенія КРАСОЎСКІЯ**, унучка і праўнучка мастака.*
***Анатоль ГОЛАД**, мастак, вучань Красоўскага, жыве ў Канадзе.*
***Курбэ Жан Дэзіре ГЮСТАЎ**, французскі мастак, уваходзіць у наш тэкст як мэтр, заснавальнік рэалізму ў еўрапейскім мастацтве.*

Віктар ЛУПАСІН

# ДЗЕЯ ЛЕТАШНЯЯ, У ТРОХ ЧАСТКАХ




*Рэкурсія.*



*Герхард.*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ, МАКАРАНІЧНАЯ

Аднойчы галоўны рэдактар папрасіла мяне зганяць у Нясвіж, каб узяць інтэрв'ю ў дырэктара нясвіжскага замка Сяргея Клімава. Я з радасцю пагадзіўся.

Як вядома, аўтобуса «Мінск—Нясвіж» няма (чаму, дарэчы?). Давялося прымасціцца ў аўтобусе «Мінск—Пінск». Ззаду шчабяталі па-англійску дзве мілыя кітаяначкі, а маім суседам аказаўся немец Герхард, які ні слова не разумеў па-беларуску.

Герхард сказаў, што in every country павінна быць something crazy — напрыклад, roads in Germany, or corrida in Spain. У Беларусі crazy, на думку Герхарда, нашы money з дзікай колькасцю zeros.

Апроч беларускіх грошай Герхард дужа залюбіў старыя савецкія машыны і фоткаў іх у мностве. А я фатаграфаваў, як Герхард фоціць старыя савецкія машыны! Хацеў яшчэ верш прачытаць, але ж... realised he didn't understand Belarusian.

Развітаўшыся з Герхардам, я пайшоў да замка і пасля экскурсіі завітаў у кабінет дырэктара, як я думаў, Нясвіжскага замка Сяргея Клімава.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ, АПТЫМІСТЫЧНАЯ

**Віктар Лупасін:** Вы ўжо некалькі гадоў дырэктар замка...

**Сяргей Клімаў:** Не. Я дырэктар нацыянальна-культурнага запаведніка. Замак — гэта структурнае падраздзяленне. У нас іх некалькі: замак, ратуша, інфармацыйна-касавы цэнтр, экскурсбюро, рэстаўрацыйныя майстэрні і гаспадарча-транспартная група. Цяпер у нас працуе прыкладна 200 чалавек, у міжсезонне застанецца 160—170.

**В. Л.:** То бок, напрыклад, калі я — малады выпускнік «кулька» ці нават студэнт, то магу пад'ехаць да вас у сезон падрабіць экскурсаводам?

**С. К.:** Канешне. Асабліва нас цікавяць людзі, якія валодаюць польскай, літоўскай, англійскай, нямецкай мовамі. Мы адзіны музей Беларусі, які ладзіць акрэдытацыю знешніх экскурсаводаў. Але гэта — прафесійна падрыхтаваныя людзі, таму што ў нас тэкст экскурсу займае каля сарака старонак і, калі чалавек не ведае гісторыі Нясвіжа, яму будзе вельмі складана.

***Пра мары і дасягненні***

**В. Л.:** З тых募 мараў, планаў, што былі, калі вы пачыналі тут працаваць, якія здзейсніліся, а якія не?

**С. К.:** Большасць з таго, што я хацеў, зроблена. Сабрана каманда, якая можа працаваць у такім запаведніку або музеі еўрапейскага тыпу. Насамрэч гэта не было простай справай. Я шмат бываю ў камандзіроўках, апошняя ладзілася ў Францыю. Мы пабылі ў замку Фантэнбло — там, дзе Напалеон адмовіўся ад кароны. Замак памерам прыблізна такі, як наш, мае ідэальныя калекцыі, усё там засталося ад часоў Напалеона, але Фантэнбло наведвае столькі ж людзей, колькі і наш замак у Нясвіжы, — 430 тысяч экскурсантаў на год. І такія самыя праблемы, і такі самы прыбытак. Але іх дзяржава фінансуе на 60 працэнтаў, а нас толькі на 30 працэнтаў.

Далей. Створана экспазіцыя. Мала хто верыў, што за паўтара года можна яе зрабіць, але мы зрабілі. 32 залы адразу адчынілі для наведнікаў. І рэстаўрацыйныя майстэрні створаны — тое, пра што я марыў.

З таго, што не зроблена, — мы б хацелі яшчэ пашырыць сваю прысутнасць у рэгіёне. Хацелі б адчыніць яшчэ дзіцячы музей і музей прыватных калекцый. Нам, на жаль, не ўдалося пакуль атрымаць памяшканні ў горадзе, але мы знайшлі ўнутраны рэзерв: ратуша. Рэстаран у ёй не адпавядае ніякім тэхнічным патрабаванням — і кухня амаль што ў зале, і без выцяжак, цесна — і наведнікам ратушы, і наведнікам рэстарана. Чаму б там не зрабіць дзіцячы музей? Робім.

Сёлета быў у Італіі, пазнаёміўся з цікавымі архітэктарамі, якія рэалізоўвалі вялікі



*Дырэктар.*

праект пад назвай Каструм. Ці не 15 краін Еўрасаюза даследавалі замкі, распрацоўвалі праграму ўжыўлення іх у мясцовую эканоміку, ажыўлення турыстычных патокаў. У гэтых людзей добры досвед, і па кошце гэта будзе, я мяркую, не даражэй за паслугі беларускіх архітэктараў. Цяпер трэба весці перамовы, каб мы маглі не толькі дзіцячы музей адкрыць, але і як-небудзь мадэрнізаваць экспазіцыю ратушы — яна ўжо маральна састарэла.

**В. Л.:** А што значыць маральна састарэлая экспазіцыя ў ратушы?

**С. К.:** Справа ў тым, што рабілася яна, калі цяперашняй экспазіцыі яшчэ не было, і часткова дубліравала гісторыю замка. Там вісяць партрэты ўладароў, стаіць наваробная мэбля, якая цяпер, так бы мовіць, не надта дарэчы: стылізацыі пад Сярэднявечча, не дужа цікавыя вырабы новага мэблевага мастацтва. Тамтэйшая экспазіцыя тэматычна не вельмі звязана з ратушай. Хацелася б тым памяшканням, што былі выяўлены падчас рэстаўрацыі і даследчых работ, — зале суда, зале пасяджэнняў, кабінету войта — вярнуць



*Гарнітур.*



*Сэлфі.*

гістарычныя функцыі. Распавесці пра тое, як кіравалі горадам, як ён гандляваў, як багацеў. Новая экспазіцыя будзе і цікавейшай, і багацейшай — мы ўжо набываем для яе экспанаты.

***Пра падыходы да рэканструкцыі***

**В. Л.:** Як, на ваш погляд, лепей: каб такая гісторыка-культурная будыніна была стопрацэнтна ідэальна бліскучай ці каб яна несла на сабе нейкія...

**С. К.:** ...гістарычныя сляды?

**В. Л.:** Нейкія сляды старасці, каб стваралася ўражанне, што ёй ужо шмат гадоў.

**С. К.:** Калі б у мяне быў выбар, я б нават пакінуў бы недзе руіны, паколькі яны гавораць гучней за наваробныя сцены. Але музей прыйшоў у гэты комплекс, Нясвіжскі палац, самым апошнім. Тут панавалі волі архітэктара і навуковага кіраўніка. Але трэба разумець, што ў адну раку нават аднойчы не ўвайсці, як постмадэрністы кажуць. І каб зрабіць комплекс еўрапейскага ўзроўню, кампрамісы — інфраструктура, камунікацыі, ацяпленне, вада, бяспека — непазбежныя. «Залатую сярэдзіну» вельмі цяжка знайсці. Мы жывём у XXI стагоддзі, і турысты, якія сюды прыязджаюць, — 400 тысяч! — хочуць бяспекі і камфорту. Мы не можам іх у руіны павесці. Ёсць прыклады. Скажам, Луўр. У мяне такое ўражанне, што павуціну там не здымалі ад часоў Французскай рэвалюцыі. Ён вельмі затаптаны. Там нават... бруднавата ўнутры. 9 мільёнаў турыстаў. Мы гутарылі з адміністрацыяй, з адным з дырэктараў Луўра, яны сказалі: так, мы гэта ўсё разумеем, але, прабачце, нас мала фінансуюць. Хаця іх фінансуюць на 60 працэнтаў. Яны не паспяваюць усё ўпарадкаваць. Музеі ўсё ж выжываюць, яны не зарабляюць вялікіх грошай — гэта не камерцыйныя ўстановы.

**В. Л.:** Я сам працаваў у музеі, ведаю.

**С. К.:** Трэба разумець, што (пры ўсёй маёй павазе да беларускай рэстаўрацыйнай школы) мы нязначна прасунуліся ў тэхналогіях, якія б дазволілі захоўваць старое. Ламаць яго, рабіць новае — так, гэта ёсць. Але каб карэктна тое старое захаваць...

***Пра матэрыялы***

**В. Л.:** Вы сказалі, што тых матэрыялаў няма.

**С. К.:** У нас цяпер сыплецца пярэдняя сценка. Ёсць якасны матэрыял, які вытрымлівае мароз і іншае. Але за Радзівіламі цэгла вытрымлівала не толькі размярзанне, гэты плюс-мінус, — яна вытрымлівала асадную зброю! Яна вытрымлівала ядры! Адкуль такі матэрыял будзе, калі няма патрэбы, калі няма выкліку ваяваць і бурыць таранамі? І многіх матэрыялаў няма. Знайсці сёння чалавека, які працуе з традыцыйнымі матэрыяламі, вельмі цяжка. Напрыклад, мы хацелі зрабіць фартыфікацыю заходняга бастыёна. Адліць гарматы, паставіць габіньёны — дык яшчэ знайдзі, хто спляце кашы для ядраў! Кошыкі плятуць, а кашы ніхто не робіць! Усё гэта адыходзіць не таму, што мы не ўмеем нешта рабіць — няма патрэбы і таму няма майстроў. Нават калі трэба зрубіць пабудову з вугламі, дык шукаюць людзей, якія недзе на поўначы ледзь не ў сталінскіх лагерах гэта рубілі. Няма патрэбы ў нашага грамадства ў такіх ручных работах. Усё чапляецца адно за адно!

***Пра прывідаў і ўласны замак***

**В. Л.:** Скажыце, а ці ёсць у замку прывіды?

**С. К.:** Мы робім цэлую інтэрактыўную экспазіцыю, але, на жаль, пакуль не можам знайсці тэхналогію, каб гэта ўсё ажыццявіць. Хаця нашчадкі апошняга ардыната Леона Радзівіла — мы іх адшукалі, запрасілі сюды, яны прыязджалі да нас — распавялі, што разам з Леонам з’ехаў і прывід, ён цяпер жыве ў замку ў Італіі...

**В. Л.:** Дарэчы, а як яны наогул выказаліся пра наш замак?

**С. К.:** Ім вельмі спадабалася. Дзіяна Радзівіл замужам за спадаром Фердынандам Караба. У іх ёсць замак і віла, і спадар Караба адзначыў, што ў нас усё вельмі добра, парадак належны. Ён ведае, што гэта такое. Многія нашчадкі ўладароў замкаў у Францыі, Італіі адмаўляюцца ад іх, прадаюць, бо ўтрымліваць немагчыма. Гэта вельмі вялікія сродкі — у нас, напрыклад, на ўтрыманне комплекса траціцца больш за мільён долараў штогод.

**В. Л.:** Я толькі-толькі хацеў спытаць, колькі трэба плаціць грошай, каб мець свой замак.

**С. К.:** Гэта вельмі дарагая забава, бо, нягледзячы на тое, што ёсць уладары замка, ёсць і жорсткія патрабаванні па ахове помнікаў — у прыватнасці, у Францыі прасцей яго прадаць, чым аднаўляць або ўтрымліваць. Мы з калегамі наведалі Італію і паглядзелі каля дзесяці гістарычных аб’ектаў. Але там дзве тысячы замкаў! Вы ўяўляеце? Туды турысты проста не дабіраюцца. І калі дваццаць тысяч за год наведвае замак, гэта лічыцца вельмі добрым паказчыкам. Нас прымалі на ўзроўні дырэктараў Луўра, Прада або Метраполітан-музея, таму што для іх чатырыста тысяч — каласальная лічба! Канешне, я не кажу пра Рым, Ватыкан — там мільёны турыстаў…



*Сіямскае крэсла. Калі муж і жонка сварыліся, іх саджалі на гэтае крэсла і прымушалі на ім сядзець да замірэння.*



*Рогі.*

***Пра кафэшкі і рэсташкі***

**В. Л.:** Скажыце, кафэшкі-рэстарашкі, што побач, належаць замку?

**С. К.:** Не. У замку ёсць дзве гасцініцы прыкладна на 50 месцаў, рэстаран, кавярня, некалькі крамак, але музейная крама толькі адна — сувенірная. Усё астатняе мы здаём у

арэнду. Але ёсць планы пабудаваць рэстаран у горадзе, прычым з элементамі музея. Ужо адабраны экспанаты: прыблізна 1500 прадметаў мяжы XIX — пачатку XX стагоддзя, летась мы набылі ў Слоніме прыватную калекцыю. Чалавек збіраў яе ўсё жыццё, потым памёр, а нашчадкі вырашылі не дзяліць — перадалі нам усё цалкам. Прасы, вагі, ліхтары, музычныя інструменты.

***Пра капліцу і браму***

**В. Л.:** А капліца ваша дзейнічае?

**С.К.:** Так, мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч яе асвяціў паўтара года таму. З нагоды юбілею асвячэння ў капліцы было набажэнства, па жаданні вернікаў там могуць праходзіць вянчанні ды іншыя ўрачыстасці. У нас ёсць яшчэ адзін аб'ект, які мае канфесійную гісторыю: Слуцкая брама. Мы вярнулі яе функцыю — пабудавалі алтар. Плануюцца з цягам часу і дзве невялікія музейныя экспазіцыі пра канфесійную гісторыю Нясвіжа. На першым паверсе, дзе сядзела варта, пакажам гісторыю гарадскіх умацаванняў. На ўзроўні канцэпцыі гэта ўжо зроблена, але пакуль не хапае сродкаў і не даходзяць рукі.

***Пра грошы і экспанаты***

**С. К.:** Іх катастрафічна нестае. На зарплаты ідзе каласальная колькасць грошай, паколькі ў нас ёсць пазабюджэтнікі і мы вельмі шмат даплочваем нашым людзям, каб іх утрымаць. Сёлета купілі тры дамы для супрацоўнікаў. Цяпер мадэрнізуем іх. Да таго ж, купляем шмат экспанатаў. Набылі шыкоўны гарнітур, які належаў Радзівілам...

**В. Л.:** Бачыў яго.

**С. К.:** Доўга ішлі роздумы, купляць — не купляць, але ў нас амаль не засталося аўтэнтыкі. Людзі прыязджаюць глядзець аўтэнтыку, радзівілаўскія рэчы. Доўга за тым гарнітурам ішло паляванне,назіранне, але не было сродкаў. Як толькі мы іх зарабілі, набылі гэты экспанат. І штогод прыблізна на 200—250 тысяч долараў будзем купляць такія знакавыя рэчы.

Яшчэ ў нас была ідэя аднавіць калегіум, ёсць эскізы, як гэта зрабіць. Музей не проста жыве нейкімі планамі: ён увесь час рэалізуе пэўную іх колькасць, інакш да нас не ездзілі б турысты.

**В. Л.:** Напачатку працы на гэтай пасадзе казалі, што вы хутчэй менеджар, чым культурнік, так?

**С. К.:** На той час трэба было кіраваць шматлікімі рабочымі групамі. Я бачу, што цяпер можна надаць увагу і сваёй асноўнай прафесіі гісторыка. І ў мяне выспявае думка напісаць кніжку. Пакуль не буду казаць, пра што, збіраю матэрыялы. Тэматыка будзе нясвіжская. Але ж менеджарства ніхто не адмяняў! Я дырэктар найбуйнейшага музея краіны з вялікім калектывам, які давярае мне. Мы ладзім па дзве канферэнцыі штогод, праводзім лекцыі, выдаём зборнікі... Я мушу займацца па магчымасці і кіраваннем, і навукай як кандыдат гістарычных навук.

**В. Л.:** Дарэчы, а які тэмат быў у вашай кандыдацкай?

**С. К.:** «Базыльяне на землях Вялікага Княства Літоўскага на зломе XVIII—XIX стст.» Я напісаў кніжку, яна выдадзена некалькі гадоў таму і прадаецца ў «Акадэмкнізе». Я аказаўся адзіным спецыялістам у гэтай вузкай галіне, але тэма дужа цікавая... Зараз я канфесійнай гісторыяй не займаюся: калі нешта збіраюся пісаць, то не навуковае, а навукова-папулярнае.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ, МАКАБРЫЧНАЯ

Развітаўшыся з дырэктарам, я рушыў у бок Гарадзеі, бо электрычкі «Нясвіж—Мінск» няма. Там я напаткаў выдатнага клавесініста Дзмітрыя Зубава, чый канцэрт чуў аднойчы ў музеі Якуба Коласа.

Прыехаўшы ў Мінск, я закатаў рукавы і вырашыў: не далей як праз тры дні зраблю шыкоўны матэрыял. Засеў з дыктафонам і за адзін прысест расшыфраваў адну шостую інтэрв'ю. За другі прысест я расшыфраваў яшчэ адну шостую.

Пасля гэтага прысесты паўтараліся радзей і радзей, а нервовыя званкі з рэдакцыі — часцей і часцей. Усяго праз паўтара месяца я амаль дарабіў тытанічнае інтэрв'ю і вырашыў, што яно вось-вось будзе гатова.

Але праца пасоўвалася ўсё марудней.

«Не, гэта містыка, нейкая чорная дзірка», — вырашыў я.

Чытач! Калі ты бачыш гэта інтэрв'ю, значыць, мы перамаглі чорную дзірку! Павіншуй нас, гэта сапраўды варта павагі!



*Спецыяльны праект*
*да 250-годдзя*
*Міхала Клеафаса Агінскага*
*(а таксама года Агінскага,*
*абвешчанага ЮНЕСКА),*
*падрыхтаваны*
*пры непасрэдным удзеле*
*і актыўнай падтрымцы*
***Адама Мальдзіса,***
***Таццяны Кляшчонак,***
***Леаніда Несцярчука,***
***Сяргея Верамейчыка***
***і Антона Ільіна.***

# Агінскі

Маладосць

# ЛІСТ ДА СЫНА*



Сын Ірэніуш.

*Прапанаваны ніжэй ліст Міхала Клеафаса Агінскага быў знойдзены супрацоўнікамі Музея Агінскага (Залессе Смаргонскага раёна) падчас працы ў Гістарычным архіве Літвы ў Вільнюсе. Гэты ліст захоўваецца ў фондзе князёў Агінскіх і носіць назву: «Бацькоўскія парады М. Кл. Агінскага свайму сыну Ірэніушу на жыццёвы шлях у сувязі з падарожжам апошняга на вучобу ў Італію», датаваны 1825 годам. Пакінуўшы Залессе яшчэ ў 1822 годзе, Міхал Агінскі на той час жыў у Фларэнцыі. Яго сыну Ірэніушу споўнілася 17, і ён накіроўваўся з Залесся ў Італію на вучобу.*

*Агінскі звяртаецца да свайго сына і дае яму парады на пачатку самастойнага жыцця. Праз гэты ліст паспрабуем трошкі паіншаму паглядзець на вядомага кампазітара і дзяржаўнага дзеяча, — як на клапатлівага бацьку, што ў далёкай Італіі не перастае думаць пра сваю сям'ю.*

*Для нас гэты ліст з'яўляецца помнікам гісторыі XIX стагоддзя, ён дае ўяўленне пра культуру і традыцыі перыяду рамантызму.*

**Сяргей ВЕРАМЕЙЧЫК**

* Тэкст узяты па прапанове Адама Мальдзіса з тэматычнага зборніка «Вяртанне-8», які рыхтуецца ім да друку. Назва зменена.

*Гістарычны архіў у Вільнюсе*
*Фонд 1177, справа 87*

**БАЦЬКОЎСКІЯ ПАРАДЫ (RADY OJCOWSKIE) МІХАЛА КЛЕАФАСА АГІНСКАГА СЫНУ ІРЭНІУШУ НА ЖЫЦЦЁВЫ ШЛЯХ У СУВЯЗІ З ПАДАРОЖЖАМ АПОШНЯГА НА ВУЧОБУ Ў ІТАЛІЮ (1825 г).**

**Дзіця маё, ты пакідаеш бацькоўскі дом і з гэтага першага кроку пачынаецца новы этап твайго жыцця, з гэтага моманту ты можаш сказаць сабе — я пачынаю жыццё.**

**Задумайся і памяркуй разважліва над гэтым словам «жыццё»: гэта не толькі праца жыцця, якая з'яўляецца агульнай для ўсіх жывых істот, але і ўменне жыць — дзеля гэтага трэба задумацца аб сродках і сэнсе жыцця.**

**Няхай гэтыя словы «меркаваць, думаць» не пужаюць цябе, мой дарагі сын. Няма такога ўзросту, якому не быў бы ўласцівы розум, а навука жыцця такая ж, як і ўсе іншыя, якія было б можна вывучыць, калі толькі прызвычаіцца засяроджвацца на самім сабе, вывучаючы сябе, пераймаючы парады, якія даюць людзі, што будуць весці цябе першымі шляхамі твайго жыцця.**

**Я не далучаю сябе да ліку такіх павадыроў, але з дапамогай гэтага ліста буду размаўляць з табой так, як быццам бы быў побач, даючы парады і наказы і, магчыма, яны будуць апошнія, калі толькі Боская воля не дасць мне шчасце ўбачыць цябе ізноў.**

**Вось што я табе раю і наказваю:**

**1.** Перад усім, засвой адну ісціну — чалавек гэта не гульня выпадку, ён не нараджаецца без мэты. Усім ён абавязаны свайму Творцы — Богу, рэлігія — гэта яго абавязак, без яго чалавек нішто, усяго толькі нязначная лічба. Перш за ўсё будзь хрысціянінам — рэлігію людзям даў сам Гасподзь, спачатку будзь проста вернікам, але намагайся стаць вернікам па перакананню. Усё, што зараз тут я табе апавяду, ты яшчэ не зусім зразумееш, але аднойчы пераканаешся, што гэта запаведзь змяшчае тое, што спатрэбіцца, каб стаць шчаслівым.

**2.** Ні на імгненне не забывай нічога з таго, чым ты абавязаны сваёй самай першай дабрадзейцы — тваёй Маці. Нічога з таго, што яна дала табе аднойчы, якая любіць цябе з такой пяшчотай, меры якой ты яшчэ не зразумееў, але якую ты зможаш зведаць і спраўдзіць, намагаючыся быць яе вартым. Ты дасягнеш поспеху, дзякуючы добрай і цвёрдай волі, усё залежыць толькі ад цябе. Прызвычайся нічога не гаварыць папярэдне не запытаўшыся ў сябе: «А мая маці, ці ўхваліць, ці не?..» І калі на гэтае пытанне тваё сумленне адкажа — мая матуля гэта ўхваліць, — тады дзейнічай смела, тваё пачуццё цябе не падмане. Калі яно скажа табе адваротнае, устрымайся, і ты пазбавішся ад памылкі і згрызотаў сумлення. Прымаючы гэта да ўвагі ты ўспомніш пра тое, што яна табе наказвала і прасіла рабіць. Добра падумай, сынок, над гэтым словам «прасіць»: ці зможаш ты адмовіць просьбе Маці, такой добрай, пяшчотнай і каханай, як яна! Яе просьбы наконт тваіх паводзінаў такія:

**3.** Будзь заўсёды раннім — падымайся на золку, як толькі пабудзяць, адразу падымайся і не давай часу для сну і ляноты, перамагай сябе. Першае і неабходнае — прасі захаваць тваю цудоўную Матулю, прасі блаславіць тваіх родных і самога цябе накіраваць на шлях дабрачыннасці. Затым, пасля гэтай першай справы, другая — гігіена. Чысціня цела ўплывае на чысціню душы.

**4.** Што тычыцца ежы, ты павінен пазбягаць празмернасці, асабліва ў віне (калі не, то гэта дрэнна адаб'ецца на тваім здароўі, і ты гэта ведаеш), троху віна (на 2 пальцы), гэта ўсё, што ты можаш сабе дазволіць. Не захапляйся таксама і півам, лепш за ўсё для цябе і твайго здароўя — гэта прахалодныя напоі. Трэба, каб ты ведаў, што празмерная прага — гэта следства дрэннай звычкі ці пашкоджанага страўніка, таму трэба пазбягаць залішняга ў ежы і піцве — усяго таго, што можа нашкодзіць здароўю.

**5.** Ты захаваеш сваё здароўе, калі будзеш захоўваць чысціню, а таксама і рэжым, выконваючы практыкаванні. Ёсць два віды гімнастыкі, да якіх у цябе ёсць слабасць — гэта язда вярхом і плаванне. Я хачу, каб ты іх развіваў і надалей, але каб рабіў гэта з асцярогай, якую яны патрабуюць. Спачатку я спадзяюся на чалавека, ад якога ты будзеш залежаць і давяраць, як наезніку, каб разлічваць на яго разважлівасць. Што тычыцца плавання, я павінен цябе папярэдзіць, што ты павінен добра зразумець, што ёсць вялікая розніца паміж плаваннем у моры, рацэ ці возеры. Абодва мы, калісьці, плавалі, як рыбы, я бачыў, як ты смела кідаўся ў ваду, гэта давала мне самае вялікае задавальненне. Але там, дзе мы праводзілі лета, мы скакалі ў мора з лодкі. Там было глыбока і далёка да дна; а большасць рэкаў заўсёды з цячэннем і ў возерах на дне травы, ціна і багна — гэта вельмі небяспечна для ныральшчыкаў. Купаючыся, не забывай аб розніцы плавання ў рацэ, моры ці возеры — памятай пра ўсё, што я табе кажу.

**6.** Дзень трэба заканчваць таксама, як і пачынаў — з малітвай, успамінаючы тваю добрую матулю, яе клопаты аб табе. Прааналізуй сябе — ці ацаніў ты на працягу мінулага дня гэтыя яе клопаты і дабрыню. Калі ты гэта зрабіў, то Ўсявышні і тваё сумленне пашлюць табе спакойны сон. Але, калі, на бяду, ты гэтага не зрабіў, трэба папрасіць прабачэння ва Ўсявышняга, шчыра пакаяцца з рашэннем выправіцца і заспакоіць сваё сумленне, без чаго не можа быць сапраўднай радасці ў жыцці.

**7.** Для паслуг я адпраўляю з табою Санці, слугу, які 3 гады апякуецца табою. Трэба да яго ставіцца з пяшчотаю і дабрынёю і нават удзячнасцю, таму што ён пакідае сваю жонку і дзяцей, каб ехаць з табою. Але паміж дабрынёю і фамільярнасцю ёсць вялікая розніца. Першае — вялікадушнасць сэрца, другое з-за пасрэднасці і пошласці. Нарадзіўшыся ва ўмовах не абслугоўваць, а быць тым, каго абслугоўваюць, ты абавязаны гэтаму перавагай выпадковасці, таму няма ніякай прычыны гэтым ганарыцца, тым не менш, гэтая перавага дадзена табе. Табе трэба намагацца выхаванасцю і высакародствам пачуццяў, якія, надаючы табе сапраўдную значнасць, будуць табе доказам, што ўсё гэта дасталося табе толькі па волі фартуны.

**8.** Каб замацаваць тваю звычку самааналізу, няма нічога лепей, чым завесці дзённік, каб запісваць усе свае ўчынкі і, асабліва, свае думкі. Гэтая звычка мае падвойную выгоду: звычка засяроджвацца на самім сабе, зглядаць у сябе, захаваць сябе; другое — сфарміраваць стыль, здольнасць пісаць, становячыся пісьменнікам. Гэта прыдумана добра, бо звычка саманазірання яшчэ спрыяе лепшаму запамінанню падзей. Я вельмі задаволены, што гэтая звычка ёсць і ў тваіх сясцёр.

**9.** А зараз пра тое, што тычыцца тваіх заняткаў — тваёй вучобы. Гэты пункт спатрэбіцца, каб пазнаёміць цябе з маімі поглядамі. Я прадракаю табе кар'еру дыпламата, таму што яна, спадзяюся, падыдзе табе больш за ўсё. Неабходна, каб твае заняткі былі накіраваны для дасягнення гэтай мэты. Для пачатку — лекцыі па гуманізму. Ты ўжо валодаеш асновамі грэцкай мовы і мог бы, каб захацеў, валодаць ёй лепей. Неабходна табе прыкласці ўсе намаганні, таму што, я ўпэўнены, вывучэнне дзвюх класічных моў можа быць адначасовым, тым болей, што грэцкая мова папярэднічае лацінскай і дапамагае вывучэнню апошняй. З некаторага часу рамантызм у літаратуры, тое ж самае, што «cholera mortus»[1] для народаў, але гэтая бяда пройдзе, як і ўсе іншыя — добрае і прыгожае застанецца такім назаўсёды, таму што дабро і прыгажосць так, як і ісціна, не змяняюцца ніколі. Тое, што распавёў табе тут у гэтым наказе, вышэй твайго разумення, але пачакай, пройдзе час і ты згодзішся са мной, што не можа быць добрых і моцных ведаў, калі яны не грунтуюцца на веданні гэтых дзвюх класічных моў.

[1] Эпідэмія халеры (*лац.*).

**10.** Я не буду паглыбляцца ў дэталі розных галін гістарычных і філасофскіх ведаў, якія ты павінен будзеш спасцігнуць, каб затым служыць з гонарам; парадак пераемнасці рэчаў, так як і выбар сродкаў, заўсёды ў распараджэнні адукаванага чалавека. Я хачу далучыць яшчэ адно маё пажаданне — вывучаць сучасныя замежныя мовы, што неабходна для тваёй кар'еры, якую ты сабе выбераш. У гэтую пару твайго жыцця памяць твая такая добрая, што авалодаць мовамі будзе лёгка, і гэта, у выніку, будзе вельмі карысна для цябе, таму што несумненна дапаможа табе далей зрабіць кар'еру.

**11.** A questo fine; non dimenticar, o caro mio la dolce favolla Toscana, la lingua di quel bel paese dove il si suona[1]. Недастатковы толькі размаўляць з Санці, бо гэта ўсяго толькі мова вуліцы Фларэнцыі. Трэба добра вывучыць мову, неабходна яе разумець і любіць. Дзеля гэтага трэба чытаць кнігі лепшых італьянскіх аўтараў і трэба пісаць на гэтай мове. Лістуйся на італьянскай мове са сваімі сёстрамі.

**12.** Пасля таго, як ты скончыш падрыхтоўчыя заняткі, ты будзеш працягваць навучанне ва Універсітэце. Намагайся заслужыць добразычлівасць тваіх аднакурснікаў роўнымі паводзінамі, прыязнымі і ветлівымі, для ўсіх аднолькавымі. Бываюць такія студэнты, неспакойнага характару, якім падабаецца шукаць сварак са сваімі таварышамі. Гэта чума, якой трэба пазбягаць з найлепшай стараннасцю, і самы лепшы сродак пазбягаць гэтага (я ўказваў табе вышэй) — быць з усімі як мага болей ветлівым і не ўцягвацца ў справы, якія ты лічыш для сябе непрымальнымі. Сапраўдная мужнасць у тым, каб быць непахісным і нязменным у выкананні сваіх абавязкаў. Часцей той, хто баіцца славы баязліўца і сваю ганарыстасць выдае за смеласць — той і ёсць баязлівец і даносчык. Апошняе лічыцца ў грамадстве самым агідным.

**13.** Поўная паслухмянасць і давер да чалавека, які згодзіцца ўзяць на сябе клопат аб тваіх паводзінах і занятках. Самы лепшы сродак заваяваць яго добразычлівасць — гэта педантычна выконваць свае абавязкі. Думай заўсёды аб чалавеку, які будзе нас замяняць. Ты павінен паважаць і слухаць яго, як свайго бацьку.

**14.** На час тваёй вандроўкі ўсе клопаты аб табе захацелі ўзяць на сябе цёця і дзядзя Далгарукія і апекавацца табой, як маці і бацька, да таго моманту, як вярнуць цябе ў рукі Боскай Волі, якая заменіць іх потым. Няма патрэбы табе казаць, як ты павінен сябе паводзіць са сваімі вялікадушнымі роднымі. Я вельмі добра думаю аб табе, мой дружа, і ўпэўнены ў тым, што ты прыкладзеш усе намаганні, каб заслужыць іх прыязнасць, што ты будзеш шанаваць іх волевыяўленне.

**Бывай, сынок, хай Неба благаслаўляе цябе, як я гэта раблю ад ўсяго сэрца. Пішы нам ня меней 2-х разоў на месяц. Хай давер і праўда заўсёды водзяць тваім пяром. З якім задавальненнем мы будзем даведвацца аб усіх тваіх поспехах, якія залежаць толькі ад цябе, і толькі ад цябе залежыць, калі надыдзе той шчаслівы дзень, калі мы ізноў зможам цябе абняць. Калі ты нас любіш так, як я спадзяюся, гэта павінна цябе падтрымаць ва ўсіх тваіх пачынаннях. Не губляй нічога з таго, што я табе наказваў на працягу 3 гадоў. Выкарыстоўвай мае наказы, каб вытрымаць экзамен, і гэта будзе адзіным сродкам, каб ты змог выканаць адну з сваіх мэт у Італіі, перад тым, як мы зноў убачымся, каб потым ужо ніколі не расставацца.**

***Пераклад з французскай***
***настаўніцы Залескай школы***
***Н. А. ЦІМОНІНАЙ.***
***Пераклад з рускай***
***В. РАМЕЙКА-ЗАЛЕСКАГА***

[1] Дзеля гэтай мэты не забудзь, мой даражэнькі, салодкую казку — Таскану, дзе гучыць мова гэтай цудоўнай краіны (*італ.*). (Агінскі мае на ўвазе тасканскі дыялект, які ляжыць у аснове італьянскай мовы. — Заўвага перакладчыка.)

Таццяна КЛЯШЧОНАК

# НАШЧАДКІ

## I

Міхал Клеафас Агінскі (1765—1833) быў жанаты двойчы. Першы раз ён уступіў у шлюб ва ўзросце 23 гадоў. Жонкай стала 24-гадовая Ізабела Лясоцкая (1764—1852), адзіная дачка Цеханаўскага ваяводы Антонія Лясоцкага і Тарэсы з Ляскоўскіх, стальнічанкі Бельскай (як пра яе піша «Polski słownik biograficzny». Ваявода — кіраўнік ваяводства, высокі чыноўнік каралеўскай адміністрацыі ў Рэчы Паспалітай, стальнічанка Бельская — дачка стольніка Бельскага ваяводства, тытулаванага чыноўніка). Вяселле адбылося 17 мая 1789 года ў адным з маёнткаў цесця — Бжэзінах у Лэнчыцкім ваяводстве, недалёка ад Варшавы і Гузава (маёнтка Агінскіх). У варшаўскіх архівах захаваўся панегірык К. Скшэтускага, прысвечаны гэтай падзеі.

Праз год Агінскі, які дасюль актыўна ўдзельнічаў у працы Чатырохгадовага сейма і Камісіі скарбу Літвы, атрымлівае прызначэнне на пасаду надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Рэчы Паспалітай у Галандыі. Ізабела суправаджае мужа ў гэтай паездцы, якая завяршаецца паўафіцыйным візітам у Лондан. Даследчыца дыпламатычнай гісторыі Рэчы Паспалітай XVIII стагоддзя З. Лібішоўская ў артыкуле «Misja Ogińskiego w Londynie» паведамляе, што ў час гэтага падарожжа жонка Агінскага, будучы на сёмым месяцы цяжарнасці, страціла дзіця, і спасылаецца пры гэтым на ліст Агінскага да караля ад 21.10.1790 года з Гаагі. Затым жыццё маладой сям'і ўвесь час перарываецца працяглымі разлукамі: спачатку паездкай Міхала Клеафаса на Беларусь у 1791 годзе, затым — у Вільню, Пецярбург, Альтвасэр, у Гродна на ўвесь час працы падзелавага сейма 1793 года і на час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі…

Пасля паражэння паўстання для Агінскага ўвогуле надыходзіць перыяд шматгадовага «тулянне па Еўропе», у якім жонка суправаджаць яго не можа з-за грашовых цяжкасцей. Не дзіўна, што першы сын Агінскіх Тадэвуш Антоній (1798—1844) нарадзіўся толькі праз дзевяць гадоў шлюбу, калі сам шлюб ужо вычарпаў сябе.

З гэтага шлюбу Агінскага паходзіць яшчэ адно дзіця — сын Францішак Ксаверый (1801—1837). Абодва сыны прыйшлі на свет у Бжэзінах, дзе з 1795 года была вымушана жыць Ізабела, не могучы падзяліць лёс мужа-выгнанніка. Зняверыўшыся ў памысных выніках дзейнасці польскіх эмігрантаў, сюды вясной 1798 года прыехаў і сам Агінскі. Яму суджана было пражыць тут амаль тры гады, а затым назаўсёды расстацца з першай сям'ёй. Ізабела з сынамі засталася гаспадыняй маёнтка Бжэзіны і іншых уладанняў яе сям'і, таму што ў гэты самы час (у 1799 годзе) памёр яе бацька, актыўны прыхільнік рэформ апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, досыць заможны дзяржаўны чыноўнік. Княгіня Ізабела з мэтай павелічэння прыбытковасці гаспадаркі запрасіла сюды ў 1816 годзе некалькі дзясяткаў сямей нямецкіх сялян-каланістаў, якія займаліся ткацтвам, земляробствам і жывёлагадоўляй. Улічваючы, што каланісты былі пратэстантамі, Ізабела падаравала іх евангелічнай абшчыне ўчастак зямлі пад пратэстанцкія могілкі, а для сваіх адзінаверцаў-католікаў заснавала асобную парафію і пабудавала драўляны касцёл з мураваным фасадам, які пасля апошняй вайны быў зачынены і разабраны. Палац Лясоцкіх у Бжэзінах таксама не захаваўся. Княгіня Ізабела Агінская памерла ў 1852-м ва ўзросце 88 гадоў, перажыўшы Міхала Клеафаса на 19 гадоў, а яго другую жонку Марыю Нэры — на 1 год, і пахавана, відавочна, у сямейнай кап-




*Герб князёў Агінскіх*
*(Са збораў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу);*
*фота прадастаўлена Леанідам Несцярчуком.*

ліцы Лясоцкіх, якая знаходзіцца ў касцёле Уздзвіжання святога Крыжа ў Бжэзінах.

Дасюль не ўдалося сустрэць звестак аб прычынах распаду першай сям'і. Гэта выклікае некаторае недаўменне, улічваючы публічнасць асобы Міхала Клеафаса Агінскага і наяўнасць крыніц разнароднай інфармацыі пра яго. Некаторыя звесткі на гэту тэму падае нашчадак Агінскага Анджэй Залускі ў сваёй кнізе «Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага (1765—1833)», выдадзенай у Лондане ў 1997 годзе. Выкарыстоўваючы сямейныя архівы, ён паведамляе: «Пазбаўлены права ўезду ў акупаваную Расіяй частку Польшчы, Міхал Клеафас аказаўся без граша ў кішэні і вымушаны быў жыць у маёнтку свайго цесця. Больш за тое, у гэты час распаўся яго шлюб. Шмат пазней, у 1822 годзе, ён будзе пісаць свайму зяцю Каралю Залускаму, мужу дачкі Амеліі, што спачувае таму ў сувязі з цяжкім грузам абавязкаў кіраўніка шляхты Упіцкага павету. Міхал Клеафас раіць Каралю не дапускаць, каб гэтыя абавязкі прывялі да распаду яго шлюбу, як гэта здарылася з ім самім у выніку яго ўласных велізарных абавязкаў і выгнання».

Сам Агінскі ў сваіх мемуарах абмінае гэту тэму. У любым выпадку, канчатковы разрыў наступіў тады, калі ў канцы 1801 года Міхал Клеафас выехаў у Санкт-Пецярбург, каб там дабівацца вяртання секвестраваных зямель.

Цяжка сказаць, дзе праходзіла выхаванне і адукацыя Тадэвуша Антонія і Францішка Ксаверыя. Звесткі пра старэйшых дзяцей Міхала Клеафаса сустракаюцца толькі мімаходзь. Як успамінае віленскі доктар Станіслаў Мараўскі ў мемуарах «Kilka lat młodości mojej w Wilnie», браты ажаніліся з роднымі сёстрамі — баранесамі фон Ранэ (Ronne), дочкамі актыўнага таргавічаніна, ковенскага барона Фелікса Ранэ і Антаніны з Гелгудаў. Мараўскі піша таксама, што пасля смерці Агінскага яго сынам належала частка спадчыны, якой яны не атрымалі з-за супраціўлення другой бацькавай жонкі Марыі Нэры.

Абодва сыны былі адораны музычна. «Polski słownik biograficzny» пералічвае творы, якія засталіся: пасля Тадэвуша Францішка — рукапіс марша, напісанага ў 1822-м, пасля Францішка Ксаверыя — некалькі паланэзаў і рамансаў, апублікаваных у 1920-я ў варшаўскіх выданнях Ф. Клюкоўскага, А. Бжэзіны і Я. Дамброўскага.

Многія, пераважна інтэрнэт-крыніцы паведамляюць, што Тадэвуш Антоні Агінскі, афіцэр артылерыйскіх войск, меў тры дачкі — Амалію (1825—1875), Габрыелю (24.08.1830—1912) і Наталію (пасля 1830—?) Агінскіх.

Амалія Агінская выйшла замуж за Вітальда Іахіма Валовіча (1825—1875) гербу Багорыя і мела з ім сына Альгерда Валовіча (1869—1900). Далейшае разгалінаванне роду Альгерда, як і родаў іншых нашчадкаў Міхала Клеафаса Агінскага, лёгка прасачыць па генеалагічных табліцах, змешчаных на польскіх інтэрнэт-старонках. Але шкада, што гэтыя генеалагічныя табліцы, як правіла, не ахопліваюць апошнія дзесяцігоддзі нашага часу і не заўсёды можна зразумець, ці мелі тыя або іншыя асобы працяг у нашчадках. Сам Тадэвуш Антоні памёр ва ўзросце 46 гадоў і быў пахаваны ў сваім уладанні Вейсеі ў Літве.

Габрыеля Агінская была замужам двойчы. У першым шлюбе — з графам Эдвардам Юзафам Красіцкім, ардынатам Апінагурскім (Польшча) — нарадзілася шасцёра дзя-

цей: Леон Вільгельм (1856—1866), Марыя Казіміра (1859—1919, жонка графа Вацлава Лубенскага, мела траіх дзяцей: Юзафа, Зыгмунта і Адэлю, якія, у сваю чаргу, прадоўжыліся ў Барбары Лубенскай, 1923 г. нар., Тадэвушы Лубенскім, 1933 г. нар., Лешку Лубенскім, 1963 г. нар., Вітольдзе Лубенскім, 1965 г. нар., Марыі Лубенскай, 1936 г. нар., Ірэне Лубенскай, 1937 г. нар. і Сяліме Крычынскім, 1938 г. нар.), Казіміра (1860 г. нар., больш звестак не пададзена), Міхаліна (1862—1909, жонка Станіслава Тэафіла Міхалоўскага гербу Ясенчык з Макран на Жмудзі, яны мелі адну дачку), Ядзвіга (1863—?, жонка Аляксандра Харвата з Барбарова гербу Пабог, у яе была адзіная дачка Марыя Габрыеля, якая дажыла да 1983 года), Габрыела (1866—1938, жонка графа Яна Готфрыда Біберштэйна гербу Рагаля, іх адзіны сын — граф Дыяніз Юлій Біберштэйн — дажыў да 1977 года). У другі шлюб Габрыеля Агінская ўступіла з родзічам — баронам Эўгеніюшам фон Ранэ (1830—1895), ва ўзросце 82 гадоў памерла і была пахавана ў сваім маёнтку Горжды (невядома, дзе знаходзіўся гэты маёнтак).

Сярод жывых сёння нашчадкаў Габрыелі Агінскай нельга не згадаць яе праўнука, народжанага ў 1938 годзе. **Сялім Найман-Мірза Крычынскі** жыве ў Польшчы. Ён — сын Адэлі Лубенскай (дачкі Марыі Казіміры Красіцкай) і Альгерда Найман-Мірза Крычынскага гербу Радван (1884—1942), шырокавядомага пасля Лютаўскай рэвалюцыі на тэрыторыі былой Расійскай імперыі абаронцы правоў цюркскіх народаў, рэпрэсаванага НКУС перад вайной СССР з Гітлерам. Адэля з Лубенскіх была другой жонкай Альгерда, і ён таксама быў яе другім мужам. Першы шлюб Адэлі ў міжваенны перыяд прывёў яе ў Ашмянскі павет, а менавіта ў яе пасагавы маёнтак Мур-Ашмянку. Вельмі нечакана было даведацца, што праўнучка Тадэвуша Антонія, пра жыццё якога ў нас дасюль амаль не было звестак, пражывала побач, а бацька Адэлі — Вацлаў Лубенскі — кожнае лета прыязджаў сюды з Вільні на побыт, як успамінаюць мур-ашмянкаўскія краяведы. Першы муж Адэлі — Вацлаў Загорскі — быў сямейным настаўнікам у Лубенскіх і пасля бурлівага рамана ажаніўся са сваёй вучаніцай, у шлюбе нарадзіліся дачка Зоф’я (1919—1944) і два сыны — Ежы (1921—1944) і Ян (1923—1944) Загорскія, якія ў час вайны загінулі, змагаючыся ў шэрагах Арміі Краёвай. Прычынай разводу Адэлі з Вацлавам Загорскім было, магчыма, тое, што ў сярэдзіне 1930-х ён прайграў у карты вялікую суму і не змог па гэтай прычыне весці маёнткавую гаспадарку, якая была перададзена іншым гаспадарам (магчыма, у арэнду, таму што ў час вайны Адэля на некаторы час вярталася сюды з Вільні, дзе да гэтага жыла з Альгердам Крычынскім). Памерла і пахавана ў Польшчы, у горадзе Гожув Велькапольскі. Сын Адэлі і Альгерда Крычынскага Сялім, як і бацька, актыўны дзеяч аб’яднання польскіх татараў.

Наталія Агінская была замужам за Зыгмунтам Гаўронскім гербу Роля (1816—1886) і мела з ім адзінага сына Уладзіміра Гаўронскага, 1849 г. нар. Ніякіх звестак пра яго больш сустрэць не ўдалося.



*Міхал Клеафас Агінскі з жонкай Ізабелай, 1793 г. (Са збораў Нацыянальнага музея ў Кракаве); фота прадастаўлена Леанідам Несцярчуком.*

Другі сын Міхала Клеафаса Агінскага — Францішак Ксаверы Агінскі — займаў больш высокую пасаду: ён быў дзяржаўным рэферэндарыем Каралеўства Польскага (г.зн. чыноўнікам, які падаваў на разгляд манарха скаргі падначаленых). Ён меў, у сваю чаргу, адзінага прадаўжальніка роду — сына Фелікса (1828—1893), цэрэманімайстра расійскага імператарскага двара ў Пецярбургу, жанатага спачатку з блізкай родзічкай Алімпіяй Ранэ (памерла ў 1861-м у Вільні), а потым з Марыяй Нажымскай, уладальніцай маёнтка Ябланава ў Заходняй Прусіі. З краязнаўчых крыніц пакрысе ўдалося адшукаць некаторыя звесткі пра князя Фелікса, яны ўяўляюць цікавасць для жыхароў Беларусі. Фелікс Агінскі ў 9-гадовым узросце застаўся круглым сіратой, яго маці — Тэадора Феліксаўна з Ранэ Агінская — памерла, маючы 25 год, а бацька — Францішак Ксаверый Агінскі — ва ўзросце 36 год. З найбліжэйшых родзічаў у жывых заставаліся толькі бабуля Ізабела з Лясоцкіх (першая жонка Міхала Клеафаса) і дзядзька Антоній Ранэ (1800—1869), які меў малалетнюю дачку Алімпію. Відаць, 75-гадовая бабуля прыняла рашэнне абвянчаць дваюрадных брата і сястру, каб гэтым надаць нейкую стабільнасць жыццю асірацелага ўнука. Падчас шлюбу жаніху было 12 год, а нявесце — 11.

Алімпія Агінская з Ранэ памерла ў 1861 годзе, пакінуўшы мужу сярод іншага маёнтак Лебяда пад Лідай (сёння невялікая вёска Лебяда Лідскага раёна), які дастаўся ёй у спадчыну ад родных у пачатку 1830-х. Там знаходзіўся двор, у якім Фелікс Агінскі бываў і, магчыма, некаторы час жыў, таму што захоўваў там свой сямейны архіў. Пра гэта ўпамінае вядомы польскі гісторык пачатку XX стагоддзя Казімір Барташэвіч у сувязі з апублікаваннем у 1914 годзе мемуараў Тадэвуша Агінскага, старасты Ашмянскага і ваяводы Трокскага (дзеда Міхала Клеафаса). Гэтыя мемуары, паведамляе Барташэвіч, «да 1852 года захоўваліся ў асабістым архіве Фелікса Агінскага, унука Міхала Клеафаса», а пасля былі аддадзены ім гісторыку Севярыну Галэмбёўскаму для апрацоўкі і далейшай публікацыі. Пасля нечаканай смерці апошняга арыгінал мемуараў знік, аб чым Фелікс Агінскі 4 сакавіка 1861 года паведамляў у спецыяльнай аб'яве праз «Gazeta Polska», № 74, пераканаўча просячы вярнуць «сямейную памятку». Цікава, што зваротны адрас аб'явы быў: маёнтак Лебяда пад Лідай. Прыкметным следам Фелікса Агінскага ў Лебядзе ёсць з'яўленне паблізу Лебяды каля 1880 года фальварка Феліксава.

У 1873 годзе ўдавец Фелікс Агінскі ажаніўся з Марыяннай Дэагратай Бальбінай Нажымскай (1844—1914), адзінай дачкой польскага землеўладальніка Стэфана Нажымскага і ўладальніцай велізарнага палаца ў Ябланове Паморскім непадалёк ад Торуні. Палац, пабудаваны ў стылі англійскай неаготыкі, з вежамі рознай вышыні, ацалеў да нашых дзён (сёння там месціцца Генеральная сядзіба каталіцкага ордэна сясцёр-пастэрак). У ім 52 пакоі, якія сімвалізуюць тыдні года, і дакладна 365 вокан, у адпаведнасці з колькасцю дзён у годзе. У гэтым палацы вяселле і адбылося, але месцам жыхарства новай сям'і стаў Дрэздэн, дзе ў той час пражываў Фелікс (верагодна, служыў пры Саксонскім княжацкім двары).

У 1883 годзе князь Фелікс быў прызначаны цэрэманімайстрам пецярбургскага імператарскага двара і, натуральна, перабраўся ў Пецярбург. Невядома, як праходзіла яго далейшае жыццё і дзе ён і яго абедзве жонкі пахаваны. Вядома, аднак, з генеалагічных табліц роду Агінскіх, што Фелікс Агінскі не пакінуў пасля сябе нашчадкаў і яго лінію мы можам лічыць згаслай.

З чарговым згадваннем асобы Фелікса давялося сустрэцца, чытаючы кнігу нашчадка Міхала Клеафаса Агінскага, Іераніма Высоцкага, «Przemówiły stare listy» (Кракаў, 1986), пабудаваную на сямейнай карэспандэнцыі Эмы Высоцкай, дачкі Міхала Клеафаса ад другога шлюбу. Там Фелікс Агінскі фігуруе ў сувязі з прыватным візітам, які нанёс у Вене свайму стрыечнаму брату Міхалу Высоцкаму ў маі 1872 года. Тое, што такія візіты (досыць працяглыя, як апавядаецца ў кнізе) мелі месца, сведчыць пра тое, што ўнукі Міхала Клеафаса Агінскага ад розных шлюбаў, нягледзячы ні на што, падтрымлівалі стасункі. Магчыма, больш звестак аб жыцці і дзейнасці Фелікса Агінскага знайшлося б у гістарычных архівах Санкт-Пецярбурга, дзе ён правёў большую частку свайго жыцця і дзе, магчыма, пахаваны.

II

Міхал Клеафас Агінскі ў свой другі шлюб уступіў у Вільні ў 1802 годзе, калі яму было 37. Найбольш багатая крыніца звестак пра другую жонку, Марыю Нэры, — Станіслаў Мараўскі, які, праўда, падае гэтыя звесткі на ўзроўні, блізкім да побытавых плётак, якія засланяюць яму больш шырокі краявід (напрыклад, што з дзяцей Марыі толькі Амелія была дачкой Міхала Клеафаса). Аднак з яго ўспамінаў можна даведацца, што Марыя Нэры на момант уступлення ў шлюб з Агінскім была досыць багатай удавой літоўскага арыстакрата з-пад Шаўляй Каэтана Нагурскага (1765—1802, члена Найвышэйшай літоўскай нацыянальнай Рады падчас касцюшкаўскага паўстання), з якім яна пражыла ўсяго 3 гады (ён памёр у Вене ад сухотаў у 1802-м) і што на яе руку, акрамя Агінскага, прэтэндаваў расійскі губернатар Вільні Лявонцій Бенігсен, баявы праціўнік Агінскага падчас касцюшкаўскага паўстання. Цікава даведацца і пра тое, як Марыя Нэры, дачка венецыянскага карчмара, трапіла ў Літву, як распарадзілася ўласным лёсам і лёсам сваіх дзяцей.

У некаторых даведніках сустракаецца паведамленне, што Марыя Нэры да знаёмства з Міхалам Клеафасам была спявачкай. Гэта, паводле Мараўскага, зусім не так, і прычына такога скажэння праўды можа заключацца ў тым, што ў маладосці Марыя Нэры сапраўды спявала, але не з вялікай сцэны, а для наведвальнікаў карчмы свайго бацькі ў Венецыі. Падобнай жа фальшыўкай з'яўляецца ўжыванне прозвішча Марыі Нэры з арыстакратычнай часцінай «дэ». Гэтую часціну Марыя Нэры стала далучаць да свайго дзявочага прозвішча толькі з 1810 года, калі Агінскі пачаў выконваць абавязкі тайнага дарадцы расійскага імператара. Для пацвярджэння неіснуючай шляхетнасці была прыдумала легенда пра агульнасць сямейных каранёў Марыі з італьянскім святым Філіпам дэ Нэры.

З Марыяй Нэры Міхал Клеафас Агінскі меў пяцёра дзяцей: дачок Амелію (1803—1858), Эму (1810—1871), Іду (1813—?) і Зоф'ю, народжаную ў 1804 годзе, якая памерла вельмі рана, а таксама сына Ірэнэуша (ці, на праваслаўны манер, Ірэнэя, 1808—1863). Звесткі пра Зоф'ю давялося сустрэць толькі ў адной крыніцы — кніжцы «Успаміны аб сям'і Залускіх у XIX стагоддзі», выдадзенай у 1907 годзе ў Кракаве, верагоднага аўтарства ўнука Міхала Клеафаса — Караля Залускага, сына Амеліі. «Заўчасная смерць гэтай прыгожай, разумнавокай, са светлымі валасамі істоты, — піша ён, — і від горкага жалю бацькоў зрабілі вялікае ўражанне на адчувальны розум Амеліі… Дзіцячае цела было пахавана ў капліцы Агінскіх пры віленскім касцёле св. Яна. У ёй знаходзіцца некалькіх членаў сям'і фундатара, якім быў Тадэвуш Агінскі, жанаты з Залускай, удавой Тышкевіча… Хутка пасля смерці сваёй другой дачушкі сям'я выехала ў Італію…»

Усе дзеці Агінскіх атрымалі вельмі добрае хатняе выхаванне, ведалі французскую, італьянскую, англійскую і польскую мовы, малявалі, гралі на музычных інструментах. Дом у Залессі быў поўны гувернёраў, настаўнікаў, нянек. Разам з бацькамі дзеці падарожнічалі за мяжу, прымалі ўдзел у свецкім жыцці, наведвалі тэатральныя прадстаўленні, бралі ўрокі ў выдатных педагогаў. Сын Ірэнэуш увогуле правёў у Італіі 8 гадоў і набыў адукацыю там.

Жыццёвы шлях Амеліі Агінскай (Залускай) і радавод яе нашчадкаў сёння можна дакладна прасачыць дзякуючы звесткам, якія прадаставілі яе нашчадкі, браты Анджэй і Іва Залускія з Англіі. Шмат падрабязнасцей пра сямейнае жыццё Амеліі ўтрымлівае таксама кніга Анджэя Квілецкага (яшчэ аднаго нашчадка Міхала Клеафаса Агінскага з Польшчы) пад назвай «Залускія ў Івонічы», выдадзеная ў 1993 годзе ў польскім навуковым выдавецтве «Kórnik». А пра маленства Амеліі Агінскай паведамляецца сёе-тое ў згаданай ужо кнізе «Успаміны аб сям'і Залускіх у XIX стагоддзі»:

«…Першародная дачка Міхала і Марыі дэ Нэры, сям'і князя з Казельска Агінскага, прыйшла на свет у канцы 1803 года ў Залессі, вясковай сядзібе яе бацькоў на Літве, якая слыла прыгожым паркам і рэчкай, што працякала пасярод яго, якую пераплывалі статкі ланяў, а таксама велічнай алеяй таполяў, пасаджаных у час нараджэння княжны Амеліі. Дзіця было акружана малым дваром, які складаўся з англійскай боны, Mistres Whiter, нянькі, пані Загурскай, мамкі, доб-

рай вясковай жанчыны, і старога лёкая, абавязкам якога было выконваць жаданні сваёй паненкі.

Хутчэй за ўсё на гэты час прыпадае перыяд спакойнага развіцця нязвыклых здольнасцей княжны Амеліі да навук увогуле і асабліва да паэзіі, музыкі і малявання. Пра яе паэтычнае натхненне сведчыць зборнік цудоўных вершаў, а таксама — можа, больш позні — прыгожы верш да музыкі, змешчаны панам Леанардам Ходзькам у яго творы "La Pologne historique…". Урокі малявання Амеліі даваў пан Рустэм. Пад кіраўніцтвам пана Паліяні княжна дасягнула высокай ступені дасканаласці ў ігры на фартэпіяна і набыла рэдкае сярод жанчын таго часу веданне тэорыі музыкі — дастатковае для таго, каб з лёгкасцю пісаць мелодыі для дамашніх сцэнічных прадстаўленняў, сольнага і харавога выканання ў інструментальным суправаджэнні».

У 1826-м 21-гадовая Амелія Агінская ўступіла ў шлюб з 32-гадовым графам Каралем Залускім, сынам графа Тэафіла Залускага і Ганараты са Стэмпкоўскіх. Маці зрабіла велізарны ўплыў на лёс Караля, які, у процілегласць сваім братам і сёстрам, у дзяцінстве быў хваравітым, у выніку чаго шмат часу праводзіў з маці. Апошняя ж у 1797 годзе, калі Каралю было ўсяго 3 гады, развялася з бацькам і ў 1804 годзе выйшла замуж за колішняга галоўнакамандуючага расійскімі войскамі ў Польшчы генерала Отта Ігельшрома, які праследаваў конны корпус Агінскага, калі той здзяйсняў свой першы паход на Мінск у час касцюшкаўскага паўстання. І хаця вайсковая кар'ера Ігельштрома скончылася пасля яго няўдалых дзеянняў падчас падаўлення паўстання, яго жонка Ганарата заставалася прыдворнай дамай пецярбургскага імператарскага двара і была ўзнагароджана Ордэнам Зорнага Крыжа. Згодна з тагачасным звычаем, кожны сын звязанай з імператарскім дваром арыстакратычнай сям'і заставаўся пры двары камер-юнкерам. Караль атрымаў гэта званне на шаснаццатым годзе жыцця, а на дваццатым быў накіраваны пасольствам у Швейцарыю. Адслужыўшы там 5 гадоў, быў пераведзены ў расійскае пасольства ў Прусіі. У Берліне на свецкіх прыёмах Караль Залускі пазнаёміўся з многімі значнымі асобамі, у тым ліку з Міхалам Клеафасам Агінскім, які адразу ж адчуў да яго сімпатыю. Міхал Клеафас на той час (а гэта было недзе каля 1823 года) ужо не жыў у Залессі, але, ведаючы асабіста будучага зяця, пазней з радасцю блаславіў выбар дачкі. У 1919-м памерла маці Караля, а ў 1823-м — Отта Ігельштром. Каб упарадкаваць спадчынныя справы, Караль бярэ на службе бестэрміновы водпуск і займаецца юрыдычным бокам падзелу маёмасці па просьбе астатніх нашчадкаў. Самому Каралю прыпалі маёнткі Гульбін ва Упіцкім павеце на Літве, Мейерхоф каля Дэрпта і вялікая сума ў грошах, золаце, срэбраным посудзе, каштоўных рэчах і сямейных памятках. Да гэтага ён дакупіў маёнтак каля Гульбіна і маёнтак Івоніч у Карпатах, які літаральна праз некалькі гадоў стаў сапраўдным выратаваннем для яго і сям'і. У 1826 годзе ў Вільні Караль Залускі сустрэў «тую, якую Гасподзь Бог прызначыў яму на жонку» — Амелію Агінскую. Ён ведаў яе яшчэ дзіцем, з пецярбургскіх часоў. Ужо дарослая, добра выхаваная і ўсебакова адораная паненка абудзіла ў ім каханне. Шлюб адбыўся 11 мая ў касцёле Кармелітаў, пабудаваным на сродкі прапрадзеда Амеліі, віцебскага ваяводы Марцыяна Міхала Агінскага (ён знаходзіцца ў Вільні на вуліцы Агінскіх).

Караль рашуча скончыў з дзяржаўнай службай і заняўся гаспадараннем ва ўласных маёнтках. Ён карыстаўся высокай павагай атачэння і два разы выбіраўся, нягледзячы на супраціўленне з яго боку, маршалкам шляхты Упіцкага павета. Гэта праца займала ўсё больш і больш часу. У Панявежысе, цэнтры павета, Караль Залускі арандаваў дом пад канцылярыю маршалка і праводзіў там сустрэчы са шляхтай.

У сакавіку 1831-га на Літве выбухнула чарговае антырасійскае нацыянальна-вызваленчае паўстанне, да ўдзелу ў якім Караль Залускі быў заклікаdebugаны павятовай упіцкай шляхтай. Ведаючы пра страшэнныя выпадкі пагалоўнай разні мясцовага насельніцтва расійскімі вайскоўцамі ў суседніх паветах (напрыклад, у ашмянскім касцёле), Караль разумеў, што з яго боку было б злачынствам не ўдзельнічаць у гэтым паўстанні, але ён ведаў, што сілы занадта няроўныя, каб спадзявацца на перамогу. Тым не менш, пасля размовы з жонкай ён прыняў прапанову

ўзначаліць паўстанчы ўрад, а ў апошняй фазе паўстання — і кіраванне ўсімі паўстанчымі сіламі Літвы. Муж і жонка Залускія аддалі на карысць паўстання большую частку ўласных грашовых сродкаў, сабраных на планаваную паездку Амеліі ў Фларэнцыю да хворага Міхала Клеафаса. Цар Мікалай І абвясціў у гэты час амністыю для тых, хто добраахвотна пакіне шэрагі паўстанцаў, а Караль Залускі ў адказ загадаў публічна спаліць царскую аб'яву на рынку ў Панявежысе. Пасля гэтага ён быў завочна прыгавораны царскімі ўладамі да смерці і канфіскацыі маёмасці. У ліпені 1831-га паўстанчыя атрады разам з іх камандзірамі перайшлі прускую граніцу і там склалі зброю. Гэтак зрабіў і Караль Залускі. Амелія хутка прыехала да яго з трыма малымі дзецьмі. 1831—1835 гады Караль і Амелія пражылі ў Прусіі, у Мемелі (сучасная Клайпеда). Яны жылі ў доме сяброў па прозвішчы Грыфен, спажываючы пры гэтым выратаваныя ад канфіскацыі сродкі, ды яшчэ Амелія, на якую не распаўсюджваўся царскі ўказ аб канфіскацыі маёмасці, упарта дабівалася сваіх правоў на шлюбны пасаг, які па законе не павінен быў трапляць пад канфіскацыю. Нарэшце яна дабілася ад расійскага ўрада штогадовых выплат на жыццё ў залік забранага пасагу.

Падчас жыцця Залускіх у Клайпедзе на свет прыйшло яшчэ чацвёра дзяцей. Усяго ж іх у Залускіх нарадзілася адзінаццаць: Міхал (1827—1893), Тэафіл (1828—1829), Марыя (1829—1910), Эма (1831—1912), Юзаф (1832—1834), Караль Бернард (1834—1919), Ірэнэуш (1835—1868), Станіслаў (1838—1904), Іва (1840—1881), Іда (1841—1918), Францішка (1843—1924).

Падчас жыцця ў Мемелі сям'ю наведалі цяжкія хваробы: у 1831 годзе сама Амелія перахварэла на халеру, у тым жа годзе прыйшла вестка пра смерць ад халеры бацькі Караля, Тэафіла Залускага. Дзеці хварэлі на дызентэрыю, двухгадовы Юзаф памёр ад яе. З Італіі прыходзілі весткі пра дрэнны стан здароўя бацькі Амеліі. У 1833 годзе Міхал Клеафас памёр удалечыні ад Радзімы і сям'і, і Амелія змагла наведаць месца яго пахавання толькі праз дзесяць гадоў.

Як бачна, у жыцці Амеліі хапала клопатаў і перажыванняў. Яны прывялі яе да захворвання печані, якое будзе турбаваць яе да канца жыцця (памерла Амелія ва ўзросце 53 гадоў на адным з курортаў вострава Ischia ў Неапалітанскім заліве). Да таго ж Амелія асабіста займалася дзецьмі, выхоўвала, вучыла, абшывала і даглядала іх, калі яны хварэлі. Сучасніца Амеліі, мемуарыстка Габрыеля Пузына, так выказалася пра жыццё Караля і Амеліі: «…не ён зрабіў шчаслівай сваю прыстойную жонку, а яна сама папрацавала для шчасця ў гэтым саюзе, свята выконваючы абавязкі перад вялікай сям'ёй». Пасля 1831 года яна «са сваёй працы ўтрымлівала дзяцей і мужа, і здавалася, што яе здароўе вісіць на валаску, а душа становіцца ўсё мацнейшай». Надзвычай моцна развіты мацярынскі інстынкт Амеліі Залускай быў галоўнай прычынай таго, што для пазнейшых пакаленняў Залускіх яна заставалася ўзорам любячай і мудрай маці.

У гэты час Каралю ўдалося з'ездзіць у аўстрыйскую Галіцыю, каб пазнаёміцца са станам сваіх маёнткаў Івоніч і Врацанка. Але аўстрыйскія ўлады забаранілі Залускім пражыванне ў Івонічы. Тады Караль Залускі разам з таварышамі па паўстанні сеў на карабель, што плыў у Шатландыю, і, прыплыўшы туды, пачаў шукаць праз уплывовых палякаў і шатландцаў паразумення з уладамі Аўстрыі і Прусіі, пазней з гэтай жа мэтай перабраўся ў Англію ды Францыю. У Парыжы ён знайшоў дапамогу з боку князя Адама Чартарыйскага, а ў хуткім часе атрымаў паведамленне, што аўстрыйскі імператар надаў яму аўстрыйскае грамадзянства і права пражывання ў Галіцыі. Праўда, гэта было хутчэй вынікам перапіскі Амеліі з венскім дваром.

Па дарозе з Парыжа ў Івоніч Караль вырашыў заехаць у Клайпеду, каб дамовіцца з Амеліяй пра падрабязнасці іх пераезду ў Галіцыю. Сустрэўшыся з жонкай і вяртаючыся ў Івоніч, па дарозе ён моцна захварэў на запаленне вачэй і вымушаны быў спыніцца ў Вроцлаве. Лекары асцерагаліся поўнай страты зроку: на працягу чатырох тыдняў пацыент нічога не бачыў. Але калі з Клайпеды прыехала Амелія, а са свайго польскага маёнтка яе сястра Эма з мужам, хвароба адступіла і сям'я змагла паехаць далей.

Лета 1837 года Залускія сустрэлі ўжо ў Івонічы. Праз некалькі дзясяткаў гадоў



*Дом у Ябланове.*

сын Амеліі Караль Бернард трапна назваў Івоніч «лёсавызначальным прытулкам сям'і Залускіх», таму што толькі тут пасля шматлікіх страт і ганенняў Караль і Амелія змаглі адчуць сябе дома, гадаваць і паспяхова лячыць дзяцей дзякуючы выдатнаму горнаму клімату і гаючай мінеральнай вадзе «Святога Івона» з мясцовых крыніц.

Натуральна, што Залускія пастараліся ператварыць Івоніч у добраўпарадкаваную курортную мясціну, якая б прыносіла ім не толькі асалоду, але і прыбытак. 1837—1845 былі гадамі будаўніцтва курорта. Амелія дапамагала мужу. Яе можна лічыць першай урбаністкай і архітэктарам курорта. Па яе праектах і пад яе наглядам выраслі першыя курортныя пабудовы. У той жа час былі добраўпарадкаваны крыніцы мінеральнай вады, над імі быў пастаўлены класічны павільён на васьмі калонах. Сёння ён — самы каштоўны гістарычны помнік малой архітэктуры на гэтым курорце. Былі пабудаваны купальня, жытло для курортнікаў і абслугі. У курортным парку быў усталяваны сонечны гадзіннік, пракладзены тратуары, сцежкі, арыгінальныя драўляныя масткі праз ручай. У 1842 годзе адкрыліся магазіны ў спецыяльна пабудаваным для гэтага будынку пад назвай «Базар». Амелія дапамагала і мясцовым жыхарам. У 1847 годзе яна арганізавала медыцынскую дапамогу людзям, хворым на тыф.

Амелія здолела стварыць у сваім улюбёным Івонічы такую насычаную культурную атмасферу, што яе традыцыі захоўваліся там на працягу больш чым стагоддзя. Івоніч зрабіўся цэнтрам культурнага жыцця наваколля. Сама Амелія пісала музыку для фартэпіяна і выконвала яе, да нас дайшоў рукапіс аднаго паланэза і двух рамансаў. Асабліва яна любіла складаць творы для дзяцей: песні і калыханкі. Дынастыя Амеліі ў кожным пакаленні давала свету выдатных музыкантаў і кампазітараў, найбольш вядомым з якіх стаў яе сын Караль Бернард Залускі (1834—1919), які пісаў музычныя фантазіі, мазуркі, вальсы, накцюрны і іншыя салонныя творы, што выдаваліся ў Вене і Львове, а таксама запісваў і апрацоўваў народную музыку Палінезійскіх астравоў, раннія візантыйскія літургіі і інш. Сёння Івоніч — месца правядзення штогадовага фестывалю класічнай польскай музыкі імя Міхала Клеафаса Агінскага, ініцыятарам якога з'яўляюцца мясцовыя ўлады, а музычным арганізатарам — прафесар Анджэй Пікуль з Кракаўскай музычнай акадэміі.

Што датычыцца далейшага лёсу дзяцей Амеліі, то найбольшая колькасць звестак падаецца ў той жа кнізе «Залускія ў Івонічы», а таксама ў генеалагічных табліцах польскіх шляхецкіх родаў, найбольш даступныя з якіх можна знайсці на старонках інтэрнэту (у «Genealogia Minakowskiego»).

Старэйшы сын Амеліі **Міхал** (1827—1893) ажаніўся са сваёй дваюраднай сястрой, дачкой Эмы Агінскай, **Гэленай Бжастоўскай** (1833—1892), і сем'і дзвюх дачок Міхала Клеафаса Агінскага гэтым самым аб'ядналіся ў адну. Але гісторыя нашчадкаў Міхала і Гэлены настолькі багатая і асвечаная, што ўяўляецца больш паслядоўным прадставіць спачатку малавядомыя біяграфіі малодшых дзяцей Амеліі.

**Сыны**. Ужо згаданы **Караль Бернард Залускі** (1834—1919) зрабіў кар'еру як паўнамоцны міністр і надзвычайны пасол Аўстрыі пры персідскім двары. У гісторыю ён увайшоў таксама як мовазнаўца і арыенталіст, падарожнік, збіральнік палінезійскага фальклору і ганаровы мальтыйскі кавалер. Жанаты не быў, нашчадкаў не пакінуў.

**Ірэнэуш Залускі** (1835—1868) — скульптар, паўстанец 1863 года. Выявіўшы выдатныя здольнасці да малявання, вучыўся ў Кракаве, Вене і Рыме. Ва ўзросце 28 год

удзельнічаў у бітве пад Радзівілавам (Польшча) падчас нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года, пазней служыў у аўстрыйскім войску ў чыне паручніка ў палку кірасіраў і памёр ад раны, атрыманай на дуэлі. Месца пахавання невядомае.

**Станіслаў Залускі** (1838—1904). Пра яго вядома толькі тое, што вучыўся ў Тэрэзіянскай акадэміі мастацтваў у Вене і таксама прымаў удзел у паўстанні 1863 года, быў паранены ў бітве пад Кшыкаўкай (Польшча) і на полі бітвы атрымаў за гэта чын паручніка. Месца жыцця невядомае, нашчадкаў не пакінуў. Пахаваны ў Фларэнцыі.

Наступным па ўзросце быў **Іва (Івон) Залускі** (1840—1881), пра якога вядома, што быў памешчыкам у маёнтку Кросна ў павеце Врацанка (Польшча) і займаўся гаспадараннем. Памёр у Кросне, пахаваны ў сямейнай грабніцы Залускіх у Івонічы. Не пакінуў нашчадкаў.

Сыны **Юзаф** і **Тэафіл** памерлі ад хвароб у дзяцінстве.

**Дочкі**. Усе чатыры дачкі Амеліі былі замужам і далі працяг яе роду.

**Марыя Залуская** (1829—1910) стала жонкай Уладзіслава Галашэўскага, у іх было пяцёра дзяцей: Амелія (1850—1921), Зоф'я (1852—1938), Караль (1853—1911), Марыя (1860—1943) і Гэлена (1864—1934) **Галашэўскія**. Пра іх шлюбы і нашчадкаў у генеалагічных табліцах нічога не паведамляецца.

**Эма Залуская (1831—1912)** у шлюбе з Тэафілам Асташэўскім (памешчыкам, буйным грамадскім і гаспадарчым дзеячам Галіцыі, пісьменнікам-байкапісцам і маршалкам шляхты Бжазоўскага павета на Падкарпацці, удзельнікам нацыянальна-вызваленчых паўстанняў 1830—1831 і 1848 гадоў, уладальніка маёнткаў Вздоў, Грабаўніца і Клімкуўка) пакінула чацвёра дзяцей: дачку **Марыю** (1851—1918, якая выйшла за Аўгуста Дзедушыцкага, і мела з ім чатыры дачкі: **Эму** (1883—1970), **Цэцылію** (1885—1962), жонку Актава Дашота, **Амелію** (1889—1942) і **Зоф'ю** (1890—1959), жонку Яна Віктора, пра нашчадкаў якіх генеалагічныя табліцы маўчаць, але наўрад ці верагодна, каб усе гэтыя асобы не мелі нашчадкаў), і трох сыноў: **Адама** (1860—1934), **Станіслава** (1862—1915) і **Казіміра** (1864—1948) **Асташэўскіх**. Сама Эма пры гэтым праславілася як актыўная грамадская дзеячка і віртуозная дамашняя піяністка. Пасяліўшыся ў мужавым маёнтку Вздоў на Падкарпацці (недалёка ад Івоніча), яна вельмі актыўна ўдзельнічала ў грамадскіх акцыях, падтрымлівала кантакты з навакольнымі шляхецкімі сем'ямі. Падчас нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года ў Польшчы яна праводзіла збор грошай на карысць паўстанцаў, а пасля паражэння паўстання аказвала дапамогу паўстанцам-уцекачам са сферы расійскага захопу і хавала іх у сваім доме ад праследавання аўстрыйскіх улад. Памерла ва ўзросце 80 гадоў, пахавана ў Вздове.

Старэйшы сын Эмы **Адам Асташэўскі**, спадчынны ўладальнік Вздова, праславіўся як адукаваны чалавек з багатай фантазіяй. Сучаснікі называлі яго Леанарда са Вздова, па аналогіі з Леанарда да Вінчы. Ведаючы дваццаць моў, ён быў астраномам-аматарам і марыў пра падарожжа на Паўночны полюс. Быў піянерам польскай авіяцыі, вынаходнікам розных лятальных апаратаў, ад паветраных шароў да планераў. Цікавіўся оптыкай, акустыкай, магнетызмам, архітэктурай. У шлюбе з Марыяй Хлапоўскай меў адзінага сына **Войцеха**, дзецьмі якога былі **Анджэй** (1943—1968) і **Габрыеля** (1947 г. нар.). Анджэй рана памёр, а Габрыеля Асташэўская, верагодней за ўсё, жыве зараз у Польшчы.

Брат Адама **Станіслаў Асташэўскі** (1862—1915) таксама быў чалавекам з твор-



*Палац Залускіх у Івонічы.*



*Сын Ірэнэуша Багдан.*

чым і вынаходніцкім розумам. Ён быў ініцыятарам і спонсарам наватарскіх навуковых мерапрыемстваў. У сваім маёнтку Клімкуўка на Падкарпацці ён наладзіў вытворчасць актыўнага вугалю для новых галін прамысловасці, пабудаваў у Клімкуўцы адну з першых нафтаздабываючых шахт і фабрыку штучных угнаенняў. Быў аўтарам кніг у вобласці механікі і здабычы нафты. З поспехам займаўся гадоўляй пародзістых коней, якія перамагалі на шматлікіх скачках. У шлюбе з Анеляй Сэнкоўскай меў сына **Юзафа** (1904—1989) і трох дачок: **Марыю Родліх-Ляскоўскую** (1901—1989), **Зоф'ю Тарноўскую** (1902—1982) і **Ізабелу Зялінскую**, якая нарадзілася ў 1910 годзе.

Сын Станіслава **Юзаф** пайшоў слядамі бацькі і выбраў полем сваёй дзейнасці развіццё нафтавай прамысловасці. Быў аўтарам кніг у вобласці механікі і аўтаматызацыі здабычы нафты, вынаходнікам і рацыяналізатарам. Няма звестак, чым ён займаўся падчас вайны і як яму ўдалося пазбегнуць праследавання за сваё непралетарскае паходжанне. Вядома толькі, што ў 1945 годзе ён стаў адным са стваральнікаў Польскага інстытута нафты ў Кросне, пазней стаў ганаровым членам навукова-тэхнічнага таварыства інжынераў і тэхнікаў нафтавай і газавай прамысловасці, членам Польскай акадэміі навук, кавалерам ордэна Адраджэння Польшчы. У шлюбе з Марыяй Скібнеўскай меў чацвёра дзяцей, якія зараз жывуць і маюць нашчадкаў: **Антонія Асташэўскага,** 1934 г. нар. (дзеці — **Ян,** 1964 г. нар., **Катажына,** 1965 г. нар., **Марыя,** 1970 г. нар. і **Міхал**, 1972 г. нар. **Асташэўскія**), **Зоф'ю**, 1935 г. нар., жонку Тадэвуша Кшыжаноўскага (гэты шлюб бяздзетны), **Анну**, 1944 г. нар. (яна маці **Якуба Мендыса,** 1974 г. нар., **Малгажаты Мендыс,** 1975 г. нар. і **Агнешкі Мендыс,** 1974 г. нар.), **Марыю,** 1947 г. нар. (маці **Міхала Тамашэўскага,** 1975 г. нар., **Багуслава Тамашэўскага,** 1976 г. нар. і **Анны Тамашэўскай,** 1978 г. нар.). Сам Станіслаў Асташэўскі памёр падчас агульнавядомай савецкай і польскай «перабудовы» (у 1989 годзе) і пахаваны ў Клімкуўцы.

Дзве старэйшыя дачкі Станіслава Асташэўскага — Марыя Рэдліх-Ляскоўская і Зоф'я Тарнаўская — нашчадкаў не пакінулі. Затое звесткі пра малодшую дачку Станіслава — **Ізабелу Зялінскую** — уражваюць неардынарнасцю нават на фоне папярэдніх біяграфій нашчадкаў Міхала Клеафаса Агінскага. Па-першае, Ізабела Зялінская — доўгажыхарка і наша сучасніца, у 2010 годзе яна адсвяткавала сваё 100-годдзе і была прадстаўлена да найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды Польшчы — Залатога крыжа Заслугі. Перад гэтым яна была ўзнагароджана медалём «Gloria Artis» за шматгадовую і плённую творчую працу ў галіне музыкі, званнем заслужанага дзеяча культуры Польшчы, шматлікімі творчымі ўзнагародамі горада Касцяна і срэбраным знакам выдатніка аднаўлення пасляваеннай Варшавы. Нарадзіўшыся ў 1910 годзе ў маёнтку Клімкуўцы, дзе яе бацька захоўваў музычныя традыцыі свайго роду (у дамашнім інструментальным трыа ён іграў на віяланчэлі, сын Адам — на скрыпцы, а другі сын, Казімір, — на фартэпіяна), Ізабела з ранняга дзяцінства праявіла выдатныя музычныя здольнасці. Бацькі стараліся развіваць іх, наймаючы лепшых настаўнікаў музыкі, а падчас вучобы дачкі ў львоўскім ліцэі сясцёр-уршулянак плацілі за дадатковыя заняткі музыкай. Ізабела вывучала музыку і падчас вучобы ў рэлігійным інстытуце ў Бельгіі, які скончыла з залатым медалём і дыпломам за ігру на фартэпіяна перад камісіяй каралеўскіх кансерваторый Антверпена і Бруселя. Вярнуўшыся на радзіму, Ізабела стала вывучаць музыкалогію ва Вроцлаўскім універсітэце, адначасова выступала з ігрой на фартэпіяна на вар-

шаўскім, кракаўскім і вроцлаўскім радыё, на розных сцэнах у Польшчы і за мяжой. Каб не абцяжарваць замежнага слухача вымаўленнем свайго досыць доўгага славянскага прозвішча, яна ўзяла сцэнічны псеўданім — Іза Астоя — паводле назвы бацькоўскага шляхецкага герба. Другая Сусветная вайна перапыніла яе вучобу ва ўніверсітэце. У час вайны Ізабела займалася тайным навучаннем моладзі ігры на фартэпіяна. У 1942 годзе яна выйшла замуж за Багдана Зялінскага і пасялілася з ім у гарадку Касцян каля Познані. Пасля вайны дабілася права выкладаць музыку ў сярэдніх і вышэйшых музычных школах. Зноў выступала з канцэртамі, іграла на фартэпіяна ў суправаджэнні сімфанічных аркестраў. У 1950 годзе стала адной з заснавальніц Велькапольскай музычнай студыі ў Познані (установы для павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў музыкі) і ўдзельнічала ў стварэнні яе праграм навучання. Адначасова актыўна навучала ігры на фартэпіяна моладзь з ваколіц Касцяна. За час сваёй працоўнай дзейнасці выпусціла звыш 200 вучняў, многія з якіх сталі прафесійнымі музыкантамі. У 1983 годзе Ізабела Зялінская выйшла на пенсію, але працягвае жыць музыкай. Разам з мужам Багданам яна пераклала з нямецкай мовы на польскую падручнік прафесара музыкі Браніслава Пазняка «Азбука піяніста» і прапагандавала яе сярод педагогаў і вучняў. Сочыць за поспехамі сваіх вучняў і навінамі музыкі.

У шлюбе Ізабелы з Багданам Зялінскім (1899—1988) нарадзілася пяцёра дзяцей: **Браніслава** (1944—1993), піяністка і акардэаністка, выкладчыца Касцянскага музычнага ліцэя, **Мечыслаў**, 1945 г. нар., архітэктар і таленавіты музыкант-аматар, **Зыгмунд**, 1947 г. нар., музыкант-аматар, у шлюбе з кампазітарам Лідзіяй Рыдлевіч, **Бажэна**, 1948 г. нар., работніца турыстычнага бізнесу, **Тадэвуш**, 1951 г. нар., выкладчык музыкі ў Касцянскім музычным ліцэі і Познаньскай музычнай акадэміі.

Дзеці старэйшай дачкі Браніславы і яе мужа Рышарда Лясінскага: **Катажына,** 1972 г. нар., **Малгажата,** 1974 г. нар. і **Томаш**, 1976 г. нар. **Лясінскія** з'яўляюцца сёння бацькамі адпаведна **Максіміліяна Отмана,** 1994 г. нар., **Пятра Отмана,** 1996 г. нар. і **Паўла Отмана,** 1999 г. нар.; **Яна Лясінскага,** 2002 г. нар. (шлюб другой дачкі, Малгажаты Лясінскай, нашчадкаў не даў).

Сын Ізабелы Мечыслаў Зялінскі мае адзіную дачку **Агнешку Зялінскую,** 1969 г. нар. Сын Зыгмунд — таксама бацька адзінай дачкі — **Анны Зялінскай**. Бажэна Зялінская ў шлюбе з Лехам Касцянскім мае дзвюх дачок: **Юлію,** 1976 г. нар. і **Ізабелу,** 1985 г. нар. **Касцянскіх**. Нарэшце, Тадэвуш Зялінскі — бацька **Анджэя Зялінскага,** 1997 г. нар.

Трэба падкрэсліць, што з ліку нашчадкаў Ізабелы яе прафесію працягваюць і ўнучкі — Агнешка і Анна Зялінскія, яны сёння вядомыя ў Польшчы музычныя выканаўцы: **Агнешка Зялінская** — варшаўская піяністка, гітарыстка, кампазітар, аранжыроўшчыца і харавы дырыжор, **Анна Зялінская** — выдатная скрыпачка, двухразовая стыпендыятка Міністэрства культуры Рэспублікі Польшча, прэзентуе польскую музыку ў свеце, больш чым дзесяць гадоў таму іграла ў аркестры пад кіраўніцтвам Мсціслава Растраповіча на Баварскім радыё. Відавочна, што больш інфармацыі пра маладзейшых Зялінскіх далі б асабістыя кантакты з імі, якія маглі б завязацца ў гэты юбілейны год.

Апошні сын Эмы Асташэўскай — **Казімір** (1869—1948) набыў вядомасць як гадавальнік скакавых коней у Польшчы, заснавальнік конегадоўчых таварыстваў па вырошчванні англійскай пароды, публіцыст, кампазітар. У маёнтку Грабаўніца, атрыманым па спадчыне ад бацькі, ён пабудаваў фабрыку стыльных экіпажаў і з поспехам прадаваў іх. Пачынаючы з 1921 года аднавіў у Львове конныя скачкі, апрацаваў і выдаў першыя ў Польшчы «статкавыя кнігі» коней арабскай пароды і паўкровак, на ўласныя сродкі выдаваў часопісы па конегадоўлі. Атрымаўшы ад бацькі яшчэ і любоў да музыкі, ён сачыніў шэраг твораў для фартэпіяна, якія ў 1996—1998 гадах былі запісаны на CD пад назвай «Musik of the Oginski Dynasty» ў выкананні Іва Залускага. У шлюбе з Helena de Saint-Gilles, унучкай дацкага міністра фінансаў, меў дзвюх дачок: **Вольгу Асташэўскую** (1905—1986) і **Іяланту** (1907—2002) **Асташэўскую**, таленавітую скрыпачку. Звестак пра лёс дачок Казіміра Асташэўскага і іх магчымых нашчадкаў няма. Пасля Другой Сусветнай

вайны Казімір нейкім чынам пазбегнуў праследванняў новай улады: магчыма, таму, што яму ўжо было за 80 гадоў. У гэты час ён пасяліўся ў Лядзіне каля Рыманова (на Падкарпацці), дзе памёр і пахаваны.

Звернемся цяпер да дочак Амеліі Залускай (Агінскай). Пра іх генеалагічныя табліцы падаюць вельмі скупую інфармацыю. **Іда Залуская** была жонкай барона Гуга фон Сэйлерна, у іх былі дачка **Іда** (1864—1944), пра шлюб невядома, і сын **Карл фон Сэйлерн**, нашчадкі якога памерлі ў пачатку XXI стагоддзя. Пра іх шлюбы таксама невядома.

**Францішка Залуская** (1843—1924) выйшла замуж за Віта Жэленскага, яны мелі адзіную дачку **Ружу**, якая памерла ў 1933 годзе. Пра яе нашчадкаў нічога не паведамляецца.

А цяпер, вярнуўшыся да шлюбу старэйшага сына Амеліі Міхала Залускага з Гэленай Бжастоўскай, трэба зазначыць, што гэта лінія аказалася ў гісторыі роду Міхала Клеафаса Агінскага таксама вельмі выніковай, бо менавіта яе нашчадкі — Анджэй і Іва Залускія, Анджэй Квілецкі — памнажаюць сёння музычную і гістарычную славу роду Агінскіх.

Ажаніўшыся ў 1860 годзе ў паселішчы Кабылеполе (магчыма, гэта быў пасагавы маёнтак Гэлены пад Лоддзю), **Міхал і Гэлена** пасля смерці Караля і Амеліі Залускіх засталіся гаспадарамі ў Івонічы (з 1860 года). Да таго часу Міхал ужо меў чын маёра аўстрыйскага войска і прыдворнае званне шамбелана аўстрыйскага двара, быў кавалерам ордэна святога Яна Іерусалімскага і актыўным грамадскім дзеячам. Міхал прыкладаў намаганні да пашырэння курорту, надаваў шмат увагі рэкламе і навуковым даследаванням івоніцкіх мінеральных вод. Пры ім івоніцкая вада пачала разлівацца ў бутэлькі і прадавацца па ўсёй Польшчы і за мяжой. Міхал Залускі паклапаціўся пра тое, каб да Івоніча была падведзена асобная чыгуначная лінія і пабудавана станцыя. Для курортнікаў функцыянавала 600 жылых пакояў, а для родзічаў Залускіх былі пабудаваны асобныя вілы. Жонка дапамагала ўвасабляць праекты. Міхал і Гэлена памерлі ледзь не ў адзін год і пахаваны ў сямейнай грабніцы ў Івонічы.

Міхал і Гэлена мелі двух дзяцей: дачку **Эму** (1863—1940), пра якую вядома толькі тое, што замужам яна не была, і сына **Юзафа** (1867—1930), наследніка курорта Івоніч. У 1892 годзе ў Варшаве Юзаф уступіў у шлюб з графіняй Ізабелай Тышкевіч-Лагойскай з Кракава (1872—1946). У іх нарадзілася пяцёра дзяцей: **Міхал** (1894—1964), **Караль** (1895—1970), **Зоф'я** (1898—1980), **Ірэнэуш** (1900—1980) і **Багдан** (1902—1981). Іх нашчадкі жывуць і сёння, таму абавязкова трэба прадставіць чытачу ўсё тое, што пра іх вядома. Але спачатку пра сямейнае жыццё самога Юзафа і лёс Івоніч, якія ў XX стагоддзі зведалі ўпадак, уласцівы большасці памешчыцкіх маёнткаў, як і памешчыцкаму саслоўю.

Яшчэ пры жыцці Юзафа было прынята рашэнне пабудаваць у Івонічы сучасны атэль «Эксцэльсіёр», што павінна было ўмацаваць стабільнасць курорта. Трэба адзначыць, што адбывалася гэта ў хуткім часе пасля Першай Сусветнай вайны, вялікі гаспадарчы крызіс закрануў і Залускіх. Цяжкасці і кошт будаўніцтва пераўзышлі ўсе чаканні. Будаўніцтвам займаўся старшы сын, Міхал Залускі, і ў пэўны момант бацька адхіліў яго ад кіравання будоўляй. Хутка пра нядзольнасць уладальнікаў Івоніч аплачваць грашовыя пазыкі стала шырокавядома. Юзафу Залускаму не заставалася нічога іншага, як вясной 1929 года папрасіць сына вярнуцца. Аднак яго прыезд мала што палепшыў у фінансавых справах сям'і, а адносіны Міхала з бацькамі засталіся нацягнутымі, найперш з-за яго непажаданага шлюбу з Зоф'яй Меніцкай, які бацькі лічылі няроўным. Увогуле асабістае жыццё сыноў Юзафа, як знарок, прыносіла бацькам бясконцыя перажыванні: сярэдні сын Ірэнэуш без дазволу бацькоў ажаніўся з танцоўшчыцай-француженкай Мары Дзідур, якая танцавала для курортнікаў у Івонічы. У 1928 годзе малодшы, Багдан, пазнаёміўся ў Івонічы з замужняй жанчынай, Ядзвігай Багуцкай, маці чатырохгадовай дзяўчынкі. Ядзвіга пакінула мужа і, перайшоўшы ў пратэстантызм, уступіла з Багданам у шлюб паводле пратэстанцкага абраду. Шлюб адбыўся ў Вільні. Сам Юзаф Залускі ў той час ужо таксама не жыў з Ізабелай Тышкевіч, ён пакінуў яе ў Івонічы, а сам пераехаў у Варшаву. Ізабела ўпала

ў роспач і не дазволіла Багдану з жонкай пасяліцца ні ў Івонічы, ні ў іншых маёнтках. Багдан вымушаны быў пайсці на працу ў фірму «Гербева» ў Кракаве, каб утрымліваць сям'ю. І толькі з'яўленне ў 1929 годзе на свет сына Анджэя (аўтара кнігі «Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага») і скасаванне першага шлюбу Ядзвігі Багуцкай адначасова з узяццем ёй каталіцкага шлюбу крыху змякчылі сэрца Ізабелы, і яна дазволіла маладым пасяліцца ў Івонічы. З той пары фактычным уладальнікам Івоніч зрабіўся малодшы сын Юзафа, Багдан. Сыны Караль ды Ірэнэуш з самага пачатку не разлічвалі быць гаспадарамі Івоніч і пражывалі са сваімі сем'ямі ў іншых месцах.

Сын Юзафа **Міхал** і яго жонка Зоф'я Мяніцкая дзяцей не мелі.

Сын **Караль Залускі** і яго жонка Марыя Вількашэўская (1907—1959) мелі траіх дзяцей, з якіх дзве дачкі: **Ёанна і Іяланта Залускія**, абедзве 1940 г. нар., сёння жывуць (верагодна, у Польшчы). З генеалагічных табліц Мінакоўскага няясна, ці маюць яны нашчадкаў.

Дачка **Зоф'я** ў шлюбе з графам Дабеславам Квілецкім мела пяцёра дзяцей, з якіх дваіх — **Пшэмыслава** (1919—1992) і **Леха** (1922—1990) ужо няма ў жывых, а дачка **Марыя Генрыка,** 1926 г. нар. і **сыны Анджэй,** 1928 г. нар. і **Ян,** 1934 г. нар. **Квілецкія** жывуць. Усе яны пакінулі нашчадкаў: у Пшэмыслава дочкі **Бажэна,** 1950 г. нар. і **Гэлена,** 1951 г. нар., а таксама сын Гэлены — **Кшыштаф Рудзінскі,** 1983 г. нар. Лех — бацька **Магдалены Квілецкай** (1961—2005) і адначасова дзядуля **Зоф'і Канопкі,** 1990 г. нар. і **Мікалая Канопкі,** 1995 г. нар. Дзецьмі дачкі Марыі Генрыкі з'яўляюцца **Пётр Судэра,** 1953 г. нар., **Марк Судэра,** 1956 г. нар. і **Павел Судэра,** 1960 г. нар. Анджэй Квілецкі — бацька дзвюх дачок — **Севярыны,** 1953 г. нар. і **Барбары,** 1956 г. нар., а Севярына ў сваю чаргу — маці **Агаты Падэмскай,** 1977 г. нар., **Міхала Падэмскага,** 1981 г. нар. і **Зузанны Па-дэмскай,** 1982 г. нар. Ян Квілецкі — бацька **Кшыштафа Квілецкага,** 1959 г. нар. і дзядуля **Аркадыюша Квілецкага,** 1983 г. нар. і **Катажыны Квілецкай,** 1992 г. нар.

Менавіта сын Зоф'і — Анджэй Квілецкі — з'яўляецца аўтарам кнігі «Залускія ў Івонічы», з якой было зачэрпнута шмат інфармацыі для гэтага артыкула. Анджэй Квілецкі нарадзіўся ў 1928 годзе ў Квілічах Познанскага ваяводства, прафесар сацыялогіі. Ён з'яўляецца нашчадкам Залускіх з абодвух бакоў: і па маці, і па бацьку (таму што яго бабка па бацькавай лініі Ядзвіга з Залускіх Квілецкая была ўнучкай праслаўленага генерала Юзафа Залускага, дзядзькі Караля Залускага (мужа Амеліі Агінскай), а маці, Зоф'я з Залускіх — праўнучка таго ж самага Караля Залускага. Анджэй Квілецкі пражыў у Івонічы некалькі год свайго дзяцінства, якія прыпалі на Другую Сусветную вайну, і таму зразумела, адкуль у яго ўзнікла такая зацікаўленасць гісторыяй роду Залускіх. Зараз жыве ў Познані.

Вярнуўшыся да сыноў Юзафа Залускага, трэба адзначыць, што наступны і адначасова передапошні з іх, Ірэнэуш Залускі (1900—1980), будучы жанатым з Мары Дзідур, меў з ёй сына **Ярэмію** і дачку **Гэлену,** Ярэмія, у сваю чаргу, бацька **Міхала,** 1962 г. нар. і **Мацея,** 1973 г. нар. **Залускіх,** шлюб Гэлены аказаўся бяздзетным. Другой жонкай Ірэнэуша стала Марыя Сух, 1926 г. нар., з якой у Ірэнэуша нарадзіліся сыны **Рышард Залускі,** 1950 г. нар. і **Збігнеў Залускі,** 1951 г. нар., а ў Рышарда ў 1973 годзе — дачка **Караліна** і ў 1980 годзе — сын **Ірэнэуш Залускі.**

Агляд нашчадкаў Амеліі Залускай завяршае Багдан Залускі, малодшы сын Юзафа. У шлюбе з Ядзвігай Багуцкай у яго нарадзілася двое дзяцей: **Анджэй Залускі,** 1929 г. нар. і малодшы за яго на 10 гадоў **Іва Залускі**. Перад самым пачаткам Другой Сусветнай вайны, у 1939 годзе, прадчуваючы велізарную небяспеку, Багдан Залускі з сям'ёй перасяліўся ў Англію. Жонкай Багдана ў той час была Ядзвіга Багуцкая, маці Анджэя і Іва. Падчас прыезду ў Беларусь у 1997 годзе Анджэй Залускі расказваў, што ў Англію яго сям'і давялося ляцець на самалёце, а не плыць па моры, бо ваенныя дзеянні ўжо пачаліся. Маёнтак Івоніч быў пакінуты на волю лёсу, але не быў нікому прададзены.

У Англіі Багдан Залускі праз некаторы час развёўся з Ядзвігай Багуцкай і жаніўся два разы: з Вандай Стахнеўскай і Ядзвігай Бурштын, але дзяцей з імі ў яго не было. Сыны Багдана — Анджэй і Іва — усё жыццё



*Дачка Эма.*

пражылі ў Англіі, але польская мова для іх — родная. Абодва яны адчулі прызванне да музыкі, скончылі Каралеўскую музычную акадэмію ў Лондане і займаліся музыкай прафесійна: Анджэй як музычны педагог, а Іва як канцэртуючы піяніст. Абодва высока цэняць сваю прыналежнасць да слаўнага роду Міхала Клеафаса Агінскага, збіраюць пра яго звесткі, наведалі Залессе ды Гузаў. У 1997 годзе ў Лондане ўбачыла свет кніга Анджэя Залускага «The Times and Musik of Michal Kleofas Oginski» («Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага»), якая ў Беларусі хутка была перакладзена на рускую мову і выйшла ў мінскім выдавецтве «Чатыры чвэрці», пазней Анджэй Залускі выдаў па-польску яшчэ дзве кнігі: «Michał Kleofas Ogiński. Zycie, działalność i twórczość» і «Dwie zagadki. Epizody z życia Michała Kleofasa Ogińskiego», а таксама шырока прапагандаваў у польскіх музычных колах матэрыялы, якія пацвярджаюць, што Агінскі з’яўляецца аўтарам мелодыі сучаснага польскага гімна «Mazurek Dąbrowskiego». Прыкладна ў гэты ж час Іва Залускі запісаў і выдаў CD фартэпіяннай музыкі «Michal Kleofas Oginski. 24 Polonaises» у сваім выкананні. Пазней у Англіі таксама выйшлі яшчэ чатыры яго дыскі: «Музыка дынастыі Агінскіх», «Amelia Załuska (Ogińska) 1803—1858, Piano compositions» («Амелія Залуская (Агінская) 1803—1858, творы для фартэпіяна»), «Xavier Ogiński. 10 Polonaises» («Ксаверый Агінскі. 10 паланэзаў» і «The Word of Oginski» («Слова Агінскага»). У апошні час з’явілася яго кніга «The Oginski Gene» («Ген Агінскага»), у Беларусі яна перакладзена на рускую мову.

У Анджэя і Іва Залускіх — дарослыя дзеці. З чатырох нашчадкаў Анджэя дзве дачкі — **Барбара і Катажына Залускія** — незамужнія, жывуць у Англіі, дачка **Ізабела** з мужам Рэнэ **Курхеласам** жывуць у Швейцарыі, у іх расце дачка **Аляксандра Курхелас**, а сын **Міхал Залускі** — грамадзянін Даніі, жанаты з датчанкай і выхоўвае дзвюх дачок. Ён інжынер халадзільных установак, а яго сёстры — настаўніцы. Жонка самога Анджэя Залускага, Тэрэс Кюнзлі, 1935 г. нар. — швейцарка па паходжанні. Іва Залускі — бацька дачкі і сына, народжаных у шлюбе з Барбарай Фіш: **Караліны,** 1973 г. нар. і **Яна Хрысціяна,** 1976 г. нар. Нават па скупых падліках сёння на свеце жыве 57 нашчадкаў Амеліі Агінскай.

**Эма Агінская.** На працягу ўсяго жыцця лёсы Амеліі і Эмы, старэйшых дачок Міхала Клеафаса Агінскага, цесна перапляталіся. Ім абедзвюм было суджана пражываць са сваімі сем’ямі ў сферы аўстрыйскага захопу, не вельмі далёка адна ад адной і ад Кракава. Пажаніўшы пазней паміж сабой сваіх старэйшых дзяцей, сёстры сталі часцей бачыцца і падтрымліваць адна адну. Але перад гэтым Эма таксама прайшла праз жыццёвыя выпрабаванні. Пра гэта — кніга сучаснага нашчадка Эмы — Іераніма Высоцкага пад назвай «**Расказалі старыя лісты**». Яна выйшла ў 1986 годзе ў Кракаве і прадстаўляе нам панараму сямейнага жыцця другой дачкі Міхала Клеафаса — **Эмы** (1809—1871). Гэта панарама ўзнікае на падставе аналізу больш чым тысячы лістоў з сямейнага архіву Іераніма Высоцкага. Пераважную частку выкарыстаных ім крыніц склалі лісты на французскай мове, яны ахопліваюць перыяд з 1827 па 1874 гады. Іеранім Высоцкі стараўся як мага больш поўна прадставіць біяграфіі і індывідуальнасці асоб з яго роду, і гэта яму ўдалося. І пачынае ён з апісання адносін Эмы з бацькам, Міхалам Клеафасам

Агінскім: «Эма з Агінскіх Высоцкая, у першым шлюбе — Бжастоўская, была дачкой князя Міхала Клеафаса і Марыі з дому Нэры, італьянкі. Выхоўвалася ў рэзідэнцыі бацькоў — Залессі на Літве, разам з дзвюма сёстрамі і братам. Залессе, якое ляжала на паштовым тракце паміж Вільняй і Мінскам, на рацэ Віліі, мела вельмі прыгожы парк і ўяўляла сабой улюбёнае месца побыту бацькі Эмы. Усё ж Міхал Клеафас па прычыне сваіх шматлікіх грамадскіх заняткаў вёў рухавы вобраз жыцця. Яго жонка таксама не цуралася падарожжаў, нават далёкіх. Яна ахвотна наведвала свой родны край. Эма, народжаная ў 1809 годзе, правяла частку дзяцінства ў Італіі, пэўны час жыла з маці, сёстрамі і братам у Парыжы. Яна вырасла асобай свецкай: цудоўна выхаванай, з прыгожай французскай мовай, беглым валоданнем англійскай і італьянскай мовамі і іншымі якасцямі, якія патрабаваліся ад паненак яе кола. Калі яна стала паўналетняй, яе бацька ўжо некалькі гадоў жыў у Фларэнцыі. Ён асеў на пастаяннае жыхарства ў гэтым горадзе пасля адыходу ад дзяржаўнай службы. Маці Эмы засталася ў Залессі. Сямейнае жыццё Міхала Клеафаса не належала да ўдалых, і гэтым тлумачыцца той стан асобнага ад жонкі жыцця, які ўжо не павінен быў змяніцца». Менавіта з Фларэнцыі нечакана прыйшоў Эме сардэчны ліст, які паклаў пачатак перапісцы бацькі з дачкой на некалькі гадоў.

*«Фларэнцыя, 16.03.1827.*

*Мая каханая Эма! Гэта першы ліст, які Ты атрымаеш ад Твайго бацькі з таго часу, як Ты ёсць на свеце. У сувязі з гэтым з'яўляецца слушным, каб для ўзнагароджання Твайго такога доўгага чакання ліст гэты, хоць і кароткі, быў мілы і зрабіў табе прыемнасць. Такім чынам, я скажу табе, маё дарагое дзіця, што я заўсёды любіў Цябе, гэтак жа як Твайго брата і Тваіх сясцёр, што я ніколі не праміную абняць і блаславіць Цябе ў лістах, адрасаваных Маме, што я не адказваў на лісты, якія ты мне пасылала, бо перасылаў адказы самай старэйшай з сясцёр… Згодна з гэтым прынцыпам я адрасую некалькі гэтых радкоў непасрэдна Табе, якая займае па прычыне ад'езду Амеліі і Ірэнэуша месца самай старэйшай у сям'і побач з Мамай. І, напэўна, прыемнасць, якую Ты адчуеш, чытаючы мой ліст, не будзе большай за тую, якую я адчуваю ў момант, калі пішу гэтыя словы.*

*Усё, што Мама паведамляе мне наконт Цябе, сведчыць пра тое, што яе намаганні добра выхаваць Цябе далі самыя найлепшыя вынікі. Старайся і ў далейшым заслугоўваць гэтую ацэнку, такую пахвальную для Цябе. Любі яе, давай ёй доказы Тваёй удзячнасці, старайся парадаваць яе ў час перажыванняў, прынось ёй падставы толькі для радасці, і тады я не перастану Цябе абдымаць і бласлаўляць заўсёды ад усяго сэрца.*

*М.А.*

*Сардэчна абдымі ад мяне Іду»* (арыгінал на французскай мове).

Праз некалькі месяцаў граф Ксаверы Бжастоўскі, стараста Даўгоўскі і Мсцібаўскі, напісаў у далёкую Фларэнцыю ліст, просячы ў Міхала Клеафаса рукі яго дачкі Эмы для свайго сына Іпаліта. Атрыманы адказ павінен быў задаволіць абодвух паноў Бжастоўскіх. У ім Міхал Клеафас Агінскі даваў дазвол на саюз Эмы з Іпалітам і бласлаўляў будучую сямейную пару.

Шлюб Іпаліта Бжастоўскага з Эмай Агінскай адбыўся 2 верасня 1827 года ў Вільні ў касцёле Паненак Кармелітак. Пасля шлюбу маладыя пасяліліся далёка ад Літвы — у зямлі Вялюньскай, недалёка ад Лодзі, у Чарнажылах — родавым маёнтку Бжастоўскіх. Некалькімі месяцамі пазней Эме ад яе бацькі прыйшоў ліст, поўны цеплыні і добрых жыццёвых парад. Ён радаваўся атрыманым ад дачкі звесткам аб яе шлюбе, аб тым, што яна задаволена.

Наступныя лісты з Фларэнцыі павінны былі напоўніць Эму смуткам. Бацька выказваў у іх усё больш моцную тугу па сваіх блізкіх і ўзрастаючае пачуццё аддаленасці. Іншы ліст, поўны апасенняў з прычыны пагаршэння зроку, бацька Эмы таксама заканчвае словамі тугі:

*«…Я ніколі не быў такі адзінокі і пакінуты, як гэтай зімой. Аддалены ад усіх сваіх захапленняў, якія мяне яшчэ звязваюць з жыццём, я вяду нікчэмнае існаванне і марнею, не маючы нават той радасці, якой была праца над маімі мемуарамі, бо яны ўжо скончаны. Абедаў, шматлікіх вечароў ці балёў мне ў Фларэнцыі хапае, але ці можа чалавек, аддалены ад сваёй краіны і сваёй сям'і, а*

*акрамя таго прыгнечаны сваёй старасцю і нядобрым станам здароўя, ці такі чалавек можа ўдзельнічаць ва ўсіх гэтых забавах, не маючы ні спакойных думак, ні радасці ў сэрцы…»* (арыгінал на французскай мове).

Прайшло некалькі гадоў. 68-гадовы Міхал Клеафас працягваў адзінока жыць у Фларэнцыі. З вялікай радасцю ён успрыняў вестку аб будучым прыездзе Эмы. У сувязі з такой доўгай разлукай яе побыт у Фларэнцыі павінен быў стаць не столькі адведзінамі, колькі падставай да знаёмства бацькі з дачкой і знаходжання імі адно аднаго.

У каляндарыку Эмы пад датай 4 студзеня 1833 года значыцца кароткі запіс: «Сёння я шпацыравала з бацькам першы раз». А пад іншай датай: «Папа першы раз абедаў у нас». Кантакты былі частыя. Бацька і дачка абменьваліся кароткімі лістамі: «Ці хацела б ты прыйсці да мяне на вячэру з Іпалітам, адкажы мне: так ці не», або: «Вечар 17 студзеня 1833 г. У маім распараджэнні дзве вельмі добрыя ложы… Прыеду да цябе каля паловы на другую. Не трэба адкладаць візіты, якія ты хочаш зрабіць. Абдымаю цябе, каханая Эма, як і Іпаліта, жадаючы вам добрай ночы».

Муж і жонка Бжастоўскія вядуць у Фларэнцыі ажыўленае жыццё. Яны бываюць у польскіх і італьянскіх дамах, наведваюць помнікі даўніны, музеі, мастацкія галерэі. У каляндарыку Эмы знаходзяць адбітак усе найважнейшыя падзеі, часам з кароткімі каментарыямі.

Эма чакае першае дзіця. Нягледзячы на гэта, яна з мужам накіроўваецца ў доўгае падарожжа па Італіі пасля двухмесячнага знаходжання ў Фларэнцыі. Міхал Клеафас Агінскі ў гэты час піша да сваёй дачкі. Ён жыва цікавіцца ўсім, што датычыцца яе, пытае, як яны з мужам бавяць час, каго бачаць, як жывуць, нават што ядуць. Аднак праблемы са зрокам усё больш абцяжарваюць яму перапіску. Некаторыя лісты ён вымушаны дыктаваць. Яны заўсёды поўныя сардэчнасці і клапатлівасці:

*«Фларэнцыя, 16.07.1833.*

*…Я працягваю той самы стыль жыцця ў вёсцы, робячы экскурсіі ў горад тры разы на тыдзень, гэта значыць у дні, калі прыходзяць пошта і газеты, бо гэта яшчэ застаецца маім адзіным задавальненнем. Я вельмі сумую з той пары, як ты выехала. Час мне доўжыцца, і я з нецярплівасцю буду чакаць моманту вашага вяртання ў Фларэнцыю. Вочы вельмі мне дакучаюць, а пасля таго як я ў нядзелю пабываў у тэатры, дзе карыстаўся ларнеткай, не магу ўзяць у рукі кнігу. Адзью, мая каханая Эма. Абдымаю цябе і бласлаўляю ад усяго сэрца, як і Іпаліта».*

У апошнія тыдні цяжарнасці Эма з мужам зноў у Фларэнцыі. 13 верасня 1833 года прыходзіць на свет дачка. Увага ўсіх канцэнтруецца цяпер вакол дзіцяці. Малая панна Бжастоўская, ахрышчаная імем **Гэлена**, у сваёй сям'і будзе нязменна вядомая як Лена і пазнейшая жонка Міхала Залускага, сына Амеліі.

Міхалу Клеафасу Агінскаму не было дадзена доўга цешыцца ўнучкай. Праз месяц, 15 кастрычніка, ён памірае. Застаецца пахаваны ў Фларэнцыі, у базіліцы Санта Крочэ (Святога Крыжа), у пахавальнай нішы з помнікам, пастаўленым стараннямі Эмы і Іпаліта Бжастоўскіх.

Позняй восенню Бжастоўскія з дзіцем вяртаюцца на радзіму. Пасля доўгага падарожжа яны дабіраюцца да свайго дому ў Чарнажылах. Жыццё пераходзіць у наезджаныя каляіны. Іпаліт Бжастоўскі займаецца гаспадаркай, яго жонка — домам і дзецьмі: апрача маленькай Лены яна выхоўвае таксама 7-гадовую англічанку Ізабелу Халь родам з Ліверпуля (яе звалі Эліза). Толькі праз пяць гадоў пасля нараджэння дачкі прыйдзе на свет сын **Адам**.

У гэтым самым годзе яшчэ адна радасць сустракае Эму. Прыязджае ў Чарнажылы на 10 дзён яе маці, якую яна даўно не бачыла. У каляндарыку Эмы з'яўляюцца ў гэты час два кароткія, але выразныя запісы:

«25.V. Праседзела ўсю ноч з пятніцы на суботу, чакаючы маму. Муж паехаў яе сустракаць». «26.V. Прыезд маёй каханай маці. Як жа я чакала гэтай шчаслівай хвіліны!» (арыгінал на англійскай мове).

Пройдзе некалькі гадоў. Гадоў, якія не пакінуць пасля сябе ні лістоў, ні нататак. Чарговы пасля гэтага перапынку след вядзе ў Галіцыю. (Галіцыяй у той час называліся заходнія землі сучаснай Украіны і паўднёвай Польшчы, якія знаходзіліся пад уладай Аўстрыйскай імперыі). Эма Бжастоўская, пакінуўшы Чарнажылы, перасялілася з дзецьмі і выхаванкай Элізай у Кракаў. Яна

зняла кватэру ў доме Вадзіцкіх на вуліцы св. Яна. Вясной 1843 года шлюб Эмы з Іпалітам Бжастоўскім на моцы прыгавору Духоўнага Суда Варшаўскай дыяцэзіі прызнаецца несапраўдным. Годам раней Бжастоўскія падпісалі ў натарыуса дамоўленасць, у якой агаворваліся ўмовы іх разводу. Згодна з ёй дзеці павінны былі застацца з маці да часу свайго паўналецця (пазней сын Адам пераехаў на жыхарства да дзядулі Бжастоўскага і памёр у маладым узросце, пражыўшы ўсяго 31 год (1838—1869).

Годам пазней, 7 мая 1844 года, у касцёле св. Мікалая ў Кракаве Эма ўзяла шлюб з Антоніем Высоцкім (знаёмыя называлі яго Антанінам), прафесійным мастаком, выхадцам са шляхецкай сям'і з Дагды паблізу Дынебурга (сённяшняга Даўгаўпілса). Іх знаёмства адбылося, калі Антанін Высоцкі выконваў партрэты сям'і Бжастоўскіх. Вось што паведамляе пра Антонія біяграфічны артыкул у Wikipedia: «Антоній Высоцкі (1796—1877) — мастак, фатограф, першы вядомы варшаўскі дагератыпіст. Удзельнічаў у паходзе Напалеона на Маскву, пачынаючы з 1827 года некалькі гадоў падарожнічаў, прымаў удзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1830—1831 гг. у Польшчы. Пасля паражэння паўстання на некаторы час выехаў у Італію, дзе зарабляў жывапісам. Вярнуўшыся ў Польшчу, ажаніўся з Эмай Агінскай (у першым шлюбе Бжастоўскай). З 1841 года пачынае выстаўляць свае дагератыпы на буйных выставах, з 1842 года адкрывае свой салон дагератыпаў у Варшаве, на вуліцы Длугай у палацы «Пад чатырма вятрамі». У прыватных калекцыях захавалася некалькі яго дагератыпаў, у тым ліку Адама і Гэлены Бжастоўскіх».

Як дайшло да гэтакай радыкальнай перамены ў жыцці Эмы? Са скупой інфармацыі, заключанай у нататках і перапісцы, вынікае, што Эма была нешчаслівая ў шлюбе з Бжастоўскім. Маецца на ўвазе дрэннае абыходжанне, непрыемнасці, перажытыя і ад яго, і з боку яго сям'і. Абедзве сястры Эмы перажываюць за яе лёс. Сама Эма ўпамінае пра гэта вельмі агульна. З аргументамі процілеглага боку пазнаёміцца не было магчымасці.

Так ці інакш, Эма адмовілася ад зручнага, стабільнага жыцця ў вёсцы, а таксама ад




*Партрэт Антаніна Высоцкага на вокладцы кнігі яго нашчадка Іераніма Высоцкага.*

усіх таварыскіх сувязей, якія прадастаўляла ёй яе становішча — фактара, значэнне якога ў тыя часы цяжка пераацаніць. Пераехаўшы ў Кракаў, яна распачала існаванне, якое мела рысы, поўнасцю процілеглыя тым, якія былі дасюль, а менавіта: без уласнага дома, без становішча ў грамадстве, у чужым для яе горадзе, што патрабавала ад яе штодзённай мужнасці і вытрымкі. Ёй давялося сутыкнуцца з непаразуменнем маці і брата, з новымі клопатамі. Брат Ірэнэуш па просьбе маці, Марыі Нэры, нават спецыяльна прыязджаў да Эмы ў Кракаў, каб адгаварыць яе ад уступлення ў новы шлюб, а пераканаўшыся, што Эма не збіраецца мяняць сваё рашэнне, абвясціў, што разрывае з ёй усялякія стасункі. Марыя Нэры не дала свайго мацярынскага блаславення на гэты шлюб, бо ў арыстакратычных колах лічылася ганьбай жыць з працы рук, да якой адносіўся і жывапіс.

У хуткім часе сям'я Высоцкіх у пошуках спрыяльных умоў для творчай працы мужа пераязджае ў вёску Цешыны пад Кракавам. Тут нарадзіліся іх дзеці: **Міхал** (1847—1923), які быў жанаты з Вольгай Хылінскай, **Станіслаў** (1850—1898), які ажаніўся з Зоф'яй Лубенскай, і **Амелія** (1853—1920). Міхал застаўся памешчыкам, дзяцей у яго не было. Малодшая з дзяцей, Амелія, прысвяціла сябе жывапісу і перамагала ў прэстыжных мастацкіх конкурсах, у тым ліку ў Парыжы (найбольш вядома яе алейная карціна «Галава канфедэрата»), аднак сям'і і дзяцей не мела.

А вось звесткі пра Станіслава Высоцкага павінны прыцягнуць нашу ўвагу па наступных прычынах. Гэта яго сыну **Генрыку Высоцкаму-Вайшкевічу** (1884—1969) з агульнай згоды іншых наследнікаў Міхала Клеафаса Агінскага перайшло ва ўладанне Залессе, што адбылося ў 1909 годзе, пасля смерці ў Рэтаве на Жмудзі папярэдняга ўладальніка Залесся — Багдана, сына Ірэнэуша Агінскага. Гэта ўнук Станіслава — **Іеранім Высоцкі-Вайшкевіч**, 1928 г. нар. пакінуў нам кнігу пра род Высоцкіх — «Przemówiły stare listy». Дарэчы, падвойнае прозвішча Высоцкі-Вайшкевіч з'яўляецца ў генеалагічных табліцах толькі ў дачыненні да нашчадкаў Антаніна Высоцкага, мужа Эмы Агінскай, але не да яго самога. Тлумачэнняў на гэты конт не пададзена.

**Станіслаў Высоцкі-Вайшкевіч** (далей — проста Высоцкі) пражыў усяго 47 год і пахаваны на Ракавіцкіх могілках у Кракаве, дзе прайшла большая частка яго жыцця. Пачаўшы сваю службовую кар'еру афіцэрам аўстрыйскай арміі, ён завяршыў яе шэфам аўстрыйскага консульства ў Будапешце і Яніне (Грэцыя). У шлюбе з баранесай Зоф'яй Залускай герба «Юноша» меў двух сыноў: **Станіслава Караля** (1882—1961) і **Генрыка** (1884—1969). Упамінанне назвы герба жонкі Станіслава Высоцкага азначае, што яна належала да той жа, што і Залускія ў Івонічы, але малодшай лініі Залускіх. Увогуле ў гістарычнай генеалогіі сямейныя гербы мелі першараднае значэнне пры вызначэнні месца той ці іншай асобы ў грамадскіх і роднасных адносінах. Але мэта дадзенага артыкула — высвятліць, наколькі разгалінаваным з'яўляецца генеалагічнае дрэва Міхала Клеафаса Агінскага, таму пра сямейныя гербы гаворка ідзе рэдка.

**Станіслаў Караль Высоцкі** (сын Станіслава), быў жанаты з Марыяй Вярыга-Дарэўскай і з'яўляўся бацькам пецярых дзяцей: **Марыі** (1920—1989, жонкі Анджэя Рагускага, іх шлюб быў бяздзетным), **Гэлены** (1922—1998, жонкі Міхала Славікоўскага, з гэтага шлюбу прыйшлі на свет: **Эва Славікоўская,** 1946 г. нар., **Беата Славікоўская,** 1953 г. нар. і **Яцак Славікоўскі,** 1956 г. нар.), **Тэрэсы**, 1925 г. нар. (жонкі Станіслава Іордан-Развадоўскага, з гэтага шлюбу сёння жыве **Пётр Іордан-Развадоўскі,** 1961 г. нар.), **Іераніма Высоцкага,** 1928 г. нар. (таго самага вышэйзгаданага аўтара кнігі; Іеранім нарадзіўся ў маёнтку Ясеніца на польска-славацкай мяжы. Вучыўся ў Вышэйшай эканамічнай школе, працаваў перакладчыкам тэхнічнай літаратуры на прадпрыемстве. Жыве з жонкай Вандай Дэскур у Кракаве. Бацька дзвюх дачок, **Дамінікі,** 1950 г. нар. і **Зоф'і,** 1960 г. нар., першая з іх — архітэктар, другая — выкладчыца французскай мовы. Дамініка, якая жыве ў Кракаве, замужам за Гжэгажам **Нянеўскім** і мае з ім траіх дзяцей: сына, імя якога гучыць шматзначна для Высоцкіх — **Міхал**, 1882 г. нар, дачок **Канстанцыю,** 1990 г. нар. і **Кінгу** 1999 г. нар. Нянеўскіх. Зоф'я Высоцкая нязамужам і дзяцей не мае), **Анну** (1931—1987), звесткі пра якую адсутнічаюць.

Другі сын Станіслава Высоцкага Генрык (1884—1969) — уладальнік Залесся, быў жанаты з Канстанцыяй Пшэвлоцкай і меў з ёй пяцёра дзяцей: **Станіслава** (1908—1942), бацьку **Ружы,** 1930 г. нар. і **Стэфана** (нар. каля 1940 г.) **Высоцкіх**; **Канстанціна** (1909—1975), які стаў бацькам **Ванды** (нар. каля 1930 г.), **Міхала** (нар. пасля 1930 г.) і **Юзафа** (1938—1964) **Высоцкіх**; **Зыгмунда** (1911—1982), бацька **Антонія,** 1935 г. нар., **Генрыка,** 1937 г. нар., **Томаша** (нар. каля 1940 г.) і **Дароты** (нар. пасля 1940 г.) **Высоцкіх**; **Зоф'ю,** 1912 г. нар., жонку Адама Чартарыйскага, з якім яна мела пяцёра сыноў: **Зыгмунда,** 1934 г. нар., **Адама,** 1935 г. нар, **Юліюша,** 1941 г. нар, **Тытуса,** 1945 г. нар і **Густава,** 1954 г. нар. Чартарыйскіх; **Ядзвігу** (1915—2004), жонку Мечыслава Іордан-Стаёўскага і маці **Анджэя,** 1949 г. нар. і **Кшыштафа,** 1956 г. нар. **Іордан-Стаёўскіх**.

Такім чынам, сучасныя нашчадкі Эмы Агінскай налічваюць 28 асоб, не ўлічваючы нашчадкаў Гэлены Бжастоўскай і Міхала Залускага, якіх мы аднеслі да нашчадкаў Амеліі Агінскай. Несумненна, гэта — недакладная лічба, бо звесткі пра некаторых нашчадкаў ў генеалагічных табліцах і Wikipedia адсутнічаюць, недастаткова звестак пра маладое пакаленне нашчадкаў Міхала Клеафаса Агінскага, якое нарадзілася ўжо ў XXI стагоддзі, а таксама пра смертнасць у гэты ж самы час. І ўсё ж мне вельмі хацелася накідаць хаця б бляклы эскіз той неверагоднай карціны пад назвай «Нашчадкі Міхала Клеафаса Агінскага», якая павінна некалі паўстаць, дапоўніўшыся сведчаннямі саміх нашчадкаў, гістарычнымі каментарыямі і праз гэта набраўшы больш каляровых барваў. Мне здаецца, што ўсе гэтыя нашчадкі — надзвычай цудоўныя людзі, ужо адным фактам свайго нараджэння назаўсёды адухоўленыя каштоўнай жыццёвай спадчынай свайго знакамітага продка і ўсяго роду Агінскіх.

Шукаючы звесткі пра нашчадкаў наймалодшай дачкі Міхала Клеафаса Агінскага, **Іды**, давялося са здзіўленнем канстатаваць, што звестак гэтых надзвычай мала. Мемуарыстка Габрыеля Пузына так выказалася пра замуства Іды: «Княгіня Марыя Агінская нядоўга цягнула са сваімі грацыямі… Трэцюю, прыгажуню Іду ў той год, бедны на кавалераў (маецца на ўвазе 1831-ы, год паражэння паўстання), яна выдала за Адольфа Пётух-Кубліцкага, непрыгожага, як быццам апухлага, але багатага і маральнага». У іншым месцы, пішучы пра імяніны Марыі Нэры-Агінскай у 1838 годзе, яна ўпамінае, што там была і Іда з чатырохгадовым сынам Каролекам. Адсюль вынікае, што годам нараджэння Караля мог быць прыкладна 1834, але ніводная генеалагічная табліца ў інтэрнэце гэтага не паведамляе. Вядома толькі, што сын Іды Агінскай, **Караль Пётух-Кубліцкі** быў жанаты з Зоф'яй Эйсмант гербу Кораб, якая ў сваім другім шлюбе была жонкай Лубенскага. Муж Іды, Адольф Пётух-Кубліцкі гербу Астоя (1810—?) быў сынам Юзафа Пётух-Кубліцкага, гранічнага суддзі Завілейскага (пазней Свянцянскага) павета Віленскай губерні, і Караліны Солтан, продкі якой займалі пасады вялікіх лоўчых ВКЛ. Продкі ж Юзафа Пётух-Кубліцкага паходзілі з Кубліч пад Полацкам. Гранічныя суды займаліся ў той час вызначэннем дакладных граніц памешчыцкіх маёнткаў і падрыхтоўкай дакументацыі на іх. Невядома, якімі землямі валодалі самі Кубліцкія, вядома толькі, што ў Юзафа, апрача Адольфа, было яшчэ пяцёра дзяцей, з іх чатыры дачкі, якіх, паводле норм таго часу, патрэбна было забяспечыць зямельным пасагам. У краязнаўчых матэрыялах, надрукаваных у свянцянскай інтэрнэтгазеце, сярод членаў Часовага павятовага паўстанцкага ўрада пад датай 20.04.1831 года ўпамінаецца і Адольф Пётух-Кубліцкі, але больш ніякай інфармацыі пра яго не падаецца, у той час як заняткі іншых членаў камітэта пазначаны. Магчыма прыпусціць, што ён быў памешчыкам і пражываў у вёсцы, будучы пры гэтым актыўным удзельнікам грамадскіх падзей. Побач з прозвішчам Адольфа стаіць прозвішча графа Адама Гюнтара, бацькі мемуарысткі Габрыелі Пузыны, і ўпамінаецца пераможная для паўстанцаў сутычка пад Качэргішкамі. У заключэнне можна сказаць, што на Каралі Пётух-Кубліцкім беспатомна перарвалася лінія Іды Агінскай.

**Ірэнэуш Агінскі і яго нашчадкі.** Пасля смерці Марыі Нэры яе сын Ірэнэуш Агінскі застаўся наследнікам Залесся і іншых уладанняў на тэрыторыі Беларусі. Да гэтага, пачынаючы з 1835 года, ён ужо меў ва ўласнасці прыгожы маёнтак Рэтаў на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, колішнюю ўласнасць Агінскіх, якую Марыя Нэры выкупіла ў графа Зубава, карыстаючыся тым, што Міхал Клеафас перад сваім ад'ездам перапісаў на яе ўсю сваю маёмасць. Тут Ірэнэуш жыў са сваёй другой жонкай, Вольгай Каліноўскай, дачкой графа Юзафа Каліноўскага, генерала польскага войска. Першая жонка Ірэнэуша, родная сястра Вольгі Каліноўскай, Юзэфа, рана памерла, не пакінуўшы нашчадкаў. Але лёс падрыхтаваў Ірэнэушу своеасаблівую пастку, на якія ён ніколі не скупіўся для Агінскіх. Прыняўшы ўдзел у вызваленчым антырасійскім паўстанні 1830—1831 гадоў і з'яўляючыся адначасова царскім прыдворным, Ірэнэуш трапіў за гэта ў адну з пецярбургскіх турмаў. Была арыштавана і прывезена ў Вільню Марыя Нэры. Але, выкарыстаўшы свае сувязі, ёй удалося вызваліцца самой і вызваліць з турмы сына. Але, каб пакараць

Ірэнэуша, цар Мікалай І прымусіў таго ажаніцца з яго швагеркай, Вольгай Каліноўскай, якая была ў той час прыдворнай фрэйлінай, цяжарнай ад наследніка прастола, Аляксандра ІІ. У якасці пасагу за Вольгай Ірэнэушу было падаравана 2 млн. залатых рублёў і 7 маёнткаў. Па сведчаннях відавочцаў, першынец Агінскіх — **Багдан Міхал** (1848—1909) быў дакладнай копіяй Аляксандра ІІ. Пасля заключэння шлюбу Агінскія вельмі блізка кантактавалі з Мікалаем І. Ён нават стаў хросным бацькам другога сына Агінскіх — **Мікалая Міхала** (1849—1902).

У 1843 годзе Марыя Нэры выехала ў Італію, каб лячыцца ад артрыту, і больш ніколі не вярнулася ў Залессе. У 1851 годзе яна памерла на сваёй радзіме і пахавана ў Пізе. Марыя Нэры заўсёды вельмі клапацілася пра матэрыяльны дабрабыт сваіх дзяцей, і яны гэта цанілі, а таксама вучыла іх добра адносіцца да прыгонных. Магчыма, прычына таго — простае паходжанне Марыі, а магчыма — больш свабодны дух Італіі, у якой ужо з XIV стагоддзя панавалі ідэі гуманізму і вольнага гандлю. Ва ўсялякім разе Ірэнэуш, які атрымаў адукацыю ў Італіі, быў прагрэсіўным гаспадаром і пакінуў у Літве пасля сябе добрую славу. Ён яшчэ ў 1838 годзе адмяніў у сваіх уладаннях прыгоннае права, увёў сялянскае самакіраванне, заснаваў у Рэтаве сельскагаспадарчую школу, у якой сялянскія дзеці атрымлівалі асновы агранамічных ведаў. Выкладанне ў ёй вялося на літоўскай мове, гэта была адзіная ў той час спецыяльная школа, выкладанне ў якой вялося на мове мясцовага насельніцтва. Сам Ірэнэуш ведаў літоўскую мову і ўсяляк падтрымліваў развіццё слабых парасткаў літоўскай культуры: выдзяляў грошы на выданне календароў на літоўскай мове, на стварэнне бібліятэкі літоўскіх кніг, фінансаваў выданне кнігі С. Даўкантаса «Азбука літоўскай і жмудзкай мовы».

Ірэнэуш Агінскі добраўпарадкаваў мястэчка Рэтаў, пабудаваў шыкоўны палац (ён не захаваўся да нашых дзён і яго можна ўбачыць толькі на малюнку Напалеона Орды), распачаў будаўніцтва велічнага касцёла, які павінен быў паўтараць формы фларэнцыйскага касцёла Санта Крочэ, дзе пахаваны Міхал Клеафас Агінскі і будаўніцтва якога закончыў ужо яго сын Багдан (памёр Ірэнэуш Агінскі ў 1863 годзе і пахаваны ў Рэтаве). Пры жыцці Ірэнэуш набыў маёнтак недалёка ад Рэтава — Плунге, які дастаўся ў спадчыну малодшаму сыну — Міхалу Мікалаю. Той таксама пабудаваў для сябе ў Плунге цудоўны палац, які ацалеў да нашых дзён. У ім месціцца сёння краязнаўчы музей горада Плунге. Багдан жа ўнаследаваў Рэтаў і Залессе (з невядомых нам зямельных уладанняў Ірэнэуша Агінскага).

Абодва браты Агінскія пачалі ўводзіць у сваіх літоўскіх маёнтках тэхнічныя навінкі: у 1882 годзе з Рэтава ў Плунге была праведзена першая тэлефонная лінія, у 1992 годзе ў Рэтаве пабудавана першая ў Літве электрастанцыя, якая забяспечвала электраэнергіяй не толькі маёнтак, але і суседнія сялянскія гаспадаркі. У Рэтаве і Плунге былі адкрыты музычныя школы, у якіх вучылася нямала будучых таленавітых музыкантаў, у тым ліку і Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс, выдатны літоўскі кампазітар і мастак.

Міхал Мікалай, які быў жанаты з Марыяй Скужэўскай, памёр у 1902 годзе, не пакінуўшы нашчадкаў. Багдан Міхал Агінскі, жанаты з Марыяй Патуліцкай, таксама не меў дзяцей і памёр у 1909 годзе ў мясцовай псіхіятрычнай клініцы, дзе лячыўся ад шызафрэніі. На ім беспатомна скончылася мужчынская лінія роду Міхала Клеафаса Агінскага. Іх маёнткі, у тым ліку і Залессе, перайшлі ў рукі нашчадкаў Амеліі і Эмы, таму што, як ужо ўпаміналася, сын Іды Караль не пакінуў пасля сябе нашчадкаў, якія б маглі ўдзельнічаць у падзеле. Шляхам пагаднення Залессе перайшло нашчадку Эмы Генрыку Высоцкаму з абавязкам сплаціць астатнім родзічам іх долю грашыма. Першая Сусветная вайна і расійская рэвалюцыя не дазволілі Высоцкаму здзейсніць свае гаспадарчыя планы, і ў Залесся з'явіліся новыя гаспадары. Але гэта ўжо тэма для новага даследавання.

Якія ж думкі пакідае гэты рэтраспектыўны агляд жыццёвай спадчыны Міхала Клеафаса Агінскага, выражаны ў біяграфіях яго нашчадкаў? Калі лічыць наяўнасць нашчадкаў за знак Божага благаслаўлення, то Міхал Клеафас застаўся сёння благаславёны ў надзвычай вялікай меры, бо яго шматлікія нашчадкі таксама ўнеслі годны ўклад у гісторыю тых краін, дзе яны пражывалі і пражываюць. Ці магчымы калі-небудзь з'езд

нашчадкаў Міхала Клеафаса Агінскага, як, напрыклад, зрабіўся магчымым з'езд нашчадкаў Радзівілаў у Нясвіжы? Верагоднасці гэтага перашкаджае аддаленасць у часе тых падзей, якія былі звязаны з жыццём і дзейнасцю Міхала Клеафаса Агінскага, і адсутнасць матэрыяльных памятак, за выключэннем залескай сядзібы-музея. Але хочацца пра гэта памарыць і ўявіць, што калі гэта ўсё ж адбудзецца, то толькі ў Залессі. Дарэчы, нашчадкі Міхала Клеафаса Агінскага сёння беражліва захоўваюць свой графскі тытул і добра разбіраюцца ў радаводах сваіх і іншых арыстакратычных сямей.

Тым, хто ўважліва прагледзеў гэтыя старонкі, не магло не кінуцца ў вочы, што імя Міхал было вельмі папулярным у нашчадкаў Міхала Клеафаса. Сам ён у час хрышчэння атрымаў восем імён: Клеафас Міхал Францішак Фелікс Антоні Ігнацый Юзаф Тадэвуш, што паводле каталіцкага пераканання павінна было прынесці яму нябесную апеку святых менавіта з гэтымі імёнамі. Пазней гэтыя імёны паўтараюцца ў новых пакаленнях роду. І, здаецца, нябесныя патроны не падвялі.

І яшчэ здаецца, што выжываць у найскладанейшых жыццёвых выпрабаваннях Агінскім дапамагалі іх высокія маральныя якасці, закладзеныя, у сваю чаргу, іх продкамі. Не кожнага чалавека, будзь ён бедны ці багаты, адукаваны ці невук, можна назваць добрым грамадзянінам і знакавай асобай. Памятаю, як мы ўсе былі ўражаны юнацкімі ўспамінамі Міхала Клеафаса пра ўрокі, якія ён атрымаў ад гувернёра Жана Ралея, які вучыў, што ўсе людзі створаны ад прыроды роўнымі, што лозунгі французскай буржуазнай рэвалюцыі павінны перамагчы і ў Рэчы Паспалітай. Міхал Клеафас Агінскі вырас на ідэях французскіх асветнікаў і рыхтаваўся ўвасобіць іх у жыццё сваёй краіны. Бурлівая пераломная эпоха канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя не дала магчымасці гэта здзейсніць.

Мы захапляемся прыгажосцю ацалелых старадаўніх палацаў і храмаў, ганарымся імі, але часта не маем аргументаў, каб абараніць у сваіх жа вачах добрае імя іх стваральнікаў і фундатараў. Падобна, што класавы падыход да гісторыі яшчэ жыве ў нашых галовах, як думкі, накшталт: «Гэтыя палацы і касцёлы былі пабудаваны панамі на поце і крыві беднага люду», — пераважаюць над удзячнасцю да іх стваральнікаў.

У папярэднія стагоддзі функцыі горадабудаўніцтва, добраўпарадкавання, дзяржаўнага кіраўніцтва, асветы, самакіравання і самаабароны былі ў руках менавіта заможнага і асабіста свабоднага саслоўя: шляхты і арыстакратаў, і ўсё тое, што мы бачым як ацалелую культурна-гістарычную спадчыну, — гэта іх праца і свядомы ўклад у дзяржаўнае будаўніцтва. Грамадства, падзеленае на вельмі бедных і вельмі багатых, на свабодных і бяспраўных, не магло функцыянаваць інакш. Каб паспяхова кіраваць і абараняць сваё высокае становішча ў грамадстве, радавітыя саноўнікі не маглі не трымаць у памяці гісторыю свайго роду і свае заслугі перад краінай. Але гэта суправаджалася пастаянным іх адказнасцю перад гісторыяй. Пацвярджэннем таму служыць дзейнасць стваральнікаў курорта Івоніч, мястэчак Рэтаў і Плунге, а таксама ўсіх без выключэння рэзідэнцый большых і меншых землеўладальнікаў XVI—XIX стагоддзяў. Гэты артыкул аддае ім належную пашану.

## СПІС ВЫКАРЫСТАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ:


**Aftanazy R. Dzieje rezydencji na wschodnich kresach Rzeczy Pospolitej, t.4.** Артыкул «Zalesie».

**G. z Guntherów Puzynina.** W Wilnie i w dworach litewskich. Wilno, 1837.

**Wspomnienia o rodzinie Załuskich w XIX st.,** Kraków, 1907

**Kwilecki A**. Załuscy w Iwoniczu. Kórnik, 1986.

**«Genealogia Mienickiego»** w Internecie, артыкулы «Amelia z Ogińskich Załuska», «Emma z Załuskich Ostaszewska» і іншыя.

**Polski słownik biograficzny**, artykuły «Michał Kleofas Ogiński», «Ireneusz Kleofas Ogiński».

**Staniak P**. Kleofas Michał Ogiński. 1765—1833.

**Wysocki H**. Przemówiły stare listy. Kraków: Wydawnictwo literackie, 1986.

**Верамейчык, С**. Міхал Клеафас Агінскі. 1765—1833. Мн, 2003.

**Равицкене, Э**. Звезда Марии Нери. Артыкул з газеты «Шейміінке», 1996, № 43 (241).

**Біяграфічныя артыкулы аб нашчадках М. К. Агінскага** ў Wikipedia.

Леанід НЕСЦЯРЧУК

# РАЗВАГІ МІХАЛА КЛЕАФАСА ПРА ЛІЦВІНАЎ І ПАЛЯКАЎ

## *Урывак з кнігі, што рыхтуецца да друку*

Параза Напалеона ў вайне 1812 года стварыла новую палітычную сітуацыю ў Беларусі і Польшчы, дала магчымасць іх аднаўлення пад апекай Расійскай імперыі. Актыўнасць у гэтай справе праяўлялі зноў Міхал Клеафас Агінскі і князь Адам Ежы Чартарыйскі, якія прапанавалі Аляксандру І новыя праекты аднаўлення польскай дзяржаўнасці, стварэння Генеральнай канфедэрацыі і ўвядзення Канстытуцыі 1791 года на тэрыторыі Польшчы і Літвы.

Спачатку Аляксандр І падтрымліваў іх намеры і прапановы. На сустрэчы з Міхалам Клеафасам ён успомніў пра даваенныя мемарыялы князя і абяцаў вярнуцца да іх пасля перамогі над Напалеонам, разлічваючы на давер ліцвінаў і палякаў.

Такая ўвага імператара да лёсу краю давала князю надзею на ажыццяўленне ягоных мар. У сваю чаргу Агінскі спяшаўся заверыць Аляксандра І у тым, што, даўшы гарантыю вярнуць Айчыну, расійскі манарх тым самым узніме настрой і ажывіць патрыятычны дух жыхароў Рэчы Паспалітай, а таму можа разлічваць на іх вернасць.

Пасля гутаркі з імператарам ён неадкладна пазначыў у сваім дзённіку, што незалежная Рэч Паспалітая, уключаючы Літву, будзе адноўлена. Абмяркоўваючы з манархам праблемы гандлю, Міхал Клеафас дальнабачна падкрэсліў, што канкурэнцыя паміж польскімі і расійскімі экспарцёрамі будзе толькі садзейнічаць развіццю прамысловасці, а значыць росту дабрабыту насельніцтва [290, с. 109].

У сваім чарговым мемарыяле ад 7 (17) кастрычніка 1812 года Міхал Клеафас прапануе Аляксандру І абвясціць сябе польскім каралём і прыкладае праект пракламацыі аб абвяшчэнні каралём Рэчы Паспалітай, аб выдачы амністыі для жыхароў, якія падчас вайны 1812 года падтрымалі Напалеона, кампенсаваць страты ад вайны і праект звароту імператара праз М. Кутузава да палякаў і ліцвінаў аб добрых намерах Аляксандра І [549, с. 155—159].

Падчас лістападаўскай гутаркі «сам-насам» з Агінскім Аляксандр І пачаў разважаць, што абвяшчаць сябе польскім каралём у той час, калі вораг мае пэўныя сілы і знаходзіцца ў межах Расійскай імперыі, заўчасна, бо можа выклікаць недавер у жыхароў заходніх губерняў за такое палітычнае «фанфаронства» [549, с. 155—159].

Разважаючы на старонках «Мемуараў» аб сваіх палітычных пазіцыях, Агінскі ўпэўнена паказвае розніцу ў настроях ліцвінаў і палякаў, падкрэсліўшы, што ліцвіны сустракалі Напалеона не з такім запалам, як жыхары Варшаўскага герцагства.

Нават сам Напалеон падчас затрымкі ў Вільні з 1 па 16 ліпеня 1812 года пачаў трывожыцца пасіўнасцю паводзін шырокіх пластоў беларускай грамадскасці, адзначыўшы ў сваім выступленні перад дэлегацыяй Варшаўскай канфедэрацыі, што ліцвіны і палякі на Літве мала падобны да сваіх братоў і сясцёр з Вялікапольшчы [172, с. 181].

У сваіх «Запісках пра Літву...», змешчаных у трэцім томе «Мемуараў», Агінскі піша, што ягоныя нататкі наконт пасіўнасці і недаверлівасці ліцвінаў да амбіцый Напалеона, «…замыкаюць вусны ўсім тым, хто лічыў ліцвінаў зводнымі палякамі, …што яны [ліцвіны. — **Аўт.**] страцілі ўсялякае пачуццё Айчыны, трымаючца Масквы, …выракаючца адраджэння Польшчы Напалеонам» [549, с. 181].

Далей ён падкрэслівае, што ліцвінам характэрна ўласная самасвядомасць, прыналежнасць да народа, адрознага ад палякаў, адзначае моманты, якія яднаюць і падзяляюць народы былой Рэчы Паспалітай. Выказваючыся пра гістарычныя карані беларускай магнатэрыі, ён піша, што «Самыя знакамітыя роды Польшчы па большай частцы вядуць сваё паходжанне з Літвы. Чартарыйскія, Радзівілы, Агінскія, Сапегі, Тышкевічы, Пацы, Сангушкі з'яўляюцца ліцвінамі» [549, с. 190].

Узнёсла піша Міхал Клеафас пра беларускасць роду свайго духоўнага настаўніка Касцюшкі. На жаль, ягоныя «Мемуары» не змог прачытаць сам Касцюшка, бо яны былі выдадзены праз 10 гадоў пасля ягонай смерці, але калі б Касцюшка іх прачытаў, то, відавочна, пагадзіўся ці паправіў бы Міхала Клеафаса пра дату і месца свайго з'яўлення на свет, бо Міхал адназначна напісаў, што нарадзіўся Касцюшка «12 лютага 1746 года ў Сяхновічах у Брэсцка-

Літоўскім ваяводстве ад бацькоў са шляхты, што паходзіла з тых краёў» [549, с. 191].

Цяпер навуковы свет у большасці схіляецца да таго, што Касцюшка нарадзіўся 4 лютага 1746 года ў арандаваным ягоным бацькам фальварку Мерачоўшчына пад Косава-Палескім, быў ахрышчаны 12 лютага спачатку ў праваслаўнай царкве, затым ў Косаўскім касцёле, а вёска Малыя Сяхновічы з'яўлялася радавым і спадчынным гняздом Касцюшкаў-Сяхновіцкіх.

Сёння мы можам з гонарам сцвярджаць, што на Бацькаўшчыне Касцюшкі ягонае імя ўшанавана годна. У адноўленым фальварку на Мерачоўшчыне ўжо 10 гадоў плённа працуе Дом-музей Касцюшкі, тут яму ўсталяваны мемарыяльны камень. Актыўна рэстаўруецца Косаўскі палац. У вёсцы М. Сяхновічы запрацаваў Жабінкаўскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей, у вёсцы Чыжэўшчына рэканструявана мемарыяльная капліца на магілах палеглых паўстанцаў 1794 года, а на радзіме былога ад'ютанта Касцюшкі Ю. У. Нямцэвіча ў вёсцы Скокі Брэсцкага раёна адноўлены палац Нямцэвічаў, у якім у адным з пакояў размесціцца экспазіцыя матэрыялаў пра Касцюшку і яго паплечніка па паўстанні 1794 года Міхала Клеафаса Агінскага [172, с. 28].

*Адам МАЛЬДЗІС*

# ДАВАЙЦЕ ЗРАЗУМЕЕМ ЧАСЫ АГІНСКАГА

Некалі мне пашчасціла першаму ў беларускім пасляваенным друку адкрыць тую аксіёму, што найбольш плённы перыяд грамадска-палітычнага і музычна-кампазітарскага жыцця Міхала Клеафаса Агінскага прайшоў на беларускай зямлі, у Залессі, што на Смаргоншчыне. Адбылося гэта летам 1959 года. Працаваў я тады на Маладзечаншчыне, у радашковіцкай раённай газеце. Заінтрыгаваны адной прыватнай размовай, у якой мой субяседнік называў Агінскага літоўцам, бо, маўляў, ён сам сябе лічыў у мемуарах ліцвінам, а таму не мог жыць і тварыць у Беларусі, я ў час адпачынку паехаў у Вільнюс, знайшоў ва ўніверсітэцкай бібліятэцы тыя ўспаміны і вычытаў, што ў 1801 годзе Міхал Клеафас ад свайго дзядзькі, уладальніка Маладзечна, Францішка Ксаверыя Агінскага, атрымаў у дар маёнтак Залессе, што знаходзіцца ў 14 мілях на ўсход ад Вільні па дарозе на Мінск… Усё сышлося. І я надрукаваў пра гэта артыкул у маладзечанскай абласной газеце, а потым — і ў мінскай «Беларусі», і ў адной са сваіх кніжак. Паволі пачалося аднаўленне Залесся, якое завяршылася толькі ў 2014 годзе, напярэдадні 250-гадовага юбілею з дня нараджэння аўтара паланэза «Развітанне з радзімай» і многіх іншых твораў.

І вось на ўзроўні ЮНЕСКА распачаўся юбілейны год. «Маладосць», з якой я супрацоўнічаю з самага пачатку яе існавання, прысвячае нашаму таленавітаму суродзічу, нашчадку беларускага роду Глушонкаў, спецыяльны нумар. Мне было прыемна выступіць тут у некалькіх выпадках у ролі «свата», прапанаваць тром аўтарам змясціць у ім праблемныя ўрыўкі з кніг, якія толькі рыхтуюцца да друку.

І тут, перачытваючы 60-ты ўрывак пад назвай «Развагі Міхала Клеафаса пра ліцвінаў і палякаў» з будучай манаграфіі пра Агінскага брэстаўчаніна Леаніда Несцярчука, я злавіў сябе на думцы, што іншы чытач, гледзячы на гісторыю сучаснымі вачыма, можа так і не зразумець, чаму ж беларусаў, жыхароў Мінскай, Гродзенскай і ўсходняй часткі Віленскай губерній, прадстаўнікоў беларускіх магнацкіх родаў, у тым ліку і сябе самога, аўтар мемуараў называе ліцвінамі. Спяшаюся патлумачыць, што этнічная «тэрміналогія» першай паловы XIX стагоддзя істотна рознілася ад назоваў нацый у пазнейшыя і сённяшнія часы: этнічных літоўцаў тады называлі жмудзінамі, беларусамі — жыхароў Віцебскай, Магілёўскай і Полацкай губерній, а ўсходнеславянскіх жыхароў «сярэдзінных» паміж імі губерній, якія адышлі да Расіі толькі пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, іменавалі ліцвінамі. Такая тэрміналогія трымалася да пачатку XX стагоддзя, а часам ужываецца і цяпер.

Таму давайце памятаць, што ліцвіны і літоўцы — гэта розныя этнасы.

Патрабуе каментарыяў і ўпершыню змешчаны ў нумары ліст Міхала Клеафаса, у якім ён павучае сына Ірэнея, як трэба яму жыць на свеце. На жаль, малады чалавек не паслухаў бацьку. З успамінаў суседкі па Залессі Габрыелі Пузыны «У Вільні і ў ліцвінскіх сядзібах» відаць, што ён заняўся тым, што тады называлася казнакрадствам, а сёння — карупцыяй. І аўдавелай маці давялося спецыяльна ехаць у Пецярбург, каб ратаваць яго ад празмерна суровага пакарання.

Што ж, з песні, як кажуць, слова не выкінеш. Светлае і цёмнае ў мінуласці спалучаюцца. І гісторыя роду-сям'і Агінскіх — яскравая таму ілюстрацыя. Толькі з адной агаворкай: станоўчага ў ёй куды больш, чым адмоўнага. Гэта была арыстакратычная эліта, якая самаададдана служыла роднаму краю. Доказаў таму мноства ў матэрыялах, з якімі я паспеў пазнаёміцца перад выхадам нумара.

Леанард ХОДЗЬКА

# ПРАДМОВА ДА ПАЭМЫ АЛЯКСАНДРА ХОДЗЬКІ «ЗАЛЕССЕ»

Залессе належыць князям Агінскім з Казельска. Гэтая прыгожая сядзіба знаходзіцца ў самым цэнтры былога Вялікага Княства Літоўскага, на паўдарозе паштовага гасцінца Вільня—Мінск, на беразе ракі Віліі.

Залессе знаходзіцца ў лясістай мясцовасці. Галоўныя рэзідэнцыі Агінскіх былі ў Маладзечне і Гануце і, каб трапіць адтуль у Залессе, трэба было праехаць праз лясныя масівы.

Францішак Ксаверый Агінскі, кухмістр літоўскі, жыў у Літве ў XVIII стагоддзі. У той час яго маёнтак быў драўляны, а парк вельмі прыгожы, яго вырошчвалі і даглядалі ў французскім стылі. Калі Міхал Клеафас Агінскі, пляменнік Францішка, вярнуўся ў 1802 годзе ў Залессе на жыхарства, дзядзька яго пераехаў у Маладзечна, дзе памёр у 1814 годзе.

Міхал Агінскі зрабіў гэтую рэзідэнцыю прыгожай мясцінай — з густам і стараннасцю ўпрыгожыў ды ўзбагаціў яе ўспамінамі, звязанымі з асноўнымі этапамі свайго палітычнага жыцця. Тут мы можам бачыць разам і справы, і думкі гэтага чалавека.

Сын Андрэя Агінскага, трокскага ваяводы, і Паўліны з Шэмбекаў — Міхал Клеафас Агінскі нарадзіўся 25 верасня 1765 года ў былым ваяводстве Рава, у Гузаве, які знаходзіцца ў 14 мілях ад Варшавы. Сваё палітычнае жыццё ён пачаў ва ўзросце 19 гадоў. Пасля таго, як ён быў дэпутатам сейма, мечнікам літоўскім, членам фінансавай палаты, надзвычайным і паўнамоцным паслом у Галандыі ў 1790 годзе, пасланцам сейма з асобай місіяй у Англіі, у 1792 годзе ён вяртаецца ў Варшаву. У той час палякі змагаліся за свабоду і незалежнасць сваёй краіны супраць мяцежнікаў, якіх падтрымлівала маскоўская армія і якія парушылі Канстытуцыю 3 Мая 1791 года і аб'ядналіся ў Таргавіцкую канфедэрацыю.

Агінскі быў адной з першых ахвяр гэтага захопніцкага ўрада — на ўсе яго ўладанні быў накладзены секвестр. Спадзеючыся, што зможа абараніць справу сваіх суайчыннікаў і выступіць супраць секвестру, ён выязджае ў Санкт-Пецярбург. Прадстаўлены там Зубаву, фаварыту Кацярыны, ён атрымаў абяцанне, што Польшча не будзе падзелена. Зубаў дадаў, што «калі ён (Агінскі) пажадае, то гэтае абяцанне яму пацвердзіць прыватна сама імператрыца». Пад ціскам гэтых ілюзій Агінскі прыняў пасаду вялікага Літоўскага падскарбія, пацвярджаючы гэтым сваю прыналежнасць да змовы ў Таргавіцы. Секвестр з яго маёмасці быў зняты.

Але ён хутка зразумеў значнасць сваёй памылкі і з болем адчуў, што не зможа прыносіць карысць ні сваім суайчыннікам, ні сабе. А калі Касцюшка ў 1794 годзе ўзняў у Кракаве сцяг нацыянальнай незалежнасці, Агінскі адмовіўся ад пасады падскарбія, на ўласныя грошы экіпіраваў корпус стралкоў і перадаў значныя фінансавыя сродкі на карысць паўстання. Са сваім вайсковым корпусам ён ваяваў пад Мінскам і пад Дынабургам, але не змог пратрымацца пасля захопу Вільні расейцамі і адступлення літоўскай арміі.

Каб пазбегнуць арышту, ён адмовіўся ад сваёй маёмасці і быў вымушаны эміграваць. Некалькі месяцаў правёў паміж Венецыяй і Парыжам, дзе ўдзельнічаў з суайчыннікамі ў справах па адраджэнні радзімы пры падтрымцы французскага ўрада.

Як толькі польскі Нацыянальны Камітэт у Парыжы выбраў сваіх прадстаўнікоў, Агінскаму была даручана місія ў Турцыі. Надзелены паўнамоцтвамі і дакументамі, 4 лістапада 1795 года ён пад імем Жана Рыдэля пакідае Венецыю і з вялікімі цяжка-



*Залессе, 1822 г. Малюнак Леанарда Ходзькі.*

сцямі, нягледзячы на праследаванне, дабіраецца да Ліворна 5 лютага 1796 года. Сярод іншых выпрабаванняў польскі пасланец павінен быў вытрымаць і небяспечны шлях у Канстанцінопаль, куды ён прыбыў толькі ў пачатку красавіка.

Усюды — у Парыжы, Венецыі, Канстанцінопалі — польскія патрыёты рабілі ўсё, каб адрадзіць добрае імя сваёй Радзімы. Калі іх высакародныя памкненні не ўвянчаліся поспехам, то гэта не азначае, што ім не хапіла мужнасці і пастаянства. Гэтыя непахісныя воіны, калі ўсе іх дыпламатычныя перамовы цярпелі паражэнне, адраджалі сваё нацыянальнае прадстаўніцтва, ствараючы ў эміграцыі польскія легіёны.

Усе абяцанні, што даваліся палякам у Парыжы і Канстанцінопалі, якімі б суцяшальнымі яны ні былі, не прыводзілі да станоўчых вынікаў. Агінскі быў адкліканы ў Парыж, дзе перадаў свае паўнамоцтвы генералу Рымкевічу.

Праязджаючы праз Бухарэст, наведваючы па чарзе Кракаў, Вроцлаў, Дрэздэн, Берлін, Гамбург і Брусель, 2 лютага 1797 года Агінскі апынуўся ў Парыжы. Толькі калі знікла ўсялякая надзея на аб'яднанне Радзімы, ён адмовіўся ад сваіх намераў. Ён просіць дазволу вярнуцца ў Літву, у 1802 годзе дабіваецца амністыі ў імператара Аляксандра і хаваецца, як у выгнанні, у сваёй вёсцы Залессе.

Пасля замірэння ў Тыльзіце і стварэння Вялікага герцагства Варшаўскага ён на 3 гады накіроўваецца са сваёй сям'ёй у Італію, а потым у Парыж. Агінскі быў прадстаўлены Напалеону ў 1809 годзе ў Фантэнбло, а ў замку Цюільры меў з імператарам сустрэчу і вёў гутарку пра лёс Польшчы. Але, атрымаўшы няпэўныя і невыразныя адказы, убачыўшы, што дыпламатычнымі перамовамі нельга дапамагчы польскай справе, ён у разгубленасці вяртаецца ў Парыж.

Вярнуўшыся ў Літву, меў намер адмовіцца ад дзяржаўных спраў, але быў запрошаны ліцвінамі быць пасярэднікам пры Аляксандры I, каб прыпыніць злоўжыванні, якія адбываліся ў гэтай мясцовасці. Дзеля гэтага Агінскі накіроўваецца ў Санкт-Пецярбург. У выніку шматлікіх сустрэч Аляксандр зразумеў, якім чынам Напалеон плануе адрадзіць Польшчу. У якасці контрмеры Аляксандр прыдумаў падобны план. Атрымаўшы пасаду сенатара, Агінскі меў свабодны ўваход да Аляксандра, і менавіта ён схіліў яго да думкі выкарыстаць сітуацыю і аб'явіць сябе каралём Польшчы — аб'яднаць польскія правінцыі Літвы, расійскія землі і герцагства Варшаўскае, не даць магчымасці Напалеону завяршыць узбраенне войска і падысці да межаў Расіі. Распрацоўваючы гэты праект, Агінскі правёў у Пецярбургу 1811 і 1812 гады. У 1815 годзе ён яшчэ верыць у выка-

нанне абяцанняў Аляксандра, але з цягам часу губляе ілюзіі і вяртаецца ў Залессе. Пакутуючы на падагру, ён пакінуў гэтыя мясціны ў 1822 годзе і выехаў у Італію. У Фларэнцыі ён напісаў «Мемуары аб Польшчы і паляках з 1788 і да канца 1815 г.», там жа, у Фларэнцыі, ён і памёр 15 кастрычніка 1833 года.

Залессе было для Агінскага найлепшым месцам. Гэты мілы яго сэрцу зацішны прытулак стаў вядомы разнастайнымі ўпрыгожаннямі, якія ён змог тут стварыць. Парк з правага боку, з шырокім алеямі, дрэвамі, якія рэгулярна падстрыгаліся, здаваўся яму сумным і манатонным. Ім створаны англійскі парк, дзе былі пасаджаны разнастайныя дрэвы і пасеяны шматлікія кветкі. Па яго загадзе пабудавана сядзіба па праекце Міхала Шульца, архітэктара з Вільні. Пабудаваны аранжарэі і цяпліцы, дзе вырошчваліся экзатычныя расліны — кветкі, фігавыя і абрыкосавыя дрэвы — усе тыя расліны, якія былі невядомы ў гэтых мясцінах з суровым кліматам.

Дзве невялікія рачулкі — Бабрынка і Рудзіца — давалі ваду ў ставы і насычалі вільгаццю парк. У якім на лужках, быццам знянацку, узнікалі тут ці там маленькія капцы, абсаджаныя кветкамі. Яны былі зроблены ў стылі англійскага парку і называліся кашамі або клумбамі. Адна з гэтых клумб была прысвечана Эме, дачцэ Агінскага. Сярод альтанак, так званых павільёнаў ці храмаў, была адна, пабудаваная ў гонар Амеліі, старэйшай дачкі Агінскага.

Усюды тут можна знайсці дарагія для нас успаміны. У цені вербаў і таполяў, на адным вялікім гранітным камені можна прачытаць імя Тадэвуша Касцюшкі, на другім — імя Жана Рале, настаўніка Агінскага. Сяброўства і ўдзячнасць — прыгожыя, рэдкія і каштоўныя рэчы, і не дзіўна, калі знаходзіш іх побач з нацыянальным помнікам.

Самае ўпарадкаванае месца ў парку называецца Бельведэр.

На нашай гравюры бачны Лебядзіны востраў, які знаходзіцца ў паўднёва-ўсходнім кірунку. Бровар, вадзяны млын, аранжарэя і жыллё размешчаны на адной лініі даўжынёй у 170 футаў. Гэтая лінія складаецца з трох павільёнаў, цэнтральны з якіх мае каланаду тасканскага ордэра і завяршаецца вежачкай з гадзіннікам. Размяшчэнне капліцы насупраць аднаго з рагоў павільёна дазваляе чуць набажэнства ва ўсіх пакоях палаца.

Сядзібу ў Залессі акружаюць дарогі, абсаджаныя дрэвамі. Гэтыя дарогі перакрыжоўваюцца і выходзяць на галоўны паштовы гасцінец. Каля якога знаходзіцца цагляны будынак пастаялага двара. А звонку, каля ўвахода ў Лес Міхала, узвышаецца ратонда, збудаваная ў стылі рымскага Пантэона. Пастаялы двор і вёска на беразе другога става завуцца Міхневічы.

Здалёк прыязджалі людзі, каб падзівіцца на Залессе. Сярод яго наведвальнікаў у ліпені 1822 года быў 19-гадовы Аляксандр Ходзька. Пасля працяглай прагулкі, падчас якой мы вялі з ім гутарку аб самых прыгожых мясцінах Польшчы — аб Пулавах, Аркадыі, Зоф'еўцы, якія былі ўслаўлены Дэлілем і польскім паэтам Станіславам Трэмбецкім. Фантазія і натхненне юнака-паэта Аляксандра ўзбудзіліся і праз некалькі гадзін ён напісаў паэму пра Залессе. У дадатак да нашага апісання мы падаём тут гэты твор у вершах і прозе, якой абавязаны таленавітаму Жазэфу Крэцьену Астроўскаму, аўтару «Начэй у выгнанні», афіцэру артылерыі.

Чытаючы гэтыя радкі, я акунуўся ва ўспаміны майго юнацтва. З васьмі гадоў (1819—1826), якія правёў побач з Агінскім, тры былі пражыты ў Залессі. Гэтыя ўспаміны — як мелодыі, якія мы чулі ў дзяцінстве, на якіх з задавальненнем спыняюцца, прыгадваюць з асалодай. Як сакратар Агінскага, я суправаджаў яго ва ўсіх апошніх паездках. Пазней нас раз'яднаі палітычныя абставіны, меркаванні, карацей кажучы — погляды на вырашэнне польскага пытання. Але мая юнацкая прыязнасць назаўсёды пакінула яго ў сэрцы. Залессе заслугоўвае гонару апісання, бо гэта адна ў найпрыгажэйшых мясцін Польшчы. Я саступаю пяро нашым двум паэтам.

*Змешчана ў альманаху «La Pologne historique, litteraire, monumentale et pittoresque» за 1837 год.*

***Пераклад з французскай Аляксандры РАБЦАВАЙ.***
***Літаратурная апрацоўка на беларускай Тацяны КЛЯШЧОНАК***

*Аляксандр ХОДЗЬКА*

# ЗАЛЕССЕ

О, каб на ветразях Тульчынскай музы[1] сягнуць паднябесся!

Неба маўчыць… А я б праўнукам паслаў Залессе.
Чуючы творчага жару натхнення ў сэрцы прыкметы,
— Сюды! — я б пазваў мастакоў,
— Будзьце тут! — я сказаў бы паэтам.

І ты, у кім сэрца — лёд, і ад ляжбы тлусцееш,
Зірні сюды — душою прасвятлееш;
Зірні і палюбі прыроду так, як той,
Хто тут навек злучыў з прыродай розум свой.

Наблізішся сюды — і ў вачах святлее,
Заб'ецца моцна сэрца і душа ўражана знямее,
Убачыўшы, як бору — Міхала зацені —
Матуля-сонца мерна шле сваё праменне.

Як нават рэчка мёртвая ў нейкім узрушэнні
З-за дрэўцаў бліскае сярэбраным струменем.
Успыхне твар, пачуцці ў трывозе,
А думак рой задавальненне множыць.

І стравы прагнучы для пачуцця і думак,
Пяўцоў сядзібы папаўняю тлумы.
Няцяжка там уразіцца чымсь гожым, дзе прырода
Надзіва шчодра, дзе з камення мкнуцца воды,

Дзе ёсць у самародным гроце зялёны закутак,
У якім мінуўшчына снуе гасцям ніцей былога скрутак.
Але тут, Князь?! Тут, дзе адзін пясок ляжаў спрадвеку,
«Хай Рай другі цвіце!» — Ты загадаў, і Рай з'явіўся чалавеку!

Заззяў блакіт, пяску прарваны меркі,
Варушаць ручаі халодныя люстэркі.
І зараснікаў рунь размалявалі фарбы,
І збегліся гаі агледзець тыя скарбы:

---

[1] Тульчынская муза — маецца на ўвазе паэтычная творчасць праслаўленага ў тыя часы польскага паэта-наватара і асветніка Станіслава Трэмбецкага, які, пражываючы з 1804 года ў магнацкай рэзідэнцыі Станіслава Фелікса Патоцкага ў Тульчыне непадалёк ад Вінніцы, апеў прыгажосць яе пейзажнага парку ў паэме «Зоф'еўка» (назва паэмы паходзіць ад імя жонкі Патоцкага Зоф'і). Паэма «Залессе» напісана менавіта на ўзор паэмы «Зоф'еў».

Бяжыць сюды ўсё — паветраная зграя
Шчабечучы, галінкі гожа абсядае…
І мне чаму б не бегчы ў тыя месцы,
Дзе зрок насыціцца, расчуліцца дзе сэрца?

Але яшчэ будынак дому ля сябе трымае,
Здзіўляе ён, хоць дахам хмар не дасягае.
Натхняе думкі ён, бо, хоць сцяна і нізка,
І вугал просты ад вугла тут блізка,

Заўжды абшараў тых заможныя нашчадкі
Краіны справы ў розуму стаўлялі краткі.
І ў бітвах моцны, і ў нарадах майстры,
Аб тым пасведчаць гетманы і давядуць кухмайстры.

Свет хваліцца й табой, о іх нашчадку годны!
Чужым — дарадчык ты, а землякам — як родны.
Няраз бацькі нашы і бачылі, і чулі,
Што мог прамовай ты, што — куляй.

Бяда і жалі іх — твае бяда і жалі.
Бег смуткі патапіць ты ў Гесперыйскай хвалі[1].
Гай фінікаў цябе карміў і гронкі ягад вінных,
І выспелы лімон — не год цябе кармілі.

Ты там няраз, дзе Рыму гербы знеславёны,
У думках да Радзімы быў абарачоны,
Усюды даганяў ты любай Польшчы цень,
Ля мораў еўрапейскіх і ля ўсходніх сцен.

Але дзе збочыў я? Прабачце літасціва,
У краіне згадак сёння міла нам на дзіва.
Не ведаю, сярод пачуццяў спрэчных скоку,
Ці думцы даць буяць, ці даць пабегаць воку.

Другое выбраўшы, да левага я краю
На выспу Лебедзяў па кладачцы ўзбягаю.
Вось тут яны, як кажуць стары весці,
Спявалі соладка, чым станецца Залессе...

Вакол мяне і пада мной блішчаць блакіты неба.
Як мала ў гэтай старане душы да неба трэба!
Усё сэрцу вольнасць тут нясе, і толькі сярод плыні
Свавольных водаў жыхары ў цвярдыя ўзяты скрыні.

Адразу думка мімаволі тут выснову чыніць:
І мы, дасюль свабодныя, сягодня дзе? — у скрыні…



[1] Гесперыйская хваля — Міжземнае мора (старад.).

Той, хто пакрыўджаны, да мар надзвычай здольны.
Хацеў памарыць я, ды шум не даў свавольны.

Зірнуў — і бачу, што з другога боку
Пагромца збожжа дах узняў высока.
Найноўшым вынаходніцтвам даніна,
Ён шумна меле працу селяніна.

Затым адкрыў свет іншы я з Юзэфа галерэі[1],
Іначай тут мурог і дрэвы зелянеюць…
Прыемна тут глядзець на дрэў зялёных шаты,
Адбітыя ў вадзе зеленаватай.

Тут злёгку бераг выступіў, а там, дзе аер нізкі,
Заўважыць вока пільнае масточак серабрысты.
Далей жа невыразна штось відаць на купе;
Якім жа будзе цэлае пры гэтакім уступе?

Мае пачуцці там ужо былі, але цяжкое цела,
Птушынаму зайздросцячы, увысь не паляцела.
Бягу што духу я і перашкоду лаю,
Што, скрыўшы прыгажосць, цярплівасць адымае.

Тут да мяне вярнуліся, дзе зяляніна мякка,
Ля Бельведэра[2] — зрок, а слых — каля пасадкі,
А рэшта пачуцця — ля клумб, дзе сам сэнс паху,
Узгардзіўшы небам, пад шкляным схаваўся дахам[3].

Тут саду прыгажосць з мастацтвам перablытала пакоі,
То столь перасякала, то рабілася павоем.
Лаўлю жучка ў ружы я і крок нясу свой скоры
Туды, дзе вабіць цень бярозак белакорых.

Блуджу, пакуль у клумбу Эмы не ўбягаю,
І тут палянку круглую на ўскрайку заўважаю.
Як згодны колер дрэў і колер траў на дзіва,
Якія фарбы роднасныя: О, куток шчаслівы!

Што б за цябе мог даць які вызнаўца Магамета,
Калі яму абрыдне свет і ўсе спакусы свету,
Калі ў разгар бясед на мэблях залачоных
У стравах бачыць яд, а здраду — ў прыбліжоных?

Іду, вяртаюся, бягу, як ад сябе наўцёкі,
Не ведаю, у якія мне накіравацца бокі.

---

[1] Галерэя Юзэфа — маецца на ўвазе тое, што адным з архітэктараў палаца М. К. Агінскага быў віленскі архітэктар Юзэф Пусэ.

[2] Бельведэр — паркавы павільён на ўзвышшы з прыгожым відам (з фр.).

[3] Шкляны дах — хутчэй за ўсё гаворка ідзе аб цяпліцы ці аранжарэі.

Жадаю ўсюды разам быць, хачу ўсё бачыць разам,
Тут цуд спрачаецца з красой, а там — пейзаж з пейзажам.

Далей гарбаты мост агледзінаў чакае.
Рашыў: пайду ў той бок, куды вада ўцякае,
І ўбачу ясна я ў шыбінах патоку
Вершаліну альхі, што недаступна воку.

Пастойце, рыбкі срэбныя, туды, дзе жвір, плывіце,
Як іскры, веерам ва ўсе бакі ляціце.
Ні зманлівая мушка, ні кручок тут востры
Не знішчаць вам бацькоў, жывыя будуць сёстры.

Прыйшоў сюды я слых паіць і зрок забавіць
І праўцу столькіх цудаў разам з вамі славіць.
Чародка дробная, вярнісь, жыві здарова,
Усё ў спакоі тут, і ты будзь у спакоі.

Іду туды, дзе вуліца прастрэльвае прамая,
Дзе наваколле слодыччу і смуткам патыхае.
Тут ўрачысты я адчуў спакой душэўны,
Дыханне звольнела і сэрца ледзь варушыцца, напэўна.

Якоесь Боства тут, напэўна, пражываць прывыкла…
І тут заўважыў храм[1] я, і здзіўленне знікла.
Павольна йшоў, нясмелы, у гмах той, што мяне прывабіў,
Пяшчотны бацька тут імя дачкі сваёй услявіў.

А неба, каб аддзячыць бацьку ў поўнай мерцы,
Усім у храме тым расчульвае сэрцы.
Сюды бяжыце праяўляцца, усе прыязні!
Сюды, сюды, у свет узвышаных фантазій!

Ледзь здольны штосьці чуць, адтуль выношу крокі,
Бо сэрца ўсё ж адно, а тут спакусаў столькі!
Ужо са шкадаваннем пакідаў святыя тыя месцы,
Хаця ў іншы бок упарта позірк рвецца.

Вачам наперакор бег да каскада шуму,
Быць можа, шумам ён пачуцці мне прытлуміць?
Хутчэй туды і, сеўшы на валун гасцінны,
Пускаю думку чуйную ў іншыя краіны.

Дзякуй творцы Залесся! Бо тут штораз позірк
Больш салодкі прадмет для ўцехі знаходзіць.
Прагу бачыць маю, першы позірк уважны
Стрэў гранітны валун[2], што ляжаў незаўважна.

---

[1] Храм — маецца на ўвазе альтанка ў форме грэчаскага храма, якая называлася альтанкай Амеліі.

[2] Гранітны валун — памятны камень у гонар гувернёра М. К. Агінскага Жана Рале, вядомага французскага педагога і гуманіста.

Ён увесь травою і мохам пакрыты,
Толькі перад злёгку долатам пабіты.
Настаўніку ад вучня тут падзяка ззяе,
О, хто ж без асалоды яе не прачытае?

Колькі ж той уздыхаў, колькі слёз уроніць?!
Знойдзе, хоць схавана яна на ўстроні,
Знойдзе слабы старац, вочы слязьмі свецяць,
Вось тут, скажа, удзячнасці бярыце прыклад, дзеці!

Можа, выпадкова спыніцца хлапчына,
Гляне — і ўзрушаць грудзі ўспаміны:
Меў жа і я Майстра! — у твар ударыць сорам,
І паставіць помнік, сям'ю Майстра адорыць.

І я ўсхваляваны, бо то нябёс воля —
Жалем шчырым славіць чысту памяць Роля.
Ціха скажуць пацер удзячныя тут вусны,
Бо што ж то быў за Майстар, калі такія Вучні!

Аднак гадзіннік тут паслаў мне напамінак,
Што шмат яшчэ дзівос, не час рабіць прыпынак.
І тысячу, не йнакш, сцяжынак і масткоў мінаю,
Якія мне і зрок, і слых, і розум насычаюць.

Ішоў і назіраў я прыгажосць прыроды,
Ды раптам мураванае жахнуўся перашкоды:
Ці ж ёсць і тут, усклікнуў я, няволі клешчы?
Уздымаю галаву — будоваю кітайскай вочы пешчу[1].

Усё тут па-кітайску, не нашае моды,
Толькі верх вянчае герб Агінскіх роду.
У самы шар Мінервы[2] ўткнёны знак Белоны[3],
Адзін — закону сімвал, другі — абароны.

Натхнёны тым, я нёс з ахвотай крокі
Па штучных колцах лесвіцы высокай
І з нейкай нават пыхай, як уладар прыроды,
З усмешкай на раслін падножных пазіраў пароды.

Там дрэвы, да якіх раней ледзь даставаў я вокам,
Цягнуліся, зраўняцца хочучы са мной няспешным скокам.

---

[1] Кітайская будова — кітайская альтанка ў форме круглай вежы, падымацца на якую трэба было па вінтавой лесвіцы.

[2] Шар Мінервы — у старажытнай рымскай міфалогіі багіня мудрасці, апякунка навук і мастацтваў Мінерва прадстаўлялася стаячай на шары ці коле з рулём у руцэ.

[3] Знак Белоны — меч, з якім рымляне звычайна паказвалі багіню вайны Белону.

Глядзеў і думаў, што Прыроды мудрасць шэпча чалавеку:
— Уздымі мяне, і колькі дробнага я не заўважу зверху

Здалёку так, узгардзіўшы небам і зямлёю,
Ледзь бачу я звярынца[1] зелень пад сабою.
Як раптам змена! Галавы ўзняць не смею!
Ад голасу сваёй душы ніякавею.

Бліжэй зямлі, чым небу я — шапчу, і слёзы душаць,
Калі чытаю ў скрусе «Cieniom Tadeusza»[2].
І колькі ж раптам уваскрасіла ў сэрцы звестак
Распятай Польшчы дарагая рэштка!

Лёс дакучаў яму ўпарта, смуткі атруцілі,
А ўсё таму, што быў занадта мілы!
Вось прыклад тым, хто шчырасцю адораны ад неба,
На жаль, і гэтай цноты сёння адрачыся трэба!

Пяшчотны, юны быў, калі ў адважным сэрцы страсці закіпалі.
Рука знайшла сабе прадмет, а сэрца — выбірала,
Пасланец сэрца — вока — Юлію[3] сустрэла,
Душа была пры ёй, у бітвы бегла цела.

Характару лёсу гады не змянілі,
Браў верх ты, Касцюшка, цябе ж не цанілі!
Занадта быў шчыры, занадта цнатлівы
Ад хросту да смерці: што за нешчаслівы!

Помач Вашынгтонаў, дарадца Франклінаў,
Пострах высп англійскіх, громца масквіцінаў,
Колькі ж мораў, сушы ты прайшоў са славай,
А зямлі дык жменька цела прыхавала.

Але зноў збочыў я — прывычкі перавага,
Звярну ўжо на Міхневічы лепш сваю ўвагу.
Няхай яна падзівіцца на ўзоры гаспадаркі,
Што аглядаць надзвычай добра зверху.

Спакой тут, вясёласць, зямля абяцана,
Вось лужком імчацца трапяткія лані,

---

[1] Звярынец — у парку Агінскага было асобнае месца з драпежнымі звярамі ў клетках, у той час як недрапежныя (напр., лані) свабодна перамяшчаліся па парку.

[2] «Cieniom Tadeusza» — «Памяці Тадэвуша» — надпіс на памятным камені ў гонар героя нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года Тадэвуша Касцюшкі (1746—1817), з якім М. К. Агінскага звязвала сумесная барацьба і вялікая павага.

[3] Юлія (Людвіка Сасноўская) — каханая Т. Касцюшкі, дачка заможнага шляхціца, якой бацька не дазволіў выйсці за Касцюшку замуж.

А прад імі рэчка паваротам грае,
Плюсне вострай хвалькай і зноў уцякае.

Так і жыцця нашага рачулка малая
Блісне хвалькай шчасця — і ў вечнасць уцякае.
Але аб сумным зноў… Гляджу на той валун з пашанай
І з неахвотай пакідаю верх любай альтаны.

Каб ведаў я, што мае свет свой быт у хуткім часе скончыць,
Сюды б прыйшоў, каб дні свае, на камень гледзячы, закончыць.
Збягаю, йду на зоў будовы белай,
Бо гэта шчыт ад спёкі, ачышчэнне цела.

Халодны тут крышталь, які жвірок цалуе,
Адзіна толькі цноты чысціню шануе.
Па камені ўзбоч імчаць каскаду воды
Тым пены больш на іх, чым болей перашкоды.

І пеніцца, і кіпіць, і хваля хвалю гоніць,
То ў паветра пырсне, то жвірок адслоніць.
На дапамогу ім ручай з канала паспяшае,
З Бабрынкі чыстым крышталём свой халадок мяшае.

О, каб Касцюшку з Юліяй сабой вы прадстаўлялі,
Я б сёння пеў свабодна, ты б, Польшча, стаяла!
Так, Божым цудам, калі я ўжо вяртаўся задуменна,
Заўважыў удалечыні сялянскі стажок сена.

Наблізіўся — і дзіўную будову выяўляю,
І ўжо заўчасу будучае ашуканства лаю.
Няўжо і Ён, мяркую, як той Чартарыйскі,
Багацці свету цэлага змясціў у хатцы нізкай[1]?

Але тут хітрасці не ведаюць, адна тут шчырасць толькі,
Вісяць валошкі пад бярозаваю столлю,
З бярозы — стол, мох сцены пакрывае,
Унутраны ўбор тут знешняму адпавядае.

У бакавым акне тут пасека віднее,
Лужок малы пад ёй Эдэмам зелянее,
А позірк кінуўшы далей, на вёскі загароды,
Убачыш мноства чарады галандскае пароды.

---

[1] Князь Чартарыйскі Адам Ежы (1770—1861) — пасля падзелаў Рэчы Паспалітай — міністр замежных спраў Расійскай імперыі, ганаровы апякун Віленскага ўніверсітэта. Свой маёнтак Пулавы ў Люблінскім ваяводстве з дапамогай жонкі Ізабелы ён ператварыў у адну з найпрыгажэйшых еўрапейскіх прыватных рэзідэнцый, якой вядомы паэт-сучаснік Дэліль прысвяціў радкі захаплення ў паэме «Сады». Просты будынак у парку Чартарыйскіх, які зваўся Сівілай, змяшчаў у сабе збор памятных рэчаў слаўнага мінулага Рэчы Паспалітай.

Тут сеўшы, гаспадар паглядвае наўкола,
Як шчырых пчолак грамада збірае мёд вясёла,
Як з дробных кветачак ды жальца насычае,
Кідае кветачку і крыльцам залатым з яе злятае.

У ёй бачыць ён свайго юнацтва вобраз прамяністы,
І працу для Айчыны, і агонь свой чысты,
Убачыўшы салодкія з'яднанай працы знакі,
Уздыхне, чаму ж так згодны не былі палякі!

Перарываючы чуллівыя ўспаміны,
Ідзе, а дрэвы славы аддаюць яму даніну.
Прыйшоў у дом, а там пяшчотныя яго вітаюць дзеці.
Выразны зрок не раз слязой расчуленай засвеціць.

*Ліпень 1822*

***Пераклад з польскай***
***Таццяны КЛЯШЧОНАК***

# ПРА АЎТАРА ПАЭМЫ «ЗАЛЕССЕ»

*Паэму напісаў 18-гадовы юнак, студэнт аддзялення літаратуры і вольных навук Віленскага ўніверсітэта, актыўны філарэт, паплечнік Тамаша Зана, Яна Чачота, Адама Міцкевіча і цэлага сузор'я будучых лідэраў айчыннай культуры, і сын інспектара навучальных установаў Віленскай, Магілёўскай і Віцебскай губерань Яна Ходзькі-Барэйкі, пісьменніка і мясцовага грамадскага дзеяча. Сучасніца-мемуарыстка Габрыеля Пузына, добра ведаючы гэтую сям'ю, адзначала: «Калі дзе быў Ходзька — то разумны. Дурняў сярод Ходзек не было». Аляксандр Ходзька аказаўся яркай фігурай у Таварыстве філарэтаў, яго вершы захаплялі Адама Міцкевіча сваёй палымянасцю. Напэўна, той невыпадкова выказаў меркаванне, што Аляксандр Ходзька некалі зойме яго паэтычны «трон». Ці натуральна тое, што мы звяртаем увагу на гэтую акалічнасць толькі цяпер?*

*Пра жыццё і дзейнасць Аляксандра Ходзькі цяжка расказаць лепш, чым гэта зрабіў Кастусь Цвірка ў яго знакавым для Беларусі даследаванні «Філаматы і філарэты» (Мн., 1998), таму выкарыстоўваю магчымасць схіліцца перад ім у пашане і скіроўваю ўвагу ўсіх зацікаўленых чытачоў да гэтай крыніцы. Сёння, амаль праз 200 гадоў, дзейнасць маладых філаматаў і філарэтаў пачынае бачыцца як пачатак своеасаблівага залатога веку польска-беларускай паэзіі, прысвечанай роднаму краю, і іх адданай працы на яго карысць. Але, як піша Кастусь Цвірка, «…па-сапраўднаму яшчэ не ацэнена значэнне філаматаў і філарэтаў у гісторыі беларускай літаратуры, у нашым нацыянальным адраджэнні. Па сутнасці, яны засталіся выключанымі з кантэксту нашай літаратурнай гісторыі… Многія іх творы амаль невядомыя беларускаму чытачу, не знойдзеш іх ні ў нашых хрэстаматыях, ні ў анталогіях беларускай літаратуры».*

*Крыху падбадзёрвае тое, што за апошнія два дзесяцігоддзі прыбыло біяграфічных звестак пра загаворшчыкаў, у тым ліку пра шматбаковую дзейнасць прадстаўнікоў вялікага роду Ходзек. Спадзяюся, што сёлетняя гадавіна з дня нараджэння пісьменніка-краяведа Ігнацыя Ходзькі прынясе яшчэ больш звестак і дазволіць нарэшце належна ацаніць заслугі гэтага роду для айчыннай культуры, гэтаксама як і магчымую ролю Міха-*

*ла Клеафаса Агінскага як канспіратыўнага сувязнога паміж віленскімі філаматамі і будучымі пецярбургскімі дзекабрыстамі, пра што ўпамінаюць некаторыя даследчыкі.*

*А калі б можна было трапіць у ліпеньскае Залессе 1822 года, то я хацела б спытаць у Аляксандра Ходзькі, як ён, студэнт, аказаўся ў гэтай велічнай арыстакратычнай сядзібе. Можна меркаваць, што ён быў госцем свайго блізкага родзіча Леанарда Ходзькі, таксама выпускніка Віленскага ўніверсітэта і ў той час асабістага сакратара князя Міхала Клеафаса Агінскага. Але мне здаецца малаверагоднай такая свабода гасцявання простага студэнта ў праслаўленага дзяржаўнага дзеяча. А вось калі ўлічыць тое, што бацьку Аляксандра, Яна Ходзьку-Барэйку, звязвала з Агінскім сумесная дзейнасць у Віленскім універсітэце, ганаровым членам Савета якога Агінскі быў з 1815 года, удзел іх абодвух у масонскіх арганізацыях, а яшчэ тое, што маёнтак Залессе знаходзіўся па дарозе з Вільні ў Ходзькавы Крывічы (сёння Вілейскі раён) — то, думаю, што бацька і сын Ходзькі проста не маглі абмінуць Залессе без сустрэчы з яго адкрытым на сяброўства гаспадаром. Прысутнасць у Залессі Леанарда яшчэ больш павінна была ўмацоўваць гэтыя вузлы прыязні. У сваю чаргу, Леанард Ходзька таксама быў неардынарнай асобай: выдатна адукаваны (у будучым — вядомы выдавец, заснавальнік у Парыжы польскага альманаха «La Pologne historique, litteraire, monumentale et pittoresque», у якім публікаваў усё, што толькі пісалася ў свеце пра былую Рэч Паспалітую), ён быў да таго ж адораным рысавальшчыкам і пакінуў праслаўленую сёння гравюрную замалёўку залескай сядзібы, якая датуецца тым самым 1822 г. Таму лепшай ілюстрацыі да паэмы «Залессе» няма чаго і шукаць.*



*Палац у Залессі, вясна 2014 г.*

*Але ў 1822 годзе нейкім чынам сышліся не толькі гэтыя знакавыя падзеі, але і выезд Агінскага на жыхарства ў Італію, яго канчатковае развітанне з Радзімай. Яшчэ 11 год будзе яму суджана пражыць на гэтым свеце, а малады Аляксандр, адседзеўшы год у віленскай турме за філамацкую дзейнасць і ратуючыся ад магчымых праследаванняў, паступіць у Інстытут арыенталістыкі ў Санкт-Пецярбургу і закончыць яго ў 1830 годзе з прызначэннем на дыпламатычную службу ў Персію (Іран), дзе ён хутка стане рускім консулам, збіральнікам і выдаўцом персідскага і туркменскага фальклору, аўтарам падручніка персідскай граматыкі для французаў, тым прадказаным наступцам Адама Міцкевіча, толькі ў якасці выкладчыка парыжскай Сарбоны. Ян Ходзька-Барэйка таксама трапіць у царскую турму за антыдзяржаўную дзейнасць і вернецца з яе састарэлым і пазбаўленым сродкаў для жыцця. І ім ужо ніколі не будзе суджана сустрэцца, і толькі паэма застанецца вечным напамінам пра тое незвычайнае жыццё ў Залессі 1822 года, якое абавязкова павінна было прынесці багаты творчы плён, але так рэзка абарвалася.*

***Таццяна КЛЯШЧОНАК***

# Мяне завуць Юань. Я кітаянка

Мяне завуць Юань, я кітаянка. Мне 31 год споўнілся у гэтым кастрычніку. Пасля заканчэння універсітэта, я жыла і працавала ў Шанхаі 5 гадоў. Потым я вырашыла прыехаць ў Беларусь, каб вывучаць рускую мову – у той час я ўжо прачытала кароткую гісторыю Беларусі, нават прачытала творы Васіля Быкава па-кітайску; я таксама пазнаёмілася з творчасцю Песняроў, і вельмі люблю іх песню "Беларусія". Але я раней нічога не ведала пра беларускую мову.

Цяпер я ўжо жыву і вучуся ў Мінску амаль 4 гады. Я адчуваю сябе вельмі шчаслівай.

Першы раз я пачула беларускую мову, калі ўдзельнічала ў сходзе прысвечаным 130-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Там, у Доме Дружбы, многія замежныя госці чыталі іх вершы па-беларуску. Якая прыгожая мова! Я адразу палюбіла яе. Я спадзявалася, што аднойчы я змагу мець шанец вывучаць такую прыгожую мову. Менавіта ①

② таму, я вырашыла, што буду вучыцца з беларускімі студэнтамі, а не з замежнікамі.

Потым, на першым курсе, я вывучала беларускую гісторыю і беларускую мову. У гэтым годзе я пазнаёмілася з Янай – маёй лепшай беларускай сяброўкай. Яна шмат дапамагала мне ў вывучэнні беларускай мовы. А таксама ў гэтым годзе, я ўдзельнічала ў перакладчыцкім конкурсе, і перакладала з беларускім партнёрам верш Якуба Коласа "Лес" з беларускай на кітайскую мову, праз рускую, і я стала пераможцай.

На другім курсе я вывучала беларускую літаратуру. Мне вельмі падабаецца беларуская літаратура. Я прачытала "Мой родны кут" Якуба Коласа, і нават ўмею спяваць гэтую песню. У мяне мара, што аднойчы я змагу перакладаць яго паэму "Новая зямля" на кітайскую мову.

Дарэчы, мне вельмі падабаюцца беларускія народныя песні.

Мне падабаецца Мінск, ён – прыгожы, спакойны і зялёны. Беларускі народ вельмі добры. Жывучы у Беларусі, я адчуваю сябе як дома. Беларуская кухня – вельмі смачная, але прадукты не танныя, і транспарт таксама. Яшчэ мне шкада, што беларусы не гавораць па-беларуску. У мяне проста няма акружэння, якое б гаварыла па-беларуску. А гэта ж ваша родная мова! Таму мне вельмі шкада...

Я была ў Брэсце, Віцебску і Слуцку, і вельмі хачу наведаць Магілёву, гэта таксама горад-герой з пачатку Вялікай Айчыннай Вайны. Беларусь мела герайчную гісторыю. Я ведаю, што ў час вайны, кожны з трэці загінуў у Беларусі. Я паважаю гэты народ!

Шкада, што ў Кітаі, мала людзей ведаюць пра Беларусь. Яны думаюць, што Беларусь – частка Расіі, і няма своеасаблівай гісторыі, мовы і культуры, гэта няправільна. Я тут жыву, і адчуваю яе характар, сэрца і душу – у якой толькі ёсць ③

④ і Беларусь.

Я глыбока люблю гэтую краіну – яна таксама "маладосць мая", "мой родны кут".

Ліст кітаянкі Юань прадстаўлены яе сяброўкай Янай Владыка, студэнткай 3-га курса факультэта міжкультурных камунікацый МДЛУ.

# РАЗУМНЕЙШАЕ ЗА GOOGLE



*Тое, што вы зараз пачалі чытаць, прысвечана дзвюм тэмам — штучнаму інтэлекту і Кітаю. Сумяшчаюцца яны ў адной сімпатычнай асобе — **Паліне Доўнар,** выпускніцы ўсходняга аддзялення філфака БДУ, якая цяпер працуе над распрацоўкай лінгвістычнага працэсара — штуковіны, мяркуючы па ўсім, разумнейшай за Google. Каб растлумачыць, што гэта за звер такі, лінгвістычны працэсар, Паліна не знайшла нічога лепшага, як накіраваць да нас па пошце вытрымку са сваёй дысертацыі. Прасвятляйцеся, маўляў.*

Такім чынам, Паліна прымае ўдзел у *«стварэнні лінгвістычнага працэсара кітайскай мовы вядомай сістэмы інжынерыі і кіравання ведамі IHS Goldfire, якая нацэлена на пошук і ўкараненне інавацый у сферы тэхнічнай вытворчасці.*

*Лінгвістычны працэсар — гэта комплекс праграм аўтаматычнай апрацоўкі тэксту. Сучасны лінгвістычны працэсар з'яўляецца базавым кампанентам практычна любой прыкладной сістэмы аўтаматычнай апрацоўкі тэкставых дакументаў. Важную частку такой сістэмы складаюць інфармацыйна-пошукавыя сістэмы, арыентаваныя на камунікацыю з карыстальнікам на натуральнай мове. Падобныя інфармацый-*

*на-пошукавыя сістэмы могуць выкарыстоўвацца ў якасці кансультанта — напрыклад, у вобласці заканадаўства, медыцыны, інжынерыі або любой іншай прадметнай вобласці, для якой характэрна...*

Вы не стаміліся? Ці лепш пагаварыць з Палінай?..

**— На базе якой установы вядзецца распрацоўка лінгвістычнага працэсара? Хто распрацоўвае — адны беларусы ці ў супрацоўніцтве з навукоўцамі іншых краін?**

— Распрацоўка вядзецца ў кампаніі IHS Global, а больш дакладна — у мінскім офісе гэтай кампаніі, у аддзеле Syntagma, які адказны за NLP-распрацоўкі (NLP — Natural Language Processing, «апрацоўка натуральнай мовы», але маецца на ўвазе апрацоўка менавіта тэкстаў, не вуснага маўлення), дзе я і працую. Уся праца вядзецца ў Беларусі. Дарэчы, лінгвістычныя працэсары распрацаваны нашай камандай для англійскай, французскай, нямецкай, японскай і кітайскай моў.

**— Ці вядзецца распрацоўка для беларускай мовы?**

— На базе нашай кампаніі такіх распрацовак няма. Але, наколькі я ведаю, падобныя распрацоўкі існуюць у іншых кампаніях ці ў якасці open-source.

**— Раскажы падрабязней пра твае абавязкі: што канткрэтна ты робіш? Ці падабаецца праца?**

— Я прымала ўдзел у распрацоўцы семантычнага працэсара кітайскай мовы, прайшла ўсе этапы: стварэнне корпусу, распрацоўка канцэпцыі часцін мовы, якая б была зручнай для аўтаматычнай апрацоўкі тэкстаў на кітайскай, стварэнне сістэмы пытанняў і адказаў (question-answering system) для кітайскай мовы. Сістэма пынанняў і адказаў працуе так: задаеш пытанне — сістэма выдае адказ на гэтае пытанне, а не проста дакументы, у якіх сустракаюцца словы з гэтага пытання (як робіць Google). Напрыклад, можна спытацца: Які дыяметр зямнога шара? Атрымаеш адказ — 12 400 км. Таксама мы распрацавалі сістэму семантычнага пошуку. Для прыкладу, можна ўвесці слова «жалеза» — і атрымаць своеасаблівы «пашпарт»: яго віды, хімічныя і фізічныя асаблівасці, склад, функцыі і г.д.

Мая праца лінгвіста-распрацоўшчыка ўключала ў сябе некалькі этапаў даследвання, аналіз розных тыпаў тэкстаў, вывучэнне спосабаў выражэння розных відаў інфармацыі, напісанне лінгвістычных правіл вылучэння канкрэтных тыпаў інфармацыі з тэксту, фармалізацыю і структурызацыю такіх правіл.

Я таксама прымала ўдзел у распрацоўцы сістэмы аўтаматычнага перакладу (machine translation). Калі тлумачыць як мага прасцей, то ў такой сістэме сінтаксічныя канструкцыі прадстаўлены ў выглядзе так званых сінтаксічных дрэў, якія паказваюць залежнасць слоў адно ад аднаго. Мне, як лінгвісту, было неабходна правільна «перакласці» гэтыя дрэвы з адной мовы на другую, шукаючы правільныя адпаведнікі той ці іншай сінтаксічнай канструкцыі.

Гэта праца няпростая, але вельмі цікавая, патрабуе пільнай ўвагі, добрага ведання моў, высокіх аналітычных здольнасцей. Карыснымі будуць таксама і навыкі праграмавання.

**— Як атрымалася, што ты трапіла ў IT-сферу? На якім этапе цябе гэта зацікавіла?**

— У IT-сферу я трапіла выпадкова. Для гэтага праекта (у якім я працую ўжо 5 год, дарэчы) шукалі людзей, якія валодаюць кітайскай мовай. Мяне запрасілі на інтэрв'ю — яно было даволі грунтоўным. Спачатку — вусныя пытанні, потым — вялікі тэст («кантрольная работа»), у якім правяралася не толькі веданне кітайскай мовы, але і матэматычныя здольнасці, лагічнае мысленне і г.д. Было складана, я патраціла недзе 3,5 гадзіны. Вынікі былі добрыя, і так атрымалася, што ўжо на III курсе я пачала працаваць.

**— Якія асабіста твае думкі наконт штучнага інтэлекту? Ці гэта рэальна?**

— Штучны інтэлект ужо даўно вакол нас: пошукавыя сістэмы Google, Yandex і інш.,

смартфоны, айфоны, сацыяльныя сеткі, што аўтаматычна прапануюць табе людзей, якіх ты можаш ведаць, GPS-навігатары, кантэкстная рэклама, якую табе падсоўвае той самы Google, калі ты глядзіш пошту, плацяжы і пакупкі праз інтэрнэт, ананімныя апытанкі і форумы, на базе якіх складаюцца статыстычныя дадзеныя і многае-многае іншае — гэта ўсё праявы штучнага інтэлекту, так што гэта ўжо даўно рэальна.

**— Калі ты зацікавілася Кітаем? Паступленне на ўсходнюю філалогію — гэта свядомы выбар? Ці не было страшна брацца за такую цяжкую і далёкую мову?**

— Якраз у той год, калі я павінна была паступаць, быў набор на ўсходнюю філалогію ў БДУ. Мне было цікава. Так атрымалася, што ў мяне дагэтуль былі поспехі ў вывучэнні рускай мовы, я перамагла ў трох міжнародных алімпіядах, але вывучэнне замежнай мовы падалося мне больш перспектыўным. Кітайская мова не такая і цяжкая, на мой погляд. Галоўнае пры вывучэнні яе, як і ў любой іншай працы, — старанне. Тым больш у мяне была магчымасць паехаць у Кітай на стажыроўку, і я ёю скарысталася. У Кітаі я трапіла ў вельмі добры ўніверсітэт, да вельмі добрых выкладчыкаў, ды і моўнае асяроддзе там кітайскае, таму мову было вучыць лёгка.

**— Якія адкрыцці ты зрабіла падчас вучобы на ўсходняй філалогіі?**

— Кітайская мова, традыцыйная і сучасная культура, кітайскія іерогліфы, стравы — усё гэта было новым для мяне і цікавым. Але галоўнае адкрыццё — свой патэнцыял, сілы, што закладзены недзе ўнутры, пра якія часта не здагадваешся, і якімі можна скарыстацца ў самай, як здаецца, цяжкай і безвыходнай сітуацыі.

**— Як глыбока ты цікавішся Кітаем? Выключна кітайскай мовай ці культурай, літаратурай і г.д.? Што больш захапляе?**

— Кітайская культура надзвычай багатая і самабытная, у ёй цяжка вылучыць сферу больш прывабную, бо шмат што захапляе. У свой час я цікавілася і літаратурай (асабліва класічнай паэзіяй эпохі Тан), кіно (мяне захаплялі фільмы Вонга Кар-вая, Чэна Кайгэ і Чжана І-моў), традыцыйным тэатральным мастацтвам (пекінская опера зацікавіла мяне пасля прагляду фільма «Бывай, мая наложніца» Чэна Кай-гэ) і інш.

Калі была студэнткай на мерапрыемствы, прысвечаныя Кітаю і кітайскай культуры, хадзіла часцей. Цяпер у вольны ад працы час цікаўлюся ўвогуле культурай — і беларускай, і кітайскай, і культурай свету. Сачу за культурным жыццём, наведваю тэатры, канцэрты, выставы, фестывалі. Мне ўсё цікава.

**— Як ты ставішся да кітайцаў? Чым яны адрозніваюцца ад нас? Ці варта, на тваю думку, Беларусі супрацоўнічаць з Кітаем?**

— Да кітайцаў, як і да прадстаўнікоў любых іншых нацыянальнасцей, я стаўлюся добра. Галоўная рыса, якую б я вылучыла ў іх, — працавітасць. Студэнты ва ўсіх кітайскіх універсітэтах вучацца і ўдзень, і ўначы: бібліятэкі і чытальныя залы ніколі не пустуюць. Увогуле, жыццё ў Кітаі ніколі не замірае.

Што мяне ўразіла падчас знаходжання ў Кітаі — гэта звычка кітайцаў, асабліва пажылых людзей, бавіць вольны час. Яны ходзяць у паркі граць на традыцыйных музычных інструментах, у альтанках гуляюць у маджонг (традыцыйная настольная гульня), займаюцца ўшу і тайцзі (традыцыйная гімнастыка), пішуць вершы на асфальце пэндзлем, змочаным у вадзе, пары рознага ўзросту танцуюць на пляцоўцы перад домам, групы жанчын танцуюць з веерамі на вуліцы — вось гэта культура вольнага часу, калі можна так сказаць, і пакінула ў мяне найбольш глыбокае ўражанне. Думаю, нам гэтага вельмі не хапае. Было б добра бачыць і ў нас на вуліцах такі рух.

Пытанне супрацоўніцтва Беларусі з Кітаем — гэта пытанне не толькі асабістых меркаванняў, але і пытанне палітыкі, эканомікі, таму проста адказаць на яго не атрымаецца. Скажу адно: кітайцы — людзі вельмі практычныя, і бескарыснага супрацоўніцтва ад іх чакаць не трэба.

*Запісала Тамара САРАЧЫНСКАЯ*

*Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны*

Кірыл МЯЦЕЛІЦА

# ВАЛАДАРЫ ПАДНЯБЕСНАЙ



*Кірыл Мяцеліца нарадзіўся 28 чэрвеня 1990 года ў Віцебску. Выпускнік гістарычнага факультэта ВДУ імя Машэрава. Журналіст, цікавіцца гісторыяй Новага часу і палеанталогіяй.*

Паўсядзённае жыццё імператараў Кітая заўсёды было схавана ад чужых вачэй за тоўстымі сценамі Забароненага горада — пабудаванай напачатку XV стагоддзя рэзідэнцыі Сыноў Неба. Выхаваныя ў строгім духу канфуцыянства, жыхары Паднябеснай і думаць не маглі пра тое, каб пранікнуць у гэты палацавы комплекс, які знаходзіўся пад пільнай аховай. Простым смяротным, якія адважыліся наблізіцца да жытла кітайскіх валадароў, пагражала смяротнае пакаранне. Забаранялася не толькі глядзець на імператара, але і прамаўляць яго імя ўслых.

Дынастыі змянялі адна адну, але жыццё манархаў заставалася ахутаным таямніцай. Толькі пасля Сіньхайскай рэвалюцыі, што адбылася ў 1911 годзе і змяла ўсе феадальныя парадкі, простым кітайцам сталі вядомымі многія падрабязнасці прыватнага жыцця тых, хто загадваў імі некалькі тысячагоддзяў.

Шматвекавыя стасункі паміж кіруючымі вярхамі і народам сфарміраваліся ў Паднябеснай пад уплывам складанай і заблытанай кітайскай міфалогіі, у якой ролю вярхоўнага боства выконвала Усёвідушчае Неба. Менавіта паводле яго загаду, як лічылася, улада ў краіне належала той дынастыі, заснавальнік якой валодаў вышэйшай дабрадзейнасцю [2, с. 25]. Яно кіравала ўсімі працэсамі ў Сусвеце, а непасрэдным правадніком яго волі на Зямлі з'яўляліся абагаўлёныя імператары, якія мелі тытул Сыноў Неба. Падданыя, звяртаючыся да свайго зямнога боства, не мелі смеласці ўжываць займеннік «я». Яго замяняла слова «нуцай» — «раб». Згодна з гэтай традыцыяй, чыноўнікі пачыналі размову з валадарамі Кітая, ужываючы абароты з разраду: «Раб смее заўважыць…», «Раб не ведаў…», «Па недасканалым меркаванні раба…» і г. д. [4, с. 276].

Простыя ж людзі, якія ўспрымалі свет скрозь прызму канфуцыянства, што ўзносіла сямейныя каштоўнасці, выяўлялі да свайго імператара сапраўдныя сыноўскія пачуцці. Праўда, тут ёсць адна дэталь, якая можа падацца еўрапейцу кур'ёзнай, — кітайскі ўладар лічыўся не толькі айцом нацыі, але і яго маці. Пабачыць свайго «спараджальніка» простыя абывацелі не маглі, паколькі Сын Неба рэдка пакідаў межы палаца. У тых жа выключных выпадках, калі парад-

ныя выезды ўсё ж здзяйсняліся, са шляху следавання ўрадавага картэжа змяталася ўсё, што толькі можна: смецце, латкі гандляроў, людзі і нават бяздомныя сабакі. Ямы закопваліся, а пагоркі зразаліся [2, с. 343]. Вокны дамоў шчыльна завешваліся, і вуліца, па якой цягнулася ўрачыстая працэсія, патанала ў поўнай цішыні. Сам жа імператар, якога заўсёды суправаджала світа з тысячы чалавек, нерухома сядзеў у паланкіне і не выяўляў аніякіх прыкмет актыўнасці. Некаторыя чужаземцы, якім часам удавалася падгледзець гэта дзіўнае дзейства, узгадвалі пасля, што іншым разам за ўвесь час руху кітайскі ўладар мог ніводнага разу не варухнуцца.

Зрэшты, магчыма, гэта і да лепшага, таму што гісторыя ведае выпадкі, калі кітайскія мандарыны паміралі ў прамым сэнсе слова ад хвалявання пасля таго, як на іх упаў пагляд уладара. Асаблівай павагаю карыстаўся не толькі сам імператар, але і яго асабістыя рэчы. Нават князі імператарскай крыві падалі ніцма перад пустым тронам імператара альбо перад яго шырмай з жоўтага шоўку, якую ўпрыгожвалі выявы дракона (сімвала магутнасці) і чарапахі (сімвала даўгалецця). Тое ж неабходна было рабіць і перад крэслам, строем і іншай маёмасцю ўладара [2, с. 341].

Але гэта ў сталіцы. Для правінцыйных чыноўнікаў, якім такі гонар не сніўся, вялікай радасцю лічылася адно толькі атрыманне імператарскага загада. Гэта суправаджалася вернападданіцкім рытуалам, падчас якога кожны, хто атрымаў пісьмовы загад ад Сына Неба, быў абавязаны адбіваць зямныя паклоны, звярнуўшыся тварам да Пекіна.

Нягледзячы на тое, што імператар бязмежна ўладарыў над жыццямі, маёмасцю і землямі сваіх падданых, кіраваў ён краінай не асабіста, а праз бюракратычны апарат. Для гэтага былі створаны асаблівыя органы выканаўчай улады [5, с. 24]. Галоўным такім органам з'яўлялася Вярхоўная імператарская рада, куды ўваходзілі сваякі ўладара Паднябеснай і самыя высокапастаўленыя чыноўнікі. Вярхоўнай Радзе падпарадкоўваліся міністэрствы, якія называюцца ў Кітаі загадамі, — Ваенны загад, Падатковы загад, Крымінальны загад, Цырыманіяльны загад, Загад грамадскай працы і іншыя. Тым не менш, любое рашэнне сваіх міністраў, намеснікаў і губернатараў Сын Неба лёгка мог адмяніць.



*Імператар Цяньлун у традыцыйным строі Сыноў.*

Найбольш высокапастаўленыя саноўнікі, што жылі ў Забароненым горадзе, як правіла, з'яўляліся еўнухамі. Мы прызвычаіліся, што на Усходзе скапцы надзяляліся абавязкам наглядчыкаў манаршага гарэма. Так спачатку было і ў Кітаі, аднак з часам яны набылі тут іншыя функцыі. Дзякуючы блізкасці да імператара, гэтыя людзі часцяком дасягалі вельмі высокага становішча. У іх абавязкі ўваходзілі найважнейшыя дзяржаўныя справы — збор падаткаў, ахова палаца, дыпламатычныя даручэнні і г.д. [1, с. 11]. У гісторыі Кітая былі часы, калі ўся ўлада належала еўнухам, у чыіх руках Сыны Неба былі толькі паслухмянымі цацкамі. Напрыклад, пры кіраванні дынастыі Тан (608—907 года н.э.) менавіта спакладаныя чыноўнікі чынілі дзяржаўную палітыку. Пазней яны неаднаразова ўплывалі на лёс Паднябеснай. Самы вядомы выпадак — гэта здрада Ду Чжы — ён здаў у 1644 годзе Пекін маньчжурскім войскам і тым самым пахаваў дынастыю Мін [1, с. 324].

Дарэчы, пра дынастыі ўладароў. Усе яны атрымлівалі асаблівую назву, якая з'яўлялася дэвізам. Напрыклад, апошняя кітайская

дынастыя, якая кіравала ў 1369—1644 гадах, атрымала назву Мін, што азначае «ясны», «бліскучы», «разумны» [4, с. 285]. Яе спадкаемца — дынастыя маньчжурскіх заваёўнікаў, якая ўладарыла з 1644 па 1911 год і з'яўлялася апошняй у гісторыі Імперыі, — атрымала найменне Цын, што азначае «чысты», «бездакорны».

Варта адзначыць, што свае дэвізы кіравання мелі не толькі дынастыі, але і кожны імператар. Пасля ўзыходжання на трон асабістае імя Сына Неба «забывалася» і яго забаранялася ўжываць. Замест яго з'яўлялася імя дынастыйнае. Было яшчэ і трэцяе імя — храмавае, якое надавалася ўладарунябожчыку пасля смерці, і пад якім ён уваходзіў у гісторыю.

Смерць уладароў паднябеснай заўсёды абстаўлялася пампезна. Да яе імператар рыхтаваўся загадзя, яшчэ пры жыцці загадваючы выбудаваць для сябе пышную магільню, да якой вёў «свяшчэнны шлях», абрамлёны статуямі жывёл і людзей [3, с. 175]. Сама ўсыпальня ўяўляла сабой курган, пад якім хаваўся багаты падземны палац, дзе ляжаў Сын Неба разам са сваімі шматлікімі жонкамі і наложніцамі. Калі яшчэ ў эпоху Мін жанчын падчас смерці іх уладара наўпрост забівалі, каб яны ішлі ў замагільны свет услед за ім, то ў наступную эпоху Цын удовы самі павінны былі здзяйсняць самазабойствы, каб не абняславіць свае сем'і і памяць нябожчыка-імператара [3, с. 176]. Тут варта зрабіць невялікае адступленне і сказаць, што для саміх кітайцаў іх уладар ніколі не паміраў, а толькі пераўтвараўся ў «нябеснага госця». Калі ўлічваць яго сваяцтва з Небам, то атрымлівалася, што манарх вяртаўся дадому. Скон валадара суправаджаўся працяглай жалобай, парушэнне якой строга каралася, а зачатыя ў гэты час дзеці лічыліся пасля незаконнанароджанымі.

Аднак перад тым як памерці Сын Неба павінен быў выбраць у спадкаемцы аднаго са сваіх сыноў. Старшынства ў дадзеным выпадку асаблівай ролі не іграла. Калі пераемнік быў занадта маладым, яму ў дапамогу прызначалася чацвёра рэгентаў. Аднак дасягнуўшы ўзросту 14 гадоў, юнак мог ужо кіраваць самастойна. Хаця здараліся выпадкі, калі валадар перадаваў сваю ўладу сыну яшчэ пры жыцці. У 1976 годзе імператар Цяньлун пасля 60-гадовага кіравання перадаў трон сыну. Прычынай такога рашэння манарха было тое, што ён палічыў сябе нявартым кіраваць больш за ягонага вялікага дзеда — імператара Кансі, чыя ўлада над Кітаем расцягнулася на 61 год.

Што датычыцца паўсядзённага жыцця кіраўнікоў Паднябеснай, то тут варта адзначыць, што ніякага бытавога дыскамфорту яны, зразумела, не мелі. Нягледзячы на характэрныя для канфуцыянства заклікі да ўмеркаванасці, Сыны Неба патаналі ў акаляючай іх раскошы. У іх распараджэнні былі практычна бязмежныя рэсурсы велізарнай імперыі. Штодня на імператарскі стол падавалася каля ста самых далікатных страў, якія запіваліся раствoранымі ў воцаце перлінамі. Адзенне, як правіла, таксама было найлепшым і мела свой, прыналежны толькі кіруючай дынастыі колер, які ніхто, акрамя самога імператара, выкарыстоўваць не мог.

Апрача таго, у поўным імператарскім распараджэнні былі ўсе першыя прыгажуні Кітая. Акрамя некалькіх раздзеленых па ранжыры жонак імператар валодаў велізарным гарэмам з мноства наложніц, якіх набіралі кожныя тры гады. Для гэтай пікантнай працэдуры ўсе важныя саноўнікі прыводзілі ў палац сваіх дачок ва ўзросце ад 12 да 16 гадоў. Для бацькоў праяўленне манархам цікавасці да іх дзіцяці лічылася вялікім гонарам. У самім гарэме дзяўчаты ў поўным камфорце ўтрымліваліся прыкладна да 20 гадоў, пасля чаго, калі яны не нараджалі імператару дзяцей, іх з ушанаваннямі «звальнялі» — прэч з вачэй.

Усё жыццё ўладароў Кітая праходзіла ў асноўным палацы — знакамітым Гугуне, які месціўся ў межах Забароненага горада, што амаль 450 гадоў з'яўляўся імператарскай рэзідэнцыяй. Але гэта было не проста жытло для высокапастаўленай асобы. Галоўны палацавы ансамбль імперыі з'яўляўся важным цэнтрам культурнага і духоўнага жыцця. У яго сценах шматлікімі чыноўнікамі пісаліся філасофскія трактаты і літаратурныя творы. Сам Сын Неба паводле традыцыі таксама павінен быў авалодаць мастацтвам паэзіі.

У непасрэдныя ж абавязкі імператара ўваходзіла выкананне розных рытуалаў на «дзяржаўным узроўні». Гэта былі пышныя цырымоніі ахвярапрынашэнняў багам і духам, якіх задорвалі шыкоўнымі падарункамі, каб тыя забяспечвалі краіне мір, парадак і добры ўраджай.

Калі з незлічонай колькасцю кітайскіх духаў імператары часам і знаходзілі агульную мову, то адносіны з кіраўнікамі іншых краін у іх, відавочна, не складваліся. Гэта лёгка патлумачыць. Яшчэ адна назва Кітая — Сярэдзіннае царства. Сярэдзінным яно ва ўяўленнях жыхароў Паднябеснай з'яўляецца таму, што знаходзіцца ў самым цэнтры Сусвету і з усіх бакоў акружана варварамі — заходнімі, усходнімі, паўночнымі і паўднёвымі. З прычыны такога спецыфічнага ўспрыняцця кітайцамі ўсяго астатняга свету імперыя часта сварылася са сваімі суседзямі. Імператар Кітая лічыў сябе вярхоўным уладаром над усімі народамі, якія ўяўляліся яму не больш як васаламі. Такія ўяўленні, якія відавочна не знаходзілі належнага водгуку ў іншых дзяржавах, выліліся ў складаны этыкет прадстаўлення замежных дыпламатаў Сыну Неба. [5, с. 36].

Па-першае, паслы павінны былі прывезці з сабой падарункі, якія пры імператарскім двары лічыліся сімвалічнай данінай. Па-другое, іх тры дні не дапускалі да аўдыенцыі, навучаючы доўгім і складаным рытуалам. І, нарэшце, трэцяе і самае, як падаецца, зневажальнае правіла — усе дыпламаты павінны былі адбіваць імператару зямныя паклоны. Прадстаўнікоў многіх еўрапейскіх дзяржаў гэта раздражняла, паколькі нават у перыяд заняпаду Цынскай імперыі тутэйшыя кіраўнікі патрабавалі няўхільнага этыкету ад чужаземцаў, чые дзяржавы ўжо не каралі Кітай у войнах. У выніку пасля Другой опіумнай вайны ў 1873 годзе зневажальны звычай быў «велікадушна» адменены [5, с. 37].

Уласна кажучы, менавіта ў XIX стагоддзі Кітай ушчыльную падышоў да рысы, што аддзяляла яго ад прорвы. Пакуль пераважная частка вялікага насельніцтва жыла ў невуцтве і вяла амаль што жабрацкае існаванне, харчуючыся крысамі і ўсялякай дрэннню, кіруючыя вярхі працягвалі жыць у багацці. Некалі вялікая дзяржава, якая была ў пэўны момант ледзь не самай цывілізаванай на планеце, пачала жудасна адставаць у сваім развіцці. У выніку, пацярпеўшы шэраг параз у войнах з еўрапейцамі і набіраючай моц Японіяй, Кітай скаціўся да статусу паўкалоніі. Напрыканцы стагоддзя была спроба імператара Гуансюя правесці неабходныя рэформы, але прыдворная камарылля на чале з аўдавелай імператрыцай-рэгентшай Цысі здолела павярнуць іх назад. У выніку Сіньхайская рэвалюцыя, якая рушыла за тым услед, у 1911 годзе раз і назаўсёды пакончыла з трохтысячагадовай манархіяй. Краіна патанула ў шматгадовай міжусобіцы і стала аб'ектам японскай інтэрвенцыі. Камуністычная партыя, якая прыйшла пасля да ўлады, драконаўскімі метадамі сабрала па кавалачках развaленую дзяржаву і здолела вярнуць яе на сусветную арэну, пераўтварыўшы Паднябесную ў звышдзяржаву.

Апошні ж кітайскі імператар Пу І, на долю якога выпала мноства няшчасцяў, сканаў звычайным чалавекам у Пекіне ў 1967 годзе. Культ імператарскай улады быў настолькі моцным у кітайскім грамадстве, што нябожчыку экс-манарху яшчэ доўга, тайна ад кампартыі, аддавалі апошнюю пашану.

Сярод папярэднікаў Пу І былі як паспяховыя кіраўнікі, так і слабыя. На працягу велізарнага адрэзка часу змянялі адно аднаго дынастыі і імператары. Недахопы адных выпраўляліся здольнасцямі іншых. Менавіта Сыны Неба паднялі Кітай да ўзроўню ўсемагутнага азіяцкага дракона, але ў той жа час менавіта яны і не ўтрымалі яго ў руках, рассыпаўшы на дробныя кавалачкі.

Гэты тэкст не прэтэндаваў на ўсебаковае апісанне тых, хто кіраваў жыццямі самай густанаселенай краіны свету, але, хочацца верыць, што кагосьці ён натхніць звярнуцца да больш сур'ёзных даследаванняў гэтага пытання. Тым больш, што Імперыя, няхай і ў іншым выглядзе, паўстала з попелу. А значыць, і цікавасць да яе зноў будзе праяўляцца.

## СПІС ВЫКАРЫСТАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ:


1. Воскресенский, Д. Н., Усов., В. Н. Книга дворцовых интриг. Евнухи у кормила власти в Китае. — М.: Наталис, 2002. — 432 с.

2. Живая история Востока: сборник. Сост. Непомнин, О. Е. — М.: Знание, 1998. — 368 с.

3. Ломбар, Д. Императоркий Китай. — М.: АСТ, 2004. — 192 с.

4. Сидихменов, В. Я. Китай. Страницы прошлого. — Смоленск: Русич, 2010. — 544 с.

6. Сидихменов, В. Я. Маньчжурские правители Китая. — Мн.: Миринда, 2004. — 472 с.